АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВЯСЕЛЛЕ
# ПЕСНІ



У шасці кнігах

КНІГА 4

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1985

ББК 82.3Бел-6
В 99



Складальніца **Л. А. Малаш**

Музычны дадатак **З. Я. Мажэйка**

Рэдактар тома **А. С. Фядосік**

**Вяселле:** Песні. У 6-ці кн. Кн. 4/[Склад. Л. А. Малаш;
В 99 Муз. дадат. З. Я. Мажэйка; Рэд. А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.— 733 с., 8 л. нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер. 3 р. 50 к.

У чацвёртай кнізе змешчаны беларускія вясельныя песні, якія выконваюцца у час прыезду жаніха па нявесту, яднання маладых. Матэрыял раскласіфікаваны па функцыянальна-тэматычнаму прынцыпу. Кніга разлічана на фалькларыстаў, этнографаў, мовазнаўцаў, а таксама выкладчыкаў, студэнтаў, журналістаў і ўсіх, хто цікавіцца народнай творчасцю.

**ББК 82.3Бел-6**

**В** $\frac{4702120200-089}{M316-85}$ **129—85**

# ВЯСЕЛЛЕ Ў МАЛАДОЙ

Увесь цырыманіял беларускага традыцыйнага вяселля ўмоўна можна падзяліць на чатыры цыклы: 1) падрыхтоўчы (заручыны, суборная субота, каравай), 2) вянчанне (царкоўнае), 3) вяселле ў маладой, 4) вяселле ў маладога, якія ў гэтым комплексе далёка не раўназначныя. Так, падрыхтоўчы цыкл меў фармальна-бытавое значэнне. Вянчанне ўвайшло ў вясельны абрад толькі пасля прыняцця хрысціянства і аж да 70-х гадоў XX ст. лічылася фармальным, вымушаным актам.

Згодна з народным звычаем маладым не дазвалялася нават сустракацца пасля заручын аж да традыцыйнага шлюбу (яднання маладых). Бывала і так. Вянчанне ўжо адбылося, але гэта яшчэ «не давала права маладым на сумеснае жыццё. Сапраўднае яднанне (грамадзянскі шлюб.— *Л. М.*) адбывалася толькі праз тыдзень або два пасля вясельнага (царкоўнага. — *Л. М.*) абраду» [1]. Для прызнання шлюбнага саюза неабходна было абавязковае яго санкцыяніраванне з боку калектыву — абшчыны, роду і суседзяў пры дапамозе адпаведных рытуальных дзеянняў, песень, прыгавораў, якія лічыліся актам грамадзянскага зацвярджэння шлюбу і давалі маладым пэўныя прававыя, эканамічныя і рэлігійна-магічныя гарантыі. Таму цыкл уласнага вяселля ў маладой, у час якога адбываецца ў прысутнасці абодвух радоў яднанне маладых, лічыцца цэнтральным і займае галоўнае месца ва ўсім вясельным комплексе. Ён вылучаецца багаццем і разнастайнасцю паэтычных твораў, абрадавых дзеянняў, якія вызначаюцца сэнсавай насычанасцю і значнасцю. У параўнанні з іншымі цыкламі вяселля тут больш развіта замоўна-магічная частка абраду з яго складаным слоўным і прадметным напаўненнем. Многія яго кампаненты (рытуалы, звычаі, магічныя дзеянні і суправаджаючыя іх паэтычныя сродкі) з выразнымі рысамі мацярынскага права і культу продкаў адносяцца да перыяду першабытна-абшчыннага ладу. Пад уплывам наступных эпох шмат якія з іх мадыфікаваліся, а некаторыя дайшлі да нас у выглядзе перажыткаў і рэшткаў пэўных вераванняў і рытуалаў. Некаторыя з рэліктаў мінулых эпох лепш, чым у абрадах, захаваліся ў паэтычных творах вяселля, дзе нярэдка раскрываецца іх сэнс і сімволіка. Гэта тлумачыцца верай народа ў магічную сілу слова. З цягам часу са зменай грамадска-эканамічных фармацый і пераасэнсаваннем не-

---

[1] Moszyński K. Polesie wschodnie. Materiały etnograficzne z wschodniej części b. powiatu mozyrskiego oraz z powiatu rzeczyckiego.— Warszawa, 1928, s. 201.

каторых вясельных абрадаў і ўзнікненнем новых пачалі трансфармавацца і суправаджаючыя іх песні. У песнях і абрадах гэтага цыкла перапляліся адгалоскі бытавога ўкладу і светапогляду продкаў беларусаў розных часоў. Як у песнях, так і абрадах цыкла вяселля ў маладой, які ўключае прыезд маладога па маладую і традыцыйны шлюб (яднанне маладых), даволі яскрава бачны перажыткі дзвюх старажытных форм заключэння шлюбу — выкраданне і купля-продаж нявесты, а таксама больш позні спосаб уступлення ў шлюб — па дамоўленасці. Два першыя ўзыходзяць да эпохі родаплемяннога быту і звязаны са з'яўленнем парнай сям'і, што адзначаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» [2]. Хоць звычай выкрадання нявесты быў афіцыйна забаронены «Рускай праўдай» яшчэ ў XI ст., ён доўга існаваў ва ўсходніх славян. Выкраданне маладой, якое некалі з'яўлялася «драмай жыцця», у больш позні перыяд ператварылася ў традыцыйную абрадавую гульню. Відовішчнасць спектакля «выкрадання нявесты» і эмацыянальнасць суправаджаючых іх песень робяць вялікае ўражанне на прысутных. У песнях вельмі выразна, яркімі фарбамі, жыва перадаюцца асобныя карціны і моманты гэтага абраду, старажытныя бытавыя адносіны і інш. Як адзначае М. В. Доўнар-Запольскі, «звычай выкрадання да таго ўкараніўся, што ў далейшым быў абстаўлены рэлігійнымі цырымоніямі (гэта відаць з абрадаў вяселля), зрабіўся, такім чынам, набыткам рэлігіі і пачаў практыкавацца нават у тых выпадках, калі папярэдне адбылася дамоўленасць паміж жаніхом і бацькамі нявесты» [3]. У радзе песень гэтага цыкла малюецца вобразная гіпербалічная карціна нападу дружыны маладога на мірнае і спакойнае жыццё дома нявесты як ваеннае дзеянне або як стыхійнае разбурэнне. Дружына маладога выступае ў выглядзе хмары, буры, навальніцы, дзікай арды, татарскага нашэсця, вайны, войска.

Ой, з неба, з неба стрэлкі ідуць
Да маёй мамцы гук даюць,
Ды мая мамка прадчувае,
Куды гэта войска налягае.

Малады ідзе па нявесту не адзін, а з усёй сваёй раднёй-дружынай, «каб цесцяў двор зваяваць, сабе дзевачку азяць».

Ай, войны, войны суджанька,
Сабраў усю радню на вайну.
Пасталі разам пад садам,
Пабралі мечы за плечы,
Пабралі лукі ў рукі,
Пусцілі стралу па двару,
Разбілі сцяну камяну,
Вывелі дзевачку маладу.

---

[2] Полное собрание русских летописей, издаваемых постоянною историко-археографической комиссиею Академии наук СССР.— Л., 1926, с. 12—13.
[3] Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи.— Киев, 1909, т. I, с. 363.

Паход за нявестай адбываецца ў першую чаргу дзеля інтарэсаў усяго роду, а не жаніха. Таму часта ў песнях гаворыцца: «Мы сабе дзевачку ўзялі (дасталі)», «мы забярэм, мы дабудзем сабе работніцу (араллю, ткаллю, слугу)» і г. д.

У песнях з апісаннем нападу вылучаюцца два асноўныя матывы. Першы паказвае невядомасць, здзіўленне, неўразуменне і разгубленасць нявесты і яе роду (што гэта за «людзі» або «арда», «войска», «полк» набліжаюцца да іх хаты?) з прычыны нечаканага з'яўлення няпрошаных гасцей, што, зразумела, было абрадава-ўмоўным. У іншых песнях апісваецца падрыхтаванасць дома нявесты да абароны, дзе ўжо загадзя ведалі аб маючым адбыцца «нападзе». Таму вароты былі замкнёны на «нутраныя» («жалезныя», «залатыя» і інш.) замкі і «пастаўлены старажы». У гэтых песнях спяваецца аб тым, як маладому з дружынай даводзіцца пераадольваць горы, абарончыя збудаванні, валы, равы, напоўненыя вадой, якія напамінаюць старажытныя ўмацаванні вакол гарадзішчаў. У адказ на напад з другога боку варот дружына маладой ляскае косамі, сякерамі, піламі, распальвае агонь перад варотамі і г. д. У час прыезду поезда маладога ля варот адбываецца тэатралізаваная барацьба, у выніку якой дружка (сват) маладога пры дапамозе традыцыйных прыгавораў, дробных грошай, віна і іншых падарункаў пакарае старажоў, і яны адчыняюць вароты. Бывае і так, што дружына маладога выступае ў выглядзе мірных купцоў або заблудных падарожнікаў.

Уз'ехаўшы ў двор, дружына маладога павінна была пераадолець яшчэ адну перашкоду: узброеных вясельнікаў з боку нявесты. У песнях апавядаецца, што ў цесця на двары былі тры старажы: «першая старожа ў варот стаіць, другая старожа пасярод двара, трэцяя старожа ля ганачку». Але храбраму жаніху з дружынай не страшны ніякія перашкоды. Ён выхваляецца: «Крутую гару разаб'ём», «раскапаем» або: «Да канём пераскочу, да шырокую даліну стрэлкаю перакіну», «Ой, я ўеду, ой, вайду, сваю радзіну завяду». Не баяцца яны і старажоў: «Першую старожу канём саб'ём, другую старожу палазом сатром, а трэцюю старожу з сабой вазьмём». У песнях вельмі вобразна перадаецца дынаміка бою дружыны, якая ўжо ўвайшла ў двор: «Як вынуў малойчык меч, як цяў па замках — замкі прэч». Жаніх з дружынай ламае жалезныя вароты, дзверы, разбівае чаркі, разрывае «тонкія абрусы», сячэ каліну, топча сад і г. д. і, нарэшце, хапае маладую за руку, што са старажытных часоў азначала авалоданне ёю. У песнях з гэтым матывам даволі выразна гучаць супярэчлівыя ноты: з аднаго боку, уладарнае адчуванне жаніха-пераможцы і яго дружыны, а з другога — зняважанае пачуццё нявесты і яе сваякоў, яе гнеў за ўсё паламанае, патоптаную руту, мяту, парваныя абрусы, разагнаных дзяўчат і г. д. Часам бацькі маладой, разумеючы безнадзейнасць супраціўлення, просяць жаніха «не біць усё і ламаць»:

Не ваюй, Цімошка, не ваюй,
Мы ж тваю дзевачку выдадзім,
За правую ручку выведзем.

Са зместу песень відаць, што абрад выкрадання з цягам часу перастае быць распаўсюджанай з'явай, шырэй пачынае ўжывацца звычай куплі нявесты. І калі ў першай частцы гэтых песень выступае ваяўнічы матыў, то нярэдка другая частка іх канчаецца тым, што бацькі дамаўляюцца аддаць маладую за пэўны выкуп. Такое ж раіць сястра маладога, калі той скардзіцца, што «татачка дароў просіць, Ніначку не выводзіць»:

Татачку дарыць дары,
Ніначку к сабе бяры.
Золатца ў ручачку,
Ніначку за ручачку.

У іншай песні маці ўгаворвае сына не ваяваць вайною, а прасіць цесця, бо

Вайной не зваюеш —
Просьбаю перапросіш,
Настачку к сабе возьмеш.

А ў некаторых песнях малады сам адразу прапануе выкуп за нявесту і суцяшае — ён яе ў бацькоў «выкупіць, залатой вагой выважыць». У больш позніх песнях, якія адлюстроўваюць форму шлюбу па дамоўленасці, маладыя просіць пусціць яго ў хату без выкупу, каб узяць нявесту за жонку, бо тавар ужо «злюблены», «змоўлены». Бывае і так. У першай частцы песні малюецца карціна бою за маладую, а ў другой — яе маці добраахвотна выводзіць, а то і сама нявеста выходзіць да маладога, якога даўно чакае. Як бачым, калі першая частка ў гэтых песнях жыва пераносіць нас у часы жаніцьбы праз умыканне, то другая адпавядае ўжо сучасным звычаям.

У многіх песнях больш позняга паходжання першапачатковае значэнне «бою» (выкраданне маладой) зусім сціраецца, набываючы іншы змест — непрыстойныя паводзіны маладога.

Паціху, паволі, Іпаліцька,
Не ўгняві мае радні.
Да мая радзіна гняўліва,
А калі ўгнявіш — не ўпросіш.

У песнях, асабліва прысвечаных прыезду маладога, выразна праглядаецца, як са зменай формы заключэння шлюбу трансфармуецца абрад і яго тлумачэнне. У некаторых з іх першая частка яшчэ захоўвае элементы «выкрадання» маладой, але з яе не вынікае змест другой часткі, дзе вясельнікі і сама маладая навучаюць жаніха нормам паводзін. Гавораць, што ён не павінен нахабна і бесцырымонна ўрывацца ў хату са сваёй дружынай, а павінен увайсці ціха, ветліва, зняць шапку, нізка пакланіцца маці, бацьку, нявесце і г. д. Ёсць і такія песні, у якіх жаніха ў маладой чакаюць з нецярплівасцю, а цешча выходзіць насустрач яму з мёдам, віном і г. д. і запрашае дадому. Нярэдка маладога сустракае і сама нявеста: бярэ яго каня, вядзе ў стайню, а самога, узяўшы за руку, вядзе ў хату і садзіць побач з сабой за стол.

«Бой» перад варотамі двара маладой паўней захаваўся ў песнях, чым у самім абрадзе, дзе ён выступае пераважна ў сімвалічнай форме, хаця ў некаторых мясцовасцях вясельнікі маладога ўрываюцца і сілай. Паколькі мэта дзеяння пры ўваходзе ў панадворак маладой вызначаецца сваёй канкрэтнасцю, змест звязаных з імі песень даволі аднастайны. Большай складанасцю вызначаюцца абрады і песні, якія выконваюцца, калі маладыя ўваходзіць у хату праз парог і садзіцца за стол да маладой. Яны характарызуюцца кантамінацыяй розных спосабаў заключэння шлюбу і варыянтнасцю выконваемых у гэты час абрадаў і песень. Гэта ў першую чаргу звязана з разнастайнасцю кампанентаў рытуалу традыцыйнага шлюбу — часу (да і пасля царкоўнага вянчання) і месца, дзе ён адбываецца. У адных мясцовасцях маладых зводзяць на панадворку, у другіх — на ганку, на парозе, у сенях, пасярод хаты, за сталом і г. д. У некаторых мясцовасцях спачатку адбываецца рытуал яднання родаў маладых, а ўжо за тым — саміх маладых. Так, у паўднёва-ўсходніх рэгіёнах Беларусі сваццi (маці) маладой і маладога, паставіўшы нагу на парог, цалуюцца і злепліваюць свечкі ў адну «да купы» так, каб яны гарэлі адным агнём.

Прыступі, сваха, да мяне,
І ў цябе дзіця, і ў мяне,
Да звядзём свечкі да ручкі,
Да звядзём дзеткі да паркі.

Часам сваццi кладуць каравай маладога побач з караваем маладой («злучэнне караваяў») або абменьваюцца караваямі ці падымаюць («раўнуюць») караваі, стоячы на парозе, так, каб утварылася брама, праз якую і праходзіць дружына маладога. Гэтыя маляўнічыя цырымоніі сімвалізуюць заключэнне саюза паміж двума родамі.

Вялікай варыянтнасцю вызначаецца і цырымонія уваходу ў хату маладой дружыны маладога. У адных мясцовасцях першым заходзіць жаніх, а дружына застаецца на двары, у іншых — сват маладога або дружына без жаніха, а бывае — цешча, брат ці нявеста сустракаюць маладога на панадворку або ганку і вядуць яго ў хату. Багатую і складаную сімволіку мае абрад сустрэчы цешчай зяця. Маці маладой, нягледзячы на просьбу сватоў з боку маладога, доўгі час не выходзіць з хаты. У час гэтага рытуалу выконваецца вялікая колькасць песень-просьб. У іх, у прыватнасці, спяваецца, што на зяця «мяцель мяце, на яго дробны дождж ідзе да уюжыца ўюжыць», да пад ім «коні стогнуць», «на зяцю сукні мокнуць», а «ў гардлівае цешчы»

Стаіць зяць у варотах,
У новенькіх чаботах,
Ой, стаіць ён ужо нядзелю.

Тут паказваецца вытрымка зяця, яго цярплівасць, здольнасць стойка пераносіць жыццёвыя нягоды, што вельмі цэніцца ў народзе. У гэтай групе песень ваяўнічыя паводзіны маладога змяняюцца пакорлівасцю і ціхмянасцю яго і яго роду. Марудлівасць з боку цешчы першапачаткова была звязана

з торгам за маладую. У далейшым гэты рытуал пераасэнсоўваецца ў свое-асаблівы народны этыкет, згодна з якім цешча выходзіць сустракаць зяця толькі пасля шматразовай просьбы. У гэты час выконваецца многа песень-дыялогаў жартоўнага зместу родам маладога па адзін бок дзвярэй, а родам маладой — па другі. Першыя сароміць цешчу, што яна доўга на выходзіць:

Ці хлебам жабруе,
Ці зяцем ганьбуе,
Ці кажуха не мае,
Ці чабот да дабывае,

а то і часам сват маладога пагражае, калі цешча не выйдзе «вітаці, то не за-хочам дачкі браці», завернуць сані ды паедуць дадому, а «вы будзеце да-ганяці, дачку ў воз саджаці».

Нарэшце дзверы хаты адчыняюцца, дружка маладога заходзіць у хату і застае цешчу на печы або на стаўбе, дзе яна прадзе або пляце лапці. У гэ-ты час хор з боку маладой у сваіх песнях патрабуе, каб малады даў цешчы чаравікі за тое, што «цешча босая хадзіла, аб парогі ногі набіла, яна ж табе Хвенечку расціла». Акрамя чаравікаў для цешчы, малады прывозіў чараві-кі і для маладой, часта даваў падарункі яе сёстрам і братам, але ніколі бацьку. Характэрна, што ў песнях род маладога звяртаецца з просьбай толькі да цешчы пусціць (сустрэць) зяця, а жаніх уручае выкуп за нявесту толькі маці. Гэта сведчыць аб тым, што, відаць, сустрэча маладога і купля нявесты ўзніклі ў перыяд матрыярхату. Пасля таго, як цешча атрымае чаравікі або грошы на чаравікі, хор выконвае песні, у якіх выражаецца з'едлівая насмеш-ка над маці, што яна «за чабаты зяцю дачку аддала» або «прапіла Якавіха жываты на чырвоныя чабаты».

Чобаты, чобаты на кручку,
Да рабіце дзелечка за дачку.
Ой, тыя чобаты, што зяць даў,
За тыя чобаты дачку ўзяў.
Ой, чобаты, чобаты вы мае,
Нарабілі клопату вы мне.

Часам чаравікі для цешчы ў хату прыносіць дружка маладога, а сам малады застаецца на панадворку. Цешча абувае іх, апранае вывернуты ка-жух, бярэ ваду, жыта, хмель, гарэлку, хлеб, а часам і хлебную дзяжу і вы-ходзіць сустракаць зяця. У гэты момант хор спявае: «Вынесь, цешча, дзеж-ку пад зятнюю ножку». Яна тройчы абходзіць зяцеў воз, абсыпае яго зер-нем, дае зяцю вады або гарэлкі, якую ён двойчы вылівае праз плячо, а за трэцім разам выпівае. Цешча бярэ зяця за руку, і калі той цнатлівы, ён ставіць нагу на дзяжу, затым цешча вядзе яго ў хату і садзіць побач з дач-кой, якая ўжо сядзіць за сталом. Перад маладой на стале стаіць упрыгожа-ная елачка, а сама маладая, схіліўшыся над сталом або караваем, на якім ён ляжыць, абедзвюма рукамі моцна трымаецца за стол, што сімвалізуе су-вязь маладой з яе родам. Малады павінен адарваць яе ад стала і пацала-

ваць, што таксама мела сімвалічны сэнс — адлучэнне маладой ад яе роду. У песнях больш позняга перыяду апавядаецца, што цешча сама выходзіць насустрач маладому без выкліку.

Абрад абсыпання зернем, які выконваецца на двары цешчай, а ў хаце — дружынай маладога, з'яўляецца магічным дзеяннем, што пастуліруе ўрадлівасць, дзетараджэнне і багацце. Звычай сустракаць зяця ў вывернутым кажусе бярэ пачатак ад часоў татэмізму, які ў наш час зусім страціў свой першапачатковы сэнс і незразумелы яго выканаўцам. Старажытны традыцыйны абрад сустрэчы маладога бацькамі маладой трывала захоўваецца ў побыце беларусаў і ў нашы дні. Прычым ужо ў XIX ст. у абрадзе ўдзельнічае і бацька маладой, у той час як у песнях часцей спяваецца аб сустрэчы маладога толькі цешчай.

Як бачым, у складанай цырымоніі сустрэчы маладога змяшчаецца многа рытуалаў і песень, прысвечаных узліванню багам-продкам, магічнаму абсыпанню зернем або хмелем і г. д. Вывернуты кажух у час прыезду жаніха і яднання (зводзін) маладых прымяняецца вельмі шырока. Так, на Віцебшчыне, Навагрудчыне, Барысаўшчыне і Палессі малады, незалежна ад пары года, прыязджаў па маладую апрануты ў кажух і насунутую на вочы бараннюю шапку, а дружка ў такой жа шапцы нёс кажух або (пазней) вялікую чырвоную хустку для маладой. Значэнне і гэтага абраду ў XIX ст. было ўжо незразумелым, але яго працягвалі выконваць згодна з традыцыяй. У некаторых песнях, відаць, больш позняга паходжання, апрананне цешчай вывернутага кажуха набыло іншы сэнс — адпудзіць маладога.

Убралася цешча ў аўчыны
Да хацела зяця спужаць:
Не хацела дачкі аддаць.

У другой песні цешча называецца «забаўнай», што «яна ў воўка ўбіралася», каб спужаць зяця, а «зяць ваўка не баіцца — бліжэй к дачцы садзіцца». Часам у песнях гучыць нават пратэст і насмешкі над абрадавым народным уборам, як камедыйным. Калі малады заходзіць у кажусе і шапцы ў хату, спяваюць, што «мядзведнікі (або скамарохі) ідуць, мядзведзя вядуць», а ён вельмі «страшны»:

У яго вочы красны,
Як у чорта дзясны,
За крук бярэцца,
На кут дзярэцца.
Хоча паляцеці
Да там ля Мар'яначкі сесці.

Пад песню

Праслаў свёкар адзяванне:
Ці кунняя шуба, ці барання?
Калі ж кунняя, дык кінеш,
А калі барання, дык прымеш

дружка маладога, узяўшы кажух, які прызначаўся для маладой і сімвалізаваў продкаў яго роду, звяртаецца да абодвух радоў са словамі: «Жоначкі, благаславіце, мужоўе-паноўе і ўся круглая бяседа, благаславіце маладую адмецiць» і, тройчы махаючы ім над галавой маладой, пакрывае яе кажухом або садзіць на яго. Гэта дзеянне, акрамя магічнага, мела сацыяльна-прававое значэнне і сімвалізавала прыняцце маладой у род жаніха. Наогул факт пакрывання маладой кажухом (шапкай, хустай) маладога адзначаў авалоданне ёю, а пазней — яшчэ пажаданне багацця, пладнасці. У апошнія часы, калі рытуальнае значэнне гэтага абраду было зусім страчана, кажух або хустка маладога выступаюць як падарункі, і толькі шапка выкарыстоўваецца ў якасці сімвала валодання нявестай.

У час выканання абраду пакрывання свашкі спявалі, што маладая пшонку жне, а «з цёмнага лесу туча йдзе», што сімвалізавала набліжэнне дружыны маладога з кажухом. У параўнанні з песнямі больш ранняга паходжання, дзе маладая страшыцца гэтай «тучы», у пазнейшых маладая не толькі яе не баіцца, а лічыць, што кажух прынясе ёй нават шчасце.

Чаго ж я маю баяцца —
Не дождж.ам мяне абальецъ,
А добрай доляй абгарнець.
Не ветрам мяне абвеіць,
Якаўка шубанькай абкрыіць.

Вакол абраду «зводзін стракатым клубком перапляліся рэшткі звычаяў родаплемяннай эпохі, у XIX ст. ужо супярэчлівыя, пераблытаныя, якія здаюцца ў некаторых выпадках недарэчнымі і непатрэбнымі» [4]. Складанасці гэтага абраду адпавядае разнастайнасць яго назваў: звядзенне, яднанне, злучэнне, звядзенне ў купу, заручыны маладых і г. д. Вызначаецца ён і сваімі шматлікімі арэальнымі адрозненнямі.

Галоўнай асаблівасцю абраду яднання маладых была абавязковая прысутнасць абодвух радоў. Адзін род становіцца супроць другога, а малады — супроць маладой. Сват падводзіць маладога да маладой і прымушае іх моцна абняцца, што сімвалізуе само яднанне. Адначасова хор спявае традыцыйную для гэтага моманту песню:

Як табе, бяроза,
Да з яварам сыйсціся...
Да як табе, дзевачка,
Да із дзяцінкам сыйсціся?
— Да я ножкамі сыйдуся,
Да я ручкамі счаплюся...

Або:

Хмель з аўсом сыпліцца,
А Ганаънька з Васількам сыйдуцца.

---

[4] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусского свадебного обряда.— Мн., 1956, с. 70.

На Віцебшчыне і Смаленшчыне маладых ставілі на адну масніцу і спявалі:

Ягада з ягадай на бару раслі...
Магдуська з Пятруськам на вёсцы раслі.
Росшы яны, росшы яны, салучыліся,
Белымі рукамі сашчапіліся,
Залатымі пярсцёнкамі абмяняліся.

Большасць песень, якія выконваліся ў час яднання маладых, страцілі сваё класічнае заклінальнае прызначэнне і кароткую форму. У іх пераважнае месца пачынае займаць эстэтычная функцыя са значнай доляй лірызму. Некаторыя ж набылі форму кампазіцыйнага паралелізму, агульная мадэль якой заключаецца ў супастаўленні двух матываў — прыроды і чалавека, нярэдка з маналогамі і дыялогамі. Толькі ў некаторых песнях яднання яшчэ выразна праступае заклінальны матыў:

Уместа яны, умесцечка сухадзіліся,
Сыйшоўшыся, не разойдуцца —
Быдта гэта дзетанькі аднэй матанькі,
Аднэй матанькі, аднаго татанькі.

Нярэдка ў час звядзення маладых спяваюць песню «Каравай расцвітаець, а ягадка, а ягадка паспяваець» і інш. Папулярным матывам песень гэтага цыклу было апісанне шчаслівай жаніцьбы жаніха і нявесты, якія «мілаваліся», «цалаваліся», «абнімаліся», «як голуб з галубкай», «звіваліся», «як хмель», «як вінаград» і г. д. Мастацкая паралель «голуб», «вінаград» — жаніх, «галубка», «ягада» — дзяўчына і г. д. часта раскрываецца ў самім тэксце. Пры дапамозе разнастайных умоўна-паэтычных і сімвалічных эпітэтаў і вобразаў у гэтых песнях сцвярджаецца непарыўнае яднанне маладых, іх каханне. Маладыя тройчы цалуюцца, а іх дружыны, узяўшыся за рукі, утвараюць непарыўны ланцуг, які сімвалізуе яднанне маладых і іх родаў, і ўсе разам садзяцца за стол. Яднанне маладых адбывалася пераважна ў доме маладой і ажыццяўлялася дзядзькам або старэйшым братам (сватам, або дружкам) маладой ці маладога з боку маці. Сувязь гэтага абраду з эпохай матрыярхату асабліва яскрава праглядаецца на беларускім матэрыяле, дзе галоўнымі дзеючымі асобамі, якія кіравалі дзеяннем, былі родзічы па мацярынскай лініі. У песнях апісваецца архаічны (прымітыўны) спосаб выканання абраду яднання маладых: сумеснае сядзенне на покуце, узаемнае падаванне рук, абніманне, звязванне рук і саміх маладых, сумесная яда, піццё і інш. Адзін з варыянтаў абраду звядзення ў купу заключаецца ў падштурхоўванні маладога да маладой і трохразовым абкручванні іх ручніком. Пасля гэтага ім звязваюць рукі поясам або ручніком, саджаюць разам на покуць, пакрываюць намёткай або куском палатна. Часцей за ўсё пры яднанні маладых адбываецца некалькі аднолькавых (дублетных) рытуалаў злучэння, гэта, відаць, адбылося ў выніку напластавання і ўзаемадзеяння абрадаў розных эпох і арэалаў, што нярэдка рабілася свядома ў мэтах больш трывалага замацавання таго ці іншага магічнага ўздзеяння на будучы лёс маладых. Выкананне ад-

нолькавых, часам малазразумелых па свайму значэнню абрадаў тлумачыцца таксама няўхільным і дакладным захаваннем завешчанай продкамі традыцыі. Пэўную ролю ў такога роду дубліраванні адыграла і царкоўнае вянчанне.

Складанасць і разнастайнасць цырыманіялу зводзін, у які ўваходзілі шматлікія элементы розных хранал агічных зрэзаў, выражаецца ў адрозненні яго асобных дзеянняў, паслядоўнасці іх выканання не толькі паміж цэлымі рэгіёнамі, але нават і суседнімі вёскамі. Але сэнс усіх абрадаў і песень, якія іх суправаджаюць, адзіны — яднанне маладых. Такая варыянтнасць назіраецца ўжо з уваходу дружыны маладога ў хату маладой. Фактычна з пераступання парога дома маладой і пачынаецца яднанне радоў і маладых. Акрамя вышэй адзначаных варыянтаў гэтага этапа вяселля, у аспекце разглядаемага тут цыкла варта спыніцца на асаблівасцях варыянта яднання за сталом, калі дружкі маладога ўрываюцца ў хату як заваёўнікі ў кажухах, «насунуўшы шапачкі на вочы». Сват маладога, ляскаючы бізуном, выганяе падружак маладой з-за стала, каб вызваліць месца каля маладой для жаніха і яго дружыны. Дзяўчаты не пускаюць сватоў маладога і спяваюць, што яны не баяцца яго нагайкі (пужкі), якая «пад лаўкаю ляжала, свінням мякіну мяшала».

Не ляскай, дружка, канчуком,  
Лясні, дружка, галавою  
Ды над нашаю маладою.  
Ой, наша сцяна касцяна  
Свату галаву расцяла.

Ва ўсіх песнях этапа звядзення маладых ляскание пугай (канчуком) набыло другаснае значэнне — пужаць і выганяць дзяўчат — у параўнанні з першапачатковым, калі ляскаииеи пугі адганялі злых духаў. Сяброўкі маладой звяртаюцца з песнямі да маладога, што ён «напрасна конікі перагнаў, напрасна дружынку стурбаваў», бо ўсё роўна яму таварышку «ні так не ададуць, ні за грошы не прададуць». У дапамогу свату і маладому выступаюць іх свашкі (сваццi). Дзяўчаты супрацiўляюцца і пачынаюць спрэчку са свашкамі маладога ў форме песеннага дыялогу накшталт «песень-пераклічак». Абодва бакі не абмяжоўваюць сябе ў выбары з'едліва-іранічных і абразлівых выразаў. Сяброўкі нявесты, якія ў песнях пераважна называюцца сястрыцамі, заўзята таргуюцца за маладую, пакуль не атрымаюць пажаданага «выкупу» як ад маладога або свата, так і ад яго свашак. Сустракаемыя ў песнях элементы гэтага абраду адносяцца да эпохі матрыярхату, калі равесніцы аднаго роду і аднаго ўзросту складалі асобныя арганізацыі і называліся сёстрамі, а выкуп нявесты з дзявоцкай грамады азначаў пераход яе ў жаночую, г. зн. з адной узроставай групы ў другую.

Па старажытнай традыцыі роля сяброўак маладой, якая, пачынаючы з заручын, асабліва актывізавалася, пасля выкупу нявесты заканчвалася. З гэтага моманту яны выключаліся з вясельнага дзеяння наогул і развітваліся з нявестай на ўсё жыццё. Пазней удзел «сясцёр» у вяселлі быў прадоўжан да моманту ад'езду маладой у дом жаніха, а з цягам часу іх роля яшчэ больш пашырылася: яны ехалі разам з маладой да жаніха і суправаджалі маладую

да каморы. У наш час моладзь адыгрывае першынствуючую ролю на працягу ўсяго вяселля.

Пакідаючы месца за сталом каля маладой, дзяўчаты не спыняюць абразлівых песень у адрас маладога і яго дружыны і просяць брата нявесты, які сядзіць каля яе і трымае яе за руку або стаіць за яе спіной з сякерай (нажом), каб ён не аддаваў сваёй сястры (яе касы). Яго называюць «татарынам», «татарчуком», «горшым за ката», які «сеў сабе над касою, як воўк над казою». У песнях, відаць, пазнейшага паходжання заклікаюць брата вучыцца «таргавацi, як сястру прадаваці», каб за яе «болей грошай узяці». Атрымаўшы выкуп, брат уступае маладую. Кожны з удзельнікаў вясельнага поезда маладога павінен таксама выкупіць сабе месца за сталом. Толькі пасля гэтага малады са сваёй дружынай займаюць месца за сталом, а радня нявесты з песнямі, у якіх выражаецца крыўда на маладую, пакідае застолле.

Ці не жалка табе, Маланка,
Што чужая радзіна абсела,
А свая радня вон пайшла?
Чужая радзіна мёд-віно п'ець,
А свая радня слёзкі льець.

Хор з боку маладой у гэты момант выконвае шмат ганебных песень у адрас маладога і яго дружыны, дзе прыніжаецца годнасць апошніх у параўнанні з маладой і яе родам. Нявесту яны называюць «пралесачкай», «сыраежачкай», «ваўняначкай», якую абселі «грыбы», «грыбішчы», «старыя казляцішчы», «чашчавікі», «старыя махавікі», «вараняты», «лапатнікі», «трапічнікі», якія

Па бару валяліся
Да да нас дабраліся.
Да ў бару чэрві вілі,
Да ў нас за сталом селі.

Сваццi маладога і дружкі маладой складаюць два самастойныя хоры: у іх песнях, якія выконваюцца ў форме дыялогу, яскрава бачны антаганізм паміж радамі. Хор маладога ў адказ на кпіны хору маладой падсмейваецца з сяброўак маладой (якія не здолелі ўсцерагчы сваю падружку; яны дарэмна гарачыліся, што нізашто яе не аддадуць; відаць, яны ёю не даражаць, што так лёгка яе ўступілі), абражаючы іх рознымі зняважлівымі словамі («сучкі брахлівыя», «гультайкі», «свінамяшалкі» і інш.). Гоняць дружак маладых, каб яны «менш брахалі», а лепш ішлі рыхтаваць сабе прыданае і чакалі жаніхоў. У некаторых песнях сваццi маладога прапануюць прымірэнне і ўручаюць дружыне маладой падарункі (гасцінцы), якія раней азначалі выкуп. Такім чынам, спрэчка за маладую паміж радамі звычайна заканчваецца пагадненнем двух бакоў у выглядзе гаспадарчага абмену. Калектыў маладога набывае рабочую сілу, а род маладой губляе яе, таму і імкнецца атрымаць матэрыяльную кампенсацыю.

Бывае і так. Дружына маладога («чужына», «чужаземцы», «чужынцы»),

уварваўшыся ў хату і не знайшоўшы маладой, якая схавалася, паводзіць сябе, як заваёўнік. Шукаючы яе, яны ствараюць у хаце вэрхал. У адным выпадку яны знаходзяць маладую ў гурце дзяўчат, пакрытую намёткай ці куском палатна. У іншым — сваякі маладой выводзяць да маладога адну з сяброўак нявесты, а часам і старую бабку. Робяць гэта тройчы, прыгаворваючы: «Вось ваша нявеста (суджаная, раджаная, дар, тавар)». Дружына маладога адказвае, што гэта не іх суджаная («не наш тавар», «не наша кветка»). Нарэшце, выводзяць саму нявесту, сват жаніха звязвае рукі маладых ручніком, тройчы абводзіць вакол стала і саджае іх на покуце на вывернуты кажух або падушку. На гэтым абрад яднання маладых часцей за ўсё не заканчваецца. Ён працягваецца яшчэ і за сталом выкананнем шэрагу рытуалаў: цалаванне маладых, перапіванне маладой, абмен падарункамі паміж радамі, спажыванне агульнай рытуальнай стравы, «налажэнне прызнакі» (прышыванне вяночка з галавы маладой да шапкі маладога і пакрыванне нявесты чырвонай хусткай і інш.). Сярод гэтых рытуалаў асабліва вылучаецца ўрачыстасцю і ўзнёсласцю перапіванне («прапіванне») маладой, якое зацвярджае і замацоўвае стварэнне новай сям'і. У гэты час адбываюцца спаборніцтвы паміж танцорамі, спевакамі і музыкантамі. «У такім агульным віхры і «прапіваецца маладая», г. зн. пераходзіць у іншы, «маладзічын свет», зацвярджаецца «на людзях», «як баба» [5].

Усе рытуалы абраду зводзін дакладна і лаканічна перадаюцца пераважна ў кароткіх па форме і простых па зместу апавядальных песнях каменціруючага, кіруючага або заклінальнага характару, мэтай якіх з'яўляецца тлумачэнне выконваемых дзеянняў і абрадаў, накіраванне іх у належнае рэчышча і замацаванне шчаслівага шлюбу маладых у прысутнасці ўсяго роду. Абрад яднання суправаджаецца вялікай колькасцю песень, у якіх падкрэсліваецца кіруючая роля калектыву, яго адносіны да самога дзеяння. У іх таксама адлюстраваны этычныя нормы паводзін у час вяселля. Нярэдка песні заканчваюцца традыцыйнымі формуламі-пажаданнямі тыпу: «За тым словам жывіце з богам», «Дай, божа, маладым добрую долю» і інш. Такога ж роду заклёны-пажаданні ў вялікай колькасці выказваюцца на працягу ўсяго абраду зводзін і самастойна, па-за тэкстам песень. Так, напрыклад, у Барысаўскім павеце сват маладой у час выканання рытуалу яднання гаварыў: «На вясёлае жыццё, на добрае здароўе, на доўгі век, на дзяцінае шчасце».

У цыкле зводзін вылучаецца і група песень, у якіх выяўляюцца пачуцці маладых, асабліва нявесты, яе сяброўак, бацькоў. У параўнанні з разгледжанымі вышэй песнямі яны больш развітыя: ім уласціва тонкая лірычнасць, глыбокая эмацыянальнасць, яны раскрываюць унутраны свет герояў, іх узаемаадносіны, перажыванні. Структурна гэтыя песні часта характарызуюцца разгорнутым псіхалагічным паралелізмам: сімвалічны малюнак прыроды адпавядае апісанню адносін паміж персанажамі або іх унутранага стану.

— Ой, рэчанька, рэчанька,
Ты ўчора цякла, быстра ішла,

[5] Можейко З. Песенная культура Белорусского Полесья.— Мн., 1971, с. 74.

А сягодня цячэш, ціха ідзеш.
— Ой, як я буду цекці, быстра йсці?..
Што на мяне рэчанькі ўсе сашліся,
Што на мяне лозанькі ўсе схіліліся,
Што на мяне каліна скланілася,
Яна маю быстроньку спыніла.

Далей ідзе зварот да дзяўчыны з пытаннем, чаму яна ўчора была вясёлая, а сёння хмурная, і адказ апошняй, што ўчора яна сядзела са сваёй раднёй, а сёння

Асела мяне ўся яго радня,
Аселі па правы бачок дзевяры,
Яго родныя браты,
А па левы бачок—
Яго родныя сястрыцы.

Вялікай паэтычнасцю вызначаюцца і песні, у якіх маладую параўноўваюць з буйна квітнеючай калінай, бярозай, ружай, пяшчотнай канапелькай, якой «вецер» («мароз») «абабіў» («атрос») «бухматае» («зялёнае», «буйнае») «лісце» («зерне»), «а сырую зямельку» («жоўты пясочак»), якая бестурботна красавалася ў сваіх бацькоў, жаніх «расплёў коскі па белых плячах, разліў слёзкі па румянаму ліцу» і г. д. У іншых песнях маладая, яе сяброўкі і маці параўноўваюцца, а часам атаясамліваюцца з сонцам, месяцам, зоркамі.

Ішла цешчанька зарою,
А зяць месяцам за ёю.

У той час, як у песнях пра нявесту вялікае месца займае яе душэўны стан і знешні выгляд, у песнях пра жаніха, наадварот, апісваюцца пераважна яго дзеянні. Малады выступае як галоўны воін сваёй дружыны і параўноўваецца з сокалам, собалем, каралём, панічом, які пераважна выступае як умелы купец, удалы стралок, кемлівы, хітры, спрытны, моцны, настойлівы ў сваіх імкненнях; конь у яго асаблівай прыгажосці, дастойны памочнік свайго гаспадара ва ўсіх яго пачынаннях. Яго можна пазнаць па таму, што «ён мёдам пахне», «віном дыша»; жаніх брава сядзіць на кані і пяшчотна глядзіць на нявесту («галубку», «саколку»). У гэтых песнях малады паказан храбрым воінам, які ўз'язджае на гару і дабывае сабе нявесту, разбіваючы «сцяну камяну», ламаючы вароты і пераадольваючы іншыя перашкоды. Жаніх малюецца ў песнях як шчаслівы пераможца, а нявеста як пераможаная нявольніца. Жаніх трыумфуе, радуецца, «за столікам віно п'е, а маладая побач слёзы лье». Песня не толькі ўзносіць горды выгляд жаніха, але і глыбока спачувае маладой.

Асабліва многа песень, у якіх узвялічваецца маладая, але яшчэ больш такіх, дзе малады ганьбіцца. Сярод іх маецца група песень, дзе абодва матывы (зневажанне аднаго з маладых і велічанне другога) складаюць адзін сюжэт. Кантрастным супрацьпастаўленнем (параўнаннем) маладых дасягаецца камічнасць вобраза маладога: «Наша Марылька хараша, а ваш Пят-

рулька — парася»; «Наша маладая, як суравежка, а ваш малады, як галавешка».

Вельмі часта ў песнях высмейваецца скупасць, беднасць сватоў, якія «па шляху хадзілі, старцоў вадзілі да капейкі збіралі, дружак даравалі»; «сваты — галышы, не маюць грошы пры душы». У другой песні гаворыцца:

Па шуметнічку хадзілі,
У курэй лапак пазычалі,
У шуметнічку капалі,
Капеек шукалі,
За маладую грошы паклалі.

Спяваецца, што сваты такія бедныя, што не маюць нават на чым прыехаць па маладую: «Самі пяшком ішлі, маладога ў мяшку няслі». У вялікай групе песень асуджаюць, лаюць і высмейваюць свашак, якія спазніліся, бо «па сялу ўздушак (конікаў, сядзёлак, свашак) сабіралі», «караўкі сабіралі», «кажухі latалі ды маладога прыбіралі». Такое мноства песень аб спазненні дружыны маладога тлумачыцца народным павер'ем, згодна з якім маладая ў час чакання маладога не мела права ўстаць з застолля, пакуль малады не прыедзе і сам не выведзе яе. У адваротным выпадку яе чакала нешчаслівае замужжа. Дружына маладога ў песнях апраўдвае сваю затрымку неабходнасцю выканання ўсіх устаноўленых спрадвеку звычаяў (пакланенне вялікаму роду, абрадавае часанне, мыццё ў лазні, апрананне ўсяго новага і г. д.) або дрэннай і далёкай дарогай.

Насмешкам з боку маладой падвяргаюцца і разумовыя здольнасці сватоў жаніха, якія замест хаты ў хлеў заехалі дзе «з свіннёй (бараном) віталіся». Таксама карыкатурна паказваецца іх вонкавы выгляд. Яшчэ больш зневажаецца і з'едліва высмейваецца малады. Самай вялікай заганай жаніха лічыцца п'янства, фізічныя недахопы, няспраўнасць у працы, а таксама, калі ён стары або ўдавец.

Што будзеш, Манечка, замужам рабіці?
Да твой Пецечка не ўмее касіці,
Ні араць, ні пахаць.

Раяць маладой не глядзець на хлопца, «што красіў», а «папытацца ў яго, ці касіў», «ці клаў воз».

У народзе з даўніх часоў лічылася вельмі важным, каб маладыя падыходзілі адзін да аднаго («каб пара была дабраная») ва ўсіх адносінах (узростам, ростам, знешнасцю, гаспадарчымі навыкамі, працаздольнасцю, матэрыяльным і сацыяльнымі становішчам). З гэтым у абрадзе зводзін звязан так званы рытуал «раўнавання». Ён вельмі шырока адлюстраваны ў песнях, якія нярэдка пачынаюцца іменна з гэтага матыву. Калі малады шчодра адорвае дзяўчат і свашак маладой, яны спяваюць яму велічальныя песні, якіх у гэтым цыкле беларускага вяселля нямнога. Значна больш велічальных песень выконваецца для маладой, дзе яе вобраз ідэалізуецца. Ёй надаецца звышнатуральная сіла: «дзе маладая сядзіць, там не нада ні сонца, ні месяца», бо «ад золата грудзі ломяцца ёй, ад серабра іскры сыплюцца». Немалое значэнне

надавалася годнасці яе роду. Яе можна пазнаць «па пародзе», «яна татулькі багатага», «яна мамулькі разумнай», «роду вялікага» і г. д. У песнях вельмі выразна паказан народны ідэал прыгажосці маладой, якая, «як бель бялюсенька», «тонкая, высокая, белая, румяная, хораша прыбраная», «чарнабровая, чарнавокая» і г. д. Разам з паэтызацыяй хараства маладой узвялічваецца і яе працавітасць, разважлівасць, цнатлівасць, розум, кемлівасць, пачцівасць у адносінах да старэйшых.

Вяселле ў маладой уключае абрад абмену падарункамі паміж дружынамі маладога і маладой, што абазначае яднанне абодвух радоў, «успамаганне» маладых і адорванне нявестай роду жаніха. Элементы ўсіх гэтых відаў дарэння праходзяць праз усё вяселле, пачынаючы з заручын. У час заручын маладая адорвае сватоў маладога ручнікамі, хусткамі, рукавамі, станам палатна і г. д., а яны ў сваю чаргу даюць ёй крыху грошай, хусткі, стужкі і інш. Падарункі ў выглядзе лёну, воўны, маткоў нітак, рукавоў і іншых рэчаў, якія ўваходзяць у склад прыданага маладой, яна атрымлівае ад сваякоў і суседзяў у час іх запрашэння на вяселле пасля заручын. Наогул дарэнне на працягу вяселля адбывалася шмат разоў: адорвалі маладую і маладога асобна кожнага ў іх дамах у суборную суботу, на каравай, перад ад'ездам да вянчання, пасля вяртання з вянчання таксама асобна або разам (у доме маладой), перад і пасля прыезду маладога па маладую, у канцы апошняга стала перад адпраўленнем маладой да маладога, у маладога пасля прыезду маладых, у час раздзелу каравая, у канцы вяселля і інш. Паколькі песні, выконваемыя ў час усіх момантаў дарэння, у асноўным блізкія па змесце і форме, яны згрупаваны ў адным раздзеле, а паколькі іх выкананне адбываецца ў асноўным у доме маладой і многія элементы іх сімвалізуюць яднанне маладых, яны змяшчаюцца ў гэтым томе.

Як абрад дарэння, так і суправаджаючыя яго песні займаюць у беларускім вяселлі значнае месца, што звязана з сацыяльным і эканамічным укладам жыцця беларускага сялянства, якое працяглы час захоўвала, аж да другой палавіны XIX ст., рэшткі радавога быту і сямейна-абшчыннай арганізацыі [6]. Таму, каб зразумець сапраўдны сэнс дароўных вясельных песень, «трэба ведаць норавы патрыярхальнай сям'і» [7]. Да такога роду перажыткаў радавога грамадства ў першую чаргу трэба аднесці звычай прыцягваць у рашэнне шлюбных спраў і правядзенне самога вяселля як мага большае кола сваякоў маладых. Прычым усе родзічы, «блізкія і далёкія», «бедныя і багатыя», «дальнія-прыезджыя», «старыя і малыя», «і тыя бабылкі, што не маюць кабылкі» з абодвух бакоў, а таксама іх суседзі павінны былі аказваць маладой пары пасільную эканамічную дапамогу. Усё гэта знайшло сваё адлюстраванне ў шматлікіх песнях дарэння.

Каб мой татачка добры быў,
Ён бы мне піва зварыў,

[6] Никольский Н. М. Происхождение и история Белорусского свадебного обряда, с. 154 і 176.
[7] Лафарг П. Очерки по истории культуры.— М.—Л., 1926, с. 75.

Усю радзіначку заэваў —
Бедную і багатую.
Багатыя па рубельчыку,
Бедныя па чырвончыку.
Багатыя дзіваваліся,
Адкуль у бедных грошы браліся:
Ці трубачкі закладалі,
Грошы-золата нажывалі?

У іх часта без усялякіх прыкрас малюецца рэальнае жыццё народа. Так, радня нявесты ад яе імя настойліва і груба патрабуе абавязковага дарэння. І гэта, згодна з існуючай традыцыяй і этыкетам, не лічыцца непрыстойным. А тых, хто адмаўляецца дарыць, публічна саромяць, пужаюць і праклінаюць:

Хто не будзе дараваць,
Будзе ў дзеўках векаваць.
. . . . . . . . . .
А што вы не падорыце,
Тое вы пасорыце.
. . . . . . . . . . .
Калі ты дасі — няхай бог пасе,
Калі ж не дасі — няхай воўк нясе.

Звычайна падарункі клалі на засланае ручніком века ад дзяжы (пазней — талерку), якое знаходзілася на стале перад маладымі і сваццяй, якая дапамагала ім. Адсюль устойлівы выраз «класці на века (на талерку)» азначаў дарыць. Нярэдка дарылі жывёлу, зерне, лён, воўну і розныя гаспадарчыя рэчы. У момант дарэння асоба, якая дарыла, выпіваючы чарку гарэлкі, называла тую рэч, якую дарыла («дарую пчолы» і г. д.), і выказвала добрае пажаданне маладым. У беларускім вяселлі маецца незлічоная колькасць такога роду пажаданняў, якія выказваюцца ў час дарэння як асобна, так і гучаць у песнях.

Дарую ўсё, што загатавала,
Каб мяне дачушка хоць добрым словам успамінала.
Дарую пчолы, што на дубе,
Штоб цалаваліся ў шчокі і губы.

Нярэдка здаралася і так. Хто-небудзь, паабяцаўшы ў прысутнасці вясельнай грамады падарыць маладым якую-небудзь рэч, не стрымліваў свайго слова. Каб такога не здарылася, у песнях загадзя выказваліся пагрозы, праклёны і г. д.: калі «не аддасце — ваўкі з'ядуць; па лясах пазбягае, а звяр'ё паз'ядае». А тым, хто дарыў, маладая жадала, каб гэты дар кампенсаваўся «ў хлявочку — волікамі, у стаенцы — конікамі, у садочку — пчолкамі, а ў пасцелі жонкаю». Вялікае значэнне надавалася веры ў магічную сілу слова, якое таксама магло павялічыць багацце і дабрабыт будучай сям'і. Асабліва гэта тычылася бацькоў нявесты, якія абдорвалі маладых першымі. Пры гэтым хор спяваў:

Шчасце тваё, доля твая, Манечка.
Ідзець цябе татка з мамкай дарыці,
Хочуць табе шчасце-долю улажыці.

Канцоўка гэтай песні, відаць, больш позняга паходжання, бо, як справядліва адзначае Ф. Сяліцкі, тут ужо вера ў магічную сілу слова і атаясамліванне абрадавага вясельнага падарунка з доляй-шчасцем страчваецца. У песні бацькі адказваюць дачцэ:

— Ой, абдорым, маё дзіцятка, абдорым,
Ну мы табе шчасця-долі не ўложым [8].

Прыехаўшы ў сям'ю маладога, маладая павінна абдорваць усю яго радню. Гэты рытуал узнік пазней, калі значэнне дароў маладога як выкуп нявесты рабілася ўжо незразумелым,— і «па аналогіі і пад уплывам новых поглядаў і адносін ён быў перанесен і на жаніха і яго родзічаў» [9]. Гэта патрабавала вялікай колькасці дароў ад маладой, якія павінны быць зроблены яе ўласнымі рукамі. Таму маладая пачынала іх рыхтаваць ужо з самага дзяцінства. Але і гэтага часу не хапала, бо часта дзяўчынак выдавалі замуж вельмі рана.

Не дзівіце, сваточкі,
Што кароткія платочкі:
Наша княгінька мала
І ў поле ганяла,
Платкоў не наткала.

У некаторых песнях, якія апраўдваюць малую колькасць падарункаў з боку маладой, гучыць сацыяльны матыў:

Па прыгоню хадзіла,
І кудзеля не ўрадзіла.

Часта ў песнях маладая параўноўваецца з пчолкай, бо яна вельмі старанна рыхтуе гэтыя падарункі, па якасці якіх меркавалі аб яе працавітасці.

Добра дзевачка — дары добрыя:
Тонкія, бяленькія — тонка прала,
Густа ткала, бела бяліла,
Бела бяліла, племя дарыла.

І калі падарункі аказваліся добрымі, слава і пашана выражаліся не толькі маладой, але і ўсяму роду, бо ў іх падрыхтоўцы прымалі ўдзел яе маці, сёстры, блізкія.

---

[8] Sielicki F. Białoruskie obrzędy i pieśni weselne ze wsi Mikulino b. gminy Dołhinów pow. Wilejskiego.— Acta Univ. Wratisłaviensis, No 472. Slavica Wrat. XYIII. Wrocław, 1979, s. 132—133.

[9] Охримович В. Значение малорусских свадебных обрядов и песен в истории эволюции семьи.— Этнографическое обозрение. М., 1891, кн. XI, № 4. с. 53.

У цэлай групе песень пры дапамозе прыёму псіхалагічнага паралелізму маладая параўноўваецца з вутачкай, якая «крача, па балоце лятаючы, к купіне прылягаючы», з кукуючай зязюлькай, якой ужо «не лятаці, вінаграду не клеваці», з зорачкай, працавітай пчолкай, якая «не дзень, не два ў вулле мёд насіла, за адзін ранак рассыціла». Падобна пчолцы маладая «не год, не два рабіла, а за адзін вечар раскаціла». Тым больш крыўдна ёй за тое, што яна «нікому не ўгадзіла: ані цёткам, ані дзядзькам, ані родным сястрыцам а ліхой свякроўцы». У адчаі яна абураецца, што «свату прусатаму аддала ўвесь пастаў,— каб яго конік з месца не ўстаў».

Песні, выконваемыя ў час прыезду поезда жаніха па нявесту і яднання маладых, сваім зместам ахопліваюць усе важнейшыя рытуалы і моманты данага цыкла вяселля. Яны захавалі шмат архаічных элементаў і вызначаюцца высокімі мастацкімі якасцямі. Вялікая колькасць архаічных рыс у гэтых песнях тлумачыцца вернасцю беларускага селяніна запаветам продкаў, якія прадугледжвалі непахіснасць і дакладнасць выканання ўсіх вясельных абрадаў і песень. І таму хоць семантыка многіх рэлігійна-магічных дзеянняў і іх моўнае суправаджэнне часта ўжо не ўсведамляюцца выканаўцамі, а складаныя рытуалы і песні набываюць у наш час характар ігры, свайго роду спектакля, яны выконваюцца сур'ёзна з падпарадкаваннем сіле старажытных традыцый. Побач з песнямі далёкага культурна-рэлігійнага мінулага, якія існуюць ужо на працягу многіх вякоў, у цыкл песень прыезду маладога па маладую і іх яднання ўваходзяць таксама песні, якія ўзніклі ў больш позніх часы і раскрываюць карціны жыцця народа адпаведных гістарычных перыядаў.

Рыхтаваць кнігу да друку дапамагала Д. М. Чэчка.

*Л. М. МАЛАШ*

# ВЯСЕЛЬНЫ ПОЕЗД МАЛАДОГА КАЛЯ ВАРОТ І Ў ДВАРЫ

### 1

Проці сваняга двара
Да высокая гара,
Да ні сысці, ні з'ехаць,
Ні сакалом зляцець.
Трэба слесароў наняць,
Гэтую гару раскапаць,
Да дзевачку к сабе ўзяць,
Да з яе вяночак зняць.
Зняць руцвяны, налажыць ніцяны.

### 2

Проці сватняга двара
Да высокая гара —
Ні ўзыйсці, ні ўз'ехаць,
Ні сакалом ўзляцець.
Ды хоць даць-перадаць,
Трэба капачоў наняць —
У сватні двор уехаць,
К свату ў хату ўвайсці.
— Улякніцеся, ворагі,
Падаб'ём мы вас пад ногі.
Мала мы ў вас бывалі,
А нявесту ўсё ж забралі.

### 3

А ў горад, горад Канічы, *
Ні ўзыцібь на іх, ні ўз'ехаць,
Толькі сокалу ўзляцець,
На саколачку паглядзець.
А й сокал, сокал — Мішачка,
А й саколачка — Машачка.
А й сокал, сокал мяды п'ець,
А саколачка слёзкі льець.

4

Каля цесцева двара *
Да каменная гара,
Да шырока даліна,
Цёмненькая хмара.
Ох, я ж тую гару
Да канём пераскочу,
Да шыроку даліну
Стрэлкаю перакіну.
Цёмненькую хмару
Хустаю размахаю,
Я сваю дзевачку
Між дружак пазнаю.
А ў мае дзевачкі
На плечках косачкі,
Пад вачамі слёзачкі.

5

А па чым нам свата ўзнаць —
Вяліка гара ля двара.
Мы ж тую гару раскапаем
І свайго свата спазнаем.
— А сваточак наш, салавейка,
Прымі ты нас харашэнька,
Як прыедзеце вы да нас,
Тады мы будзем частаваць вас.

6

А як мы свата спазнаем —
Крутая гара ля двара,
Зялёна пшаніца на дварэ,
Глыбока крыніца ў хляве.
Крутую гару разаб'ём,
Зялёну пшаніцу распасём,
Глыбоку крыніцу разап'ём.

7

А ў нашага сватачкі
Крутая гара ля двара
Да зялёны явар у варатах.

Будзем тую гару рыць-капаць,
А зялёны явар сеч-рубаць,
Вараныя коні ўзбягуць,
Маладую дзевачку звязуць.

8

У нашага свата дарагога
Ды зялёны явар пад вакном,
Ды крутая гара ў варотах:
Вараныя коні не ўзбягуць,
Маладога хлопчыка не ўзвязуць.
Як зачуе там дзевачка
Ды крутую гару скапае,
Зялёны явар зрубае:
Вараныя коні ўзбягуць,
Маладога хлопчыка ўзвязуць.

9

Каля цесцева двара 2
Там высокая гара.
К ёй не можна прыступіці, 2
Конічанька да напаіці.
І адкуль вышла малада Танечка,
Яна к гары прыступіла,
Конічанька напаіла.
Узяла коніка да за павады, 2
А Сяргейку да за ручаньку,
Павяла каня да стайнечкі,
А Сяргейку да светланькі.
Дала каню аўса і сена, 2
А сама на пасадзе села.
І дала каню ж аброку, 2
Сяргейка сеў каля боку.
Дала каню пшаніцы, 2
А самі селі да віно піці.

10

А ў нашага свата
Высокі горы на дварэ:
Нельга нам уступіці,

Да й стада коней упусціці,
Вароцечка адчыніці.
Вой, вышла-выбегла маладая Алёнка,
Вароцечка адчыніла,
Стада коней упусціла,
Стада коней варанесенькіх,
— Мае сваты маладзесенькі,
Ка мне, сваты, ка мне,
Да й не ка мне, к майму бацюхну.
У майго бацька двор шырокі,
На дварэ канава, у агародзе атава,
У атаве панапасваем,
У канаве панапойваем.

11

А ў нашага свата
Да высокая гара.
Ай, дайце-перадайце,
Гэту гару раскапайце.
Ай, далі-перадалі,
Гэту гару раскапалі,
Мы сваю перапёлку дасталі,
Што ў вас піла-ела,
Ад нас паляцела.
Дзе мы яе асачуем,
Там мы заначуем.

12

У каго ў нас на дварэ два калодзесі? *
У Грышуткі на дварэ два калодзесі.
А хто ж тую вадзіцу папавынасіў?
Вынасіла Танечка на крутую гару,
Штоб к ей жа Генечка не ўзашоў, не ўз'ехаў.
Ажно наш Генечка абразуміўся,
Падкаваў коніка на чатыры нагі.
Тады наш Генечка і ўзышоў, і ўз'ехаў,
Да ўзяў Танечку за правую руку,
Пасадзіў Танечку ў павозачку
Да й павёз Танечку да новага дварца.

13

Ой, ў новым горадзе
Дзевяцера ды вароцечак,
Усе яны ды пазамыканыя.
— Старажоўе, маё братоўе,
Пусціце мяне ў горад:
Там мая да зара ўпала,
Зорачка ясненька.
То не зара, ды мая маладая,
То не зорачка ясненька,
Ды мая Марыя маладзенька.

14

Маладзенькі Юзечка,
Павярні каня ка мне.
Павярні каня ка мне,
Я табе слаўцо скажу,
Што твой цесь небагаты,
У кішэні ключы носіць,
Варотцы замыкае,
Нас на двор не пускае.
А сваток-галубок,
Адчыні новы дварок:
Наша ластачка тут пала,
Я з далёку пазнала,
Хочам яе ўлавіці,
У клетачку пасадзіці.
Наша Зоечка тут стала,
Хочам яе тут узяці
Ды з Юзечкам павянчаці.

15

Куды ж мы прыехалі?
Тут варотцы пазачыняны,
На замочкі пазамыканы.
— А малады наш брацейка,
Ускінься на саколіка,
Пераляці ты гэтыя вароты
Да упадзь цесцю на ногі.
— Цесцюхна мой, бацюхна,

Адчыні нам гэтыя вароты.
Твае вароты залатыя,
Пусці нас маладыя.

16

Ці на гэта нас сваток папрасіў?
У варотах агонь разлажыў
І медныя стоўбікі пастаўляў,
Высокія горачкі пакапаў.
Хоць кубак віна разлію,
У варотах агонь затушу,
А медныя стоўбікі завалю,
Высокія горачкі аб'еду,
Чыстае золата падвязу,
Белае серабро вывезу.
Чыстае золата — Іванечка,
Белае серабро — Манечка.

17

Нядоля твая, Кастуська,
Не жаласцівы твой цесценька.
У варотах агонь раскладаў,
Кастуську на двор не пускаў.
Уся дружына яго бязумна,
Адна свацейка разумна.
Па сваційках язджала,
Яна гэта дзіва відала.
Пад палой віно дзяржала,
Яркія агні залівала,
Кастуську на двор пускала.
Дзевачка мала спазнала,
Кастуську на двор пазвала,
Цешчухна пышна вон выйшла.

18

А знаці-та, знаці,
А ў каторай хаце.
Кругом агонь гарыць,
Варотцы пад замкамі,

У варотцах сторaж стаіць.
Анютка выхадзіла,
Замочкі размыкала,
Варотцы расчыняла,
Сваточкаў успускала.
А сваты на двор,
А я, молада, за стол.
Іванька з дружынаю,
А я, молада, з баяркамі.

19

Неўварот хлопчык, неўварот,
Не увярнуў каня цесцю ў двор.
— Да калі хачу, то ўвярну,
Дубовае коллейка паламлю
Да такі дзевачку к сабе вазьму.

20

Ой, сяло, сяло Засінцы,
А ні ўехаці, ні ўйсці,
Ні сваю радзіну завесці.
Абазваўся малады Міколенька:
— Ой, я уеду, ой, вайду,
Сваю радзіну завяду.

21

Слаўная дзярэўня Забелле: *
Ні уехаць, ні ўехаць, ні ўвайсці,
Толькі сокалам улятаць,
Забельскіх дзевачак павідаць.
Усе імхі, балоты трасуцца,
У Забелле сваты нясуцца.

22

— Як табе, салавейка, ды на дуб узляцеці?
Ды на дуб узляцеці, ды на дубе стаці,
Да сіву зязюльку з высаты дастаці?
— Што ж вам, пташачкі, што ж вам да таго?

Я крыллечкі размашу і на дуб узлячу.
І на дуб узлячу і на дубе стану,
Я сіву зязюлю з высаты дастану.
— Як табе, Ванечка, на двор уз'ехаць?
На двор уз'ехаць, ля ганачку стаці,
Маладую Галечку з каморы дастаці?
— Што ж вам, сватове, што ж вам да таго?
Я й конікі разжану і на двор уз'еду,
І на двор уз'еду, і на ганачку стану,
Маладую Галечку з каморы дастану.

## 23

Да прыляцеў салавейка к вішнёваму саду.
Сюды глянуў і туды глянуў — некуды ды ўляцець.
— Кругом мяне вішнёвы сад, пасярэдзіне вінаград.
Сюда глянуў, туда глянуў — некуды ды ўляцець.
— Я вішнёвы сад расхілю, а ў вінаград улячу,
Сюды глянуў і туды глянуў — ёсць куды ўляцець.
Да прыехаў хлопчычак к сямібітым варотам.
Сюды глянуў і туды глянуў — некуды ды ўляцець.
— Кругом мяне чужына, пасярэдзіне радзіна.
Сюда глянуў і туда глянуў — некуды ды ўляцець.
— Я чужыну ўпрашу, а ў радзіну ўеду.
Сюда глянуў і туда глянуў — ёсць куды ды ўехаць.

## 24

Салавей крылкамі кругом саду б'ецца,
Пытае ў зязюлькі, куды ў сад ляцець.
— Ой, знаць у нас, зязюлька, не лятала,
Што дарожкі ўказаць не згадала.
Прахіні ветачку, у сад ляці.
— Ой, знаць, Каролька, не язджалы,
Расхіні суседцы, у двор ідзі,
Разганяй дзевачак, ля яе сядзі.

## 25

Лятаў салавейка наўкола саду,
Пытаўся ў зязюлі, дзе ў садок ляцець.
— Ці ты, салавейка, ці ты сам не знаеш,

Што ты, салавейка, ў мяне пытаеш?
Падымі лісточак і ляці ў садочак.
Падымі галінку, сядзь на былінку.
Ездзіў малойчык наўкола падвор'я,
Пытаўся ў дзевачкі, дзе на двор уз'ехаць.
— Ці ты, малойчык, ці ты сам не знаеш?
Ці ты сам не знаеш, што ў мяне пытаеш?
Адчыні вароты, едзь на падвор'е,
Бяры мяне, маладу, едзь дадому.

26

Лятаў, лятаў сіз голуб каля шумніку,
Пытаў, пытаў у галубкі, куды ў сад ляцець.
— Глуп, ты глуп, сіз голуб, неразумен,
Паднімай хвarасток і ляці ў садок,
Бяры сваю галубку, ляці ў барок.
Ездзіў, ездзіў каля цьсева двара Іванька,
Пытаў, пытаў у цёшчы, куды езд на двор.
— Глуп, ты глуп, зяцінька, неразумнік,
Ты ламі вярэі ўсё точаныя,
Бяры сваю Ніначку за ручаньку.

27

А й лятаў салавей каля саду,
Пытаўся ў зязюлі, куды ў сад уляцець,
А зязюля салаўю адшчабятала:
— Ці ў цябе, салавей, лесавы розум.
Ляці, салавей, у садочак,
Адляпі лісточак, уклюні ягаду
І ляці вон з саду.
Ай, ездзіў Іванька каля варот,
Не знаў куды на двор ехаць.
Пытаўся ў Ніначкі, куды на двор ехаць,
А Ніначка Іванечку адказала:
— У цябе, Іванька, малады розум,
Прыедзь к варотам, стукні ботам,
Самі табе варота адчыняцца.
Сама к табе Ніначка выйдзе.
Едзь на двор гарцуючы,
А з двара танцуючы.

3 Зак. 847

28

Лятаў саколік паверх садочку,
Пазнаў зязюльку па галасочку, па шэрым пер'і.
Пытаў зязюлі, дзе ў сад ляцеці.
— Ой ты, саколік, ой ты, дурненькі,
Ой ты, дурненькі, неразумненькі,
Ляці ў садочак, сарві лісточак,
Сагні галінку, сарві калінку.
Ехаў малойчык наўкол двору,
Пытаў дзевачкі дарожкі да двору.
— Ох ты, малойчык, ох ты, дзіўненькі,
Ох ты, дзіўненькі, неразумненькі,
Адчыні варотцы, едзь на падвор'е,
Ідзі ў хатачку, знімі шапачку,
Знімі шапачку, нізка скланіся,
Нізка скланіся, за стол садзіся.

29

А лятаў салавей каля саду, *
Пытаўся салавей у зязюлі, куды ў сад ляцець.
— Ці ў цябе, салавей, пташшы розум?
Падымі ветачку і ў сад ляці,
А ў мяне ў саду пташак многа,
Выбірай, салавей, каторую хочаш.
— Не выберу, зязюля, апроч цябе.
Ай, няма пер'ейка шарэй твайго,
Ай, няма галоўкі сізэй тваé.
Ай, ездзіў Васечка каля двору,
Пытаўся ў Валечкі, куды на двор ехаць.
— Ці ў цябе, Васечка, малады розум?
Адчыні вароты і на двор едзь,
А ў мяне ў цераме дзевак многа,
Выбірай, Васечка, каторую хочаш.
— Не выберу, Валечка, апроч цябе.
Ай, няма лічайка бялей твайго,
Ай, няма галоўкі гладзей тваé.

30

А лятаў салавей каля саду, [лятаў],
Пытаўся ў зязюлі, куды ў сад ляцець.
— Салавей, салавей, шэрыя крылля,

Што ты ў саду век не бываў,
Чырвонага ягаду век не кляваў?
Адвярні лісточак, ляці ў садочак,
Адвярні ветачку, ляці ў клетачку.
А ездзіў Якушка каля суёвага двара,
Пытаўся ў цешчы, куды на двор ехаць.
— Якушка, малады розум,
Што ты ў цесця век не бываў,
За новым сталом ты не сіжываў,
Маладую Ганначку ты не відываў?
Адчыні вароты, уз'едзь на двор,
Адчыні дзверачкі, увайдзі ў сенечкі.

31

Лятаў салавей каля саду, *
Пытаўся ў зязюлі: «Куды ў сад?»
— Неразумна пташка салавей,
Падымі ветачку, ляці ў сад,
Сядзь сабе ля мяне на кляну,
Клюй сабе калінку са мною
Ды паляцім у палёт з табою.
А ездзіў Валерка каля двору,
Пытаўся ў Веркі: «Як у двор?»
— Неразумна дзіця Валерка,
Адчыні вароты і едзь у двор,
Пастаў коніка, а сам за стол,
Пі сабе мёд-віно са мною
Ды паедзем у паход з табою.
Не паедзем туды, адкуль бралі,
А паедзем туды, адкуль самі.

32

Лётаў, лётаў салавейка вокала саду,
Пытаўся ў зязюлі, як у сад ляцець.
— Дурненькі салавейка, неразумненькі,
Падымі ветачку і ляці ў сад,
Ляці ў сад і клюй вінаград,
Сарцавінай да адной ветачкі.
Клюй са мной адну ягаду,
Пей са мной адну песеньку.
Ездзіў мальчышка каля варот,

Пытаўся ў дзяўчонкі, куды на двор уз'язджаць.
— Дурны мальчышка, неразумненькі,
Аднімі вароты ды ўз'едзь на двор,
Уз'едзь на двор, з каня далоў,
З каня далоў, ды цясцю здароў,
Цясцю здароў, а к ей у цяром.
Сядзь са мной на адной лавачке,
Еш са мной адной лыжачкай,
Гавары са мной ў адно слоўца.

33

Лятаў салавей каля саду,
Пытаў у зязюлі, куды ў сад ляцець.
— Ты глупы салавей, неразумны,
Паднімі ветачку, ўляці ў садок,
Паднімі і другую,— ка мне ў гняздо.
Ехаў суджанька каля двара,
Пытаў у дзеванькі, куды ў двор ехаць.
— Ты глупы суджанька, малады розум,
Адчыні вароты, уз'едзь на двор,
Адчыні другія,— ка мне ў цяром.
Уз'ехаў суджанька, па двару паязджаець,
К вакошачку коніка падварачваець.
— Ці ехаць, дзеванька, ці ждаць цябе?
— Ты не едзь, суджанька, падаждзжы мяне.
Нешта мая мамухна рассярдзілась.
Не даець полага бялёвага,
Не даець скацерці крупчастыя.
— Ты хадзі, дзеванька, мы паедзем,
Пераспім цёмную ноч без полага,
Паабедаім святы дзень без скацеркі,
Нап'ёмся зеляна віна без кубачка.

34

Ехалі сваткове іграючы
І дарожанькі пытаючы.
Маладая дзеванька ў варот стаіць.
— Наша дзеванька, наша душачка,
Раскажы нам дарожаньку,
Дзе ехаці па дзеваньку?
— Вы це сваткове, бязумныя,

Бязумныя-неразумныя,
У майго баценька вінаград расце,
У саду вада цячэ.
Малады жаніх разумны быў,
Свайго коніка ўплаў пусціў,
Сам пераляцеў саколікам,
Сеў у цесценька за столікам.

35

Хадзілі конікі
Па дарожаньцы.
Хадзілі, хадзілі,
З дарогі зблудзілі,
Ой, ды прыблудзілі
Да новага двара.
— Чаго, канячэнькі,
Двара пытаеце?
— Мы не канячэнькі,
Мы твае сватове,
Ой, мы хочам
Двор заваяваці
І дзеваньку ўзяці.
— Ой, не ваюйце
Новенькага двара,
Лепей пытайцеся,
Дзе яе камора.
Камора яе
І ў скрыні пярына.
— Мы забярэм са скрыні пярыну,
Мы забярэм і саму дзяўчыну.

36

Блудзіла сватове
Сем міль па дуброве,
Да не ведала сяла
І сватняга двара.
Ой, выйшла-выйшла маладая дзевачка,
Хусцінкаю замахнула,
У свой двор да завярнула.
— Сюды, сваты, да сюды,
У майго бацькі двор шырокі,

Ёсць дзе стаці-пастаяці,
Конікам аброк даці.
Конікі панапайваці,
А вяселле панакармліваці.

37

Мы, свахі, блудзілі
Ды па полі хадзілі.
А па полі, па каменнейку,
А па лесе па карэннейку.
Прыблудзілі к сялу
Ды к сватняму двару.
Шырокае падвор'ейка
На семера да вароцейкаў,
Усе ж яны пазамыканы,
Заваламі пазавалены.
— Сюды, сюды, да мае свахны,
Тут наша зара ўпала.
Наша зара яснейшая,
Галечка краснейшая.

38

Ой, хадзілі сватове
Сем міль па дуброве,
Да па лесу, па карэннейку,
Да па полі, па каменнейку.
Прыблудзілі яны к сялу,
Да і к сватняму двару.
Ой, як выйшла, як выбегла
Маладая да дзяўчыначка,
Хусткаю замахнулася,
У свой дворык загукнулася:
— Сюды, сюды, да мяне, сваты,
Тут, тут майго бацькі двор,
За семярыма да варотамі.
Усе ж яны пазачыняны,
На замкі пазамыканы.
— Як замкнуты, то адамкніце,
Як зачынены, то адчыніце,
Нам дзяўчыначку пакажыце.

## 39

Круглае, маленькае
Мярчыцкае сяло.
Няма дзе коням стаці,
Сваційцы пагуляці.
Ой, выйшла, выбегла
Маладая дзеванька,
Хусцінкаю махнула
І сваціцу гукнула:
— Ды сюды, сваццця, ды сюды
Да майго татачкі.
А ў майго татачкі
Сенажаці ў гародзе, 2
Яшчэ калодзеж у падвор'і.
Там коні папасуцца,
Яшчэ і вады нап'юцца:
Травіцы шаўковай,
Вадзіцы крынічнай.

## 40

Наехала казакоў сем палкоў,
А папярадочку Зіноўка.
А сталі ў полі пад шатром,
А рубалі дубнік, маладнік,
А стаўлялі Агапцы халаднік.

## 41

Штось у полі дымна, да дымна, 2
Да баяраў не відна.
Только едны відна, 2
Да й тыя за гарой, 2
Іванка з сястрой.
Ой, ці тая сястра, 2
Што свечачкі нясла?
На парозе запаліла, 2
За сталом патушыла.

## 42

На полі дымы дымяць,
На дварэ шатры стаяць.
Пад тымі шатрамі

Сцяпанька з сястрамі.
Ён радзіць парадачку:
— Сястрыцы родныя,
Парадзьце парадачку:
Татачка дароў просіць,
Ніначку не выводзіць.
— Брацейка наш родненькі,
Татачку дарыць дары,
Ніначку к сабе бяры.
Золатца ў ручачку,
Ніначку за ручачку.

43

Дымна поле, дымна,
Нічога не відна,
Толькі відзен адзін шацёр,
Да пад тым шатром
Мікітка з сястром.
— Ой, сястрыцы-парадніцы,
Ой, парайце вы мне.
Ой, парайце вы мне,
Як цесцю гадзіці?
— Ой, гадзі, братка, гадзі,
Да ў двор конікі вядзі,
Да за стол баяры садзі.

44

А сыночак Віталька,
Не ваюй ты вайною.
Не ваюй ты вайною,
Прасі цесця просьбаю.
Вайною не зваюеш,
Просьбаю перапросіш.
Просьбаю перапросіш,
Настачку к сабе возьмеш.

45

Выйшла маці за вароцечка
Ды спляснула ручанькамі:
— Чую, бачу вайна едзе

Двара майго ваяваць,
Засекі мае абіраць
І каморы грабаваць.

46

Ой, з неба, з неба стрэлкі йдуць,
Ды маёй мамцы гук надаюць,
Ды мая мамачка прадчувае,
Куды гэта войска налягае,
Ці па тое зярнятка залатое,
Ці па маё дзіцятка маладое?
Хай тое зярнятка ў скрыні ляжыць,
Хай маё дзіцятка паможа рабіць.
А ж тое зярнятка ў каласочку,
А маё дзіцятка ды ў вяночку.

47

У Барбарове варогі
Ой, на вароты наляглі,
Ой, сені-хату абнялі.
Ой, сені-хату абнялі,
Ой, шчэ й ад роду адбілі.
Ой, ад мацеры і ад атца.
Ой, ад мацеры і ад атца,
Ой, ад роду й ад радца.

48

Ай, умная-разумная Матрошка *
Паставіла старожачку на браду,
Сама села пад вішнямі ў саду.
— Сцеражы, мая старожачка, верненька:
Адкуль будзець ясны месяц усхадзіць,
Адтуль будзець Цімахвеечка ўз'язджаць.
З облык, з облык ясен месяц узыйшоў,
З варот, з варот Цімахвеечка ўз'ехаў.
Няверная старожачка сцерагла,
Напілася-наелася, спаць лягла.
Кабы мне родны брахненька сцярог,
Не піў бы, не еў бы, ён спаць не лёг,
Ён бы мяне вярнёшанька прысцярог.

49

А цёмная асенняя ночанька,
А умная-разумная Насценька,
Сама села за столікам піць-гуляць,
Паставіла двух брацікаў вартаваць.
— А вартуйце, мае брацікі, вартуйце,
Каб не ўзыйшоў ясен месяц з зарою,
Каб не ўз'ехаў молад Васенька з сястрою.
Не ўпільнавалі мае брацікі зарыцы,
Не будуць мець мае брацікі сястрыцы.
А ўжо ўзыйшоў ясён месяц з зарою,
А прыехаў мой міленькі з сястрою.

50

Ай, вумная-разумная Галінка
Паставіла ды тры шатры ў полі:
У адным шатры там музыкі йграюць,
У другім шатры яе дзевачкі гуляюць,
У трэцім шатры сама малада аддыхаець.

51

У каго ў нас на дварэ тры старажы?
У Івана на дварэ тры старажы.
Першая старожа ў варот стаіць,
Другая старожа — сярод двору,
Трэцяя старожа — ля ганачку.
Першую старожу канём стапчу,
Другую старожу палазом сатру,
Трэцюю старожу з сабой вазьму.
Выхадзі, цёшчынька, на ганачкі,
Вынасі белы сыр на талерачкі,
Красную мачынку на паперачкі.
Белы сыр — Азар,
Красная мачынка — Зеха.
Наша Зеха — макаў цвет,
А ваш Азар — стары дзед.

52

Не страляй, Ванечка,
Саколіка ў полі,
Стрэльні, стрэльні, Ванечка,

На цесцявым, на дварэ.
На цесцявым на дварэ
Тры старожкі стаяць:
Первая старожка
У варот стаіць,
Другая ж старожка —
Серадзі двора,
А трэцяя старожка
На ганачках стаіць.
А сама ўж цешчанька
Жджэць на пераходзе,
Дзержыць бел сахар,
Бел сахар на блюдзе,
Дзержыць зрэлы ягадкі,
Дзержыць на талерачке.
— Ах, да сакаціся,
Бел сахар з малінай,
Сыйдзісь, сыйдзісь, Іванька,
Сыйдзіць ты з Грыпінай.

53

Цімошка воін быў,
Ездзіць ён поле ваюя,
Другое ездзіць храбруя,
На трэця — Сцяпана двор.
Аж вароцікі замкнуты,
А старожанька заснула.
Выхваціў маладзец востры меч,
Начаў па замку — замок проч.
— Не ваюй, Цімошка, не ваюй,
Мы ж тваю дзеваньку выдадзім,
За первую ручку выведзім.

54

Ай, войны, войны суджанька,
Сабраў усю радню на вайну.
Пасталі радам пад садам,
Пабралі мечы за плечы,
Пабралі лучкі ў ручкі,
Пусцілі стралу па двару,
Разбілі сцяну камянну,

Вывялі дзевачку маладу
З-пад румянага вяночка,
З-пад дзявоцкага станочка.

55

— Ці не сорам табе, Андрэйка,
У полі стаяць без стрэлкі,
На цясцёвым двара без дзеўкі?
— Дайце мне стралу медзяну,
Я праб'ю сцяну камяну,
Вывяду Ганутку з цераму,
Пастаўлю з сабою ў раду:
Наперад пагляджу — прыгожанька,
А назад пагляджу — становенька.
Нямнога нада абраду:
Саян-сарафан па пяты,
Залатыя сярожкі ў вушкі,
Буйныя кра́люхны к шыюхны,
Казловыя чаравічкі на ножкі.

56

Да раду, сваты, да раду,
Станавіцеся ў грамаду.
І станавіцеся ў грамаду,
Бярыце раду ўсе адну.
Бярыце стралу медзяну,
І бярыце стралу медзяну.
Прабіце сцяну дзервяну,
І прабіце сцяну дзервяну,
Возьмем Манечку маладу,
Паставім сабе ў раду.
У раду, раду, ў радочку,
У пярловенькім вяночку.
І пярловенькім вяночку,
У дзявоцкім станочку.

57

Прыехалі сваты на двор,
Пусцілі стралу ў вакно.
— Страла мая, страла,

Па што ты прыйшла:
Чы па мёд, чы па гарэлку,
Чы па красну дзеўку?
— Ні па мёд, ні па гарэлку,
А па красну дзеўку,
У чужую старану аддаваць,
Будзе чужой мамачцы гадзіці,
Ад зары да зары рабіці.
Хмурыца на двары, хмурыцца,
Татулька і мамулька журыцца:
Гадавала дачушку на долю,
А цяпер аддае ў няволю.

58

Ай, дзе ж мы сваю пазналі,
Там нашы конікі пасталі.
Цешчухна, цешчухна, адчыняй вароты.
Пасталі радком пад тынком,
Разабілі сцяну камяную,
Вазьмем Галечку маладую.

59

Пад'язджаем мы пад дамы, *
Пад высокія церамы.
Разаб'ем сцяну камяну,
Возьмем Анечку маладу.
Нашто сцяну псаваць,
Пойдзем мы дзвярэй шукаць.

60

Маладыя маршалачкі,
Набівайце стрэлачкі
Да прабівайце сценачкі,
Да пабачым дзевачкі,
Ці харашо яна нараджона,
На пасадзе да пасаджона.
Нараджона, як панянюшка,
Пасаджана, як князенешка.

61

Сцеражыцеся, сяляне,
Панаехалі мяшчане,
Прабілі сцяну камяну,
Узялі дзевачку маладу.
Прабілі сцяну замкамі,
Узялі дзевачку з вянкамі.

62

Што ж гэта да за госцейкі,
Што сілаю на двор едуць?
На двор едуць.
Што сілаю на двор едуць,
А сырое дуб'ё сякуць.
Дуб'ё сякуць.
А сырое дуб'ё сякуць,
На двор вецце кладуць.
Вецце кладуць.
— А госцейкі, мае мілыя,
Не сячыце на дварэ дуба.
На дварэ дуба.
Не сячыце на дварэ дуба,
Не гнявіце майго бацюхна.
Майго бацюхна.
Не гнявіце майго бацюхна,
Пагнявіце — не выпрасіце.
Не выпрасіце.
Пагнявіце — не выпрасіце,
Мяне ў татулькі да не возьміце.
Не возьміце.

63

Баяры збор малі
Да на моры страллялі
На белую лебядзіначку.
Адкуль узяўся маладзенькі Васілька:
— Стойце, баяры, не страляйце
Да пораху не траце.
Не то ж лебядзіначка,
Да мая Хадосечка.

У моры умывалася,
У каморы прыбіралася,
Бо яна мяне спадзявалася.

64

Пятухі-пявуны пазапрэжаны,
Парасяты-мышаняты пазамузданы,
Шэрыя кошкі ў прысцёжкі.
Чужыя зямляне самі на двор едуць,
Шчэбень-агонь сыплюць,
Хусткамі раздымаюць,
Дзеўку адымаюць.

65

Недалёк салаўёў пералёт,*
Пераляцеў мох — ды ў гарох.
Недалёк Пецечкаў пераезд,
Пераехаў бор — к цёшчы ў двор.
Цёшчыны вароты зачынёны,
Залатым замочкам замкнёны.
Выхваціў Пецечка войстраю меч,
Як даў па замках — замкі прэч.
Вышла Танечка з высакосці,
Прамовіла словечка з гардосці:
— Не рысуй, Пецечка, не рысуй,
Залатых замочкаў нам не псуй.
Не ля цябе вароты стаўлёны,
Не ля цябе замочкі спраўлёны.
Стаўлёны вароты ля двара,
Павешаны замочкі ад вара.

66

Невялік жуpавоў пералёт,
Пераляцеў мох — ды ў гарох.
Невялік Ванечкаў пераезд,
Пераехаў бор — к цешчы ў двор.
Цёшчыны вароты зачынёны,
Залатым замочкам замкнёны.
Як узяў Іванька востры меч,

Як сцяў па замках — замкі прэч.
А выйшла яго цешча да яго.
— Не сячы, не рубай, Ванечка,
Мы табе павіннасць выдадзім.
Мы табе дзевачку выведзем
Па цясовенькім ганачку,
У залаценькім пярснёчку.
А на белых плечках коска ляжыць,
А па румяным ліцу слёзка бяжыць.

67

Невялік жураvоў пералёт,
Пераляцеўшы бор — ды і ў гарох.
Там яго жураўка хадзіла,
Адну нівачку брадзіла,
Ой, на другую ўсхадзіла.
Невялік Іпаліцькаў пераезд,
Пераехаўшы бор — [redacted] сцятку на двор.
Сцяткавы вароты замкнуты.
Ой, як выхваціў востры меч,
Як даў па замках — замкі прэч.
Выйшла яго Маланка да яго:
— Паціху, паволі, Іпаліцька,
Не ўгняві мае радні,
Да мая радзіна гняўліва.
А калі ўгнявіш — не ўпросіш,
Казловы боты адтопчыш,
Пакуль маю радзіну ўпросіш,
Саболлю шапачку стаскаеш,
А пакуль радзіну ўяднаеш.

68

Невялік сакалоў пералёт,
Пераляцеў поле — другое,
А на трэцяе — у авёс.
Невялік Аўдзейкін пераезд,
Пераехаў поле — другое,
А на трэцяе — к цешчы на двор.
На двор уз'ехаў — двор заззяў,
З каня злез — конь зарзаў,
У сенкі вайшоў — шапку зняў,

У хатку вайшоў — чалом даў.
— Ай, чалом, чалом, здароў, цешчанька,
Ці дома мая Кулінка?
— Ай, дома, дома, ў каморы,
Кубачкі наліваець,
Салодкім мядом супаўняець,
Любых госцікаў дажыдаець.

69

А з-пад цёмнага лесу туман высцілае,
З-пад таго туманочку конік выбягае,
Молад жанішок выязджае,
Сівых конікаў сядлае,
Яго дзевачка выбягае:
— Стойце, конікі, не ржыце,
Зямельку капытамі біце.
Выйшла яго цешча вітаці.
— Стойце, мае конікі, не ржыце,
Сцяткавы вароты замкнуты.
Як даў па замку — замкі проч,
Ускочыў у двор, як жаўнер,
Узяў дзевачку за каўнер:
— Стой, мая дзевачка, не дрыжы,
А як мая мамачка паглядзіць,
На галоўцы вянок заз'яе.

70

Гулянка наша Кацечка,
Па ўсіх вуліцах гуляла,
Усіх рабят гудзіла.
— Усе рабяты грыбаты,
Адзін мой Раманька лучшы ўсіх.
Уссеў на каня, як жаўнер,
Узяў Кацечку за каўнер.
— Сядзі, мая Кацечка, не дрыжы,
Пасаб'ю табе ўсе брыджы,
Не ў тыя рукі папала,
Штоб ты стоячы драмала.
Не ў тыя мужыкі-дуракі,
Што мяняюць коні без цаны,

Што б'юць жоначак без віны,
Без вялікай кручыны, не наскіпаўшы лучыны.
Не сваці, шэльма, вачамі — адвячай, шэльма, плячамі.

## 71

Шамбер Янка, шамбер,
Уз'ехаў на двор, як жаўнер,
Узяў сваю любку за каўнер:
— Пастой, любачка, не дрыжы,
Не ў тыя рукі папала —
Папала ў рукі праклятыя,
Дзе мяняюць конікаў без цаны,
Б'юць сваіх жоначак без віны.
— А ты, Янка, не будзь такі,
Памяняй коніка за цаной,
Памуштруй сваю Ніначку з віной.
Не муштруй яе дубцамі,
Навучы яе слаўцамі,
Не муштруй яе вяроўкай,
Не дурні яе галоўкі,
Не муштруй удзень,
Не страмі людзей;
Памуштруй яе ўначы,
Каб было куды ўцячы.

## 72

А ў нядзелечку на зарэ, *
А ў Іванькі на дварэ
Баяры вароты абнялі.
Прабілі сцяну камяну,
Вывелі Тамарку за руку,
А паставілі ў раду.
— Стой, наша Тамарка, не дрыжы,
А цяпер жа я твой, не чужы.
Не ў тыя ручанькі ўпала,
Каб ты стоючы дрыжала.
А ў тыя ручанькі ты ўпала,
Каб ты ціханька стаяла
І нам праўдачку казала,
Ці забудзіш ты сваю старану.
— Калі добра будзіць — забуду.

Калі дрэнна будзіць — спамяну
Сваю родную старану,
Дзе радзілася і ўзрасла,
Адкуль мяне цёмна ноч увязла.
А не цёмна ноч — конь вараны,
А не конь вараны — князь малады,
А не князь малады — Іванька.

### 73

— Ойчанька мой родненькі,
Да якія ж гэта людзі,
Чаго ж яны наехалі?
Можа яны есці хочуць,
А можа яны піць хочуць,
А можа яны дарожанькі пытаюцца?
Калі яны есці хочуць,
Вынесь ім бохан хлеба,
Хоць майго караваю.
Можа яны піць хочуць,
Выкаць ім бочку піва,
Хоць майго перапою.
Калі яны пытаюцца дарожанькі,
Укажы ж ты ім дарожаньку
Пад новую карчomаньку.
У той карчомцы шынкарачка маладая
Сваю дачку замуж дае.
З пасагам багатшую,
Да на ліцо бялейшую,
Станам прыстайнейшую
І з моваю разнейшую.

### 74

Маманька родная,
Чужанін на дварэ.
А гэты чужанін —
Ён мне родны.
А яго ручанька
Жарчэй ад агня.
У яго ножанькі
Цяжалей ад камяня.

Лецеў сокал чэраз тры лесы,
Чэраз тры лесы, чэраз чатыры.
На пятым лесу паў на арэшша,
Паў на арэшша, з лесам гаварыў.
— Ой, лесу, лесу, чом ты не шуміш?
Чэраз цябе, лесу, крылом не сегну,
Крылом не сегну, пюрком не рушу.
Ехаў Ясенько чэраз тры села,
Чэраз тры села, чэраз чатыры.
На пятым селе застанавіўся,
Застанавіўся ў цесця на дварэ,
У цесця на дварэ, на враным кане.
— Ой, коню, коню, грай пада мною,
Узвялічай мяне перад цесценькам,
Перад цесценькам, як перад баценькам.

76

Ой, ляцеў сакол цераз тры лясы,
Цераз тры лясы, цераз чатыры,
На пятым лесе сеў на гарэсе,
Сеў на гарэсе, [illegible] лесам гаворыць:
— Ой, лесу, лесу, тонкі, высокі,
Які на табе лісток шырокі.
Ехаў Міхалька цераз тры сяле,
Цераз тры сяле, цераз чатыры,
У пятым сяле ў цесця на дварэ,
Ў цесця на дварэ астанавіўся,
Ў цесця на дварэ з цесцем гаворыць:
— Ой, цесцю, цесцю, што двор нявесел?
Як я прыехаў — весяленька стала.
Стаяць дзявочкі ў тры радочкі —
Адна хароша, друга хароша,
Мая Алеська ўсіх найхарошша.

77

— Ой, заграй, маладзенькі,
У цесця на дварэ,
На вараным кане.
— Не буду граці,

Ні пачынаці.
Конь палахлівы,
А цесць падзіўлівы.
Конь спалахнецца,
Вінаград разліецца,
Мне, маладому,
Дагана будзе,
А ёй, маладзенькай,
Няслава будзе.

78

Суджанка з канём на двор,
Ён з конічка не ссядае,
З стрэмя ножак не вымае
І з конічкам размаўляе:
— Конік мой вараненькі,
Я твой пан маладзенькі,
Усюды табою свет выездзіў,
Нідзе воды непагожыя,
Нідзе дзеўкі нехарошыя.
Анно ў майго цесцюхна
Ды калодзезь на дварэ,
Вядзёрка на тыне.
Вядзёрка кленавое,
Вясёлко шаўкавое.
Там вада да пагожая,
Яго дачка да харошая.

79

Конік мой да вараненькі,
Я на табе свет праездзіў,
Нідзе вады да не напіўся,
Нідзе з дзеўкі не падзівіўся.
А ў майго ў цесцяткі
Калодзезь пад акенцам,
Вядзерца на калочку.
У яго вады да напіціся,
З яго дачкі падзівіціся.
Яго вада да дарагая,
Яго дачка да залатая.
У яго вада крынічная,
У яго дачка атлічная.

80

Явар-дзерава да зелен быў,
Паміж яго вулачкі цесныя
Ехалі маладыя сцешнія.
Наўпярод ехаў дзяцінка,
Ураніў лучак з ручак
І калінавую стрэлачку,
Зялёнай руты кветачку.
Злез дружчатка, падае,—
Ён з яго ручанек не бярэ:
— Няхай мой лучак паляжыць,
Паколь мая дзевачка падбяжыць,
Падасць мне лучак да ручак,
Калінавую стрэлачку,
Зялёнай руты кветачку.

81

Бродзе, бродзе глыбокі,
На табе масточак высокі.
Тудою ехаў хлапчычок,
Ветрычак шапачку ізвеяў.
І злезла дружачка, падае,
А ён тае шапачкі не бярэ.
— Няхай мая шапачка тут паляжыць,
Пакуль мая дзеванька сюды прыбяжыць.
Яна маю шапачку падойме
І к свайму сэрданьку прыгорне.
Як возьме ў ручаньку, дык лёганька,
А як прыгорне к сэрданьку, дык міленька.

82

Да арэхавая клетушка,
А далёка ў бары зрублёна,
Блізка дарогі саджона,
Ой, туды ехаў Трахімка.
Павеялі ветры з-за гор'я,
Скінулі шапачку саболлю.
Кінуліся баяры паднімаць.
— Да не кідайцеся, баяры, паднімаць.
Есць у мяне дзевачка-служачка,

Яна майго каня увойме,
Яна маю шапачку падойме,
Белымі ручкамі атрасе
І на маю галоўку паднясе.
Яна маю шапачку акалоціць,
Яна маю галоўку пазалоціць.

83

Да іх вулачкі цёмны
Ехалі баяры пышны.
Пышней, гарадзей Якубка,
Пад ім конік, як арол,
На ім сукенка, як агонь,
Шапачка саболля.
Павеялі ветрыкі сы гор'я,
Скінулі шапачку саболлю.
Кінуліся баяры паднімаць,
Малады Якубка не даваць:
— Што вам, баяры, да таго,
Ёсць у мяне дзевачка для таго.
Паднімець шапачку, уздзенець
І са мной паедзець.

84

Цесныя вулачкі, цесныя,
Наехалі баяры пышныя,
На ніх шапачкі лісія,
На нашым суджаньку саболля.
Павеялі ветрыкі са ўзгор'я,
Збросілі шапачку саболлю.
— А баяры мае, баяры.
Прасіў мой бацюшка,
Прашу і я:
Падайце шапачку саболлю.
Калі б мая дзевачка тут была,
Яна б маяго коніка ўняла,
Саболлю б шапачку падала.

85

А з гары, з гары конь бяжыць,
А на тым коніку сядзелца,
А на тым сядзелцы Рыгорка,

А ў яго шапанька-яранька
І залатая кветанька.
Як узняліся ветранькі,
І скінулі шапаньку-яраньку
І залатую кветаньку.
Кінуліся баяры падымаць,
А ён ім дзенькаваць:
— Дзенькуй, вам, падружкі,
Падалі шапачку ў ручкі.

86

Да ехаў Іванька вельмі п'ян,
Хмель яго галовачку ж разабраў,
Скінулася шапачка, да не падняў.
Паднімалі дружачкі, да ён не ўзяў,
Паднімалі свахначкі — адказаў:
— Няхай мая шапачка тут паляжыць,
Пакуль мая Волечка прыбяжыць.
Яна маю шапачку падніме,
Яна мяне маладога абніме,
Яна мне на галоўку надзене.
— Насі, мой Віцечка, здарова,
Я на цябе маладога ні слова.

87

Як уехаў жаніх у варота, 2
Спала яго шапачка залота.
Выйшла яго цешчанька вітаці,
Стала яго шапачку здымаці.
— Не здымай, цешчанька,
Няхай паляжыць,
Пакуль твая дзевачка прыбяжыць.
Паляжала шапачка з гадзінку,
Пакуль прыйшла дзевачка з рынку.
Узяла тую шапачку, падняла,
Узяла яго за ручаньку, павяла.
А на ім шапачка — каўпачок,
Ды заплаціў жанішок пятачок,
А на ім шапачка — з бабра,
Ды заплаціў жанішок паўрубля.

88

— Не сядзі, дзевачка, не сядзі,
Адчыні аконца, паглядзі,
Чы ясен месяц на дварэ,
Чы харош кавалер на кане.
— І харош і прыгож, вельмі п'ян,
Сам сабе шапачкі не уздзене.
Кінуліся баяры паднімаць,
А ён тым баярам шапачкі не даваць.
«Ёсць у мяне мілая — падыйміць
І на галоўку узложыць».

89

Сядзеў саколе на клёне,
Папускаў крылейка да долу.
Да яго пташачкі шчабечуць:
— Падымі, саколе, крылейка.
— Тады я крылейка падыму,
Як з гэтага клёну паляту,
За сабой зязюлю павяду.
Сядзеў Міхале на кані,
Папускаў сукенкі да зямлі.
Да яго дзевачкі гавораць:
— Падымі, Міхале, сукенкі.
— Тады я сукенкі падыму,
Як з гэтага падвор'я паеду
І з сабою Верачку павязу.

90

А лятаў салавейка па лясу,
А маркотненька салавеечку аднаму.
— Каб была са мною шэрая зязюля,
Лятаў бы я з ёю нізенька,
Шчабятаў бы з ёй шчырэнька,
На адным сучочку седзячы,
Адну з ею ягадку клюючы,
З аднаго лісточка ваду п'ючы.
Да хадзіў Ванечка па двару,
А яму да маркотненька аднаму.
— А як бы са мной дзевачка,

Сядзеў бы я з ёй ціханька,
Гаварыў бы я з ёй шчыранька,
За адным столікам седзючы,
З адной чарачкі мядок п'ючы,
Адной лыжачкай з місачкі чэрпая,
З аднаго кусанька кусая.

91

А лятаў саколік па ламу́,
А зжудзілася яму аднаму.
— Каб жа мне перапёлка,
Лятаў ба я не столька:
На адным ба сучочку садзіўся,
Адной ба ягадкай наеўся,
З адной ба лісцінкі напіўся.
Ездзіў Ванюшка па двару,
А зжудзілася яму аднаму.
— Каб жа мне Мар'юшка,
Ездзіў ба я не столька:
За адным ба столікам садзіўся,
Адной ба ложачкай наеўся,
З адной ба чарачкі напіўся,
На адной ба пасцельцы лажыўся
І адным ба знізачком накрыўся.

92

Шчабятаў салавей у бору,
А на калінінке седзячы,
Горку ягадку клюючы:
— Ай, каб жа ка мне зязюля,
А ўмеў бы я з ей шчабятаць,
На аднэй ветачке седзячы,
Адну калінку клюючы.
Плакаў Паўлюська за сталом:
— А калі ж бы ка мне Матрунка,
А ўмеў бы я з ей гаварыць,
З аднэй ложачкі хлябая,
З аднаго кусочка кусая.
Не хацелася Матрункі,
Ай, ля Паўлюські сядзеці,
З-пад яго шапанькі глядзеці,

А для шапанькі саболля,
А выведзець Матрунку з застолля
І з таткінага падвор'я.

### 93

Што жа то за саколічак
На вароцечках сядзіць?
На саколку пільна глядзіць
З-пад правага крылца,
З-пад залатога перца.
Што жа то за Януська
Да на коніку сядзіць?
Да на Ганначку пільна глядзіць
З-пад правае ручкі,
З-пад белага кажушка.

### 94

На гарэ дубочак
Пашумліваіць,
Белую бярозу
Да пагукваіць:
— Белая бяроза,
Хадзі сюда.
— Рада б я к табе ідзіць,
Пусціла карэнне
Па сырой зямлі,
Доўгае веццейка
Па за кусціку
Шырокае лісце
Па заполліку.
На дварэ Андрэйка
Да пахаджываў,
Сабе Аўдуську
Да пагуківаў:
— Прыхадзі, Аўдуська, ка мне.
— Рада б я к табе ідзіць,
Кунняя шубка
Плечкі ломіць,
Казловы чаравічкі
Ножкі цісынуць.

95

На гарэ дубочак пашумліваецъ, *
Ён к сабе бярозу да падгукваецъ:
— Ты хадзі, бяроза, са мной стаяць.
— Як жа мне, дубочак, з табой стаяць?
Сплялося карэнне з сырой зямлёй,
Суччайка, лісцейка з цёмным лесам.
— Мы з табой, бяроза, рызгадаем,
Сырую зямельку раскапаем,
Суччайка, лісцейка абламаем
І будзем, бяроза, з табой стаяць.
А ў саду Васенька пагуліваецъ,
Ён к сабе Валечку падгаварываецъ:
— Ты хадзі, Валечка, са мной гуляць.
— Як жа мне, Васечка, з табой гуляць?
Татанька з маманькай за руку дзяржаць,
Сястрыцы-баяркі кружку стаяць.
— Мы з табой, Валечка, разгадаем,
Татаньку з маманькай уяднаем,
Падружак-баярак распіхаем,
Мы пайдзём, Валечка, з табой гуляць.

96

На гарэ дубок пашурхіваецъ,
Белую бярозу пагукваецъ:
— Белая бяроза, хадзі ка мне.
— Рада б я, дубочак, пайсці к табе,
Зраслося карэнне к сырой зямлі,
Звілося вецпейка з цёмным лесам.
Ля двара Іванька ўсё паезджываецъ,
Ён сваю Надзеньку ўсё пагуліваецъ:
— Хадзі, хадзі, Надзенька, паедзем мы.
— Рада б я, Іванька, пайсці к табе,
Абсела радзінка вакол мяне:
Родненькі братанька за касу дзяржыць,
Родненька сястрыца з боку сядзіць,
Родная матухна ля мяне стаіць.
— Душа мая, Надзечка, адпрасіся,
Роднаму братухну адкланіся,
Родную сястрычку з сабой вазьмі,
Ад свае матухны адпрасіся.

97

Да вілася свадзьба
Хмелем каля двара,
А ветрам каля вакна.
Шыбалі яблычкамі дзеваньцы ў акенечка.
— Шыбайце, да не шыбайце,
Не на вашай я волі,
У бацюхны ў каморы,
Як у месяца ў колі.
— Як у месяца ў колі,
То мы цябе выстралімо,
Як у бацькі ў каморы,
То мы цябе выпрасімо.
Мы цябе выпрасімо,
Мы цябе выважымо
Залатою вагою, павязем з сабою.

98

Панаехалі сваты, *
А ўсе Віцевы браты.
Сталі коні выпрагаці,
Сталі Ніну забаўляці.
Ох, і Ніначка-душка,
Ох, ідзе твая падушка?

99

А сакол ля акон лятае,
Крылом акошка адчыняе
І баярачак пытае:
— А ці дома, дома Марфачка?
Сказаў бы я ёй добрую весць,
Што яе Арцёмка на дварэ ёсць.
На вараным коніку гарцуе,
Вострай шабелькай муштруе.
Выходзіць к яму цешчанька:
— Не вайой, зяцёк, не вайой,
Вострую шабельку не тупі,
Варанога коніка не мары,
Будзе табе Марфачка аддадзена,
За правую ручачку выведзена.

### 100

Ездзіў Васілька па сялу
І вазіў сакола на руцэ.
Вася на двор уз'язджаець,
Сокал з рук злятаець
І дзюбкай акно адкрываець.
— Даю табе добру ізвесць,
Што твой Васенька на дварэ ёсць.
— А няхай твой Васенька добры здароў гуляець,
Пакуль мяне маладу не маець.
А як мяне маладу дабудзець,
З дзеўкамі гуляць не будзець
І свае танчыкі забудзець.

### 101

Па двару сокал лятаець, *
Крылышкам ваконца адчыняець,
А ў баярачак пытаець:
— А ці дома, дома Ніначка,
А сказаў бы я ёй добрую весць,
Што яе Ванечка на двары ёсць.
На вараным коніку гарцуець,
З маладым свацікам талкуець.
— А няхай здарова гуляець,
Ён мяне ручкаю не манець,
Ён маёй радзіны не знаець,
Як мяне ручкаю спаймаець,
Ён усю радзіну спазнаець.

### 102

Ляцела сарока — чы-чы-чы,
Села ў дзевачкі на плячы.
— Скажу табе, дзевачка, добру рэч,
Што твой жанішка на дварэ ёсць.
— А ё, ці няма на дварэ,
Чаму мне ведама не дае?
Чаму мяне, маладу, не пытае,
Чаму маіх дружак не вітае?

### 103

Прыляцела ластаўка — чэ-чэ-чэ,
Села сабе ў аконца, шчабеча:
— Скажу табе, Марыська, я весці,
Ужо твой Ясенька на дварэ,
Пытаецца ў ойчанька аб табе.
Яшчэ з коніка не ссядаў,
Ужо свёкратку паклон даў:
— Чы ў дома дзеванька Марыся-душа,
Яна для мяне адна хараша.
Сем вёсак у тыдзень аб'ездзіў,
Да так не адной не злюбіў,
Як тваю дочаньку Марыську
У том касцёлку ў ляску.
Яе чорныя вочы, белае ліцо,
З валошачкі вянок,
Жоўты паясок.
Не разлучыць жа яе са мной ніхто,
Як жоўты пясок.

### 104

Жарка была каліна.
У лузе стаяла — шумела,
Дарожкай ішла — звінела,
У вулку ўвайшла — запела,
Пад аконцам стала — гукнула,
Маладу дзевачку клікнула:
— Выйдзі, дзевачка, да мяне,
Скажу радачку я табе, 2
Што твой малойчык на дварэ,
Што ён з коніка не ссядаў,
Твайму татку ўклон даў, 2
Аб цябе маладу запытаў:
«Ці ў дому дзевачка, ці ў дому,
Ці давала ручку другому?»
У дому дзевачка, у дому не давала,
Не давала ручку нікому, 2
Табе аднаму, маладу.

### 105

Да ляцела сарока, чакеча,
Села сабе на аконца, шчабеча:
— Скажу табе, Адарка, добру весь,

Што ўжо твой Іванька на дварэ есь.
Да сялом ён ехаў, конь іржаў,
А ў двор заехаў, двор заззяў,
У сені вайшоў, шапку зняў,
Свайму цесцюхну ручку падаў.
— Да дзень добры, ці гараз?
Ці здарова Адарка мая ў вас?
— Да гараз, зацюхна, усё гараз,
Да здарова Адарка твая ў нас.

### 106

Да чакеча салавейка, чакеча,
Сеў-паў на акенца, шчабеча.
— Выйдзі, выйдзі, Валечка, весць скажу,
Што ў цябе на дварэ госці есць.
На двор уз'ехаў, двор заз'яў,
І з каня ссеў, зазвінеў.
А ў сені ўвайшоў, шапку зняў,
А ў хату ўвайшоў да віток даў.
— Вітком віты, цесцюхна, первы раз,
Ці здарова Валечка да мая ў вас?
Вітком віты, цесцюхна, другі раз.
— Да здарова Валечка твая ў нас.

### 107

А лятаў саколік па сонцу,
А прылятае к ваконцу.
— Скажу табе, дзевачка, добрую весць,
Што твой суджанька на дварэ есць.
Яшчэ з коніка не ссядаў,
А ўжо цясцятку ручку даў,
На здароўе папытаў:
— Ці дужа здарова сямейка,
Ці вясёла мая дзевачка,
Ці гладка галоўку ўчасала,
Ці крэпка косачку звязала,
Ці харашо касначкі ўшпіліла?
— Што табе, суджанька, да таго,
Ё ў мяне дружачкі да таго.
Гладзенька галоўку ўчасалі,
Крэпенька косачку звязалі,
Харашо каснічкі ўшпілялі.

108

Што доўга, што доўга сокал не ляціць?
Сокал на забор — Іванька на двор.
Па двару ходзе, сапожкі скрыпяць,
У горніцу заедзе, богу моліцца,
З цешчухнай, з матухнай здраствуецца.
— Ці жыва-здарова, цёшча-матухна?
— Жыва-здарова, очань хараша.
— Як маецца мая Манечка-душа?

109

Ды з-пад вішанькі, з-пад цярэшанькі
Выязджае малойчык на кані вараным.
Каліну ломіць, галоўку клоніць,
У свайго цясцяткі падвор'я просіць:
— Пазволь, цесцятка, для коней падвор'я,
Для коней падвор'я, для сватоў застолля.
Я табе, цесцятка, шкоды не зраблю,
Шкоды не зраблю — мёд-віно пап'ю.
Мёд-віно пап'ю — шкляначкі паб'ю.
Шкляначкі паб'ю, дзевачку вазьму.

110

А хто ж там у варотцах калатаецца?
Павачка к цешчухне дазваляецца:
— Цешчухна-матухна, пусці ў двор,
Ужо мае конікі прытаміліся,
Ужо мае сваточкі прымовіліся,
Ужо мая сваціца прыпяялася,
Ужо мая дуданька праігралася,
Ужо мяне Гапулька прыждалася.

111

А сваток мой, галубок,
Адчыні дварок.
Мы здалёку пазналі,
Наша ластаўка пала.
Судзі, божа, злавіці,

5 Зак. 847

На куце пасадзіці,
Півам, віном напаіці,
Белым сырам накарміці.

112

Чырваней вішанькі ў садзе нету, * 2
Разумней Іванькі ў раду нету. 2
Расчасаў галаву ды павіў кудры, 2
А й надзеў адзежу па-нямецкаму, 2
Паехаў у зямлю ў турэцкую. 2
Прыехаў к варотам — стукнуў ботам: 2
— Адчыні, цешчухна, шчытовы вароты. 2
Ужо мае конікі перабегліся,
Ужо мае свашачкі перапеліся,
Ужо мае музыкі перайграліся,
Сам маладзец, сам маладзец перадумаўся.
Растаптаў боцікі танцуючы,
Распухліў шапачку ўкланяяся,
Замараў хустачку ўціраяся.

113

Ой, прыехаў Васілько
К цясовым да вароцечкам,
Стаў сабе да дзівуецца:
— Як мой цесць да будуецца,
Ці клёнам, ці арэшнічкам,
Ці белым да бярэзнічкам?

114

Першы сваток багаценькі,
Ён наперадзе едзець,
За парадачкам следзіць.
Яго людзі пераймаюць,
Яму браму зачыняюць.
А ён водачку выймае,
Водкай браму адчыняе.
Багатаму добра жыць,
Возіць водку, не папіць.

### 115

Зялён садок вішанькамі зацвітае,
Тудыма едзе малады Антоська
Да на сад паглядае.
— Да каб я ўгледзеў сваю паненку,
Да на ганку стоячы,
Спытаў бы я яе, маладзенькай,
Да ці ўмее рабіці.
Ой, ест у саду тонка былінка
Тым яе буду біці.
Яна маладзенька да разумненька
Усё тое ўчула.
— Работку зраблю, былінку зламлю,
А цябе не баюся.

### 116

Ляцелі галубяткі ўсё малыя,
Цераз нашы сенцы новыя,
Пыталіся ў Параскі, ці гатова.
— Не гатова, галубяткі, не гатова,
Я купіла маток шоўку, загубіла,
Яшчэ хустачкі не пашыла.
А буду я сястрыцы прасіці,
Каб памагла хустачку пашыці,
Маладому Васільку знасіці.

### 117

Цераз зялён сад біта дарожка.
Там ляціць кося сівы-вараны,
На ім Васечка сядзіць малады.
Яго любачка пераймаючы,
Яму варотцы адчыняючы:
— Пастой, Васечка, не гані каня,
Пусці ў садочак, няхай паходзіць:
Яшчэ ж радзінка не сабралася,
Я ж, маладзенька, не прыбралася.
Няхай радзінку татачка збярэць,
Мяне, маладзеньку, дзеўкі прыбяруць.

118

Уз'ехаў Іванька на двор
У семдзесят коней.
Нагаечкай ляснуў,
На коніка свіснуў,
На дзевачку гукнуў:
— Ты, дзевачка мая,
Ці сама ка мне выйдзеш?
Ці матульку ка мне вышлеш?
— Пагадзі, суджанька,
Пагадзі хвіліначку:
Збяру ўсю сваю радзіначку,
І сама прыбяруся,
Ўсяму роду пакланюся.

119

Падышоў, пад'ехаў хлопчык
Усё пад тое кутнае аконца —
Сядзіць яго дзевачка, як сонца.
— А ці скора, дзевачка, гатова?
— Пастой, пастой, хлопчык,
Пажджы гадзінку-другую.
Хаця я па сянёх пахаджу,
Роднай мамачцы дагаджу.
— Добра табе, дзевачка, сказаці,
Мне горача на дварэ стаяці,
Вараныя конікі трымаці.
Вараныя конікі не стаяць,
Маладыя йзвозчыкі не ўдзяржаць.

120

Пад'ехаў Пятрушка пад акошка, пад акошка:
— Ці саўсем, Аўдоцця, ці сабралася, ці сабралася?
— Стой-пастой, Пятрушка, ва чыстым полі,
ва чыстым полі.
— Лацьвей табе, Аўдотка, за сталом сядзець,
за сталом сядзець.
Трудна мне, моладцу, ва чыстым полі стаяць,
ва чыстым полі стаяць.
Палазы к дарозе прымярзаюць, прымярзаюць,

Ветрыкі кудзёркі паддуваюць, паддуваюць.
Сапожкі ножанькі пацiскаюць, пацiскаюць.
Маладыя сваточкі захрыпаюць, захрыпаюць.
— Не паложыце золатца — не пусціце моладца. 2

121

Пад'язджаў Ванечка пад акошачка:
— Ці саўсем, Манечка, сабралася?
— Едзь-паедзь, Ванечка, не стой, не стой,
Пад табой конічак не свой, не свой.
— Хоць не мой, хоць не мой — майго бацюшкі.
У майго бацюшкі каней многа:
Гнядыя, вараныя, пераменныя.
У ўздочке шлеечкі ўсё раменныя.
Харашо табе, Манечка, за сталом сядзець,
Худа мне, малайцу, у чыстым полі:
Пад каня ветрыкі паддуваюць,
З галавы шапаньку сарываюць.

122

Чаму нет Гануткі ў новай горанкі?
Едзіць Якушка, як сокал ляціць.
Хвост у каня, як у змяі,
Грыва ў каня ўся ў кольцах звіта.
— Калі спіць Ганутка — не будзіце яе,
Калі ў саду Ганутка, я й сам найду.
Як выйшла Ганутка ў сад — на каленях пала:
— Панок мой Іван, я ўсю ноч не спала,
Я шыла чахол на твайго каня варанога,
Для тваей бадзёрасці,
Для маей карысці і для радасці.

123

Ляцеў, ляцеў сакалічак цераз зелян сад, цераз зелян сад.
Як ударыў крыллейка аб сад-вінаград, аб сад-вінаград.
— Ці тут мая сакалачка, ці яе няма, ці яе няма?
Ці з другімі сакаламі лятае, лятае?
— Калі б знала, сакалічак, што от будзеш мой, што от будзеш мой,

Я б з другімі сакаламі не лятала, не лятала,
Да я б цябе, саколічак, дажыдала, дажыдала.
Ехаў, ехаў Мішачка цераз лес у двор, у двор.
Як ударыў конь капыццям аб высок цяром, аб высок цяром.
— Ці тут мая Валечка, ці яе няма, ці яе няма?
Ці з другімі хлопцамі гуляе, гуляе?
— Калі б знала, Мішачка, што ты будзеш мой, што бы будзеш мой,
Я б з другімі хлопцамі не гуляла, не гуляла,
Я б цябе, мой Мішачка, дажыдала, дажыдала.

### 124

Хадзіў ясен месяц па небу,
Сабіраў усе зорачкі па небу,
Не аблічыў вячэрняй заранкі.
— Гдзе мая заранproblemsачка дзелася,
Ці яна ў тучачку ўвайшла,
Ці яна з месяцам узыйшла?
Хадзіў-пахадзіў Юзік,
Прыглядаўся сваёй Франечкі маладой.
— А гдзе ж мая Франечка дзелася,
Ці яна з дзеўкамі гуляець,
Ці яна з малайцамі гуляець?
Калі ж яна з дзеўкамі гуляець,
Няхай сама сябе ўважаець,
Калі яна з малайцамі гуляець,
Няхай сваю дурнату кідаець.

### 125

Гнісь-пагніся, каліновы мосце,
Быстра азярко, не трапячыся,
Там будуць ехаці гучныя сваты,
Гучныя сваты, маладога браты.
На двор з'язджаюць, конікамі граюць,
На парог ступаюць, добры вечар даюць.
— Ой, добры вечар, мой пане сваце,
Дзе та маладзенька, што нам узяці?
— Ой, няма, няма маладой удома,
Ой, пайшла маладая дай да дружачкі,
Віе вяночкі дай з хвіёлачкі,
А свайму маладому з зялёнай рутачкі.

### 126

Каля саду зялёнага
Раным-рана, ранёшынька, [1]
Каля церама высокага
Пралятаіць ясен сокал,
У зялёны сад заглядаіць:
— Ці не тут,— пытаіць,— ці не тут галубушка?
Яна тут была, гняздо віла
Са цвяточкаў, са трусточкаў.
Ёй пташачкі падмагалі,
Па цвеціку гняздо клалі.
Каля саду зялёнага,
Каля церама высокага
Малады Іван праязджаіць,
У высок церам заглядаіць,
Вон ды Клаўдзенькі пытаіць:
— Ці не тут мая Клаўдзенька?
Яна тут была, вянок віла,
Ёй дзевачкі падмагалі,
Па цвеціку ў вянок клалі.

### 127

Ой, тонка, тонка сасонка.
Да ці тым тоненька, што ў бару?
Служыў Януська каралю,
Выслужыў konічанька і сядзелка.
Сядлае коніčанька пры свячы
Да паехаў к цесцю ўначы.
Прыехаў да цесця, світае,
Ён свае Ганначкі пытае:
— Гдзе вы маю Ганначку падзелі?
Чы ей вяночак улажылі,
Ці вы яе ў таночак пусцілі?
— Мы ж ей вяночак улажылі,
Мы ж яе ў таночак пусцілі.

### 128

На рэчушке селязенюшка паплывываіць,
Ён сваю вуціцу да папытываіць:
— Гдзе ж мая сера вуціца да падзелася 'т мяне?

---

[1] Прыпеў «Раным-рана, ранёшынька» паўтараецца пасля кожнага радка.

Када яна ў траснік пайшла, варацце яе,
Када ж яна ў гняздзе сядзіць, не ганяйце вы яе.
Па новым сеням да Васілечка, ён пахаджываіць,
Ён сваю Анютачку да паспрашываіць:
— А йдзе ж мая Анютачка падзявалася 'т мяне?
Када яна ў суседушкі, высылайце ж яе,
Када яна ў бяседушке, не займайце яе.

129

Ляціць саколік над садочкам,
У садочак заглядае:
— Дзе ж тут зязюля ў рабым пер'ечку
Па садочку лятае?
Ездзіць Васілька па падворачку,
У сені заглядае:
— Дзе ж тут Аніська ў сіняй сукенцы
Па сеням пахаджае?
Спыніце, спыніце каня варанога,
Конь капытамі крэша,
Дзе ж тут Аніська ў сіняй сукенцы,
Русу косу чэша?

130

Прыехаў Лёнечка на сцёў двор,
Стукнуў ножкаю аб забор:
— Да ці дома Галечка, ці нету,
Чаму яна не дае прывету?
— Бо я ж цябе, Лёнечка, не люблю,
Я ж табе і прывету не даю.
Каб жа я цябе, маладзенькага, любіла,
Я б к табе з прыветам хадзіла.

131

Іваначка пад цешчын двор пад'язджае,
Шабелькамі вароцечка адчыняе.
— Ці тут мая Ганначка, ці нямае,
Ці з іншымі красівейшымі дзесь гуляе.
А я яе на гулянне не пушчу,
А я ёй правую ножку ўкарачу.

Заглянула да Іванка пад канец стала.
— Не ідзі, не ідзі, Іванка, бо я не твая.
Ой, едзь сабе да і пашукай такую, як я.
— Аб'ездзіў я два сялы, аб'яздзіў я тры,
Не найшоў красівейшае, як Ганначка мая.

132

Ой, уляцеў салавейка ў вішнёў сад,
Да ўдарыўся крылачкамі аб вінаград:
— Чы тут мая заўзуленька, чы няма е,
Чы з другімі салаўямі лятае?
— Ой, цыт, салавейка, не гукай,
Тут твая заўзулька, не злякай.
Уехаў Данілка ў цесцяў двор,
Да ўдарыўся чабатком аб парог.
— Чы тут мая Ганначка, чы няма е,
Чы з другімі малойцамі гуляе?
— Ой, цыт, Данілка, не гукай,
Тут твая Ганначка, не злякай.

133

Ой, баром, баром, барамі,
Была дарожанька каўрамі.
— Добры вечар, цешчанька, я не спаў,
Чы гараз дзеваньку я застаў?
— Здароў, здароў, зяцейка, хоць не спаў,
А гараз дзеваньку ты застаў.

134

А ніхто не чуў, не ведаў, *
Как Паўлік на двор заехаў.
Падкінуў санкі пад ганкі,
А сам ён пайшоў у ізбу.
— Здарова, цешча, здарова,
Гдзе ж мая Валечка, Валечка?
— Тваей Валечкі дома нет,
Твая Валечка пайшла за вадой.
Не так за вадой, как за бядой.
На белы камень ступіла,
Новы вядзерца пабіла.

## 135

Выйдзі, донечка, на двор,
Наехала сватоў повен двор,
Расцялі хвартух сямі пол.
Не праехаць, не прайсці,
Некуды табе і ўцякці.
Бяжы, донечка, у зялёны сад,
Там ты свайго вяночка даносіш,
Там ты свайго калечка даносіш.

## 136

Палятала два салавейкі
Па вішнёвым садзе,
Селі-палі
Да зашчабяталі,
Пабудзілі маладу Уллянку
З белага ложа.
— Устань, устань, малада Уллянка,
З белага ложа,
Ужо твой малады
На двор уз'язджаіць,
З коніка ссядаіць.
— Я маладога здаўна палюбіла,
Сахарам карміла,
Віном напаіла,
З двара правадзіла,
Хусту даравала.

## 137

Прыляцеў саколік у двор.
Сеў жа ён на аконачку,
Сеў жа ён на аконачку, на аконачку,
Спусціўшы галовачку.
— Маладая Манечка,
Прывітай саколіка,
Прывітай саколіка, саколіка,
Выйдзі на падвор'ейка.
Увядзі у хатачку,
Пасадзі за столікам,
Пасадзі за столікам, за столікам,
Пачастуй віном-мёдам.

138

— Устань, мая дзіцятка, доўга спіш,
Наехала свадзьбы повен двор.
— Матка мая старая,
Гэта свадзьба не мая.
Як будзе мая ехаці,
То будзе дуброва шумеці,
Да бітая дарога звінеці,
Да будуць музыкі граці,
Будзе свашанька спяваці.

139

Стой, не стой, вербачка, раскідайся,
Не сядзі, Валечка, сабірайся.
А ўжо твой Віцечка ля варот стаіць,
Прытаміў коніка гарцуючы,
А стаптаў боцікі танцуючы,
А сцёр-змяў хустачку кланючы,
Да свае Валечкі заязджаючы.
— Не жалей жа, Валечка, майго коніка,
То не твой конік — бацькі майго,
Не твае боцікі — брата майго,
Не твая хустачка — сястры мае.

140

Буйныя ветры з-пад зары веюць,
Любыя госці на падвор'е едуць.
— Выйдзі, мамачка, пераймі госці.
Варанога каня за шаўковы повад,
Маладога суджаньку за белую ручку.
— Еш, мой зяцю, хаця не гардзіся,
Бяры маё дзіцятка, хаця не сварыся.
— Добрая будзе — сварыцца не буду,
А благая будзе — біцца буду.

141

Ды ўдарылі злыя марозы з-пад зары,
Замарозілі майго брацетку на кані.

— Выйдзі, выйдзі, братовачка, пераймі,
Вынясі, вынясі кубачак віна і мёду на далоні,
Сагрэй, сагрэй майго брацетку на кані,
Ударылі ж нам злыя марозы з-пад зары.

### 142

З сіняга возера гусі лятуць,
А з чыстага поля сваты едуць.
— Выйдзі, Ніначка, пераймі сватоў:
Варанога коніка — за абротачку,
Маладога Ванечку — за ручачку.
Варанога коніка — на стаенку,
Маладога Ванечку — за столічак.
Вараному коніку — сена-броку,
Маладому Ванечку — віна-мёду.

### 143

Не гніся, не ламіся, калінка,
Невяліка пад Барыскам дружынка —
Семсот казакоў апроч палякоў.
Па-польску мовяць, дзевачку манюць да яго:
— А выйдзі, выйдзі, душа дзевачка, з церама,
А вынесь кубачак мёду, два віна,
А частуй мілых госцікаў ты сама.

### 144

Прыехалі два казачкі к нам на двор,
А як далі дзве стралы ў наш пакой.
А як пачула наша Манечка ў цераме.
— А выйдзі, выйдзі, Манечка, з церама,
А вынесь, вынесь кубачак мёду і два віна.
А вітай, вітай старшага свата ўпярод,
А пастаноў жа свайго Іваньку пасярод.

### 145

Стукнулі-грукнулі ў вароты,
Прыехалі госцікі ва двор.
— Выхадзі-ка, маладая,

Сустракай свайго раджанага, суджанага.
— А я ж цябе не ждала, не чакала,
Скацерцю стол не ўбрала.

146

А ўз'ехаў Лявонька сакалом на двор.
— Вітай мяне, Евачка, зяляным вінам.
— Рада б я вітаці — не магу ўстаці:
Казловы чаравічкі ножкі ціснуць,
Залаты пярсцёнак пальчык ломіць,
Пярловы вяночак галоўку клоніць.

147

Да прыехаў Іванька
Да на вараненькім коніку,
На маляваным возіку.
— Верачка мая, сонейка,
Ці сама ка мне выйдзі, 2
Да ці дружачкі вышлі.
— Іванька, князь маладзенькі,
Я й сама к табе не выйду, 2
Й а ні дружак не вышлю.
Выйдзе к табе ды старая маці,
З кубачкам, з паўнюсенькім 2
Да з вінам зелянюсенькім.
Памаленьку ступаці,
Штоб віна не разліці, 2
Зяцюхна не ўгнявіці.

148

Стаіць Рыпіна
На пярэклеці.
Ляціць, ляціць Іванька
Сакалом на двор:
— Вітай, вітай, Грыпіна,
Свайго сокала.
— Рада б я вітала,
Да не можна мне:
Будзіць цябе вітаці

Мая матушка,
Будзіць цябе садзіці
За цісовы стол.

### 149

Прыехаў сваток жарчэй калінкі,
Жарчэй калінкі, чырваней малінкі.
— Выйдзі, Кацярынка, выйдзі паглядзі,
Ці сама паглядзі, ці татульку скажы.
— Сама не выйду, татульку не скажу,
Ой, божа, божа, татульку не скажу.
Прыехаў Грышачка жарчэй калінкі,
Жарчэй калінкі, чырваней малінкі.
— Выйдзі, Кацярынка, выйдзі паглядзі,
Выйдзі паглядзі, ці дзевачкам скажы.
— Дзевачкам не скажу, я й сама пагляджу,
Ой, божа, божа, я й сама пагляджу.

### 150

Стаіць Мішачка ў варотах,
На ім шапачка ў злотах.
Злота пяро па кані лягло,
Усё казацкая збруя.
Яго цёшча выходзя,
Зялёны кубак вынося:
— Проша, зяця, на маё падвор'е,
На маё вялікае.
— Адступіся, матушка,
Мой кося быстра йграе,
Кубачкі разбівае.

*Далей паўтараецца, што цесць выходзіць. Нарэшце:*

Стаіць Мішачка ў варотах,
На ім шапачка ў злотах.
Злота пяро на кані лягло.
Усё казацкая збруя.
Яго Ніначка выходзя,
Зялёны кубак вынося:
— Прашу, Мішачка, на маё падвор'е,

На маё вялікае.
— Прыступ, прыступ, Ніначка,
Прыступ, душачка,
Мой крося ігру іграе, кубачкі выпівае.

151

I а ў гародзе гардоўнічак шырокі, *
I молад Іванька, любы гасцёк далёкі.
Ён на коніку саколікам лятаець
I к цесцю на двор і разам з сонейкам ўз'язджаець.
I яго цешча салодкім віном вітаець,
А сам молад з канём назад ступаець.
— I да я ж таго вітаннейка не пры му,
I да я сваіх вараных коней не ўніму.
I няхай выходзіць мая Манечка к нам сюда,
I няхай выносіць кубачак мёду, два віна,
Ды я ж яе вітаннейка пры німу,
Ды я сваіх вараных коней уніму.

152

Едзе Цімошка ў варота,
На ём шапка залота.
На ём шапачка як макаўка,
Ля варот зазвінела.
Яго цешчанька выходзіць,
Мёд-гарэлачку выносіць
I яго с конікам вітае,
А ён назад адступае.
— Назад, коню, назад, вараны,
Не тая дарожанька,
Не тая размованька.

153

Прыехаў Іванька к варотам,
Яго конічак пад злотам.
Масціце масты з калінавай трасты,
Сцяліце пасцелю з белыя паперы.
— I дзе майму каню стаці,
I дзе майму вараному?

Майму коніку стайніца,
Мне, молайцу, святліца.
Выйшла мамухна вітаці,
Стаў назад канём ступаці.
— Ты адступ, адступ, мой konічанька,
Тут мая дружыначка.

154

Пад'ехаў Колечка пад варотцы,
Конік грае, сядло ззяе,
А ён з каня не злязае.
Выйшаў цесцейка, вітае,
Ён на вітанне не гляне.
— Ты, коніку, іграй пада мною,
Да паміж чужыною.
А выйшла Любачка, вітае,
Ён яе за ручку хватае.
— Грай, коніку, пада мною,
Да паміж радзінаю.

155

Адкуль узойдзіць ясны месяц? З-пад зары.
Адкуль уз'едзець малады Кастуська? З-пад гары.
Да ўзыйшоў ясны месяц з зарою,
Ды ўз'ехаў малады Кастуська з сястрою.
Цёшчухна пышна на двор да яго не выйшла,
Мартынька мілая яго не ўзнала — не выйшла.
Ды выслала шклянку мёду, дзве віна.
— Выпі, выпі, малады Кастуська, усё да дна
І каб цябе пахмеллейка не брала,
І каб цябе малада Мартынька ўзнала.

156

Ударылі лютыя марозы на дварэ,
Замарозілі маладую дзяцінку на кане,
Да выхадзіла яго дзевачка з церама,
Вынасіла кубачак віна, мёду два:
— Напейся, развесяліся.
Ты сам маленькі, твой конь старэнькі,

Дык ты і замёрз.
— Не журыся, дзевачка, не праўда твая:
Я сам малады, конь мой вараны —
Я не замёрз.

157

Сівы селязён да падплывае,
Да на наш двор да зазірае. 2
— Маладая Алёначка, выйдзі на вулачку.
Да й пастаў да талерачку, 2
Да й пасып на талерачку пшонца жменечку.
Да й палажы жуковінку.
Да няхай селязён пшаніцу дзяўбе,
Іванка пярсценька здойме.

158

Выйдзі, дзевачка, паглядзі,
Адкуль сонейка ўзыходзіць.
Узыходзіць сонейка з-пад гары,
Да прыехаў хлопчык на калі.
Ля двара ехаў — конь заржаў,
У двор уехаў — двор заз'зяў.
Ды ў сені ўвайшоў — шапку зняў,
Ды сваю цешчухну прывітаў,
Свае дзевачкі папытаў:
— Дзень добры, дзень добры, цешча мая,
Ці здарова дзевачка ў вас мая?
— Ды здарова, здарова, як зіма,
Ды вясёла, вясёла, як вясна,
Ды рабочая, рабочая, як лета,
Ды багатая, багатая, як восень.

159

А ў дзевачкі на дварэ
Стаіць яблыня на гарэ.
А ўсе яблычкі паабсыпаліся,
Ёсць каму падабраць,
Усе госцейкі пазбіраліся,
Ёсць каму частаваць.

— Не сядзі, дзевачка, не сядзі,
Адчыні ваконца, паглядзі:
Адкуль месячык узыйдзе,
Адкуль жанішка прыедзе.
Узыйшоў месячык з-пад зары,
Прыехаў жанішка з-пад гары.
Узыйшоў месячык з зоркай,
Прыехаў жанішка з сёстрай.

### 160

Не сядзі, дзевачка, не сядзі,
Адчыні вакенца, паглядзі:
Шэсцера коней ля ганка,
Прыехаў па цябе каханак.
У цябе косачка кавана.
Наехалі кавалі з чужой стараны:
Яны тваю косачку раскуюць,
Яны цябе, маладзеньку, забяруць.

### 161

Разумнае дзіця Колечка,
Здалёку ехаў, каня ўняў,
К варотам прыехаў, шапку зняў.
Цераз коніка ручку падаў,
Пра здароўечка папытаў:
— Ці жыва-здарова, цешча мая?
Ці вялікая вырасла дзеўка мая?
А яму цёшчухна — ні слоўца,
Перад ім Ганначка, як сонца.

### 162

Ой, рано, рано па зарэ
Прыедзе малады на каню.
Яшчэ з коніка не ссядаў,
А ўжо маладой ручку даў.
— Чы жыва, здарова, Ганулька?
Я еду малады да торгу,
Што кажаш купіці, то куплю.

— Купі мне сады з вішнямі,
Купі мне сяло з дзеўкамі,
Купі мне места з сцёнжкамі.

### 163

Не сядзі, дзеванька, бокам,
Мы прыехалі ненарокам.
Сядзь сабе правесенька,
Глянь сабе яснесенька,
Прасунься і к акеначку,
Паглядзі ў абаленачку:
Чы ўсе баяры на дварэ?
Чы харош жанішок на кане?
Шчэ з коніка не ссядаў,
Да ўжо дзеванькі запытаў:
— Чы ўжо дзеванька радзена,
Тай на пасадзе садзена?
— Ой, радзена дзеванька, радзена,
Тай на пасадзе садзена.

### 164

Як зарзалі вараныя коні за дваром,
Забрашчалі кубкі-стаканы за сталом.
— Выйдзі, выйдзі, Волечка, да новы двор паглядзеці,
Ці харошы малады Іванька на кані.
Ідзі к мору да белай пены набяры,
Да Іваначку белыя ручкі разатры.
— Ой, не трэба, малада Волечка, не нада,
Я сам малады, мой конь вараны, мне добра,
Кажух мой новы, каўнер барровы,
Мне цёпла.

### 165

Прыехаў Ванечка
Не абы з якой радзіны:
З музыкамі-ігракамі,
З хлопцамі-гулякамі,
А з дзеўкамі-пяюллямі,

А з сёстрамі-пышуллямі,
А з храбрымі братамі,
З маладымі сватамі.

166

— Да не сядзі, Волечка, не сядзі,
Да адчыні ваконечка, паглядзі,
Да ці ясен месячык на зары,
Да ці харош наш Колечка на кані?
— Ясен, ясен месячык на зары,
Харош, харош мой Колечка на кані.
Харош, харош наш Колечка, шчэ й вялік,
Прывёз, прывёз ён Волечцы чаравік.
Прывёз, прывёз наш Колечка шчэ й двое,
Насі, насі, здаровенька абое.

167

— Не сядзі, дзеванька, не сядзі,
Прыскоч к акенцу, паглядзі,
Чы ясен месяц на зары,
Чы харошы хлопчык на кані.
— Ой, харош, харош, чарнабрыў,
Калі мне яго бог судзіў.
Яшчэ хлопчычак з каня не злязаў,
Правую ручаньку ў акно даў.
Старшую дружачку прывітаў.
Сваё міленькае кальцо зняў.
— На табе, браціку, падаркі
Для мае мілае каханкі.
— Ой, выйдзі, мамачка, паглядзі,
Што мы табе прывязлі.

168

— Не сядзі, Галечка, не сядзі,
Адчыні акенца, паглядзі,
Ці высок месячык на небе,
Ці далёк міленькі на кані.
— Месячык на небе нізенька,
На кані міленькі блізенька.

Месячык на небе — круг залаты,
Міленькі на кані — князь малады.
Месячык на небе меніцца,
Міленькі на кані жэніцца.

169

Ой, хвоя, хвоя, ты ў бару расла, шумела,
А з корня ўпала, звінела,
А ў сені ўвайшла, зазрэла,
А ў хату ўвайшла, савяла.
Усіх дружачак сазвала:
— Сядзіце, дружачкі, са мною,
Бо прыдзе мілы з другою.
— Не сядзі, Галечка,
Ды адкрый акенца, паглядзі,
Ці ясны месяц на зарэ,
Ці харош мілы на кане.
— Ой, харош, харош чарнабрыў.
Такога мне бог прысудзіў.

170

Радчаначкі — добры людзе,
Выйдзіце, падзівіцеся 2
На коніка вараненькага, 2
На Іванька маладзенькага.
На коніку да грыва мае,
На Іваньку да шуба ззяе.

171

Выйдзі, дзевачка, з хаты,
Мы прывезлі да кавалера,
Харошага, як жаўнера.
Пад ім конічак грае,
Як саколік лятае.
Пярчаткі шаўковыя,
Чаравічкі казловыя,
Падвязкі з атласу,
Нам стаяць няма часу.

## 172

Ай, бел снег, 2
Ай, бел, бел, бялюсенькі,
Прыехаў зяць к цёшчы маладзюсенькі,
Каб яго цёшчанька пахваліла,
Каб яго Людачка палюбіла.

## 173

Па вуліцы, па шумнай раз'езд раз'язджаець,
Маладая Зося ў вакно паглядаець:
— Ці мой, ці не мой коніка абучаець,
Пад ім воран конь, як сокал лятаець,
На ім рубашка, як бела бумажка,
На ім пояс, як жар разгараець,
На ім боты — нямецкай работы.

## 174

Ехаў малойчык з крутых гор.
Пад ім конічак, як арол,
Пры баку шабелька, як агонь,
Ля шыі хустачка, як сонца.
Глянула дзевачка ў ваконца:
— А вітайце ж яго, вітайце,
Вы ў яго праўду пытайце:
Хто ж яму коніка гадаваў,
Хто ж яму шабельку шараваў,
Хто ж яму хустачку вышываў,
Хто яго ў дарогу выпраўляў?
— Гадаваў коніка татулька,
Шараваў шабельку братулька,
Вышывала хустачку сястрыца,
Выпраўляла ў дарогу мамачка.

## 175

Прыехаў Ляксейка к варотам *,
Яго конічак пад злотам,
Яго ручнічок пад бокам.
Пытайце ў яго, пытайце,

Хто яму коніка гадаваў,
Хто яму вазочак маляваў,
Хто яму ручнічок вышываў?
Гадаваў коніка бацюшка,
Маляваў вазочак брахненька,
Вышывала ручнічок сястрыца
Пры цёмнай ночы, пры свячы,
Пры жаркім сонцы ў аконцы.

176

Да па вішару галачкі лятала,
Яны сваё пер'я збівалі,
Па крылачкам галачкі тужылі.
Адлёт мае крылачкі чыстыя,
Мае перачкі сізыя.
Па цераму Усціння хадзіла,
Яна свайго татку будзіла:
— Устань, татачка, годзе спаці,
Ідзі к вакошку выглядаці,
Ці высок месяц на зары,
Ці харош-прыгож Івана на кані?
Ці хараша Усціння ў цераме?
Выйшла яго маці:— Куды, сынок, сабраўся?
— У дарогу часную, па Усціню маладую.

177

Ой, наш суджанька, як паня,
А не сорам жа нам хоць да караля.
Пад ім конічак, як гром,
На ім суканькі, як агонь.
На ём шапачка сямі сабалёў.
А не бацька яму тое спраўляў,
Царэвіч яму дараваў,
Каб ён на вайну выязджаў,
Свайго цясцятку зваяваў,
Сваю дзевачку з сабой узяў.
Зваяваў цясцятку з дваром,
Узяў дзевачку з дабром.

178

Ды ўзышоў месяц над ізбой,
Ды ўзвёў заранaчку за сабой.

Ды не знаць месяца за звёздамі,
Толькі знаць месяца па заранцы.
Уз'ехаў Колечка к цесцю на двор,
Ды ўвёз свашачак за сабой,
Ды не знаць Колечку за свашкамі,
Толькі знаць Колечку па шапачцы.
На ім шапачка, як жар гарыць,
За ім сваточкі, як мак цвітуць.

179

Не цвіла каліна, не цвіла,
На дарожку ўзыйшла — зацвіла,
Пад вароты прыйшла — гукнула,
Пад акенца прыйшла — стукнула:
— Выйдзі, Манечка, паглядзі
І каліне дарожаньку пакажы.
— Не успею, каліна, не успею,
Па двару хаджу, мак сею.
Зарадзі, божа, чорны мак,
Зацвіці цветам шаўковым,
Паспей макаўкаю залатою.

180

Ой, звонка, звонка сасонка,
Да званчэйшая каліна.
І ў лузе стаяла — шумела,
А й мостам ішла — грымела,
У полі стаяла — пяяла,
А ў сяло ўвайшла — зайграла
І к варотам прыйшла — стукнула,
Пад акенцам стала — гукнула:
— А ці дома, дома дзеўчына?
Адчыні маладому вароты.
— Не смею, жанішка, не смею,
Па двару хаджу, мак сею.
Узыйдзі, узыйдзі, чоран мак,
Узыйдзі ўсходам зялёным,
Зацвіці цветам чырвоным,
Залатой макаўкай узрасці.
А зялёненькі ўсход — братулькі,
Чырвоны цвяток — сястрыцы,
Залатая макаўка — жанішка.

## 181

Харошае дзерава каліна,
Па дарозе ішла — грымела,
Па балоту ішла — шумела,
К і двару прыйшла — зайграла:
— Адтвары, Мар'ечка, вароты.
— Некалі, каліна, некалі,
Капаю, капаю чарназём,
Пасею, пасею чоран мак.
Зарадзіўся мак: чырвон цвет.
Чырвоны цвяток — Ванечка,
Залатая макаўка — Мар'ечка.

## 182

Лужком-беражком рэчка йшла,
Цымбалы ў Зосі на дварэ зайгралі,
Зосю на двор вызывалі:
— Выйдзі, Зося, к нам на двор,
Пакажы дарожку ў шчыры бор.
— Не пайду, сваточкі, к вам на двор,
Не пакажу дарожку ў шчыры бор.
Пакуль вінаград засею,
Баравыя васількі запашу,
Тагды вам дарожку пакажу.

## 183

Калінка наша лугавая,
У лузе стаяла — шумела,
Ай, борам ішла — ялела,
На поле выйшла — заззяла,
А ў сяло выйшадшы — гуляла.
Пад вароты прыйшла — запела.
— Ці дома, дзевачка?
Адчыні каліне вароты. 2
— Некалі, каліна, некалі:
У садзе вінаград пераспеў,
Трэба мой вінаград пашчыпаць,
Шоўкам пучочкі павязаць,
Свайму маладому адсылаць.
А прыбывай, жанішка, да мяне,

Зныла маё падвор'е без цябе.
Сызыя галубы не гудуць,
Чырвона ружа не цвіце.
Зялёная рутачка ў пук пайшла.
Як жа мой жанішка прыбыло,
Усё ж маё падвор'е загуло.
Сінія васількі зацвілі,
Сызыя галубы загулі,
Чырвона ружа зацвіла,
Зялёна рутачка зацвіла.
Ідзі ж, мая радзіна, ад мяне,
Сядзе мой жанішка ля мяне.
Ад радзіначкі тошна мне,
Ад жанішка ўцешна мне.

### 184

Шумлівае дзерава каліна,
Да павярху лесу ішла — шумела,
На дарогу ішла — грымела,
К варотам прыйшла — стукнула.
На двор узыйшла — зацвіла,
Пад акенца прыйшла — гаварыла:
— Ой, ці дома, дзевачка, ой, ці не?
Ой, павіла вяночкі, а ці не?
Ой, укажы дарогу каліне.
— Не маю часу казаці,
Паспеў вінаград саджаці,
Гібкія лавачкі масцілі,
Пышныя дружачкі садзілі.
Наехала казачкоў семдзесят,
Пусцілі конікаў у вішнёвы сад.
Адкуль узяўся хлопчычак,
Ён тыя конікі палаваў,
Гібкія лавачкі паламаў,
Пышныя дружачкі разагнаў,
Ён свае сваточкі пасаджаў.

### 185

Шумліва каліна-дзерава,
Ой, борам ішла — шумела,
На поле ўзыйшла — заззяла,

У сяло ўвайшла — заграла,
К варотам падыйшла — стукнула,
К вакну падыйшла — гукнула:
— А ці дома, дома дзевачка?
Укажы-ка мне дарогу.
— Некалі каліну вадзіці,
А паспеў вінаград садзіці.
Пасаджу вінаград паміж град,
А сама малада — на пасад.
Наехаў суджанька сам-дзесят,
Пусціў коніка ў вішнёвы сад,
А вішнік-цярэшнік патаптаў,
Садавую каліну паз'ядаў,
А сваю дзевачку з сабой узяў.

186

Тонкае дзераўцо клянінка,
У лясу стаяла — шумела,
Дарогай ішла — звінела,
К варотам прыйшла — гаварыла:
— Выйдзі-выхадзі, Сахвейка,
Пакажы клянінцы дарожку.
— Некалі, клянінка, некалі,
Загадаў Грыгорка работу:
Баравыя васількі садзіць,
Чырвоную рожу шчыпаць,
Гібкі лавачкі масціць,
Цісовыя столікі станавіць,
Він͏ом кубачкі наліваць.
Прыехаў Грыгорка сам-дзесят,
Пусціў конікаў у зелен сад.
Конь тыя васількі пасарваў,
Чырвоную рожу сашчыпаў,
Гібкі лавачкі патаптаў,
Цісовыя столічкі паваляў,
З він͏ом кубачкі паабярнуў,
Красную Сахвейку к сабе ўзяў.

187

Звонкае дзераўца каліна,
На бару стаяла — шумела,
Дарожкай ішла — гручэла,

К варотцам ішла — стукала,
Маладую Верачку гукала.
— Адчыні, Верачка, дзверцы, адчыні.
— Не адчыню, калінка, не адчыню.
Загадаў мужанёк работу:
Сад-вінаград садзіць,
З крыніцы ваду браць, палівадь,
Каб мой сад-вінаград зелен быў,
Каб мой Іванька весел быў.
Да зялёны сад-вінаград, зялёны,
Да вясёлы мой Іванька, вясёлы.

188

Лугавая каліна лугам ішла — шумела,
Па дарозе ішла — стагнала.
К варотам прыйшла — стукнула,
Пад акошка прыйшла — гукнула.
— Ці дома дзевачка?
Хадзі мяне, каліну, правядзі.
— Некалі каліну вадзіці,
Паспеў вінаград садзіці,
Загадаў мне хлопчык тры дзелы:
Першае дзела — сад садзіць,
Другое дзела — палівадь,
Трэцяе дзела — даглядадь.

189

А ў лузе каліна гаварыла:
— Чаму ж ты ка мне, Ганначка, не хадзіла?
Чаму ж мяне, каліну, не ламала?
Чаму ж мяне ў венічкі не вязала?
Ганначка каліне адказала:
— Некалі к каліне хадзіці,
Некалі каліну ламаці,
Некалі ў венічкі вязаці.
Загадаў Юрачка работу:
На гарэ вінаград капаці,
У зялёным саду саджаці,
З крыніцы вадзіцай паліваці.
Каб сад-вінаград зелен быў,

Каб мой Юрачка весел быў.
Каб сад-вінаград пазелянеў,
Каб мой Юрачка пабагацеў.

## 190

Прылятаті сакалы
З чужой дальняй стараны.
Селі-палі сакалы
На высокі на цяром.
— Выхадзі-ка, Аленушка,
Узнай свайго сакала.
— А мой сакол знакамён,
На ём шапка з сабалём,
На шапачке вяночак,
На вяночку цвяточак,
На цвяточку пташка.
Сядзяць пташкі дробныя,
Сядзяць пташкі дробныя,
Пяюць песні громкія.

## 191

Што за панове, што за сватове на дварэ, на дварэ?
Па-польску мовяць, дзеваньку просяць да сябе, да сябе:
— Ай, выйдзі, выйдзі, маладая дзеўка, з церама, з церама.
А вынесь, вынесь кубачак мёду, два віна, два віна.
А спазнай, спазнай, маладая дзеўка, каторы твой, каторы твой. 2
А ці той, што ў валёнцы, на кабылёнцы — ці той твой, ці той твой?
Ці што ў сінім, на коні сівым — ці той твой, ці той твой?
Ці што ў ватласе, ў жоўтым паясе — ці той твой, ці той твой?
Ці што ў вяночку, ды на жарабочку — ці той твой, ці той твой?
— А што ў валёнцы, на кабылёнцы — старшы сват, старшы сват.
А што ў сінім, на коні сівым — свёкар мой, свёкар мой.
А што ў ватласе, ў жоўтым паясе — дзевер мой, дзевер мой.
А што ў вяночку, на жарабочку — мілы мой, мілы мой.
А што ля печы, у лапіках плечы — свякроў мая, свякроў мая.
А што з люлькай, завуць Надунькай — нявестка мая, нявестка мая.
Што ў канцы стала, ройлам галава — залоўка мая, залоўка мая.

## 192

Наехала гасцей поўны двор, поўны двор.
— Выбірай, Марынка, каторы твой, каторы твой:
Ці што ў сінім, на каню сівым — ці то твой, ці то твой?
Ці што ў атласе, у жоўтым пасе — ці то твой, ці то твой?
Ці пышна ўбраны, а конь буланы — ці то твой, ці то твой?
Ці конь вараненькі, сам маладзенькі — ці то твой, ці то твой?
— Ды што ў сінім, на каню сівым — то сват мой, то сват мой.
А што ў атласе, у жоўтым пасе — то дзевер мой, то дзевер мой.
Пышна ўбраны, а конь буланы — то свёкар мой, то свёкар мой.
Конь вараненькі, сам маладзенькі — то мілы мой, то мілы мой.

## 193

Мы не татары, мы не баяры на дварэ,
А мы сватоўе, мы мужоўе на дварэ.
Па дварэ ходзім, братоўку просім да сябе:
— Выйдзі, выйдзі, братовачка, к нам на двор,
Спазнай, спазнай, братовачка, хто твой.
— Што конь касаты, а сам вусаты — не мой.
Што конь званком, а сам з вянком — той мой.

## 194

Прыехалі тры малойчыкі на наш двор.
— Выйдзі, паглядзі, млада дзеванька, ці ёсць твой.
Выйшла, паглядзела млада дзеванька, пазнала,
Прыйшла яна сваёй матачцы сказала:
— А што ў сінім, на кані сівым — сваточак.
А што ў атласе, у ядвабным пасе — маршалак.
А што на куце, як ружа цвіце — то той мой.
Спадабаўся ён усёй дружыне маёй і мне самой.

## 195

Наехала сем казачэнькаў на наш двор,
— Скажы, скажы, малада дзевачка, каторы твой:
Чы што ў сінім, на кані сівым,
Чы то твой, чы то твой?
Чы што ў зялёным, на кані вароным,

Чы то твой, чы то твой?
Чы што ў золаце сеў на покуце,
Чы то твой, чы то твой?
— Да што ў сінім, на кані сівым —
Дзядзька мой, дзядзька мой.
Да што ў зялёным, на кані вароным —
Дзевер мой, дзевер мой.
Да што ў атласе, залатым паясе —
Дык брат мой, дык брат мой.
Да што ў золаце, сеў на покуце —
Дык то мой, дык то мой.

## 196

Наехала семсот баяраў на наш двор.
— Пазнай, пазнай, дзеўка Галечка, каторы твой.
— Каторы каля грубы развесіў губы — то не мой.
Хто каля печы грэе плечы — то не мой.
Хто каля стала пляце пастала — то не мой.
Хто кала мяне, дай абняў мяне — ото мой!

## 197

Прыляцелі тры селезні на мой двор,
Да засела тры маладзені за мой стол.
— Пазнай, Гапачка-душачка, каторы твой.
— Што на покуце ў злоце — то то свёкар мой,
А што ў сярэдзінцы, у засчынцы — да то дзевер мой,
А што ў краечку, скрывіўшы шапачку — то то той.

## 198

Прыляцелі тры саколікі к нам на двор.
— Выйдзі, паглядзі, малада Маруська, каторы твой:
Ці што ў сінім, на кані сівым — ці той твой?
Ці што ў дзязе, у шэрай сярмязе — ці той твой?
Ці што ў чорным, на кані дворным — ці той твой?
— Ды што ў сінім, на кані сівым — сусед мой.
Ды што ў дзязе, у шэрай сярмязе — дзевер мой.
Ды што ў чорным, на кані дворным — дык той мой.

199

Наляцела сакалоў повен бор.
— Выглядай, зязюля, каторы твой.
— Сызыя скрыдалкі — то той мой,
Ясныя вочкі — пэўна мой.
Наехала сваточкаў поўны двор.
— Выглядай, Цыцылька,каторы твой.
— Казловы боцікі — то той мой,
Шаўкова хустачка — пэўна мой.

200

Наляцела галубоў полан двор.
— Пазнай, пазнай, галубушка, каторы твой.
Наехала баяраў полан двор.
— Пазнай, Аўдотка, каторы твой.
— Процiў печы, лапленыя плечы — то не мой.
На прыпечку, са скрыпачкай — скамарошка.
На ўслончыку, у каворчыку — дзевер мой.
На куце, у золаце — свёкар мой.
На коніке, у чырвоніке — вот то мой.

201

Наляцела семсот галубоў на наш двор,
Ды й засела пяць заручнікаў за наш стол.
— Узнай-пазнай, малада дзевачка, каторы твой:
Што процiў печы, лаплены плечы — ці той твой?
Што ў запечку, лаплена шапачка — ці той твой?
Што на слончыку, ды на кончыку — ці той твой?
Што пад білам і з доўгім рылам — ці той твой?
Ці што на куце, персцень на руцэ — ці той твой?
— Што процiў печы, лаплены плечы — свёкар мой.
Што ў запечку, лаплена шапачка — дзядзька мой.
Што на слончыку, ды на кончыку — дзевер мой.
Што пад білам і з доўгім рылам — музыка.
Што на куце, персцень на руцэ — гэта мой.

202

Зазвінелі калакольчыкі на дварэ, *
Забраждж алі міскі-талеркі на стале,
Заплакала наша Раечка ў цераме.

— Выйдзі, выйдзі, наша Раечка, з церама,
Вынесь, вынесь кубак мёду і віна,
А вітай, вітай старшага свата на кані.
— Рада б вітаці, не магу знаці, каторы сват.
— А што ў сінім, конік сівы — гэта сват,
Што ў зеляненькім, конь вараненькі — яго брат,
Што ў атласе, конік пляшыць — Мішачка.

### 203

Прыехалі мы на мяцёны двор,
Вынесіце нам цясовы стол,
Вып'ем мы да па кубачку,
Прыехалі мы па галубачку.
Па галубачку да па сівеньку,
Па дзевачку да маладзеньку.
Дай, божа, маладым добрую долю.

### 204

Казалі сяло недалечка,
Цераз адно полечка.
Ехалі да чатыры мілі,
Конікі да патамілі,
Сукенкі да папылілі,
Грошыкі патрацілі,
Золата не бачылі.
Пакажыце тое золата,
Што казалі вельмі дорага.
Пакажыце тое дзіцятка,
Што казалі вельмі молада.
Мы ж яго ўглядаць будзем,
Да к свайму раўнаваць будзем.
Такое самлесенька
Да к нашаму раўнесенька.

### 205

Ехалі мы за тры мілі,
Свае коні патамілі,
Сукеначкі папылілі,
А грошы пратрацілі,

7. Зак. 847

Маладой не бачылі.
Пакажыце тое золата,
Што казалі вельмі дорага.
Дваццаць тысяч — усе грошы,
Што яе Колік харошы.
Да харошы, харашэй усіх,
Кланяе галоўку ніжэй усіх
Да здымае шапачку вышэй усіх.

## 206

— Пакажыце сваё золата,
Да што ўчора яно куплена.
Да мы ж яго патаргуем,
Да і к свайму прыраўнуем.
— Наша бела да бялёсенька
Да к вашаму раўнёсенька.

## 207

Прыехалі да вас пад варота,
Пакажыце сваё злота.
Казалі, што вельмі дорага.
Вы ж яго не даражыце,
Вы ж яго нам пакажыце.
Якое з іх харашэйшае,
Тое будзе даражэйшае.
Мы ж яго ды таргаваць будзем,
Да ■ свайму раўнаваць будзем.
Аж яно такавусенька
Дай з нашым раўнавусенька.

## 208

Лявонька на двор едзіць, *
Вароты адчыняе, у акошка паглядае.
— Наташка, душа мая,
Адчыні акошачка трошачка-нямножачка,
Пакажы ліцо сваё белае румянае,
Белае румянае, ты маё каханае,
Малайцу нагледзіцца, сэрцайку нацешыцца.

209

Ой, і з'ехаўшы на цесценькаў двор,
Адчынеце акенца, **
Мы пабачымо, мы паглядзімо,
Па што мы прыехалі:
Ой, ці па тую чырвоную ружу,
Што ў садочку зацвіла,
Ой, ці па тую белу лілею,
Што за столікам села?
Ой, не па тую чырвоную ружу,
Што ў садочку зацвіла,
Ой, ды па тую белу лілею,
Што за столікам села.

210

Адкрый акеначка,
Хай ускочыць сонечка.
Няхай мы пабачымо,
Па што мы прыехалі:
Чы будзе што нам есці,
Чы будзе нам што піці,
Чы будзе нам што браці,
Чы будзе за шчо дзенькаваці?

211

Прачыніце акошка, *
Няхай ускочыць сонца,
Няхай мы пабачым, па што мы прыехалі.
Па вашу адданіцу, па хутку работніцу,
Што летняга дзянёчка па сто коп пажынала,
Зімовага дзянёчка па сто кросен ткала.

## ДРУЖЫНА МАЛАДОГА ПРОСІЦЦА Ў ХАТУ

212

Ай, сват-сватушка,
Пусці нас у ізбу:
А на тваім зяцюшке
Усё сукно змякнець
І к стрэменькам ножанькі
Крэпка не прыліпнуць,
А к узданьке ручачкі
Вобе папрымёрзнуць.
Ай, сват-сватушка,
Пусці нас у ізбу:
Уж пад конікам ветры
Сталі падвяваць,
Уж коніка стала
Дрож пранімаць.

213

Ой, на хаце зелле,
А ў хаце вяселле,
На дварэ баяры,
Як мак зацвітаюць.
Ой, чыя ж то радзіна
Па-пад ваконню хадзіла?
Алёшчына радзіна
Па-пад ваконню хадзіла,
Зубамі ляскацела, у хату хацела.
А Валеччына радзіна за сталом сядзела,
Мёд-гарэлку папівала
Да песеньку спявала.

214

Адчыніце да сені і хату,
Ідзе маршалачак багаты.
Яго ножкі пазяблі,

Яго ручкі, як граблі,
Яго зубкі ласкацелі —
Гарэлачкі захацелі.

### 215

Пусці, сваце, у хату
Да на печ пагрэціся, 3
На маладога надзівіціся. 3
Знаці рака,
Знаці рака, што ў пажары быў,
Знаці рака.
Дымам дыша,
Дымам дыша,
Пажарам пахне,
Пажарам пахне.
Знаці Іванка,
Знаці Іванка,
Што ў цесця быў,
Знаці Іванка.
Мёдам дыша,
Мёдам дыша,
А віном пахне,
А віном пахне,
Мёдам дыша.

### 216

Гэй, маршалак, дзе твая дружына?
Ці ў лесе, ці ў барэ,
Ці на бітай дарозе?
Гэй, маршалак, на кім да нас прыехаў?
Ты прыехаў на казе.
Твая каза шкадліва,
Усю капусту з'ела.
Гэй, маршалку, будзе табе работы:
Будзеш капусту садзіць,
Будзеш ваду насіць.

### 217

Чыкітала сарока на лазе, на лазе,
Ой, прыехаў сватка на казе, на казе.
— Стань ты, козанька, не бяжы, не бяжы,

Мне дарожку пакажы, пакажы.
— Ой, трымайся, сватка, за хвасток, за хвасток,
То й паедзем праз масток, праз масток.

218

А сватку наш, сватку,
Заві нас у хатку.
Ужо ж папамерзлі
На лютым марозе.
На лютым марозе
І ў даўгой дарозе.
Нашы зубкі сакочуць,
Гарэлачкі хочуць.
Чаравічанькі свішчуць,
Пагуляннейка ішчуць.
Чаравічанькі туп-туп,
Пагуляннейка тут-тут.

219

А былі ж мы ў дарозе *
Ды на лютым марозе.
Нашы зубкі сакочуць
Ды гарэлачкі хочуць.
Чаравічанькі свішчуць,
Пагуляннейка ішчуць.
Зубкам — гарэлачкі,
Чаравічкам — ды зямелечкі.
Мы харошыя дзеўкі,
Дайце нам гарэлкі.
Не дасцё ж нам гарэлкі —
Пераб'ём усе талеркі.
Ай, дайце нам піва,
Мы надзелаем дзіва.

220

А свату ты наш, свату,
Пусці ты нас у хату.
Нашы зубкі трасуцца
І ў хату нясуцца.
Нашы вочкі палаюць

Ды ў печ паглядаюць,
Ці вялік гаршчок у вас кашы,
Ці ж наядуцца нашы.
А другі сват кажа: — Маўчы,
А то заставяць болей таўчы.

221

Пусці, пусці, свацейка, у хату,
Мы табе ніякія шкоды не ўчынім:
Сы вечара шумнае піва пап'ём,
Сы поўначы тваё дзіцятка павязём.
К беламу свету тваё дзіцятка мы заўём,
А к сняданнейку табе весцейкі прынясём.

222

А мы, свахі, з дарогі, 2
Памарозілі ногі.
А мы свахі прылукі, 2
Памарозілі рукі.
Ой, пусці, сваццsmall, ў хату 2
Хаця ручкі пагрэць,
Хаця ручкі пагрэці, 2
Маладую паглядзець.
А не пусціш у хату, 2
То дай нашу дзеўку,
То дай нашу дзеўку, 2
Да й нашу гарэлку.
Да й за нашу пераходачку 2
Аддай нашу лябёдачку.

223

Пусці, сваццся, у хату,
Да на печку пагрэціся, 2
На маладую падзівіціся:
Чы хароша, чы ўбрана,
Чы для нас спадабана,
Чы хароша на лічанька
Нашаму Іванічаньку.

224

Прыбілася рыба к гату.
— Пусці, сваце, у хату. 2
Дай ручанькі пагрэці,
Маладое паглядзеці,
Ці хораша нараджана,
На пасадзе да пасаджана.
— Нараджана, як панятка, 2
Пасаджана, як князятка,
Пасаджана пад акенечкам, 2
Накрыта палаценечкам.
Пасаджана пад паліцаю, 2
Нараджана маладзіцаю.

225

Ой, сваце, сваце, сватачку,
Да пусці, сватачку, ў хатачку, 2
Не будзем паліці лучыны,
Да не будзем паліць лучыны,
Будзем свяціці й ачыма.

226

Пусці, сватачка, у хатачку, *
Да й сядзім жа мы ў запечку.
Штоб ты, сватачка, не даждаў,
Каб мы ў запечку сядзелі
Ды тваю праўдачку глядзелі.
Ай, сядзем жа мы на куце,
Як золат персцень на руцэ.
Будзем па куту паяэджаць,
Цэбрам гарэлку папіваць.
Да калі не цабром, дык вядром,
Ды калі ж не вядром — пляшачкай,
А й не пляшчкай — чарачкай.

227

Пусці, сваце, у хату пагрэціся,
Маладое падзівіціся.
Добра табе, сваце, на печы ляжаці,

А нам трудненька на марозе стаяці.
На марозе да на северы
Памерзлі да пасінелі.

228

Пусці, сваццця, ў хату,
Нас тут небагата:
Чацвёра да пяцёра
Да ўсіх дзевяцёра,
А дзесятая сястра,
Што свечачкі нясла.
Пусці, сваццця, ў хату
Хаця ручкі пагрэці,
Маладое паглядзеці.

229

Мы сягоння ўсю ночачку не спалі,
Прыехалі к сватняму двару — пасталі.
Нашы конікі белай іняю прыпалі,
А мы, сваточкі, — усё драбнюсенькай расою,
А жанішка наш — хлапецкаю красою.

230

Мы ехалі чатыры мілі барамі,
А пятую — жалезнымі мастамі,
А шостую — свату на дварэ пасталі.
— А выйдзі, выйдзі, сваточак, сустрэць нас,
Да мы павязём тваю дачушку ўжо ад вас.
У вас была работніца —
У нас будзіць нягодніца.

231

Ды ўдарылі буйны дажджы на дварэ,
Ды замачылі нашых сваточкаў на вазе.
Да разлажыце сіні агенчык на дварэ,
Да пасушыце нашых сваточкаў на вазе.

232

Рана, рана,
Люты марозы напалі,
Змарозілі большага
Свата на дварэ.
— Выйдзі, выйдзі
Ты, Машанька,
З церама вон,
Вынесі, вынесі
Кунню шубу
На плячах,
Стакан мёду,
Два віна.
Сагрэй, сагрэй
Большага свата
На дварэ.

233

Я ж вам не старожка,
Стаяці ў парожка.
Найміце старожку
Стаяці ў парожку,
Да й войтаву дочку
Выбіваці масточку.

234

Ай, даўно, даўно сваты на дварэ, *
Ай, нету, нету сватам прывету.
Сватам прывету, свацціям прыгляду.
Ні гаспадар не йдзець, ні слугаў не шлець,
Выслаў служачку — жоўту сучачку.

235

Каб я ведала, да мой браценька, што то так,
Та й не ехала б да й за сванечку та й ніяк.
Ой, нападалі снягі-марозы ў дарозе,
Змарозілі мяне, сванечку, на возе.
Пазамятала конічкам грыўкі на вочкі.

236

Ці мы тут доўга стаўшы?
На нашы коні мяцель мяце,
На нашы баяры дожджык ідзе.
Ой, ідзе дожджык краплісты
На нашы жупіцы квяцістыя.

237

І стучыць, і гручыць дарожанька за сялом,
Па той дарожачцы едзець Ванечка сакалом.
— А нядолечка, мой брацетка, нядоля.
Пакалелі нашы ножачкі тут стоячы.
А чаму ж яны нас у хатачку не завуць,
А чаму ж яны дзевачку замуж не даюць?
Ці яна там з малойцамі гуляець?
Калі ж яна [illegible] малойцамі гуляець,
Няхай свае думачкі кідаець.

238

— Чашнічку, мой браценьку,
Завярні конікі назад,
Бо тут нас не злюблена,
Проціў нас не выйдзена
З новымі дзежанькамі,
З залатымі кубачкамі.
— Сватачкі, мае сястрыцы,
Як жа мне да завярнуці?
Людзі скажуць, што і ўпіўся
І з дарожанькі збіўся.

239

Гордага цесця маеш,
Вароцейкі зачыняе,
На надвор'е не пушчае.
Да пад намі коні стогнуць,
Да на нас сукні мокнуць.
Сукні мокнуць дарагія,
Коні стогнуць вараныя,
Сваты едуць маладыя.

## 240

У гордага цесця
Стаіць зяць за варотамі.
Што на зяця мяцець мяцеліца
І дробная дажджэвіца.
У адказ у хаце маладой сваццi спяваюць:
— Крыйся, зяцю, крыйся
І кунамі, і бабрамі,
І чорнымі сабалямі.
І зноў дружына маладога спявае:
— Да ўжо ж я крыюся,
Куны мае пазмакалі,
А сабалі пазвісалі,
А свашачкі паасіпалі.
Пусці, свату, у хату,
Мы ж цябе не згубімо,
Возьмем, каго любімо,
Вып'емо па кубачку,
Возьмемо галубачку.

## 241

Стаіць зяць у варотах,
У новенькіх чаботах.
Ой, стаіць ён, ужо нядзелюе,
Ніхто яго не ведае.
На яго мяцель мяце,
На яго дробны дождж ідзе,
На яго коні вараныя
І на ўсе сваты маладыя.
Або яго ўвядзіце,
Або яго назад адравіце.

## 242

Стой, зяцю, за варотамі,
Ужо на цябе да мяцель мяце,
Дробны дождж ык ідзе.
Вона дзіця да разумнае,
Крые коні шубанькаю,
Сама сябе хусцінкаю,
А свата шырынкаю.

243

У слаўнага цесценька стаіць зяценька перад вароты.
— Знаць выце яго не любіце,
Што выце яго не ўпусціце.
— У нас нелюбаў не чуваці,
Ўсе сыны ацецкія,
На іх шапунькі шляхецкія.
Свашкове, не стойце,
Мураваньку тапчыце
Ножкамі, астрожкамі
І чырвонымі чаботкамі.

244

У гардлівае цешчы стаіць зяць за парогам, *
А на яго вятры веюць,
З крышы дажджы каплюць,
У зяцелкі шапка змякнець.
Папытайцеся ў яго,
Ці любіць ён каго.
А любіць ён, любіць
Рыбку-краснакрылку,
Дзевачку-чорнабрыўку.

245

Ой, у гордага цесця 2
Стаіць зяць за вароцьмі. 2
Стаіць ён нядзелюе,
Ніхто яго не ведае.
Даведалась дзеванька,
Ад ветру заступае,
Ад дождж у прыкрывае.
Ад ветру — шубанькаю, 2
Ад дожджу — хустанькаю. 2

246

Чаго, цешча, да пабягаеш, **
Чаму зяця да не вітаеш?
Нясі, цешча, гарэлкі,

Нясі мёду да на талеркі,
Мы ж харошага роду,
П'ём гарэлку, як воду.

247

А сваціца-вутка, *
Варочайся крутка,
Твой зяць на парозе,
На лютым марозе.
Ножка аб ножку трэцца,
Ён хочаць пагрэцца.

248

Запалі, мамка, свечку,
Выйдзі на сустрэчку.
Сустрэць сваю чаду,
Чаду дарагую.
Чаду дарагую,
Зяцька маладога.

249

Ой, выйдзь, маці, з хаты
Свайго зяця вітаці.
Выйдзі, маці, з-за печы,
Вазьмі зяця за плечы.

250

Выйдзі, цешча, выйдзі,
Не будзе табе крыўды,
З пляшкаю поўненькаю
І доляю добранькаю.

251

Пышна цешча, пышна,
Праціў зяця не выйшла:
Ці хлебам жабруе,

Ці зяцем ганьбуе,
Ці кажуха не мае,
Ці чобат да дабывае.

*А з хаты маладой адпявалі:*

— Я ж зяцем да не ганьбую,
Я хлебам да не жабрую.

252

Пышная цешча, пышна,
Проціў зяця не выйшла:
Ці чобат не мае,
Ці кажуха дабывае?
Да чобаткі ў шаўца,
А кажушок ў краўца,
А кашулька ў швачачкі,
А намётачка і ў прачачкі.

253

Няма цешчы ўдома,
Пайшла цешча ў сяло
Кажуха дабываці,
Сваго заця вітаці,
Шчоб дачкі не аддаці.

254

Пышна цешча, пышна,
Проці зяця не выйшла.
Пакінь, цешча, пыхаваць,
Выйдзі зяця вітаць.
Ці кажуха не маеш,
Ці ты зяця не знаеш?
Мы кажуха пазычам,
Мы зяця ды ўкажам:
Наш зяць белалічанькі,
Пад ім конік невялічанькі.
Пад ім конік грае, грае,
Як сокал лятае.

## 255

Чаму, цешча, не выходзіш,
Чаму зяця не вітаеш?
Чы кажуха не маеш,
Чы зяця не знаеш?
Мы кажуха да пазычымо,
Мы зяця ўкажамо:
Наш зяць чарнабрывы,
Пад ім конік сівы,
І на ручках саколік,
А на ём шапка красна,
Як зорачка ясна.

## 256

Ай, глуха цешча, не чуець,
За варотамі зяць начуець.
Цешчухна пышна — не выйшла,
Надзечка мала — не знала.

## 257

Выйдзі, сваце, нас вітаці,
Як не выйдзіце нас вітаці, 2
Мы не будзем вашу дачку браці.
Астанецца яна да восені,
Прывязеце вы да калёсамі.
Запражэце бугая ў сані,
Прывязеце дачку самі.
Запражэце да цялушачку,
Прывязеце ды падушачку.

## 258

Выйдзі, сваце, выйдзі, **
Свайго зяця вітаці.
Як не выйдзеш вітаці,
Не схочам дачкі браці.
Завернемо сані
Да паедземо самі.
Вы будзеце даганяці,

Дачку ў воз саджаці.
А мы не схочамо
Да ў снег утопчамо.

259

Ой, знаці, знаці, што цесць багаты, *
Што не выходзіць зяця вітаці.
Ой, знаці, знаці, што зяць багаты,
З воза не ссядае, шапкі не знімае,
У руках не носіць, цесця не просіць.

260

Ой, знаці, знаці, што цесць багаты:
Не выходзіць з хаты зяця вітаці.
А наш Міхалка не вельмі пышны:
Узяў сваначку, у сені вайшоў.
У сені вайшоў, як месяц зыйшоў.
У хату ўваходзіць, як сонца ўсходзіць,
За стол сядае, як зора ззяе.

261

Маладая Ганначка да каліну ломіць,
У свайго татачкі падвор'я просіць.
— Пусці, татачка, маладога на сваё падвор'е,
На падвор'е, за цісовае застолле.
Малады тваё падвор'е вазамі ўставіць,
Варанымі коньмі стайню ўставіць,
За цісовае застолле сватамі ўсадзіць,
Сырватовы абрусы мядамі салье,
Маладую Ганначку к сабе забярэ.

262

Як у ласкавай цешчушкі
За варотамі зяць гасціць, 2
На яго і дождж і снег,
Усялякая ўюжыца,
Лютая замяцеліца.

8. Зак. 847

Ох, увідзела дзевіца 2
Са высокага церама, 2
Дзевіца Алёнушка. 2
— Ой, а мне, родна мамушка, 2
Упусці гасцей на двор, 2
Еты госці не частыя, 2
Ім нямнога места надабі: 2
Дзве канюшні новыя, 2
Дзве хаці цясовыя, 2
Чатыры сталы дубовыя. 2

### 263

Да прыехаў Колечка,
Да на маляваным вазочку, 2
На вараненькім канёчку. 2
Прыпінае конічка
К дубоваму калочку.
Да й угледзіў Ніначку
Й у вішнёвым садочку, 2
У руцвяным вяночку. 2
Ніначка па саду ходзіць, 2
Свайго бацюхну просіць:
— Бацюхна мой родненькі,
Адамкні каня варанога, 2
Развесялі зяця маладога.
Трэба каня да й да стаенкі,
Трэба зяця да хатанькі.
Трэба каню аброк даці,
Трэба зяця частаваці.

### 264

У гордага цесця стаіць зяць за варотамі,
На яго дождж ык ідзе, на яго драбнюсенькі,
На ём сукні мокнуць, пад нім конікі охнуць.
Выйшла-выбегла красна Анулька.
— Ойчанька, салавейка, што за госці маеш?
Чом на двор не спускаеш,
Чом застол не упрашаеш?
— Анулька, маё дзіцятка,
Малады розум маеш,

Што ўсяго не згадаеш.
Як я іх на двор спушчу,
Як я іх за стол папрашу,
Яны мёд-віно пап'юць,
Залатыя кубкі паб'юць
І цябе, маладзеньку, возьмуць.

265

Да ў гордага цесця
Стаіць зяць за варотачкамі,
Да на яго мяцель мяце,
Да на яго дробны дождж ідзе.
Манечцы да жаль стала,
Да бацюхну да ног упала.
— Да бацюхна, мой родненькі,
Успусці сватоў на двор.
— Дзіця маё да маладое,
Іх на двор успусціўшы,
Не паедуць не накпіўшы.
Ім застоллейка даўшы,
Не паедуць цябе не ўзяўшы.

266

Наехала сватоў повен двор,
Выйдзі, паглядзі, маладая дзяўчына,
Ці ёсць мілы твой?
Выйшла дзяўчына з каморы,
Упала мамачцы на ногі.
Ды як малойца пазнала,
Свайго брацітку пазвала.
— Вядзі, брацітка, коней да стайні,
Прынясі коням гэтым аброку,
Бо гэтыя коні мае здалёку.
Прынясі коням гэтым сена,
Гэтыя коні з вяселля.

267

— А прыехалі, мая мамачка, па мяне,
А ўмей, умей, мая мамачка, адказаць:
— Пайшла дзевачка на вуліцу гуляць,

Не магу яе между дзевачак узнаць.
— А пазнаеш, мая цёшчанька, пазнаеш:
У маей дзевачкі золат персцень на руцэ,
А ў маей дзевачкі па плечах коска,
Па лічыку слёзка, пазнаеш,
У руках шырынка ад слёзак макрэнька, пазнаеш.

### 268

Я ж толькі на двор уз'ехаў,
А Марачка ў клець бяжыць,
А пад ею зямля дражыць,
А на ей сукня шамрыць,
Каля боку да ключы бранчаць.
А клетачка адчынілася,
А Марачка схаранілася.
А чэраз сені кладка,
А тудою бегла цёшча,
Яна ж бегла, улякнулася,
Ля кладачкі спатыкнулася.
— Не лякайся, цешчанька,
Не сам та я ў полі,
Я ж прыехаў і з бяседаю.
Мо ты хлеба не маеш,
Ці кажуха дабываеш?
Запрагай жа, цешчанька,
Бугая ў сані
Да вязіце дочку самі.

### 269

Як паехаў Вовачка,
То й кара да зашумела. 2
Цешчухна злякнулася 2
І ў камору да схавалася.
Не злякайся, цешчухна,
Бо ненадоўга зяць едзе,
Семера да коней вядзе,
Да дзве-тры сястроначкі.
Яны йдуць, як павачкі,
Да й гудуць, як пчолачкі.
Яны йдуць памалюсеньку,
Да й гудуць паціхусеньку.

270

Да ўпалохалася цешча: 2
Небагаты зяць едзе, 2
Да багата баяр вязе:
Да сто коней адборных,
Да дзевяць браткоў родных,
А дзесятая сястра 3
Да дзве свечачкі нясе.
Сядзіць яна ў абозе, 2
Да на лютым марозе,
Цвіце яна, як макаўка, 2
А шчабеча, як ластаўка.

271

Цешча зяця злякалася,
Ў клець за дзверы схавалася.
— Пастой, цешча, не лякайся,
У клець за дзверы не хавайся.
Нямнога нас прыехала:
Семсот сватоў без двух братоў
І Ванечка-сямігодачка
Між намі, як кветачка,
Дзе стане, там гуляе,
Дзе сядзе, там спявае.

272

Цягніся, Дунай, цягніся,
Я сваіх конікаў напаіў,
Я сваю радзіначку ўжо сабраў.
А лесам ехаў — лес шумеў,
А сялом ехаў — людзі дзівіліся,
А мастамі ехаў — масты ламіліся,
На двор уз'ехаў — цесць улякнуўся.
— Не пужайся, не улякайся, цесцю мой,
Я сваіх конікаў напаіў,
Я сваю радзіначку накарміў.
Сем вядзёр горкае гарэлкі папілі,
Сем пячэй сітнага хлеба паелі.

273

Цешча зяця злякалася,
Да каморы схавалася.
— Цешча, зяця не лякайся,
Да каморы не хавайся.
У хату ўступаю,
Аўсом-хмелем асыпаю,
Дзеваньку аглядаю:
Чы харошыя ўборы,
Чы нізкія паклоны,
Чы харашо нараджона,
Чы высока пасаджона.
Нараджона па-баярску,
Пасаджона па-гаспадарску.

274

Пышна, цешча, пышна,
За вароты не выйшла,
Зяця не страчала,
На здароўі не пытала,
Хацела зяця спужаці,
А зяць цешчы не баіцца
Ды ў дыбкі с цешчай станавіцца.

275

Выйшла маці да зяця вітаці,
Да вывярнула кажушок,
Да хоча спужаці.
А зяць не баіцца
Да блізка станавіцца.
А зяць не дбае
Да блізка ступае, 2
Бо свой кажух мае,
Да за столікам
Сабе месца шукае.

276

Ой, знаці, знаці, што не родна маці.
Вывернула кажух, хацела спужаці.
— Я таго кажушка вельмі не баюся,
Для сваей Надзі астанаўлюся.

277

— Ці з вялікае прычыны
Увабралася цешча ў аўчыны?
Да хацела зяця спужаць,
Не хацела дачкі аддаць.
— Як не будзеце аддаваці,
Павязеце да места прадаваці.

278

Забаўна цешча, забаўна,
А яна ў ваўкі ўбіралась.
А хацела зяця спужаці,
Не хацела дачкі аддаці.
А зяць ваўка не баіцца —
Пабліжэй к дачцы садзіцца.

279

Убралася цешча ў кажурынкі,
Да ў бабровыя бабрынкі.
Цешча, плача, не хоча аддаці,
А зяць скача, хоча дачку ўзяці.
Цешча зяця вітала,
На здароўе пытала.
— І якаў зяць п'ян?
— Ні сякаў, ні такаў, унян,
Як месячык у хмары.

280

Тупу, тупу каля дзежачкі,
Чы нараслі сыраежачкі?
Не ўгадае цешча,
Чы сыраежкі браці,
Чы зяця прыймаці.

281

Да здароў будзь, зяцю.
Як не знала,
То й зяцем не звала,

Як цяпер пазнала,
То й зяцем назвала.
Да хадзі ж, зяцько, у хату!

### 282

Коціцца хмельнічык пад вароціткі,
Просіцца зяць у цёшчухны:
— Цёшчухна, мамухна, [redacted] твой зяць буду,
Я тваю дочаньку шанаваць буду,
Таўчы, малоць застаўляць не буду.
Таўча, мяля — апыліцца,
Дзяжу меся — абарвецца,
Ваду нася — аблієцца.

### 283

Цешчухна-мамухна, я твой зяць буду, *
Я тваю дачушку навучаць буду.
То прутом, то кнутом, то нагайкаю,
Каб была Томачка ды хазяйкаю.
То прутом, то кнутом, то лазінкаю,
Каб была Томачка ды радзінкаю.

### 284

Ай, не будзь, Віцечка, пышным панам,
А злязай з коніка а ты скоранька,
А знімай шапачку а ты быстранька,
Кланяйся цёшчухне нізка ў ногі,
Каб на цябе цёшчухна ласкава была,
Каб табе Лідачку скора аддала.

### 285

Матулька родненькая,
А куды ж ты ідзеш,
Што кажух надзяеш?
Ці ў млын па муку,
Ці ў Дунай па ваду?
Калі ў млын па муку,

Я муку прынясу.
Калі ў Дунай па ваду,
Я вады прынясу.
Што гэта, матулька родненькая,
За вайна прышла,
Ці есці просяць,
Ці піці просяць,
Ці дарожкі пытаюць?
Матулька родненькая,
Калі есці просяць — накармі,
Калі піці просяць — напаі,
Калі дарожкі пытаюць — пакажы.
Матулька родненькая,
Куды ж ты ідзеш,
Што кажух надзяеш?
Ці не зяця вітаць?
Матулька родненькая,
І вітай, і пытай,
Ці не п'яніца ён?
Ці не разбойнік ён?
Ці не катыржнік ён?
Калі п'яніца —
У дарожцы прап'ецъ,
Калі разбойнік —
У дарожцы заб'ецъ.
Калі катыржнік —
У карты праіграецъ.

### 286

— А чыя то чэшча слаўна,
Што кужалем поле слала,
А масты ўсе сувойцамі,
А гаць гаціць чырвонцамі,
А лес ўвешвае дарагім сукном?
— Ехаціме мой зяцюхно,
Каб у полі не ўпыліўса, 2
А на масту не ўваліўса, 2
А на гаці не ўтапіўса, 2
А ў лесе не ўрасіўса.

### 287

Цесцю загадзей масты мосце,
Сталеным гвоздзем гвоздзе:

Штоб і мост не скалыхнуўся,
Штоб і конь не спатыкнуўся,
Штоб і зяць не ўлякнуўся
Да й назад не вярнуўся,
Ад дзевачкі не адракнуўся.

### 288

Цешча зяця ждала,
Кунамі весь двор слала,
Кунамі, бабрамі, чорнымі сабалямі,
А калі б ей сіла, то б яшчэ пазалаціла.
З'ехалі госці з чужой валосці,
Бабры зашумелі, а золата зазвінела,
А дзевачка іспужалася
Да ў камору захавалася.

### 289

Цешча зяця паджыдала
Ды сытою двор палівала.
— Ці зяць будзе, ці не будзе,
Жаль мне сыты будзе.
Калі б знала, што зяць мой,
То б вынесла кажух свой.
Кажух новы, каўнер бабровы,
Мой зяць чарнаброві.

### 290

Ой, чэшча зяця да жадом жадала,
Жадом жадала да пытом пытала,
Па ўсіх гасцінцах старажы стаўляла.
Дый у зяця праўды да яна пытала:
— Ой, зяцю, зяцю, да дзіцятко маё,
Што ж табе міло — ці мёд, ці віно,
Ці новае падвор'е, ці белае застолле,
Ці табе міло дзіцятко маё?
— Да мне не міло ні мёд, ні віно?
Ні новае падвор'е, ні белае застолле,
Толькі мне міло да дзіцятко тваё.

## 291

Цешча зяця дажыдала,
На двары агонь расклала,
Каб было цяплюсенька,
На зяця віднюсенька.
Можа ён ног не мае
Ды з возу не злязае.

## 292

Цешча зяцю жадом жадала,
Па ўсіх дарогах старожы стаўляла.
Гдзе зяцю ехаць, то сама стала,
Белы цукар на талерках клала,
А чырвоную вішню ў ручках дзяржала.
— Ой, цешча, цешча, пані матка мая,
Беленькі цукар — патраука мая,
А чырвоная вішня — дзеванька мая.

## 293

Выйдзі, мамачка, на ганачак, паглядзі,
Ці харошанькі твой зяцік малады.
Ці есць у яго за шапачкай кветачка,
Ці есць у яго за шаферку дзевачка.
Ці есць у яго пры кветачцы лісточак,
Ці есць у яго за шафера браточак.
За шапачкай ружовая кветачка,
За шаферку харошая дзевачка.
Пры кветачцы зялёны лісточак,
За шафера родненькі браточак.

## 294

Выйшла маці ды зяця прымаці,
Не так прымаці, як выглядаці:
Ці вялікага стану, ці хараша ўбраны?
Ці тонка, бела ды на ём кашуля?
Каўнер бабровы, а зяць чорнабровы.
Каўнер валністы, а зяць наравісты.
Стаў пры парозе, як пень пры дарозе.
Да ці яму не гадзіцца нам пакланіцца?

## 295

А стучыць-гручыць дарожачка за сялом,
Там жа едзе малады чарнабровы.
А пад'язджае пад цясцяткава падвор'е,
А там расцвітае зялёнае явор'е.
Уз'ехаў ён на зялёны явор з канём,
А там жа выйшла яго цёшчухна із віном.
— А будзем, будзем, маё дзіцятка, віно піць.
А ўмей, умей поўны кубачкі наліваць,
А ўмей, умей маю дзіцяцю шанаваць.

## 296

Ой, цешча ж зяця да жадам жадала,
Па ўсіх дарогах старажы стаўляла.
А сама яна старая, у варотах стаяла,
У варотах стаяла да зяця выглядала:
Каб не п'яніца, каб не разбойнік,
Каб не скарацi свайго дзіцяці,
Каб не стаяла цёмна ночы пад акном,
Каб не ўцірала гарачы слёзы рукавом.

## 297

Ой, цешча зяця жадам жадала,
Жадам жадала.
Па ўсіх дарожках старожы стаўляла.
Старожы стаўляла.
Дзе зяцю ехаць, там сама стала.
Там сама стала.
Да маці ў зяця праўды пытала.
Праўды пытала:
— Ці будзеш, зяцю, добры ў п'яне?
Добры ў п'яне.
Ці будзеш шанаваці майго дзіцяці?
Майго дзіцяці.
— Буду шанаваці твайго дзіцяці,
Твайго дзіцяці.
То дубіною, то лазіною.
То лазіною.
— Каб цябе, зяцю, у вір галавою.

У вір галавою.
— Хай цябе, цешча, разам з дачкою.
Разам з дачкою.

## 298

Ой, цёмна, цёмна на дварэ,
Стаіць мядочак у вядрэ,
А цешча зяця вітае,
У яго праўды пытае:
— Скажы, мой зяцю, праўду мне,
Ці п'еш гарэлку, ой, ці не?
А як уп'ешся, ці б'ешся
Ды дзе тады ты дзяешся?
— Ай, цешча, выбачай,
Ад мяне праўды не чакай,
Бо табе праўду сказаўшы,
Будзеш біць звязаўшы.
Хоць палавіну салгаўшы,
Будзеш цалаваць абняўшы.
Дзе гарэлачку чую,
Там ночачку начую.
А дзе гарэлачку і мядок,
Там і ночачку і дзянёк.

## 299

Да вітае чэшча, вітае,
Да павітаўшы, пытае:
— Які ты, зяцю, у хмелі?
— А я ў хмелі, як месяц на небі —
Як хмаранька найдзе —
То месячык пахмурнее,
Як хмаранька зойдзе —
То месячык паяснее.

## 300

Цешча зяця вітала,
Шчасця-долі пытала.
— Які зяцёк у п'яне?
— Ні сякі, ні такі, цешчухна,
Каждай карчомкі не мінаю,

У цэркаўцы не бываю.
Як хрысцілі — ўняслі,
Як жаніць будуць,
Мяне ўвядуць.

### 301

Сонца заходзіць, месяц выходзіць,
Цешча да зяця з мёдам выходзіць:
— Ой, праступіце блізкі суседзі,
Няхай я пабачу сваяго зяця:
Чы ён піяка, чы ён гуляка?
— Ой, цешча, цешча, няродная маці,
Ой, як ты смела тое казаці.
Жэб я піяка, то ў карчме піў бы,
Жэб я гуляка, то музыкі наймаў бы,
З дзеўкамі гуляў бы.

### 302

Ой, ясна, ясна, гдзе сонца сходзіць,
Там цешчанька да зяця з векам выходзіць.
— Прыхіліцеся, буйны сваце,
Няхай агляжу свайго зяця,
Каб не запіўся, не зарыўся,
Ні з чужым людам не вымавіўся,
А на чужой старане не памыліўся.
— Ой, цешча, цешча, маценька мая,
Калі да спадобы, то ў ножкі пакланюся,
А як не да спадобы, то назад вярнуся.

### 303

Да выйшла цешча зяця вітаці,
Не так вітаці, а як выглядаці.
Ці весела п'яны, ці хараша ўбраны,
Ці не жаль дзіцяці за яго аддаці.
Хваліць цябе божа за нашага зяця.
Ён весела п'яны, хараша ўбраны,,
Ды не жаль дзіцяці за яго аддаці.

304

Ай падыйдзі, наша сваціца, падыйдзі,
Ай, паглядзі, наша сваціца, паглядзі,
Ці харошага мы табе зяця прывязлі.
А падыйдзі, наша сваціца, з ручнікам,
Мы пасадзілі тваю дачушку з панічком.
А падыйдзі наша сваціца, з талеркай,
А не будзіць твая дачушка паненкай.

305

Цешча зяця на перапой ждала,
Сахарны пірог на блюдзе клала.
Прыляцеў сакол, расклявау сахар,
А прыехаў зяць — нечым частаваць.
Будзем салому пражчы ды бліны пячы,
А сена смажыць ды бліны мазаць.
Як будзіць у двор адхадзіць —
Цесць палку пакажыць.

306

Ай, цешча зяця на вячэру ждала,
Беленькі сахар на блюдзе клала.
Прыляцеў сакол, рассыпаў сахар,
Крыллейкам, пер'ейкам па сталу разнасіў.
Ай, нечым цешчы зяця частаваць,
Прыдзецца цешчы дачку й аддаваць.
Прыехаў зяць, хоча ўзяць,
Цешча плешча, не хоча аддаць.

307

Ай, цешча зяця
На вячэру ждала:
Салому таўкала,
Атору крышыла,
Пірагі чыніла;
Пірагі пякла,
Рэдзьку смажыла
Дай мазала.

## 308

Цёшча зяця ў госці ждала,
Цэлы год сахар і язюм сабірала.
Цёшча для зяця да пірог пякла,
Зяць сеў да й сам яго з'еў.
— Як жа, зяцю, цябе не разарвала,
Я ж сахар, язюм цэлы год сабірала.
Як узяў зяць цёшчу за левую клёшчу,
Цёшча для зяця да другі пірог пякла,
Сахару, язюму аж на восем рублёў дала.

## 309

Чыя-то цешчухна
Каля рэчачкі хадзіла? 2
Уткі, цяцеркі лавіла, 2
А любага зяця карміла? 2
Пятрочкава цешчухна
Каля рэчачкі хадзіла,
Уткі, цяцеркі лавіла,
А любезнага зяця карміла.

## 310

Зяць к цешчы на парог ідзе.
Да раненько.[1]
Да на маслечка паслізнуўся,
Да на сырнікі да й абап'ёрся,
Да на піражочкі кажух падраў.
— Гэта табе, цешча, да кажух ладзіць.
Калі не паладзіш, дачку ўтраціш.
— Я сама бачу, што не наладжу,
Я сама бачу, што дачку ўтрачу.

## 311

Да выехаў Ванечка з дому п'ян,
Хмель галовачку разабраў,
А явар-дзерава паламаў,
А Ванечка на каня зазлаваў.

---

[1] Рэфрэн «Да раненько» паўтараецца пасля кожнага радка.

Вышла яго цешчухна з церама
Да вынесла мёду й віна.
— Не злуй, зяцюхна, на каня,
Бо явар-дзерава зрасцецца,
Зялёная рутачка прымецца,
Тады твае серданька ўнімецца.

312

— Матка наша старая,
Ці доўга нас ждала?
— А я ждала-паждала,
Усе стральцы панаймала
Да лася зваявала,
Да пасекла, да парубала,
Да ў катле згатавала,
Да зяця частавала.
— А цяпер ужо думай да гадай, цешчухна,
Чым табе зяця частаваць,
Ці сітнічкам і пшанічнічкам,
Ці ладачкі ў масле.
Сыр у масле беленек,
А зяць цешчы міленек.
Сыр у масле ладкі плешча,
Да частуй зяця, цешча.

313

— Ці багат ты, зяцюхна, ці багат,
Колькі маеш коней, жарабят?
— Ой, багат я, цешчухна, ой, багат,
Многа маю конікаў, жарабят.
— Колькі маеш, зяцюхна, мер аўса,
Ці шырока, зяцюхна, паласа?
— Многа маю, цешчухна, мер аўса,
Шырока на ўсё поле паласа.
І збажына ў гумнах, у палёх,
Усё гэта калгаснае, усё маё.

314

Пад парогам быстра рэчка,
А ў сенях балота.
У сенях балота,
А ў хаце золата.

Ой, як жа нам у хату ўступіці,
Золата ды й ухапіці.
Ой, як жа нам улезці,
Каля золата сесці.

### 315

Сваты хаты да не ведалі
Да ў двор да заехалі.
Да выпілі да па кубачку,
Прыехалі па галубачку.
Па галубку ды сівенькую,
Па Кацечку маладзенькую.

## МАЛАДЫ З ДРУЖЫНАЙ УВАХОДЗІЦЬ У ХАТУ

### 316

— Памалу, сваткове, на парог ступайце,
Парогі ж кляныя не растапчыце,
Віна зелянога нам не разліце,
Цесценька сваяго не разгнявіце.
— Як растопчамо то і сцэлімо,
Як разальемо то і збярэмо,
Як разгневімо, перапросімо
Пакорным словам, нізкім уклонам.

### 317

Сціха, баяры, у двор ідзіце,
Пылам не пыліце,
Явора не ламіце.
Пылам не пыліце,
Штоб нашая пава
Пылам не прыпала.

### 318

Ціха, баяры, ідзіце
Ды харомы не паламіце.
Не вы нашы харомы будавалі,
Не вы нашу Анечку гадавалі.
Будавалі харомы начамі,
Гадавалі Анечку часамі.

### 319

Паціху, сваточкі, ідзіце,
Цярому не абагніце,
Століка не паламіце,

Абрусікі не парвіце,
Кубкі не пабіце.
Кубачкі залатыя,
Усё мёдам налітыя.
Абрусы пячастыя,
Мы госці нячастыя.

### 320

Ды стучаць санкі, стучаць,
Срэбраныя дужачкі шумяць,
Залатыя званочкі звіняць.

*У адказ сустракаючым спявае*
*сваццяя маладзёнца:*

— Не ўлякайцеся, цісовыя парогі,
Не саступлю я вам з дарогі,
Я ж тут нікога не знаю,
За сваім брацiткам гуляю.

### 321

Прыступі, сваха, да мяне
І ў цябе свяча, і ў мяне,
У цябе дзіця і ў мяне.
Да звядом свечкі да ручкі,
Да звядом дзеткі да паркі.
Мір із мірам міраваліся,
Сваха з свахай цалаваліся
На сенечным парозе
Да на лютым марозе.

### 322

Да ляпецеся, свечы,
Да любіцеся, дзеці.
Штоб людзі дзіваваліся,
Маладыя цалаваліся.
І ў нас свяча, і ў вас свяча,
Да злепім да купы.
У вас Іванка, у нас Маруська,
Да звядзём да купы.

323

Наша ж поле ж шырэй,
Наша поле ж шырэй, наша свечка ж вышэй,
Наша ж гарыць ярчэй, наша Манечка краша.

324

Запалі, маці, свечу,
Пастаў на стале.
Во я стану, падзіўлюся,
Во ці пара мне.
Свяціла маці свечу,
Свеча не гарыць.
З кім хацела, з тым не села,
Во сэрданька баліць.
Свяці другу, прыгартайся,
Доню ж мая,
Да й к нелюбу.

325

Чый-то конь, ой, чый-то конь за горы й убягае? 2
Капыцечкам, капыцечкам камяня разбівае. 2
Крамяню, ой, крамяню, да задай жа нам агню,
Запаліці, засвяціці ясненькую свечку.
Чыя свеча, ой, чыя свеча ясненька гарэла? 2
Хлопчыкава, ой, хлопчыкава ясненька гарэла.
Дзеваччына, дзеваччына не гарыць, не патухне.
Дзеваччыну, дзеваччыну сястрыцы сукалі.
Як сукалі, як сукалі, жалненька плакалі.
А хлопчыкаву, а хлопчыкаву суседзі сукалі,
Як сукалі, як сукалі, весяленька спявалі.

326

Альховае, дубавае карэнне,
Разводзіцца новая радня, пляменне,
Да будзем мы гэта карэнне капаці,
Да будзем мы новую радню ўважаці.

327

А мы думалі, што то месяц узышоў,
А то Іванаў сват вайшоў.
А мы думалі, што то зорка ўзышла,
А то Іванава цешча выйшла.

328

— Іванька, мой родненькі,
Не туды заехалі:
Тут сені не крытыя,
Тут лыжкі не мытыя,
Тут хата не мецена,
Зосечка расплецена.
— Мы сені накрыемо
Травою, саломаю,
Мы лыжкі памыемо
Ключавою вадою,
Мы хату замяцемо
Пшаніцаю, ячменем.

329

Вечар добры, добрыя людзі, чужыя, *
Не дзівіцеся, што вялікая дружына.
Мы прыехалі ні піць, ні есці, пасядзець,
Мы хочам на сваю братовачку паглядзець.
Мы прыехалі ні піць, ні есці, пагуляць,
Мы хочам братовачку к сабе ўзяць.
Калі вумная-разумная — будзе нам,
Калі ж якая, абыякая — няхай вам.

330

А мы к вам прыехалі не жыта жаць, *
А мы к вам прыехалі дзевак выбіраць.
А мы к вам прыехалі не лён браць,
А мы к вам прыехалі дзевак адбіраць.

331

Нех бэндзе пахвалёны,
Ці жывы, ці здаровы?
Ці здарова сям'я ваша 2
І братовачка наша?
Пусціце праляцеці,
Братоўкі паглядзеці,
Што там за княгіня,
Ці будзець гаспадыня.
Каб вы нас не абманілі,
Братоўкі не абмянілі.
Каб вы нас не ашукалі,
Старой бабы не далі.
Ці гаворыць яна з вамі,
Ці паедзець яна з намі?
Ці ўмее таўчы, малоць,
Ці ўмее гарод палоць?

332

Хай будзе пахвалёны, 2
У гэты дом свянцоны.
Ганачкі маляваныя 2
І лавачкі пазлачоныя,
Лавачкі пазлачоныя,
Сваточкі прыглашоныя.
Ды дай, божа, сесці,
Ай, дай, божа, сесці
У шчасліценькім месці. 2
Каб намётку даўгую, 2
Братоўку ўдалую.

333

Запалеце лучынку,
Пакажыце дзяўчынку,
Ці харошага стану,
Ці я да яе прыстану?

334

А я сяджу, сюды-туды зважаю,
Пакуль сваю братовую пазнаю.
— Выйдзі, выйдзі, мая братова, з каморы,

А пазаві майго брацетку ў размовы.
— А не пайду, а не пайду з каморы,
І не нада твайго брацеткі размовы.

335

Сяджу, гляджу, за белым сталом зважаю,
Ці я сваёй братовачкі не знаю,
Ці яна ў каморак замкнёна,
Ці на работу пашлёна?
Прашу, прашу, сваццconfigure,
Калі ў каморы, нам адамкні,
Калі на работцы, адашлі.
Ці яна ў каморы белыя хусты качала?
Досыць, досыць, братоўка, хусты качаць,
Пара табе з маім браціткам сядаць.

336

Гляджу, гляджу, мой сваточак, зважаю, *
Не гневайся, мой сваточак, спытаю:
— Нідзе маёй братовачкі не відаць.
Да ці яна ў новай каморы замкнёна,
Да ці яна з малайцамі гуляець?
Няхай яна гэту гульню кідаець,
Няхай з намі адну думачку думаець.

337

Маманька родная,
Скамарохі ідуць 2
І мядзведзя вядуць.
А гэты мядзведзь,
Ён жа як глянець,
Так маё сэрца ізвянець.
Ён жа як раўнець,
Маё сэрца ўлякнець.

338

Мядзведнік ідзець, мядзведзя вядзець.
— А хадзіце, дзеці, мядзведзя глядзець.
А наш жа мядзведзь гудзець і равець,

Гудзець і равець і ў ізбу не йдзець.
Хоць мы на яго, хоць патукаем,
Хоць патукаем, хоць палюкаем.

### 339

Камары гудуць,
Мядзведзя вядуць.
У яго вочы красны,
Як ў чорта дзясны,
За крук бярэцца,
За кут дзяржыцца.
Хоча паляцеці
Да там ля Мар'яначкі сесці.

### 340

Дачакалася наша хатачка вяселля,
А прывязлі ў нашу хатачку мядзведзя.
Ой, пасадзілі таго мядзведзя на куце,
Мядзведзь гляне — народ вяне, баіцца.
Да каго будзіш, наша Валечка, туліцца.

### 341

Што-то за варона
Стаіць ля парога?
Крылы расставіла,
Рота разявіла,
Хоча паляцеці,
Ды ля Марусі сесці.

### 342

Ой, сватоўе-паноўе,
Чаму з намі не гукаеце,
Ці вы нас не знаеце?
Ці не знаеце майго татачкі?
А ў майго татачкі
Двор абтынёны,
Варотцы кляновыя,
Шулейка дубовае.

343

Узышоў месяц з высот высока, з высот высока.
Наехала сватоўя здалёк далёка, здалёк далёка.
Па хаце ходзяць, з намі не гавораць, з намі не гавораць.
— Сваточкі нашы, гаварыце з намі, гаварыце з намі.
Гаварыце з намі, па што прысланы, па што прысланы?
— Мы прысланы па тую кветку, па тую кветку.
Па тую кветку, што жне жыта ўлетку, што жне жыта ўлетку.

344

— Зяцю, зяцю, небывалы госцік,
Ці ты прыехаў да нас у госці,
Ці па той цвяток, што ў садзе расце,
Ці па маю дачку, што ў мяне красуе?
— Я такі цвяток у сваём садзе маю,
Такой паненкі ва ўсём свеце не знаю.
— Каб я знала, каб я ведала, што ты зяцем будзеш,
Выслала б двор ды ўсё дыванамі,
Выслала б сталы ды ўсё дукатамі.

345

Мы к вам да не так прыйшлі,
Мы к вам да прыехалі
Па чырвоную кветку,
Да што бачылі ўлетку
У свата ў агародзе.
Як сонца — дык звяне,
Як дожджык — дык адкрэпіць.
Мы ж яе не шчыпалі,
Мы ж яе гадавалі,
А цяпер сашчыкнём,
Да й з сабою павязём.

346

А мы былі ўлетку, **
Пасадзілі там кветку.
А мы ж яе паязджаем
Да хочам яе сарваць.
А яна расцвітае,
Да як зімой сонца сіяе.

347

Па што, сваты,
Па што, сваты, ды вы прыехалі:
Ці па боб, ці па гарох?
Ці па боб,
Ці па боб, ці па гарох,
Ці па тую сачавіцу?
Ці па тую,
Ці па тую сачавіцу,
Ці па нашу сястрыцу?
Ці па нашу,
Ці па нашу сястрыцу?
Боб-гарох не малочан,
Боб-гарох.
Боб-гарох не малочан,
Сачавіца ў капах стаіць.
Сачавіца.
Сачавіца ў капах стаіць,
А сястрыца ў слязах сядзіць.
А сястрыца,
А сястрыца ў слязах сядзіць.
Боб-гарох памалоцім,
Сачавіцу развалочым,
Сачавіцу,
Сачавіцу развалочым,
А сястрыцу к сабе возьмем.

348

Сваточкі-паночкі,
Па што вы прыехалі:
Ці па гарох, ці па чачавіцу,
Ці па нашу маладзіцу?
Наш гарох пакошаны,
Чачавіца ў копах ляжыць,
Маруська ў ганачку стаіць,
Слёзачкі пралівае,
Родную мамачку ўспамінае.
— Мамачка, мая родная,
Як ты мяне гадавала,
Рана замуж аддавала.
Не ўспела я пахадзіці,
Не ўспела я пагуляці.

Усе дзевачкі, усе ходзяць,
Усе дзевачкі гуляюць,
А мне, маладзенькай,
Няма калі пагуляці,
Трэба дзеткі гадаваці.

### 349

Чаго, сваткі, прыехалі:
Ці па гарох, ці па чачавіцу,
Ці па старую бабу,
Ці па маладую дзявіцу?
У нас гарох не малочаны,
У нас чачавіца не калочана.
Калі са сваткамі не зладзім,
Старую бабу пасадзім.
Старую бабу ў каптуры,
А ты, сватка, не дуры,
Пастаў каня ля мяжы,
Сам па грошы пабяжы.
Пастаў каня з вазком,
Давай грошы з мяшком.

### 350

Да прыехалі сваткі.
Іх каням па тры гадкі,
Ім самім да па чатыры.
Сванечка-сямілетачка
Сядзіць за сталом, як кветачка.
— А сваточкі-паночкі,
Павошта прыехалі?
Ці па гарох, ці па сачавіцу,
Ці па красную дзевачку?
— Мы ні па гарох, ні па сачавіцу,
Да па красную дзевачку.
— Наш гарох не малочаны,
Сачавіца ў капах стаіць,
А дзевачка ў стужках сядзіць.
— Мы гарох памалоцімо,
Сачавіцу ў гумно звязём,
А дзевачку к сабе вазьмём.

351

Да не павук павуцінне ўе, *
Да дзяцінка да й у хату ідзе.
Да боцікі да зарыпелі,
А шубачка да зашамрэла,
А шабелька зазвінела,
А шапачка схіснулася,
А дзевачка ўлякнулася.
Не ўлякайся, дзевачка,
Гэта ўсё бо патрэбнае:
Боцікі для танчыкаў,
А шубачка для гонару,
А шабелька для абарону,
А шапачка да для паклону.

352

Сумежна поле, сумежна,
Яго межы залатыя.
А маніўся мой міленькі
Сокалам у поле ляцець,
Селезнем у моры плысці,
Панічом у хату зайсці.
— А цесцік, мой татухна,
А дзе твая дзетухна?
— Мая дачка ў сад пайшла,
А ў саду схавалася,
Каб табе не асталася.
— А я ў зелен сад пайду
І тваю дачку знайду,
І свячою высвечу,
І на коніку вывезу.

353

Іграла сонейка, іграла,
Да нямножка іграла,
У хмарачку схавалася,
Дожджыка збаялася.
Гуляла дзевачка, гуляла,
Да нямножка гуляла,
У каморку схавалася,

Молайца збаялася.
— Хавайся-не хавайся,
Я цябе ў садзе найду,
У саду найду, за ручачку выведу,
За ручачку выведу,
Парма коньмі вывезу.

354

Як уз'ехаў я на цесцеў двор,
Тут вароты адкрыты,
Віна наліта.
Тут двор у цвяточку,
Тут і нявеста ў вяночку.

355

Як прыехалі [illegible] дворыку — двор заззяў,
А ўехалі ў двор — конь заржаў.
Цясовыя столікі засланы,
Дарагія госцікі сазваны,
Залатыя кубачкі наліты,
Да без цябе, Ванечка, не піты.
Як учула дзяўчыначка — злякнулася.
У каморачку замкнулася.
Галечка, не лякайся,
У каморачку не замыкайся,
У каморачку не замыкайся,
А [illegible] намі ў дарогу сабірайся.

356

Наехалі любыя госці на дварэ,
Замкнулася Мар'ечка ў цераме.
Прыйшла да яе матулька яе старэнька:
— Адамкніся, мая дачушка маладзенька.
Я намерыла тыя дарочкі, каб аддаці,
А ў Іванькі такія мыселькі, каб узяці.

357

Ой, дзе ж наша та й дзеванька тут у вас, тут у вас?
Пакажыце, не таіце, яна ў вас, яна ў вас.
Чы ў полі за валамі,

Чы ў лесе за грыбамі, чы ў баб за плячамі?
Як у лесе, то судосіце,
Як у полі, то пераймiце,
А як у баб за плячамі, то пакажыце.

358

Не запаляй, дружка, лучыны,
Бо не найдзеш дзяўчыны.
Запалі, дружка, свечку
Та шукай па запечку.

359

Дай жа нам каліны,
Штоб мы яе палівалі,
А голубы дай ababpaлi.
Дай жа нам дзеванькі,
Штоб мы яе гадавалі,
На чужыне да й пакідалі.
Да й без роду, без радзіны, 2
Без роднае маманькі.

360

А мы ехалі, ехалі *
Чэраз дзевяць гарадоў,
У дзесятым горадзе
Мы найшлі дзеўку красную.
На ёй шуба новая,
Падпаяска пярловая,
У касе лента шаўковая,
Па плячам каса разложана,
Па канцам касы серабра,
А ў срадзі ў касы золата.

361

Нядоля, мой брацетка, нядоля,
Адстаялі ўсе ранне на дварэ,
Пабілі коні сцены касцяны званочкам,
Пакуль вывялі нашу Хаўруську з вяночкам.

## 362

— Ці я табе не казала, мой братка, *
Не йдзі ў хату ў беспарадку.
Пастой на дварэ гадзіну,
Выведуць табе чалядзіну.
Пастой на дварэ другую,
Выведуць табе маладую.

## 363

— Дзе ты, Ванечка, забарыўся,
Ці ты ў лазенцы парыўся?
Да ці да абеда лапці плёў,
А пасля абеда абуваўся,
К позняй вячэры сабраўся.
— Не дораг мне твой абед,
А дарага вячэра,
З кім мая Любачка сядзела,
Каму яна праўдачку казала?
— Сядзела Любачка з Сашачкам,
Яму праўдачку казала.

## 364

Цесцюхна на зяця сварыўся.
— Чаго, чаго да, зяцю, спазніўся?
— Спазніўся, цесцюхна, спазніўся,
Позненька за столік садзіўся.
Спазніўся, цесцюхна, спазніўся,
А што ў мяне маманька старая, 2
А што ў мяне сястрыца малая, 2
Пакуль маю радзіначку сабрала,
А ўжо ж цёмная ночанька настала, 2
Светавая зорачка заззяла.

## 365

Грузліва дарога, грузліва, *
Вараны конічак падбіўся, 2
Іванька да цешчы спазніўся. 2
Да яго цёшчухна грозненька, 2
Не пусця на двор позненька.

Вумнае дзіцятка Іванька,
У дарогу ехаў — каня гнаў,
К варотам прыехаў — каня ўняў,
А здароўейка папытаў:
— Ці жыва-здарова, цешча мая,
Ці вяліка вырасла Ганначка мая?
Да яму цёшчухна ні слоўца,
Перад ім Ганначка як сонца.

366

Не пазніся, Сашанька, позненька, *
Твая цешча грозненька,
Замкнець вароты ў тры замкі,
А ў тры замочкі нутраных,
А ў тры ключочкі залатых.
Схапіў Сашанька востры меч,
Як цяў па замках — замкі прэч,
А ўсе тры замкі нутраных,
А ўсе тры ключы залатых.
На двор уз'ехаў — двор заззяў,
А ў сенкі ўвайшоў — шапку зняў.
— А здраствуй, здраствуй, цёшчанька,
Ці дома мая Танечка?
— Ай, дома, дома, Сашанька,
У новай каморы гуляець,
Цябе, малайца, дажыдаець.

367

— Не лякайся, цесцю,
Што твой зяць едзе,
Небагата баяр вязе —
Асьмёра-дзевяцера,
Да і ўсіх дзесяцера.
Не гневайся, цесцю,
Што зяць спазніўся.
— Да не быў жа я дома.
Быў жа я ў Прылуцы,
У караля ў навуцы.
Вучыў мяне каралесенька,
Штоб не ехаў ранесенька.

Хоць прыедзем позна,
То сваё возьмем,
Да ці рана, ці позна,
А сваё возьмем.

### 368

Ідзе Іван чэраз тры сялы,
Чэраз тры сялы, чэраз чатыры,
На пятым сяле ў цешчы на дварэ,
У цешчы на дварэ, з цешчаю гаворыць:
— Ой, зяцю, зяцю, дзе ты забавіўся?
Ужо я для цябе прыгатовілася,
Бочку мядочку салодзенькага
Для цябе, зяцю, малодзенькага.

### 369

Гудліва дарога настала,
Варанога каня стаміла,
Маладога Ванечку спазніла,
На яго Дунечка гнеўна была.
— Ты не гневайся, Дунечка,
Што я, моладзец, спазніўся:
Пакуль у банюшкі памыўся,
Усёй радне пакланіўся,
Меньшай сястрыцы забыўся,
Паўдарожанькі вараціўся:
Меньшай сястрыцы пакланіўся,
Тым я, моладзец, спазніўся!

### 370

— Спазніўся, зяцёчак, спазніўся.
— Спазніўся, цешчухна, спазніўся,
Толькі ў банюшкі памыўся.
Бяленек, цешчухна, бяленек,
Тваяму дзіцяці міленек.
Яшчо памыюсь, пабялею,
Твайму дзіцяці памілею.

## 371

— Чаго ты, міленькі, спазніўся, *
На сваю Ніначку забыўся?
— Не забыў, Ніначка, не забыў.
Пакуль я рэчачку пераплыў,
Перавозьнічку заплаціў:
«Перавознічак, галубок,
Перавязі мяне на той бок».

## 372

Цёмна ночанька, цёмна,
Грудліва дарожка, грудліва,
Маладога Лёнечку спазніла.
Не дарожанька яго спазніла,
Спазніла ж яго радзіна,
Пакуль радзіне пакланіўся,
Роднаму татачку забыўся.
С паўдарожанькі вярнуўся,
Я свайму татку кланяўся,
А казловы боты панасіў, 2
Пакуль татаньку ўпрасіў.
Лісеву шубачку папарваў, 2
Пакуль бацэньку ўяднаў.
Кланяюся, татанька, я табе. 2

## 373

— Зяценька-баценька, дзе ты бавіўся?
— Цёшчанька-маманька, пакуль справіўся,
То сыціў, то мядзіў, то ў клецъ хадзіў.
— Хто ж табе, Мікалайка, красачку ўшпіліў?
— Ушпіліла красачку родная сястрыца.
— Хто ж табе, Мікалайка, коніка асядлаў?
— Асядлаў коніка родны братачка.

## 374

Чаго, сваты, забарыліся?
Ці па бару валачыліся, 2
Ці ў саломе начавалі? 2
Мышы вушы пааб'ядалі 2
Да і саломаю пазатыкалі.

375

— Дзе вы, свахі, завурыліся,
Што к нам спазніліся?
Ці ў жлукце кіпелі,
Што к нам не паспелі?
Ці ў рэчцы купаліся,
Што к нам не папаліся?

376

— Дзе ж вы, сваты,
Дзе ж вы, сваты, валачыліся,
Па калені памачыліся?
Ай, ці сена касілі,
Ай, ці хлеба прасілі?
— А дзе жыць будзем,
— А дзе ж будзем начаваць,
Да будзем сена купляці.
Ой, за сена жменьку
Дадзім жа капейку.

377

Дзе вы, свахі, валачыліся, 2
Што па пояс памачыліся?
Ці ў лесе па карэннейку, 2
Ці ў полі па каменнейку, 2
Ці вы лапці барсалі, 2
Што к нам запаздалі?

378

Дзе ты, сватка, спазніўся,
Хіба твой конік стаміўся?
Ехаў сватка па балоце, 2
На купіне абуваўся,
На маладых дзевак прыглядаўся.

379

Сваточкі лянівыя, *
Чаго ж вы спазніліся,
Чаго ж вы спазніліся,

Ці ехаць не маніліся,
Ці калёс не мелі,
Ці ехаць не хацелі,
Ці за гарой стаялі,
Ці коні падымалі?

### 380

Апаздалі, сваты, апаздалі,
Па сялу ўздушак сабіралі.
Апаздалі, сваты, апаздалі,
Па сялу конікаў сабіралі.
Апаздалі, сваты, апаздалі,
Па сялу сядзёлак сабіралі.
Апаздалі, сваты, апаздалі,
Па сялу свашанак сабіралі.

### 381

Ці ты, сваце, п'яны,
Ці ты апантаны,
Ці ты з розуму сыйшоў,
Скуль ты гэтакі прыйшоў?
Дзе ты валачыўся,
Што ты гэтак упіўся?
Ці ў гарохах, ці ў пшаніцах,
Ці ў харошых маладзіцах?

### 382

Дзе ж вы, сваты, спазніліся?
Ці не ў бары астанавіліся,
Ці не кабыла ажарабілася?
Старша сваці бабай была,
Младша сваці кумой была,
Жарабяці мене дала.

### 383

За гарой сваты гаманілі, гаманілі,
Сівую кабылу паваліл, паваліл.
Кабыла зарзала, зарзала,
Сватам вочы заплявала, заплявала.

384

Дуракі мужыкі крутаўскія,
Улезшы ў хату, богу моляцца,
Богу моляцца, стаўбу клоняцца.
Яны думаюць — на стаўбу ў нас поп з храстом,
Ажно ў нас на стаўбу шэры кот з хвастом.

385

Глумны сваты, глумны,
Заехалі ў гумны,
Бараны бароняцца,
Сваты богу моляцца.
Мятцы зазвучалі,
Свінню замячалі.

386

Дурны сваты, дурны,
Заехалі ў гумны,
А ў хлеў заблудзілі,
Свінню заручылі.
Яны думалі дзеўка,
Ажно свіння-белка.

387

Ой, сватове-панове,
Да чаго спазніліся?
Ці сабак бараніліся?
Ці двара не ведалі,
Што ў хлеў заехалі?
Да быку руку далі,
Да свінню прывіталі,
Да каза залілася,
Пад плот паваліласяя.

388

Сваты хаты да й не ведалі, *
Да ў хлеў заехалі.
Бычку ручку далі,
А кароўцы шапку знялі,

А з цялушкай прывіталіся,
А авечачцы пакланіліся.
Свіння тут падзівілася,
Са смеху пакацілася.
Адзін сват пытае:
— А дзе ж ваша маладая?
А жывёлы засмяяліся:
— Не туды сваты папаліся.
На дварэ стаіць святліца,
Там жыве красная дзявіца.
Сватам сорам стала —
Заручыны йдуць нядбала.

389

Прыехалі сваты да не зная куды,
Ды ў хлеў завіталі, у цялушкі пыталі,
А з казой вітаюцца, аб здароўі пытаюцца.
Свіння ў казы пытаецца, чаго сваты вітаюцца.
Каза свінні пахвалілася, свіння з смеху павалілася.

390

Дурны сваты, дурны, *
За хлеў заблудзілі.
За хлеў заблудзілі,
Свінней паўзбудзілі,
Коней напужалі,
А коні заржалі.
Кароўкі-муроўкі
Свадзебку ўзналі.

391

Прыехалі сваты з Літвы,
Пачапіўшыся па тры.
Па тры, па тры, па чатыры,
Ці не чэрці пачапілі?
А да свінні прывіталіся,
А з цялушкай абымаліся.

392

Сванечка не ведала,
Да хлявоў заехала,
З казлом павіталася,
З баранам цалавалася.
Не табе, сванька, дзеўкі ўпіваці,
А табе, сваньку, за печ з катамі мардаваці.

393

Сваты хаты да не ведалі, 2
У хлеў да заехалі,
Да са свіннямі павіталіся
Да эдароўя папыталіся.
Да не быць вам сватамі, 2
Быць вам свінапасамі.
На свінні да пугі віці,
Не з нас маладых кпіці.

394

Дурні сваты, дурні,
Пазаехалі ў гумны.
Асеці абнімалі,
Свінню цалавалі.
Яны думалі паняты,
Ажно парасяты.
Яны думалі паненка,
Ажно свіння-немка.

395

Вашы сваты дурні,
Заехалі ў гумны,
Асеці прывіталі,
Шулы абнімалі,
Думалі, што княгіня,
Аж свіння ў мякіне,
Думалі, што дзеўка з рабятамі,
Ажно свіння з парасятамі.

396

Белы свет, белы.
— Да ці лебедзя стрэлі,
Ці на моры бяліліся,
Што к нам спазніліся?
— Да казалі, сяло недалека,
Ажно чатыры мілі.
Едучы, мы конікі патамілі
І з дарогі зблудзілі.

397

Да, сватове-панове,
Чаго ж вы спазніліся?
Ці вы ж нас забыліся,
Ці вы дарогі не зналі,
Ці вашы коні прысталі?

398

Ой, сватове, сватове,
Дый чаго спазніліся?
Ці па бару валачыліся,
Ці караўкі збіралі,
Ці кажухі латалі
Ды маладога прыбіралі?

399

Дзе, баяры, забарыліся:
Чы на моры патапіліся,
Чы на мосту сталі,
Чы на воўка брахалі?

400

Як узыйшоў ясны месячык,
Тады зорачкі ўсе ўзыйшлі
Раннія і позния,

Малыя і вялікія.
Як прыехаў малойчык,
Тады дзевачкі ўсе прыйшлі:
Блізкія і далёкія,
Малыя і вялікія.

### 401

Сядзьце, сядзьце, маршалачкі, у нас.
Ці з добрым маладым
Вы прыехалі да нас?
Калі з добрым —
Дадзім вам мёду і гарэлкі,
Калі з п'яніцай —
Не аддадзім нашай паненкі.

### 402

Не відаць соўнушка запаморскага,
Толькі знаць па кружочку.
Не відаць Мар'юшкі за баяркамі,
Толькі знаць па вяночку.
А на ей вяночак, як жар гарыць,
А на ей платочак, як мак цвіцець.
Жар гарыць — разгараецца,
Мак цвіцець — расцвітаецца.
Хоць едзь, не едзь, Сцяфанька,
Табе Мар'юшку не 'ддадзём,
Болі заганы зададзём;
Першая загана — п'яніца...

### 403

А чаго ж ты, Ванечка, прыехаў?
Мы табе Ганначкі не дадзім.
Мы табе ганьбачкі тры дадзім:
Першая ганьбачка — сам стары,
Другая ганьбачка — конь чужы,
Трэцяя ганьбачка — п'яніца.
У цэркаўцы не бывае,
А карчомкі не мінае.

У карчомцы мёд-віно п'е,
Шклянкі паб'е.
Прыйдзе дамоў — цябе маладу паб'е,
А ты, маладая, заплачыш,
І за шкляначкі заплаціш.

### 404

Да напрасна Іванька конікі перагнаў, **
Напрасна дружынку стурбаваў,
Да мы за цябе Марыльку не аддадзім,
Да не гэткія панічы кахалі,
За гэткага нехарошага аддалі.
Да не гэткія панічы любілі,
Да за гэткага п'янчужачку ўбілі.

### 405

Там, па загор'ю сінія краскі цвіцелі, *
А за сталом мілыя госці паселі.
Ешце-піце, мілыя сваты, ды — дамоў,
Раздумаліся, сваёй Паўлінкі не дадзём.
Расплакаўся-разрыгаўся Міхаська,
Што дарэмна сівыя коні перагнаў,
Што дарэмна ўсю радзінку стурбаваў.

### 406

Да паехала ж Літва,
Цяпер будзе ў нас бітва.
Будуць біці, да ваяваці,
Да Валечку да забіраці.
Будзем біці да ваяваці,
Да Валечку не даваці.

### 407

Не ўгадала молада Гапка,
Адкуль Літва наехала.
На мой двор на мяцёны,
На мой род на вясёлы.
Яны мой двор засмяцілі,
Яны мой род засмуцілі.

## ДРУЖЫНА МАЛАДОГА ВЫКУПЛЯЕ МАЛАДУЮ Ў ДЗЯЎЧАТ І ЯЕ РОДУ

### 408

Ой, мы браму ламалі 2
Й дарожку тапталі,
І чырвонцы насілі, 2
Сабе места прасілі:
Дайце нам да па заслонцу, 2
То мы дамо па чырвонцу.
Дайце нам да па другому, 3
То мы дамо па залатому.

### 409

Не баімся дружкі,
Не баімся твае пужкі.
Твая пужка — мяшалка,
Гаспадыня свінням мяшала,
Пад лаўку паклала.
Не быць табе дружком,
А быць табе свінапасам.
Вазьмі, дружка, пужку
Да й гані свінней ў лужку.

### 410

Не страшы ж мяне, сваце, не страшы
Сваею да нагайкаю.
Твая нагайка пад лаўкаю ляжала,
Свінням мякіну мяшала.

### 411

Не ляскай, дружку, канчуком,
Лясні, дружку, галавою 2
Ды над нашаю маладою.
Ой, наша сцяна касцяна,
Свату галаву расцяла.

**412**

Гэй, старшы сват [1],
Будзем цябе пытаці,
Гэй, старшы сват,
Чым нас будзеш вітаці?
Гэй, старшы сват,
Ды й ці півам, ці віном?
Гэй, старшы сват,
Ці золатам, серабром?
Гэй, старшы сват.

**413**

Гэй, старшы сват,
Да мы цябе не знаем,
Гэй, старшы сват. [2]
Цяпер хочам пазнаці.
Не крыўляй шапку на бачок,
Пастаў шапку просценька,
Мы золата насыпем.
Табе золата згадзіцца:
Будзеш сынкоў жаніці,
Дачок замуж аддаваць.
Сынкоў жаніць балазе,
А дачушак у ці мне.
Сынкі клетку напоўняць,
А дачушкі спарожняць.

**414**

Наш дружка харошы,
Хоча ён нас пазнаці, 2
Каб нявесту ўзяці.

**415**

Не стой, сват, у парозе,
Як пень пры дарозе,
А ступай, сват, шырэй

---

[1] Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.
[2] Рэфрэн «Гэй, старшы сват» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

Ды да стола бліжэй.
Будзем гарэлку піць
І будзем гаварыць,
Як маладую выкупіць.

416

На небе хмурно,
А пад парогам кально,
У сенях балота,
А за сталом золата.
А як жа нам дасупіці
Золата выкупіці?

417

Ой, князю, князю Іванку,
Да ці ты ў Слуцку не бываў,
Не бываў,
Залатых кубачкаў не відаў?
Вазьмі кубачак у рукі, 2
Папытай Ленку ў дружкі.

418

Не сядзі, жанішок, не сядзі,
Да ідзі па садочку пахадзі,
Да назбірай вішняў у кішэню,
Дай цешчыцы са жменю.
Яна твае вішанькі пакаштуе,
Яна табе дочаньку даруе.

419

Да й учора Іванка пешкам быў.
А сягоння раненька прыехаў,
Прывёз гасцінцаў-арэхаў,
Да ты сядзі, ці не сядзі, Іванка,
Вымай арэшкі з кішэні,
Не давай дружачкам па жмені.
То дружочкі арэшкі пабяруць,
Яны табе Надзечку аддадуць.

420

Да прыехаў Мішачка, прыехаў,
Да прывёз жа ён кішэньку арэхаў.
Сяму-таму па арэшку прадае.
А сваёй Танечцы так дае.
— Наце вам, дзевачкі, арэхаў,
Я па сваю Танечку прыехаў.
А дзевачкі арэхаў не бяруць
І свае Танечкі не аддаюць.

421

Чаго ж вы доўга, сваточкі, стаіце,
За нашу сястру па капейцы даіце.
Нашай сястры падарачак да долу,
Едзьце, сваты, з капейкамі дадому.

422

Ідзіце, сваткове, да Шарашова,
Бо ў Шарашове дзеўкі дзяшовы:
За тры капейкі — чатыры дзеўкі,
За коўшык грэчкі — чатыры дзявечкі.
А ў Антопалі дзеўкі на кулі,
А ў Кісялёўцах па сто чырвонцаў,
А ў нашых Болатах па рублёў сорак.

423

З ранку дружкі дарагі былі,
А пад вечар адпалі.
Сем за цыбульку дасталі.

424

Хоць ты, дружка, вышы нас,
Паклонішся ніжа нас.
Не ломся, дружка, не ломся,
Паніжы нам паклонься.

425

Наша нявеста дорага стоіць —
Сто рубель — то ступень,
Адна каса — сто рублей.

*Адказ:*

Курачка ваша — гняздзечка наша,
Гняздзечка вы купіце.

426

Ой, хочам мы, хочам **
Ад пана маладога,
Ад пана маладога,
Паўтара залатога.
За нашу паненачку
Золата талерачку.

427

Як бываў Пятрочак, дак не бываў, 2
Ён сваёй Евачцы не дзенькаваў. 2
Вярніся, Пятрочак, падзянькуй, 2
Залатога чырвонца падаруй.
А наша Евачка не ўдава,
А кладзі, Петрык, хоць і два.

428

Не хадзі, сватка, не хадзі,
Сараковачку палажы.
Сараковачку залатую
Да за дзеваньку маладую.

429

Да наш дзядзя харошы,
Кладзе на талеркі поўна грошай.
Да наш дзядзя крулёў зяць,
Кладзе на талерку рублёў пяць.

Да наш дзядзя крулёў сын,
Кладзе на талерку рублёў сем.
Да наш дзядзя крулёў дзевяр,
Кладзе на талерку рублёў дзесяць.
Дзядзя кішэню выварачвае,
Залатое зерне выймае
Да сваіх дружак перапівае.

430

Не тупай, сваток, не тупай *,
Па калена землю вытапчаш,
Пакуль паненку выкупіш.
Не гніся, сваток, не гніся,
Кладзі чырвонца на міся.
Наша Маруська не ўдава,
Кладзі чырвонца, хоць і два,
Кладзі чырвонцы трыццаць два,
Ваш Віцечка не ўдавец,
Кладзі чырвонцаў хоць і шэсць.

431

Не гніся, дружка, не гніся,
Вот табе лавачка — садзіся,
Вот табе ложачка — карміся.
Вот табе скорачка — падавіся,
Да наша серабро сып на стол,
А сам выхадзі на прастор.

432

Не гніся, дружка, не гніся,
Кладзі чырвонца на місе.
Наша Тацянка не ўдава,
Кладзі чырвонца хоць една.
Не на гэта ж мы расцілі,
Каб за гэта пусцілі.
Не на гэта ж мы гадавалі,
Каб за гэта аддавалі.
Расцілі яе, як сонца,
Возьмем за яе тысёнца.

433

Не гніся, дружка, не гніся,
Выкуп месцечка, садзіся.
Не паложыш, дружка, залатога,
Не пусцім за стол маладога.
Не паложыш на стол чырванцоў,
Не пасадзіш за стол малайцоў.
На нашым стале чатыры вуглы,
Кладзі, дружка, чатыры рублі.
Мы ж цябе ў сорам увядзём,
Узяўшы за хахол вон павядзём.

434

Не стой за плячыма,
Не лупай вачыма.
Стаў кварту гарэлкі,
Да й пусцім да дзеўкі.

435

Не дасцё вы нам залатога,
Не пусцім за стол маладога.
Пасадзім яго пад сталом,
Аблієм яго кісялём,
Вытрым яго памялом.
Дадзім заслонку глядзецца,
Увесь народ смяецца.

436

Не жміся, дружка, не жміся,
А не поўна чара, не поўна,
Падсыпце ў чашу серабра,
А штоб нашым дзевушкам
Чэсць і хвала.

437

Да не стой, сваткa, тута, 2
Бо дадзім табе прута,
Да стань у куточку,
Бо знімем сарочку.

438

Дзе ты, сваце, забавіўся,
Ці ты дома грошы забыўся?
Пастаў конікі на мяжу,
Сам дадому па грошы пабяжы.
На мяжы конікі не стаяць,
Дома дзеньгі не ляжаць.
І век цябе, маё дзіцятка,
Дома не дзяржаць.

439

Гэй, старшы сват,
Ты не ўмееш людзеці [1],
Гэй, старшы сват,
Было ў хаце сядзеці,
Гэй, старшы сват,
Чорнай сажай смярдзеці,
Гэй, старшы сват.

440

— Ідзі, дружка, дадому
Мяшаці свінням палову.
— Ой, не пайду дахаты,
Бо нашы сваты багаты,
Павінны дружку скупляці
І чырвончыкі выкідаці.

441

Дружачкі, не даражыце,
Дорага не кажыце,
Бо нам дарога вялікая,
Трэба сані пакупіці,
Конікі пакарміці.
— Чаго ж, дзевачка, сахмурнела,

[1] Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Мо твая галованька балела?
— Балела галованька цэлы дзень,
Не бачыла хлапчыну ўвесь тыдзень.

442

Як дзеўку ў нас браў, хваліўся,
А цяпер дык на нас забыўся.
Як дзеўку ў нас браў, дык пірагі пёк,
А цяпер ты ад нас з хаты ўцёк.

443

Казалі, намётку купілі,
Аж яны ёлачку злупілі.
Падпіразалі — парваўся,
Дружок совесці набраўся.

444

Казалі нам людзі,
Што сваты багатыя,
Аж яны скупаватыя.
Па шляху хадзілі,
Старцаў вадзілі
Да капейкі збіралі,
Дружак даравалі.
Не гніся, дружа, не гніся,
Па чырвонаму складзіся.

445

— Гаварылі, сваты багаты,
Да чорта яны багаты,
На дарозе старца разбілі,
Тым яны падружак дарылі.
— Брашыце, сучкі, брашыце,
Са стала вон выхадзіце.

446

Хваліліся нашы сваты, што багаты,
Аж яны скупаватыя.
Пры шляху стаялі,
Разбілі вазніцу, 2
Ўзялі шаляжыцу.

447

Галыш, сватка, галыш.
Па гарэ козы ганяе,
Да па шэлягу збірае,
Нашу маладую выкупляе.

448

Верабей сваток, верабей,
Па шуметнічках паскакаў,
Усе капеечкі паэбіраў
І дзевачкам аддаваў.

449

Казалі, што сваты багаты,
Ажну сваты галышы,
Не маюць грошы пры душы.
Па шуметнічку хадзілі,
У шуметнічку капалі,
Капеечак шукалі,
За маладую грошы паклалі.

450

Наш сват па вуліцы ходзіць,
У застаў кажух носіць,
Па грошу збірае,
Маладую выкупляе.

451

Казалі, сваты багаты,
Ажно сваты худакі.
Да па ельнічку ездзілі,
Па венічку вязалі,
У нашым сяле прадавалі,
Маладу дзевачку выкуплялі.
Самі яны пяшком ішлі,
Маладую ў мяшку няслі.

452

Зусім, зусім наш Андрушка абяднеў,
Ён пры сабе чаркі барыша не мае,
Толькі ў людзей напавер займае.
Яго сусед араці, сеяці стараўся,
У Андрушкі гарод папарам астаўся.
Яго сусед араў і сеяў у полі,
А наш Андрушка ляжыць у аборы.
Толькі засеяў адзін загончык палыном,
Цяжка будзе жыць табе, дзевачка, з гультаём.

453

Казалі, сваты багаты, *
На шасцёрачка прыедзем.
Самі пяшком папрыйшлі,
Жаніха ў мяшку прынясл
Паджанішніка ў торбачцы.
Вецер па полю пасвістаў,
Дружка жанішка паабыскаў.

454

Думалі, сваты едуць, *
Ажна яны пяшком ідуць,
Маладога ў мяшку нясуць.
Хто ідзець, пытаецца,
Што ў мяшку балтаецца.
Думалі, каты урчаць,
Аж маладога ногі тырчаць.

Баяцца мяшка адкрыць,
Нечага ў людзі пусціць,
Як мяшок развязалі,
Усіх людзей напужалі.

### 455

А баяры пяшком ішлі,
Маладога ў мяшку няслі,
І ногі тырчалі,
І сабакі брахалі,
За мяшок хваталіся
Да латуны парваліся,
Да ўсю ноч не спалі,
Да латуны латалі, 2
На вяселле хваталіся.

### 456

Мы думалі, што сваты багатыя,
Ажно яны ўбогія,
А іх коні бязногія.
Яны самі пяшком ішлі,
Маладога ў мяшку няслі,
Ногі тарчалі,
Сабакі варчалі.
Вы, ногі, не тырчыце,
Вы, сабакі, не варчыце.

### 457

Сорам, маршалкі, сорам,
Сорам, маршалкі, сорам, да й мы кажам сорам.
Дай старыя кажуць сорам, да й малыя кажуць сорам,
Да й прыляцеў воран, да й той кажа сорам.

### 458

А ў свата, свата кароткая ножка,
Прынясіце сошку падперць свату ножку,
Падайце другую, каб падперць і тую,
Каб крэпенька стаў, нам гарэлкі даў.

459

Да ў нашага дружка
Шалудзівая рука.
Да з кішэні не выймае,
Да нас, дружак, не вітае.
Да мы дружкі-хвастушкі,
Да нам трэба на стужкі.

460

А ў нашага дружка
І ўпрам шалудзіва галава,
Паршывая барада.
Падружаньку ён прадаў
І нічога сам не даў.
Да падзі ж ты, шалудзіва галава,
Паршывая барада.

461

Ды казалі, дружка вельмі харош,
Сабачая морда, воўчы нос,
Ухапіў свінку ды і панёс.
Ухапіў свінку за спінку,
А сіву кабылку за грыўку.
Не еш, дружка, грушак
Ды палічы колькі дружак
Ад паліцы да паліцы,
Ад покуцця да да запечка,
Падлятае твая шапачка.

462

Сват кішэню верне,
Знайшоў ячнае зерне,
Палажыў на талерцы,
Плача па гарэлцы.
Не так па гарэлцы,
Як па краснай дзеўцы.
— Я на сее да не дзіўлюсь,
Ад свата адвярнусь.

І к свату плячыма,
На хату вачыма.
— Чы не сорам табе, стары сват,
Што твая княгіня сядзіць так?
— Я не панска дзяціна,
Што капейкі лічыла —
Я такі, як і вы, людзі, —
Паўзалатога будзе.

**463**

Не гніся, сватка, не гніся,
Ды з нас, дружачак, не смейся,
Бо мы, дружачкі, сярдзіты,
Будзеце ў нас біты.

**464**

Сватка, сватка,
Дзе твая гарэлка?
Нехарашо глядзець,
Пустая талерка.

**465**

Не пасовай талеркаю,
Не адбывай гарэлкаю,
Да сунь руку ў кішэню,
Да вынімай грошай жменю.

**466**

Скупы перапойніку,
Перапіў большую дружку
Чарачкай арэхаваю,
Да і тэю да не поўнаю.
Азьмі яе да й далі яе. 2

**467**

Гэта ж не серабро — медзь,
Садзісь на свінню — дамоў едзь.
Да бяры свінню за рабро,
Да выкідай нам серабро.

### 468

Ой табе, сваце, медзь, медзь,
Сядзь на качарзе, едзь, едзь,
Ды за гэтыя грошы
Купіш жонцы венік харошы.

### 469

Не кпі, сваце, не кпі,
Пайдзі да венік купі.
За твае, сваце, грошы
Будзе венік харошы.
Будзе сваха печ вымятаці,
Будзе свата сухваляці.

### 470

Ты, сватка, харошы,
Забірай свае грошы
Да ідзі ў крамніцу,
Купі жонцы спадніцу.

### 471

Вазьмі сабе гэта,
А купі мыла
Да падмый рыла,
Каб жонка любіла.
Да жонка любіла,
А дзеці не знали,
Цябе бацькам не звалі.
Вазьмі сабе гэта,
Купі каню сена
Да дай яму есці,
Каб быў дуж маладых везці.

### 472

Не кпі, сватка, не кпі,
Ды пайдзі солі купі
Свірэпіцу пасаліці,

Сваіх дзетак накарміці.
Яны ў цябе чорныя, пузатыя
І, як жабы, лупатыя.

473

Да прымі, сватка, грошы,
Купі жонцы світку,
Хай яна прыбярэцца,
Да на свадзьбу прывалачэцца.

474

А не можа дружочак
Ды каля стала стаяць,
З дружкамі размаўляць.
— Ідзі, дружочак, у лаўку
Ды купі сабе мыла,
Ды памый сваё рыла,
Каб жонка любіла,
Каб дзеці пазналі
Ды бацькам назвалі.

475

Неўмываты дружок.
Купі, дружок, мыла,
Абмый сваё рыла,
Штоб цябе жонка любіла,
Беленька ўмывала,
Салодка цалавала.

476

Я думала, дружка харошы, 2
А ён капыланосы,
Трэба яму канапель даці, 2
Каб умеў дружак выкупыляці.

477

Да не бруснічкам быць,
Не кабылкі лупіць.
Не шкурачкі вырабляць,
Не дружачак выкупляць.

478

Ай, сваце, мой сваце,
Шкода табе дружком быці,
Звіць табе лычную пугу
Выганяць свінней з лугу.

479

Не дружкава дзела
Дзеўку таргаваць,
А дружкава дзела
Варон выганяць.
Шугі, вароны,
З цесцявага агарода.

480

Не табе, сватка, не табе,
Да дружачкі выкупляці.
Да бяры пугу, ідзі каля луга,
З лугу козы выганяці,
Да каторы не ідзе,
Сватка за хвост вядзе,
Да каторы бяжыць,
Сватка за хвост дзяржыць.

481

Не дружава дзела, не дружава дзела
Ля столу стаяці, з баярамі размаўляці. 2
А дружкава дзела, а дружкава дзела —
Бяры пугу, ідзі к лугу
Свінней частаваці, з сарокамі размаўляці. 2
Сарокі ў бокі, сарокі ў бокі, вароны ў ладоні,
Свінні падзівіліся, са смеху паваліліся. 2

### 482

Не такому маладзенькаму дружком быць,
А такому маладзенькаму свінапасам быць.
Узяўшы пугу каля лугу, свінней заганяць.
А хто ў полі свішчыць —
Дружок свінней ішчыць,
Хто ў полі гамоніць —
Дружок свінней гоніць.

### 483

Не спасобен дружок
Ля стала стаяці,
Дружак частаваці.
Бяры пугу ды ідзі к лугу
Сабак заганяці,
Грошай зарабляці,
Дружак частаваці.

### 484

За печ, дружкі, за печ,
З катамі ваявацiся.
Не тут вам, не тут вам
З дружышчамі таргавацiся.

### 485

Адкуль гэта лапацьнікі панаехалі,
За нашай Зехай да сапожніцай?
Адкуль гэта мякіннікі панабраліся,
За нашай Зехай да пірожніцай?
Адкуль гэта трапатнікі панаехалі ,
За нашай Зехай рукадзельніцай?

### 486

Прыехалі сярмяжнікі
Да нашага аксаміту.
— А наш жа ты, аксаміце,
Не давайся на падмову.

487

Наехалі сваты, як вараняты,
Маладзенец, як пень гарэлы.
Падмаладзяны, як слуп мураваны,
А сваточкі, як галавешкі.
А наша гаспадынька,
Як пралесінка за сталом,
Баярачкі, як пабялянкі каля яе.

488

Відаць, ты, сватка, у гасцёх не бываў,
Усе капейкі пазбіраў.
Дзякуй, сватка, за грошы,
Каб табе выезд не харошы,
Каб табе колы паламала
Ды спіцамі вочы павымала.

489

Ой, казалі, бруснік харош: *
Па яблыку вочы, з гарбуз нос,
А чэрава — ледзьве ўнёс.
У нашага ж бруснічка
Залаценькая ручачка,
Ён з кішэні выймае,
Нас, дружак, вітае.
— Ой, вы, дружкі, хвастушкі,
Наце ж вам на стужкі.
— Мы дружкі невялічкі,
Дайце нам і на чаравічкі.

490

А сваценка талмачыў, талмачыў,
Каб жа свету не бачыў, не бачыў,
Каб жа й у двор не зайшоў, не зайшоў,
Каб сваю жонку не найшоў, не найшоў,
Каб цябе дзеці не зналі, не зналі,
Сем гадоў бацькам не звалі, не звалі.

491

Бадай таму свату
Тры леці хварэці,
Што ён ходзіць заручае
Усе чужыя дзеці...
Ён сваіх не мае —
Ён жалю не мае...

492

Дай бог табе, сватка,
Выезд харошы,
Каб ты не гнаўся
На маладой грошы.
Каб ты, сватка, дома
Жонкі не пазнаў,
Каб ты хоць адну ночку
У суседкі паначаваў.
Каб ты на вуліцы
Колы паламаў,
А на тыя спіцы
Ногі папрабіваў,
Калі ты нам мала, сватка,
Гарэлкі даў.

493

А ў нашага брусічка вараненькія конікі.
Ён коніка сядлае, на месячык уз'язджае.
На месячык уз'язджае нам канфеты купляе.
Нам канфеты купляе, нас, дружак, вітае.

494

— Свахначка, да галубачка,
Мы ж на цябе доўга ждалі,
Масцілі мост калінаю
Да гацілі гаць свізінаю,
Каб сваха не ўтанула,

Каб пірага не замачыла,
Нас, дзевачак, не ўгнявіла.
— Да, дзевачкі мае, сястрыцы,
Мы ехалі каля гаці,
Забыліся пірага ўзяці.
Пабяжыце да нашым слядочкам,
Вазьміце піражок з мядком.
— Свахначка, галубачка,
Мы дзевачкі невядомыя,
Нам дарожкі незнакомыя.
Вярніцеся сваім слядком,
Прывязіце піражок з мядком.

495

Дзевачкі мае, сястрыцы,
Цёмна ночка да нявідная,
Дарога нам да вялікая,
Тудэю мы да праязджалі,
Там каравай да пакінулі.
Катора з вас да лягчэйша,
Пабяжыце, прынясіце.
У сенях да па караваці,
Забыліся пірага ўзяці.
У нас нячорная зямліца,
Да не зарадзіла пшаніца,
Да на каравай, да на шышачкі,
На дробныя крошачкі.

496

— Сванечка маладая, *
Дай сыра, каравая,
Яшчэ й тую бутылачку
Із свашчыну цыцылачку.
— Дзевачкі-каравайначкі,
Нам дарога вяліка,
Мы не ехалі, да каціліся,
Нашы вазы ламіліся,
Мы майстроў прынаймалі
І гэта ўсё расчаставалі.
— Сванечка, маўчы, маўчы,
Заставім ваду таўчы

Жалезным таўкачом.
— Дзевачкі-каравайначкі,
Мы вады не баімося,
Падайце, нап'емося.
— Іванечка, не лай, не лай,
Нам наша аддай, аддай.
— Дзевачкі-каравайначкі,
Просім вас даход узяці,
Бо нам цяжка дзяржаці.

**497**

— Сванечка малада,
Шуціш, шуціш,
У хвартусе каравай круціш.
— Дзевачкі-сястроначкі,
Ехалі раніцою,
З'елі з Мікітою.
Перабег Мікалайчык,
Адабраў каравайчык.

**498**

— Свашачка наша, галубачка,
Ой, дай жа нам па шышачцы,
Пазалочанай, пазакручанай,
Хоць па адной, хоць па адной.
— Гарэлачку піла,
Шышак не зляпіла,
Дружкам не дарыла.
Зляпіла із сена
Ды й тую сама з'ела.

**499**

*Дзяўчаты:*

— Ой, скочымо-прыскочымо
Да сванечкі блізенька,
Пытацімо каравая часценька.
Ой, скочымо-прыскочымо
Да сванечкі йшчэ бліжэй,
Пытацімо каравая йшчэ часцей!

*Сваха:*

— Пытайцеся, дзевачкі,
Сватаўскага дружочка,
Ой, ці зволіць, ці пазволіць
Вам каравая даці,
Ой, ці скажа, ці прыкажа
Больш песень спяваці.

*Дзяўчаты да дружка:*

— Пазволь, дружочку, каравая даці,
Умеем, дзевачкі, хораша спяваці,
Не пашкадуйце каравая даці!

500

— Дайце, свахны, пірага,
Ці харош, ці бухон, ці мякіна,
Ці харош, ці бухон, ці мякіна,
Ці харошая мясіла,
Ці харошая мясіла,
Госпада бога прасіла?
Ці прыгожая саджала,
Госпада бога ўспамінала?
— А мы, свахі-пацярахі,
Па дарозе пірагі пагубілі,
Будзьце рэзвы, пабяжэце,
Па дарозе пірагі пабярэце.
— Мы ж беглі, не знайшлі
Да ізноў, свахны, к вам прыйшлі.
Дайце, свахны, пірага!

501

— Добры вечар, сваццця, добры вечар.
Прышлі ў сваццці да папытаці,
Ці ўрадліва зямліца,
Ці ўрадзіла пшаніца,
Ці напякла, сваццця, пірагоў
Нам, дзевачкам, надзяліці?
— Дзевачкі, мае сястрычкі,
Не ўрадліва зямлічка,

Не ўрадзіла пшанічка,
Не напякла сваццяпірагоў.
— Не хочаш, сваццяя, аддаваці,
Так вязі дамоў дзіцяці.
Не так дзіцяці малому,
Свайму дзеду старому.

## 502

Ой, пойдзем і паглядзім, *
У што наша сваццяя прыбрана,
Ай, ці ў шоўк, ці ў атлас,
Ці ў такія сітцы, як у нас.
— Добры вечар, сваціца,
Ці добрая зямліца,
Ці ўрадзіла пшаніца,
Ці спякла нам пірог?
А не спякла пірага,
Возьмем вала за рага,
Сіву кабылку за грыўку
Да павядзём на таржок,
Вытаргуем піражок.
Сядзіць сваццяя на ўллі,
Пад ёй пчолы загулі:
Адна пчолка піснула,—
Сваццяя пірог сціснула,
А другая загула —
Сваццяя пірог аддала.
Дзякуй, сваццяя, за пірог,
І харошы, і прыгожы, і мякенькі,
Толькі ганьба, што маленькі.
Возьмем пірог,
Самі пойдзем за парог,
Сядзем на пясочку
І будзем дзяліць па кусочку.
Тапаром білі — не разбілі,
Адскочыла скарына —
Там аўсяная мякіна.

## 503

— А падай, сваха, з кута пірага,
Ці харош, ці прыгож, ці смачан,
Ці на лапаце ён качан,

Ці ў печачцы ён печан?
— І харош, і прыгож, і смачан,
І на лапаце качан, і ў печачцы печан.
І харош, і прыгож, і пушнян,
Толькі той заганы, што маленькі.

504

Прыехала сваха,
Прывезла бутэлечку,
Чырвоную гарэлачку.
— Мы далёка ехалі,
Бутэлечка пабілася,
Гарэлачка разлілася.
— Трэба, сваты, не ехаць,
Трэба было пяшком ісці,
Бутэлечку у руках нясці.
Наце вам пятачкў,
Пашліце сабачку.
— Мы ганьбы не даём,
Мы пятачок вазьмём
І сабачку пашлём.

505

Старшая свашачка ехала лёдам, лёдам,
Вязла гарэлкі нам з мёдам, нам з мёдам.
А свашачка малада, малада,
У ёй фляшачка залата, залата.
А свашачка на парог, на парог,
За ёй золата, як гарох, як гарох.

506

Старшая свацця, не гніся,
Кладзі пірог на місе.
Не на місе, на талерцы,
Толькі не плач па гарэлцы.
А не хочаш аддаці,
Вязі свайму дзіцяці.
Не дзіцяці малому —
Свайму дзеду старому.

507

Сядзіць сватка на вуллі, *
Каля яго пчолкі загулі.
Адна пчолка пішчэла,
Пірог з кармана ташчыла.
— Да калі, сватка, не дасі,
Пірог кішэнь адарве,
Сватку ў сорам увядзе.

508

Эй, старшы сват,
Кешом пірог точыцца
І нам яго хочыцца.
Калі не дасі,
То й сам не з'ясі.
Як ты будзеш ехаць,
Твой пірог адбяруць
І кішэні адарвуць
Эй, старшы сват,
Твой пірог смашненькі,
Толькі кусок маленькі.

509

А Дар'ечка, свацейка.
Добрае плацейка,
А ў кішэні піражок —
Невялікі — са грашок.
Ён з кішэньчыка відаць,—
Трэба свацейкам аддаць.

510

Крывая нага,
Падай пірага.
А не даш пірага,
Мы і стол завалім
І вас, маладых, падавім,
Лыжкі паламаем,
За акно закідаем.

511

Уступіла шэра гусачка
На парог.
На які парог?
На хатні.
Ухапілася бабка
За пірог.
За які пірог?
За сватні.

512

Завялі, завялі маладзіцу
Да ў новую святліцу.
Дай, дзедзечка, караваю,
Я табе дзеўку параю.
Дай, дзедзечка, каўбасы,
Завяду я цябе лабасы.
А наш дзедзечка харош:
Вароннія вочы, буслаў нос.

513

Не сядзі, сватка, ля сцяны,
Нашы дзеўкі жартаўлівыя:
У сцяне дзіркі круцілі,
З тваёй кішэні, сватка,
Піражок дастаць наравілі.
Пад прыпечкам мышка піснула,
Свацця пірог сціснула.
Сват пірага не дае,
Дамоў дзецям панясе.
Не так дзіцяці,
Як старой свацці.

514

Да сядзіць свацця бліз сцяны,
А нашы хлопцы шутлівыя,
У сцяне дзірку круцілі,
Ды не так у сцяне,

Як у свацці ў сцягне.
А наша свацця моршчыцца, моршчыцца,
З-пад палы пірог тошчыцца.

### 515

Пакоснічак Ванечка,
Не сядзі блізка сценкі,
Нашы дзеўкі круцелькі,
Круцяць дзіркі праз сценкі,
Круцяць дзіркі праз сценкі,
Сунуць рукі ў кішэнькі 2
Па салодкія цукеркі.

### 516

— Сванечка маладая,
Дай нам каравая,
Дай жа нам пакушаці,
З якой пшаніцы,
Чы няма кукуліцы.
Мы пшаніцу палолі,
Ручанькі калолі.
— Я й летам была мала,
Я й поле не арала,
Пшаніцы не сеяла,
Каравая не спякла
І для вас не прывязла.

### 517

*Дзяўчаты ў сенях спяваюць:*

— Сванечка маладая,
Аддай нам каравая
І віна зялёнага,
І сыра белага.

*Жанчына ў адказ:*

— Дзевачкі-сястрoначкі,
Я ў лета мала была,
Дзікіх коз не даіла,

Сыр вам не ляпіла,
Пшаніцы вам не жала,
Пад капою ляжала.

518

*Дзяўчаты:*

Скакаў-плясаў белы сакалец на стале, *
Даскакаўся да сванечкі ў прыполле.
— Вымі, сванечка, каравайца з прыполля,
А, чашнічак, бутэлечку — з кішэні!

*Сваха:*

— Дзевачкі-кумпаначкі,
Па гарах не хадзіла,
Дзікіх коз не даіла,
Вам сыра не зляпіла!

*Дзяўчаты:*

— Дзякуем табе, сванечка, за каравай цэлы,
За каравай цэлы, за сырэц белы!

519

Сваточак мілы госць, мілы госць,
Казалі, сыра ў цябе ёсць, у цябе ёсць.
Цябе жонка навучыла, навучыла,
Каб ты даў бы паўсыра, паўсыра.

520

Дай нам, свашка, сыра, 2
Дасць табе бог сына
З ручкамі, з ножкамі,
З чорнымі вочкамі.

521

Скакаў-плясаў белы гарнастай па стале
Да прыплясаў і старшай сваціцы ў прыпале.
— Сваціца, галубіца ты мая,

Дай жа мне белага сыра з прыпала.
— Я не маю белага сыра ў прыпале,
Толькі маю два яблычкі вінныя. 2
Пакідаю свайму міламу з пахмелля,
Як прыедзе ў пятніцу з вяселля. 2
Дзякуй богу, што яблычкі схавала,
Майго мілага пахмелля не брала.

522

Скакаў-плясаў гарнастайка па сталу,
А ўваліўся ў Якушаву ў палу:
— Ай, Якуш ацецкій сын, дай сыра,
Захацелася маладзюсенькі на сына.
— Няма ў мяне белага сыра ў кішані,
Толькі ёсць два яблычкі садавых.
Ета маей Ганулі з пахмелля,
Штоб не балела галованька з вяселля.

523

— Прыданачка-удалачка, дай сыра,
Ды захварэла галоўка на сына.
— Жонкі-лябёдачкі, не маю сыра,
Толькі маю два яблычкі ў кішэні,
Тыя трымаю я міламу з пахмелля.
Ай, баліць, баліць Івану галоўка,
Завець, завець яго жоначка дамоўкі,
Сцеліць яму мяккую пасцельку,
Кладзець у галоўку пухоўку,
А пад серадзінку пярынку.

524

Не шчупай, Іванька, па запазушшу:
Няма ў мяне пірагоў для цябе,
Толькі ёсь у мяне ды два яблычкі,
Калі будзеш добр для мяне, дык абое табе,
А не будзеш добр для мяне, дык ніводнага.

525

А казалі — сват багат,
Ажно сватко скупават,
А яго сваха драмліва,

Па дарозе пірагі пагубіла,
Каторыя на далоні мясіла,
А пад грудзьмі сушыла.

### 526

Прыехалі сваты скупыя,
І ў іх пірагі сухія.
Прайдзі, прайдзі, дробны дожджык,
Памачы сватам пірагі,
Каб яны сухі не былі.
Каб сваты скупы не былі.

### 527

А нашы сваточкі скупы:
Прывязлі пірагі сухі.
Ножыкам рэзалі — не ўрэзалі,
Тапаром секлі — не ўсеклі,
Зубамі грызлі — не ўгрызлі.

### 528

Прыехала сванька-клюкавешка,
Не прывезла нам ні гарэшка,
Толькі хлеба кусочак, кусочак,
І той ухваціў каточак, каточак.
Пайшоў каток варчачы, варчачы,
Пайшла сванька просячы, просячы.

### 529

Знаці сватку, знаці,
Што з багатай хаты.
Сырамі аклаліся,
Пірагамі падпёрліся.

— Я, свашка, лянівa,
У хлеў не хадзіла,
Кароў не даіла,
Я мухі баялася,
У халадку хавалася.

— Як ты ляніва,
Трэба на цябе дубіна,
Каб у хлеў хадзіла,
Кароўкі даіла,
Нам сыры ляпіла.

— Мае ногі ў нагавіцах,
А рукі ў рукавіцах,
Калі будзіце біці,
То не будзе балеці.

530

Гожа сваха, гожа,
Як чырвона рожа.
У Дунаі ручкі мыла,
Нам сыра рабіла.

531

Сядзіць сваццproperly на куце,
Як сава на кусце.
Хто каля сваццi патрэцца,
Той гарэлкі нап'еццца.

532

А каб мы гэта зналі,
Дзе другая свацютка сядзіць,
Мы крэслечка падставілі б,
Падушачку падлажылі б.
Падушачка пуховая,
Сваціохна вясёлая.

533

А наша сваха з Арэхава,
Чатырмя коньмі прыехала,
А пятым вараненькім
З Іванам маладзенькім.

534

Ягорка-сваточак, Ягорка-сваточак,
Дай сыру кусочак.
А не дасі сыру, а не дасі сыру,
Дадушы каня ўкрадзем,
У горад павядзем, у горад павядзем,
На баранкі прададзем.

535

Калі ты, сват, харошы, харошы,
А дай ты нам пірага, пірага.
А не дасі пірага, пірага,
Тваю кабылу ўкрадзем, украдзем.
Тваю кабылу ўкрадзем, украдзем,
К кусту хвастом прывяжам, прывяжам.
Будзеш пытаць — не скажам, не скажам,
А будзеш шукаць — не знойдзеш, не знойдзеш.
У кусце сарокі сакочуць, сакочуць,
Сватнюю кабылу валочуць, валочуць.

536

Я на цябе, сватанька, паглядаю,
Ці не ўкроіш ты мне короваю?
Як ты мне караваю не дасі,
Ты ў мяне нічога не прасі.
Я цябе сярод вуліцы дажану,
Я табе сорама й нараблю,
Я тваго коніка й адпрагу.

537

Дайце, свахі, пірага, пірага,
Возьмем вала да за рага.
Возьмем вала да за рага, да за рага,
Сіву кабылку за грыўку.
Сіву кабылку за грыўку, за грыўку,
А сваначку за чупрынку.
Павядзём сваху на места, на места,
Прамяняем сваху да на цеста.

Накажыце тому крывашу,
Каб прывёз нам барышоў.
Накажыце таму крываною,
Каб прывёз нам перапою.
Дзякуй свахам за пірог, за пірог,
І салён, і бялён, і мякенек.
І салён, і бялён, і мякенек,
Толька ганьба, што маленек.
На далоні мясіла, мясіла,
А пад цыцкаю сушыла.
А пад цыцкаю сушыла, сушыла,
Нам, дружачкам, дзяліла.

538

Падаймо сваццi ў ногі,
Падаймо сваццi ў ногі
За белы пірогі,
За белага сыра —
Нех ей бог дасць сына.

539

Дзякуй, сваха, за пірог,
Што твой пірог не дораг:
Тапаром секлі — не ўсеклі,
Абухом білі — не ўбілі.
Скарынка адскачыла,
Свасе галаву разбіла.

540

Дзенькую, сватоўя, за гасцінец.
Вы самі маладыя,
Вашы гасцінцы дарагія,
На новым рынку таргавалі,
Ля пяўчыцаў даравалі.
Дзенькую, сватоўя, за пірог,
А мы пойдзем за парог.

541

Дзякуй сватам за пірог —
Кіслы, смачны, салоны,
У віннай дзяжы квашоны,
У залатой печы пячоны.

542

Сядзеў сватка на вуллі,
А пад ім пчолы загулі.
Адна пчолка загула,
Дак сваццЯ пірог нам дала.
А ўсе пчолкі як загулі,
Дак мы за пірог і пайшлі.
Дзякуй сваццІ за пірог,
А мы пойдзем за парог.
Не абіжайся, сваццЯ,
Што мы дрэнныя песні пелі,
Абы мы аб табе добрыя мыслі мелі.

543

Ой, дзякуй, свату, за пірог,
Што пад'елі ўчатырох.
За гарэлую скарынку
Аддаём дзяўчынку-малінку.
Ой, дзякуй, свату, за водку,
Што напіліся ў ахотку.
А не ганьба, што горкая,
Ганьба, што чарка малая.

544

Сваток Васілька,
Абдары цябе божа 2
У доме і ў дарозе.
У садочку — пчолкамі,
У хляве — кароўкамі,
А на полі — буйным жытам,
А ў хаце — добрым жыццем.

545

Заплаць, божа, за твой дар, за твой дар,
А ў хлявочку — волікамі,
А ў стаенцы — конікамі,
А ў садочку — пчолачкамі,
А ў пасцелі — жонкаю.

546

Абдарыў нас Трахімка, абдарыў *,
Абдары цябе божа
У садзе белачкамі,
У карагодзе дзевачкамі.

547

Дзякуй, свату, за падарак,
Хоць маленькі — даражэнькі.
Наш сват вельмі харош:
Па яблаку вочы, з гарбуз нос,
А бруха, як начоўкі, чуць панёс.

548

Як дзень, так ночка
У лесе ядлінка зялёна.
Як дзень, так ночка
Наша свацютка вясёла.
Дзякуй сваткам за падарачкі,
За белыя абараначкі,
За салодкія цукерачкі
Дзякуюць вам дзевачкі.

549

Дзякуй, сваточкі, за ваш дар саладзенькі,
Самі не з'елі, нам далі маладзенькім,
Абдары вас божа і ў хаце, і ў дарозе,
У садочку — вішнячкамі, а ў хаце — дзетачкамі,
А ў дарозе — грошыкамі.

## 550

*Сваццi ўваходзяць у хату:*

— Ай дзе ж вы нашу маладую дзелi,*
Хоць бы мы яе ды й паглядзелi?

*Iм пяюць дзевачкi:*

— Наехалi сваццi з сямi сёл, сямi сёл,
У iх спаднiцы па сем пол, па сем пол.
А пад каждаю фалдаю, фалдаю,
Сядзяць вошы капою, капою.
А вы, сваценкi, не гуляйце, не гуляйце,
З-пад фальд вошы калупайце, калупайце.

*Сваццi ў адказ:*

— А за етыя гаворкi, гаворкi,
А на шыю вам аборкi, аборкi.
А за етае гаварэнне, гаварэнне,
А на шыю вам раменне, раменне.

## 551

Ехалi мы борам — бары не шумелi,
Ехалi мы полем — каменне не стучэла,
Ехалi мы сялом — сабакi не брахалi.
Прыехалi к свату — дзеўкi запялi,
Дзеўкi запялi, як сучкi забрахалi.
Бяры, сваток, пруток —
Ганi iх у куток.
Бяры, сваток, памяло —
Ганi iх на сяло.

## 552

— А вы, свацейкi, не брашыце,
Свае языкi аб плот пачашыце.
— А вы, свацейкi, не гнiцеся,
Кiньце пятачок, шчэ й другi,
Не скупiцеся.

553

Каб я знала,
Каб я ведала,
Што сваццей паеду,
Пайшла б у лясок,
Выразала б пруток,
Забіла б ваўчыцу,
Надзерла б лою,
Напякла б скварак
Для дзевак-бальшанак.

554

Да не свахі ўехалі,
Да зорачкі ўкаціліся, 2
Яны нам пакарыліся, 2
Каб мы з іх не глуміліся.
Брыдкіх песень не пелі,
Харошыя мыслі мелі.

555

— Дамо мы вам па кубачку мёду,
Не зневажайце нашага роду:
Наш род прыбраны,
Сюды к вам прысланы.
— Мы вашага мёду піці не будзем,
Да вашага роду павышаці не будзем.

556

— Свашачкі-галубочкі,
Мы з вамі да не біліся,
Мы з вамі да не сварыліся.
Свашачкі-галубочкі,
А мы з вамі да памірымся
Ды на шышачкі памяняемся.
— Дзевачкі-галубочкі,
Ды мы ж гэтага хацелі,
Штоб і з вамі памірыціся.

13. Зак. 847

### 557

Панове-сватове,
За што нас заграбілі?
Мы ў ваш лес не хадзілі,
Арэшкаў не шчыпалі,
Ягадак не збіралі.
Аддайце бацьку дачку,
Нашу таварышку.

### 558

Не хваліся, Іванечка, 2
Што ўзяў Манечку,
Мы цябе наб'ем
І Манечку адбярэм,
К сталбу прывяжам
І пугай накажам.

### 559

Ты, братка, прыездны,
Чаму з намі не вітаешся,
Пра здароўе не пытаешся?
Мы табе нараду нарадзім,
Мы твайго каня ўкрадзём.
Завядзём за адрыначку,
Адрэжам хвост і грывачку.
Будзем, братка, цераз мост ехаць,
Будуць людзі дзівіціся,
Чый гэта братка рылаты,
Пад ім конік бібаты.

### 560

Ой, сватка, сватка-баламуце,[1]
Не дзяржы гарэлкі на куце.
Ой, сам жа ты п'еш, нам не даеш,
Мы твайго коніка ўкрадзём,
Ды на ціхі Дунай завядзём,

---

[1] Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

Ды к плоту хвастом прывяжам,
Хоць будуць пытаць — не кажам.
Ды паставім яго на талерцы,
Ды прап'ём яго на гарэлцы.
Ды паставім яго на ляду,
Ды прап'ём яго на мяду.

## 561

А сваточак, добры наш,
Прынясі гарэлачкі нам.
А калі ж ты нам не дасі,
Украдзем кабылку да душы.
Павядзём яе на аблогу,
З'ядуць яе ваўкі яй-богу.
Хвастом к масту прывяжам
І табе, сваток, не скажам.

## 562

Ой, сватка, сватка-ўбожка,
Што ў цябе гарэлкі нямножка.
Ой, і сам жа не п'еш і нам не даеш.
Мы твайго коніка ўкрадзём,
А і за ціхі Дунай завядзём,
Паставім яго ў крапіве,
Да прап'ём яго на піве,
Паставім яго на лядочку, 2
Прап'ём яго на мядочку.

## 563

Устань, дружко, не сядзі,
Ідзі каня паглядзі.
Нашы дзеўкі шутаркі
Тваво каня ўкрадуць,
На мёд-віно прададуць.
Ідуць дзеўкі, скачучы,
Дружко ідзець, плачучы.
Ідуць дзеўкі, свішчуць,
Дружко каня ішчаць.

**564**

Гэй, старшы брат,
Не стаў каня пад вакном;
Нашы дзеўкі жартлівы,
Твайго каня ўкрадуць,
На рынак павядуць,
Твайго каня прададуць,
Табе грашоў не дадуць.

**565**

Забаўны дружчатка забавіўся ў доме,
На дварэ да каня ўкралі,
Да за Дунай замчалі,
І гарохавы вехаць,
Да не на чым дадому ехаць:
Ці на кату, ці на крату,
Ці на лютым звяраці,
Ці на шэрым сабацы?

**566**

Забаўны дружына, 2
Забавіўся ў хаце. 2
А забавіўся ў хаце,
А цыгане каня ўкралі.
А цыгане каня (й) укралі,
А цыгане каня ўкралі,
За Дунай загналі.
А за Дунай загналі, 2
Татарам прадалі.
А татарам прадалі 2
За рубль, за капейку. 2
А за рубль, за капейку,
За залаты грывен. 2
А за залаты грывен —
Не быць табе дружкам. 2
А не быць табе дружкам —
Быць табе свінапасам. 2
А быць табе свінапасам
З доўгаю дубінякаю. 2
А з доўгаю дубінякаю,
З чорнаю сабакаю.

567

— Адсуньцеся, дзеўкі-падалянкі,
Няхай сядзе наш мешчанін
Ля сваe мяшчанкі.
— А мы вашага мешчаніна не бяром
І свае падалянкі не даём.
Вязіце яго дадому,
Захавайце яго ў салому.
Дайце яму сноп канапель,
Няхай клюе, як верабей.
Няхай ён скача, як белка,
Няхай ён плача, як дзеўка.

568

Уставайце, зоранькі,
Да садзіце месяца
Каля яснага сонца.
Дзе сонца сіяе,
Там месяц сядзе.

569

— Адступіцеся, совы,
Налянулі саколы.
— Мы ж вам не совы,
Вы нам не саколы.
Мы ацеччыны дочкі,
Седзіцімо, як панночкі.

570

Вылятайце, сарокі:
Наляцелі лебедзі
З белымі лябёдкамі,
З маладымі малодкамі.

571

Вон, вон, сарокі, з хаты **,
Годзе вам скрыгатаці:
Прыляцелі ж вароны

І з чужое староны.
Да хочаць скрыгатаці,
З сабой Надзечку ўзяці.
Секцімо да рубацімо,
Маладое не даваці.

### 572

А мы ж не сарокі,
А мы ж не вароны,
Па полю не ляталі
Дай й не шчабяталі,
А нас Ніначка папрасіла,
Каля сябе пасадзіла.

### 573

Спухні, сваццця, як пірог,
Пакуль выйдзем за парог.

### 574

Вон, вон, валяватыя,
Мы пасядзем багатыя.
Вон, вон, паршывыя,
Мы пасядзем шчаслівыя.

### 575

Суньцеся, госці, з кута,
Я сама сяду тута,
З дудою з залатою,
З дружынай маладою.

### 576

Браніліся перапечы ў печы:
— Падзвінься туда, аржанка,
Я тута сяду, аўсянка.

Браніліся свашачкі за сталом:
— Падзвінься туда, шалудзіўка,
Я тута сяду, паршыўка.

577

Сварыліся піражкі,
Да пад гнёпам седзячы:
— Адсунься ж ты, аржаны,
Я тут сяду, пшанічны.
Сварыліся сваціцы,
За столікам седзячы:
— Адсунься ты, харошая,
Я тут сяду, лепшая.

578

На покуце лён, лён,
А вы, дзевачкі, вон, вон.
На покуце лут, лут,
А вы, сваточкі, тут тут.

579

Часала Ніначка белы лён,
Да ганіла дружачак ад сябе вон.
— Вон, вон, дружачкі, ад мяне,
Няхай сядзе Віцька ля мяне.
Няхай сядзе, пасядзіць,
За праву ручку падзержыць.

580

— Бралі мы плоскуні, слалі дружак у ростані.
— Бралі дзевачкі лён, гналі сватачак вон.
— Дзевачкі-маўчанкі, у іх языкі, як каўганкі.
Пара вам, дзевачкі, ісці дадому, мяшаці свінням палову.
— А вы, свашачкі, за намі, есці палову з свіннямі.

581

Брала Марылька лён, лён,
Ганіла дружак вон, вон.
Лепш было не збіраці,
Як цяпер выганяці.
У лузе калінанька з расой,
Разлука Марыльцы з касой,
У лузе калінанька з цвяткамі,
Разлука Марыльцы з дзяўкамі.

582

Бралі дзеўкі лён, лён,
Выганяюць іх вон, вон.
Бралі дзеўкі замашкі
На белыя рубашкі.
Шылі дзеўкі, шылі,
Пальцы пакалолі.
Звалі на дзянёчак,
А ано — на часочак.
Нашто было зваці,
Кагда вон выганяці?

583

Слала дзевачка белы лён,
Гнала дружачак ад сябе вон.
— На што было той лён слаць,
Калі яго не часаць?
На што было дружачак зваць,
Калі іх вон выганяць?
— Я лён слала, я лён слала
Да думала збіраці.
Дружачак саджала, дружачак саджала,
Не думала выганяці.

584

Ой, часала Манечка белы лён,
Праганяла дружачак ад сябе вон.
Ох, ідзіце, дружачкі, дадому.

Да мяшайце свінням палову.
Палоўкі жменька — капейка,
А сенца жмачок — пятачок.

585

Сеяла Ніначка лён, лён, лён,
Выгнала баярак вон, вон, вон.
— Ці мы табе, Ніначка, надаелі,
Што адзін вечарок пасядзелі,
Розных песенак папелі,
Горкай гарэлкі папілі,
Чужому татку аддалі?

586

— Да дамоў, дзеўкі, дамоў, 2
Вы ідзіце, прадзіце
Ды іх у кублы кладзіце, 2
— Мы папралі, паткалі, 2
Поўны кублы наклалі. 2

587

— Ідзіце, шэльмы, прасці,
Бо нечага ў кубел класці:
На сцяне аснова,
А ў кубле нічога.
— Штоб вас чэрці скублі,
Як у нас поўна ў кубле.
Штоб вас чэрці рвалі,
Як мы скора пралі.
Штоб вам столькі хварочак,
Колькі ў нас сарочак.
Штоб вам столькі скулічак,
Як у нас спаднічак.

588

— Двору, дзеўкі, двору,*
Прасці, дзеўкі, прасці.
Не будзеце вы прасці,

Будзеце руб'ем трасці.
— Каб вам столька скулак,
Колька ў нас трубак.
Маткі нам напралі,
Самі мы наткалі.

589

— Не ўмелі, баяркі,
Дзеўкі дзяржаць,
Ідзіце, баяркі,
Гной капаць.
— Да дайце ж
Нам вілачкі,
Залатыя шпілечкі:
Да мы будзем гной капаць,
А сват будзіць разнасіць,
А сваццітка будзіць развазіць.

590

Дзевачкі, не шкадуйма ж мы яе,
Яна намі ганьбавала
Да ў запечку пасаджала,
Да расолам частавала,
Да і расолу не стала.

591

Вы, дзевачкі, не бядуйце
І Фелечкі не шкадуйце,
А вы жджыце малайцоў,
Вам не будзець і ўдаўцоў.

592

Адчыняйце лецень, 2
Да няхай вее вецер
На пуховы падушачкі, 2
На цвярозы дружачкі.

593

Мы самі не прыйшлі,
Мы самі не пойдзем,
Нас Гапачка пазвала,
Дружкамі пасаджала.
Найміце дудачкі,
Правядзіце дружачкі,
Найміце цымбалы,
Правядзіце, гдзе бралі.
Над нашаю галавою
Біся, дружка, аб сцяну галавою.
Наша сцяна касцяна,
Дружку галаву разцяла.

594

А баярачкі-псічкі
Сядзяць, як лісічкі.
А баярачкі-сёстры,
А ў іх насы востры,
Вазьміце мяшалкі,
Замяшайце свінням.

595

Бразнулі дзенюжкі аб века,
Пашлі дзевачкі ў лета.
Бразнулі дзенюжкі аб загнет,
Пашлі дзевачкі ў аблет.

596

Пайшлі дзеўкі із застолля,
Слоўна сучкі із падполля.
Слава ж табе, божа,
Горад зваявалі,
Паланяначку ўзялі.
Паланянка на юшку,
Пер'я на падушку,
Мархва на паслужку.

597

На лаўкі дружкі...
На лаўкі, дружкі, на лаўкі.
Памые лаўкі мамка мая
Да сваімі ручкамі белымі,
Да сваімі слёзкамі дробнымі.

598

Палажыце кладку вярбову,
Паклічце дзевачак дадому.
— Млода Манечка, астанься,
Прыдзе Колечка, вітайся.
Калі любіш, прытуліся,
А не любіш, адхіліся.

599

— Дзевачкі-сястронкі, пастаньце,
У чужое сяло не дайце.
— Сама ты сябе аддала,
Як першу гарэлку папіла.
Было нас тады зазваці
І ў свата з рук чары не браці.

600

Дзевачкі мае, сёстрачкі,
Пабяжыце ў садочак, 2
Наламіце розачак,
К майму сэрцу кладзіце,
Штоб маё сэрца не ныла, 2
Бацькоў негі забыла.

601

Дзевачкі-сястрыцы,
Не вядзіце мяне
Па левым боку,
А вядзіце мяне

Па правым боку. 2
Скрыпачкі іграюць, 2
Дзевачкі гуляюць.
Па левым боку
Скамарохі стаяць, 2
Мядзведзя дзяржаць.
Ланцуг залаты,
Мядзведзь малады
Як рыкнець, як раўнець,
Маё сэрца ўлякнець.

602

Лятала стада курапатак па полю,
Вадзілі шэру зязюлю з сабою,
Прывязлі ў зялёны садочак.
— Тут табе, шэра зязюля, застацца,
З намі, пташкамі-курапаткамі, расстацца.
А з шэранькім салавейкам спазнацца.
Хадзіла карагод дзевак па сянёх,
Вадзілі маладу Галечку з сабой,
Прывялі яе к часоваму сталочку:
— Тут табе, Галечка, застацца,
З намі, дзеўкамі-паненкамі, расстацца,
З маладзенькім Толікам спазнацца.

603

А вы, дружкі, к свінням спаць,
К свінням спаць,
Наша Томачка ўрань устаць,
Урань устаць.

604

Наце вам, сватове,
Недапітую чарачку,
Наце вам, сватове,
Недарошчаную дзевачку.
Вазьміце яе, расціце яе,
Недарошчаную дзевачку.
Вазьміце яе, дапейце яе,
Залатую чарачку.

### 605

Па полю зелен клён рассцілаецца,
Сам сабой Азар выхваляецца:
— Далі мне коніка нявыезджанага,
Сам маладзец я, Азар, абучаць буду.
Па полю зелен клён рассцілаецца,
Сам сабой Азар выхваляецца:
— Далі мне Захру ненавучаную,
Сам маладзец я, Азар, навучаць буду,
Ад бацькі, ад маткі адвучаць буду.

### 606

— Зялёны мой падалешнічак, 2
Дзе ты рос, дзе ты раскідаўся? 2
— Рос жа пры месячку, 3
Раскідаўся пры сонейку.
— Маладая дзевачка,
Дзе ты расла, дзе ты разумнела? 2
— Расла я ў татачкі, 3
Разумнела я ў свёкаркі.

### 607

— Недазрэлая макаўка,
А дзе ж ты будзеш дазраваць:
А ці ў гародзе, на лясе,
А ці ў капуснай баразне?
— Лепей буду ў гародзе на лясе,
Чымсі ў капуснай баразне.
У капуснай баразне цесната,
А ў гародзе на лясе красата.
— Неразумная дзевачка,
А дзе ж ты будзеш разумнець:
А ці ў маманькі за сталом,
А ці ў свякроўкі за стаўбом?
— Лепей буду ў маманькі за сталом,
Нячым жа ў свякроўкі за стаўбом.
У маманькі за сталом — красата,
У свякроўкі за стаўбом — ташната.

608

— Недарослая мачынка, *
А дзе ж ты будзеш дарастаць:
А ці ў гародзе на лясе,
А ці ў гародзе ў баразне?
— Не дарастала на лясе,
Не буду дарастаць у баразне.
— Недарослая Таіска,
А дзе ж ты будзеш дарастаць:
А ці ў мамкі на куце,
Ці ў свякратанькі на руцэ?
— Не дарастала на куце,
Не буду дарастаць на руцэ.

609

— Шчука-рыбанька, не шатрована,
Дзе будзеш зімаваці? **
— Зімавала б я ў быстрай рэчаньцы,
Та й буду замярзаці.
— Ой ты, Сонечка маладзенькая,
Дзе будзеш дарастаці?
— Дарастала б я ў свайго баценькі,
Да не хоча гадаваці!

610

— Ластаўка-перапёлачка,
А дзе лета летавала?
— Летавала ў пшаніцы.
— А дзе, ластаўка-перапёлка,
— Будзеш зіму зімаваці?
— У крыніцы, у халоднай вадзіцы.
— Маладая дзевачка,
Дзе расла-гадавалася?
— Гадавалася ў роднага таткі,
А буду векаваці ў свякроўкі.
Была ў мамкі вумная-разумная,
А як засталася ў свякроўкі,
Дык ні вуму, ні розуму.

611

Ягадка маліна, ягадка чырвоная,
Дзе ж ты така вырасла, такая высока,
Лісточкам шырока?
Маладзенька Таццянка,
Дзе ж ты такая зрасла, такая харошая?
Ты роду харошага і бацькі багатага.
Ты ў бацькі гадавалася,
Ты ў маткі красавалася
Да й Іванку папалася.

612

А што ж то за зеллейка,
Сіняе карэннейка?
У гародзе расло, расло,
Чэраз тын хілілася,
Ветачкі знасіліся,
Ягадка скацілася,
У бароздку заваліласся,
Што ж то за дзетухна,
Княгінька ў таткі?
А ў таткі расла, расла,
А ў мамкі кахалася,
Жанішку дасталася.
Жанішок вялік, вялік,
Княгінька малёшанька,
З жанішком раднёшанька!

613

Зеляніўся зялёны дуб,*
У зялёным лугу стоячы,
На калінінку гледзячы.
— Красна, красна калінінка,
Ды нямножка не вызрэла.
Ты й дазрэеш, калінінка,
У зялёным лугу стоячы,
На зялёны дуб гледзячы.
Любаваўся Іванушка
На Марутушку гледзячы.
— Млада, млада Марутушка,

Ды й нямножка не вырасла.
Падрасцеш, Марутушка,
Ды й за мной, за маладцом,
За маей буйнай галавой.

### 614

Сваявольна Варывонька ў свайго бацюшкі
Заняволіў галоўку Раіньку.
Ён не даў большы вырасці,
Ён не даў косанькі падоўжыці,
Ён не даў лічайку парумяніці.
Падрасцець Раінька за маей галавой,
Падоўжыць косанька пад чэпчыкам,
Падрумяніць лічайка пад завязкай.

### 615

Усе вутачкі з возера плывуць,
Ой, рана, рана з возера плывуць.[1]
Адна вутачка заставалася,
На каго яна спадзявалася?
На таго сіляваньку, на касатага.
— Селязенечка, не пакінь мяне.
Усе дзевачкі з застоллейка ідуць,
Адна дзевачка засталася,
На каго яна спадзявалася?
На таго дзяцінку, на маладога.
— Ты, дзяціначка, не пакінь мяне.

### 616

Ой, хімла, хімла да й па полю лягла,
Маладая Танечка да стала прылягла.
— Дзевачкі мае, прыступіцесь ка мне,
Забярыце ж у мяне дзіваванне мае.
Дзе будзеце піць-гуляць, спамінайце мяне.

---

[1] Рэфрэн «Ой,рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

617

Калі б мы зналі, дзе Ванечку сесці,*
Лавак бы не мылі
І гваздзе набілі.
Калі б мы зналі, дзе Манечцы сесці,
Лаўкі бы памылі
І шоўкам аббілі.

618

Каб мы ведалі, дзе свацейкі сядуць,
Мы б пад лаўкі ды крапівы наклалі,
Каб нашы сваццi на яе ножкамі сталі.
Каб мы ведалі, дзе сваце́йкі сядуць,
Мы б у ложкі ды гвоздзікаў набілі,
Каб нашы сваццi язычочкі прабілі.
Каб мы ведалі, дзе сваты пасядуць,
Мы б у квас ды гарэлкі падлілі,
Каб сваточкі на карачках папаўзлі.

619

А наша дружка — пацярушка,
Пацярала дзеўку за нядзельку
За горкую гарэлку.
А наша дружка — панова, панова
Кінула хустку да парога.
Яе хустка — сурвэтка,
Сядзіць дружка, як кветка.

620

Прыехалі чэрці
Нашы поскані церці:
Пацерлі, памялі
І дзевачку адабралі.

621

Ды жаль маю, мой швагрочак, на цябе,
Што адбярэш маю сястрыцу ад мяне.
Мы із ёй па садочку хадзілі,

На 'днэй лешцы розныя зёлкі садзілі.
Цяпер жа мне не з кім будзіць хадзіці,
Не з кім будзіць розных зёлак садзіці.

## 622

Цяпер жа мне доля горша, чым была,
Як я сваю таварышку прапіла.
З кім жа будзем па кірмашыках хадзіць,
З кім жа будзем карагодзікі вадзіць?
— Ты на мяне, мая сястрыца, не глядзі,
Як хадзіла па кірмашыках, так і хадзі,
Як вадзіла карагодзікі, так і вадзі.

## 623

Пасыпаліся шышачкі з ёлачкі,
Пакідаюць Параску дзевачкі.
Пасыпаліся ігрушкі з вярхушкі,
Пакідаюць Параску падружкі.
— Дзевачкі-падружкі, лепш было не знацца,
Як трудна мне з вамі расстацца.
— Ой, як месячык з зарою,
Так нам, Параска, з табою.

## 624

— Падруга наша мілая,*
Разлука наша жывая.
Ой, лепш было не знацца,
Чым з падругаю расстацца.
Каціліся ігліцы з паліцы,
Кідаюць падругу сястрыцы.
— Не каціцеся, іглiцы, з паліцы,
Не кідайце падругу, сястрыцы.

## 625

А й у новенькай святліцы *
Разлучаліся сястрыцы,
Расхадзіліся ножкамі,

Абнімаліся ручкамі,
Цалаваліся вуснамі,
Абліваліся слязамі:
— А сястрыца наша родная,
А волей нам было не радзіцца,
Як жа нам цяпер расхадзіцца.
А волей нам было не знацца,
Як нам цяпер расставацца.

626

Там за борам, за ельнічкам,
Рана, рана, за ельнічкам [1]
Дзве зязюлі кукавалі,
Дзве сястрыцы размаўлялі,
Дзве раслі, як ягодкі,
Розна пайшлі, як сіроткі.

627

А ў садзе вішня дадолу звісла,
Ой, божа, божа, дадолу звісла, [2]
Млода Гэсечка з дзевак вышла.
За сталом села, як мел збялела,
Ля стала стала, як рута звяла.
Мамачка ходзіць, ручачкі ломіць:
— Божа ж мой мілы, што я зрабіла,
Сваё дзіцятка ў людзі пусціла.

628

На моры вутанька купалася,
На крутым беражку церабілася,
З белага камушка ў трыснёг прыгнула.
У трыснёгу сідзя, запрапала:
— Дзе ж мае дзетачкі падзяваліся?
Ад мяне, ад вутанькі, адчураліся.

---

[1] Рэфрэн «Рана, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
[2] Рэфрэн «Ой, божа, божа» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У каморы Валя прыбіралася,
Выйшаўшы на ганак, выглядалася,
Сышоўшы з ганачка, за стол села.
За сталом сідзя, заплакала:
— Дзе ж мае сястрыцы падзяваліся?
Ад мяне, дзеванькі, адчураліся.

### 629

Ай, кракнула вутка *
На беражку седзя:
— А божа мой, божа,
Ад уціц адсталась, 2
Селязнём дасталась.
Плакала Танюшка
За столікам седзя:
— А божа мой, божа,
Ад дзевак адсталась, 2
Ванюшке дасталась.

### 630

А прадзіце, дзевачкі, вы скубіце, вы скубіце.
На мяне, лішнюю паненку, не глядзіце, не глядзіце.
А я ўжо лішня паненка запрададзёна, запрададзёна.
За Кузьму, за Дзям'яна я зайдзёна, я зайдзёна.

### 631

Учора нядзелька,
Ды я была дзеўка.
А сягоння панядзелак,
Адлучаюць ад дзевак.
А заўтра аўторак,
Прылучаюць да жонак.

### 632

На моры вутачка купалася,
Увідзела селезня, схавалася.
Ай, па ей вутачкі закракалі.

— Не крычыця, вутачкі, я не ваша:
А ўжо я з селезнем спазналася,
У адным возеры купалася,
Са 'днае крыніцы ваду піла,
Са 'днаго коласа пшаніцу клявалі.
У цераме Мар'ечка прыбіралася,
Вышадшы з церама, пахарашывалась,
Увідзела Ванечку, схавалася,
А ў ей, па ей дзевушкі заплакалі.
— Хоць плачця, дзевушкі, [redacted] не ваша:
А ўжо я з Іванам спазналася,
А ў аднэй цэркаўцы вянчалася,
Ой, на адным рушнічку пастаялі,
З аднаго кубачка віно пілі!

633

Кракоча ўціца ў траснік пайшла,*
А за ней утушкі ў тры рады,
Малыя чырачкі — у чатыры,
Но па ней утушкі ўсе ўскракнулі.
— Хоць крачце, не крачце, мае утушкі,
А уж я з селезнем спазналася,
На сінім моры пакупалася,
На крутым беражку пасушылася.
Усплакнуўшы, Маруся за стол пайшла,
А за ней дзевушкі ў тры рады,
Малыя падружкі — у чатыры.
Но па ней дзевушкі ўсе ўсплакнулі.
— Хоць плачце, не плачце, мае дзевушкі,
А ўжо я з Пашанькай спазналася,
За адным столікам пасядзела,
Із адной румачкі віно піла,
З аднаго блюдца да й кушала.

634

— Дзевачкі-сястрыцы, неймаверніцы,*
Відзіце, чуеце ды й не кажыце,
Што мая разлука борам едзе.
— Не бойся, Раечка, мы не выдадзім,
З застолля за ручку мы не выведзім.
— Дзевачкі-сястрыцы, неймаверніцы,

Відзіце, чуеце ды й не кажыце,
Што мая разлука полем едзіць.
— Не бойся, Раечка, мы не выдадзім,
З застолля за ручку мы не выведзім.
— Дзевачкі-сястрыцы, неймаверніцы,
Відзіце, чуеце ды й не кажыце,
Што мая разлука ў хатку ідзе.
— А цяпер, Раечка, цябе выдадзім,
З застолля за ручку цябе выведзім.

635

— Гарныя-пышныя падружачкі,
Чуіцца, відзіцца, да не кажыцца,
Што мая разлука на двор едзіць.
— Не бось, не бось, Таццянка, мы не выдадзім,
Мы не выдадзім і не выкупім,
Мы тваю разлуку вон выведзім.
— Гарныя-пышныя падружачкі,
Чуіцца, відзіцца, да не кажыцца,
Што мая разлука ў ізбу ідзець.
— Не бось, не бось, Таццянка, мы не выдадзім,
Мы не выдадзім і не выкупім,
Мы тваю разлуку вон выведзім.
— Гарныя-пышныя падружачкі,
Чуіцца, відзіцца, да не кажыцца,
Што мая разлука за стол села.
— Не бось, не бось, Таццянка, мы выдадзім,
Мы выдадзім і не выкупім
І тваю разлуку вон не выведзім.

636

Сваты борам едуць і йграюць,
Наша дзевачка не дае веры — не плача.
Ужо сваты полем едуць і йграюць,
Наша дзевачка не дае веры — не плача.
Ужо сваты сялом едуць і йграюць,
Наша дзевачка не дае веры — не плача.
Ужо сваты на двор едуць і йграюць,
Наша дзевачка не дае веры — не плача.
Ужо сваты за стол ідуць, за ручку бяруць,
Тады дала веры Агатка — заплакала.

637

Ды сцерагайся, ды зберагайся, Кастулька,
Рана, рана.[1]
Ды ўжо няволя пасярод поля, музыка іграіць,
Кастулька млода веры не даець — не плачыць.
Ды сцерагайся, ды зберагайся, Кастулька,
Ды ўжо няволя ў вулачку едзіць, музыка іграіць.
Кастулька млода веры не даець — не плачыць.
Ды сцерагайся, ды зберагайся, Кастулька,
Ды ўжо няволя едзіць у падвор'е, музыка іграіць,
Кастулька млода веры не даець — не плачыць.
Ды сцерагайся, ды зберагайся, Кастулька,
Ды ўжо няволя ідзець у сені, музыка іграіць,
Кастулька млода веры не даець — не плачыць.
Ды сцерагайся, ды зберагайся, Кастулька,
Ды ўжо няволя ідзець у хатку, музыка іграіць,
Кастулька млода веры не даець — не плачыць.
Ды сцерагайся, ды зберагайся, Кастулька,
Ды ўжо няволя за стол сядаіць, музыка іграіць.
Кастулька млода верачку дала — і плачыць.
Ды прасі ў хатачку,
Пасадзі на лавачку.
Благаслаўлі шчырусенька,
Каб жылі шчаснясенька.

638

Ужо баяры ў поўдарожанькі,
Наша Агапачка ўстала, ім адказала:
— Яшчэ ж бо я не ваша,
Яшчэ ж бо я не ваша, не ваша,
Яшчэ ж бо я бацюхнава.

*А далей паўтараецца тое ж, толькі:*

Ужо баяры на двор уз'ехалі, *потым:*
Ужо баяры ў сені ўступілі,
Да ўжо баяры ў хату вайшлі. *І нарэшце:*
Ужо баяры за сталом селі:
— Наша Агапачка, наша.
Яна ўстала, ім адказала:
— Цяпер я ваша, цяпер я Якаўкіна.

[1] Рэфрэн «Рана, рана» паўтараецца пасля кожнага радка.

639

Ужо ж баяры ў дарозе,
Уюць вяночкі з бярозы.
А вы, дружачкі, мае галубачкі,
Спаражняйце кубачкі.
Ужо ж баяры на дворку,
Уюць вяночкі з бярвёнку.
А вы, дружачкі, мае галубачкі,
Спаражняйце кубачкі.
Ужо ж баяры ў сенях,
Уюць вяночкі із сена.
А вы, дружачкі, мае галубачкі,
Спаражняйце кубачкі.
Ужо ж баяры ў хаце,
Уюць вяночкі із мяты.
А вы, дружачкі, мае галубачкі,
Спаражняйце кубачкі.

640

Ой, іўла, іўла
Да па полю злягла,
Наша Грыпіна
К сталу прылягла, 2
К бялёвай скацерці 2
Дый заплакала.
— Устань, Грыпіна,
Бацюшка ідзець.
— Права, не ўстану,
Права, не ўзгляну:
За дробны слёзкі
Не віджу сцежкі.
Ой, іўла, іўла
Да па полю злягла,
Наша Грыпіна
К сталу прылягла, 2
К бялёвай скацерці 2
Дый заплакала.
— Устань, Грыпіна,
Іванька ідзець.
— Права, устану,
Права, узгляну.
За буйны слёзкі
Я віджу сцежкі.

641

Чорная імгла да зямлі прылягла,
Маладая Ніначка вадой спацякла,
За ей Іванька крутым беражком:
— Падай, падай, Ніначка, ты ручку мне.
— Не дам я руку,
Сама да цябе іду.

642

Дай вумная-разумная Ганначка *
Паставіла ў вароцечках старажоў,
Сама села пад вішанькаю ў садочку,
Пакуль узойдзе ясен месячка з зарамі.
— Ці скора прыедзе малады Васілька з сватамі,
Ці прывязе ж срэбра-золата з сабою,
Ох, ці будзе чым маю радзіму перапіць,
Ці будзе чым мяне, маладую, выкупіць?
— Да не журыся, маладзенькая Ганначка,
Прывёз жа я срэбра-золата з сабою,
Дай будзе ж чым тваю радзіну перапіць,
Дай будзе ж чым цябе, маладу, выкупіць.

643

Жанішок на коніку
У цесця на дворыку.
Дзеванька ў каморанцы
Да аконца прыпадае,
Жанішка падклікае:
— Жанішок, маё сэрца,
Падыйдзі пад аконца,
Скажу табе верна слоўца,
Што мой бацанька хоча:
Хоча ад цябе, маладога,
Коніка варанога,
Усю збрую залатую
За мяне, маладую.

644

Наехалі госці з чужой валосці,
Сталі пад садамі
З дарагімі крамамі.

Выбегла, выбегла
Маладая Матронка,
Стала, запытала:
— Пачом тая крама?
— Крама і па сто злоты,
Крама і па тысячы.
— Хоць сто злоты даці,
Абы ў золаці стаці.
Хоць пераплаціці,
Абы харашо хадзіці.

### 645

Што ж за тут людзі дзіўныя,
Хочуць, штоб мы іх прасілі,
Каб перад імі без шапак хадзілі.
— Ой, едзь, Цімошку, чэраз польцэ,
До шынкарочкі па піўцэ,
Каб мы жалнерак скупілі,
Каб нас у хату ўпусцілі.

### 646

Скрыпнулі вароцейкі ў поўначы,*
Прыехалі к Волечцы тры панічы,
Сталі яе, маладу, таргаваць.
— Таргуйся, маманька, таргуйся,
Задзёшава маладу не аддавай.
— Сталёвы горад не дораг,
Ты мне, дачушка даражэй:
Адна твая косанька — сто рублей,
Другая такая — тысячу,
Беламу лічыку цаны нет.

### 647

Заскрыпелі вароцейка, сваты едуць.
— Выйдзі, выйдзі, маманька, папытай,
Як мяне таргуюць, то й аддай.
— Таргуюць, дочанька, таргуюць,
Да русую касою ганьбуюць.

648

Ай, цёмна, цёмна ля бору,*
Цямней ў Коленькі ля двору,
Бо яго вароты абнялі,
Шапкамі золата насілі,
А ў яго Манечкі прасілі.
— Даражыся, татка, даражыся,
Новага горада дзяржыся.
— Дачушка мая, Манечка,
Новага горада нам не ўзяць,
Цябе, мая дачушка, нада аддаць.
Ай, новы горад гніць будзець,
Мая дачушка жыць будзець.
Ай, новы горад на гніллё,
Табе, мая дачушка, на жыццё.

649

Баяры вароты абнялі,
Купуюць дзевачку ў таткі.
— Даражы, татка, даражы,
Да сто чырвонцаў палажы.
— Не вы вароты рабілі,
Не вы дзевачку расцілі.
Рабілі вароты два майстры,
Расцілі дзевачку два браты.

650

Ой, цёмна, цёмна пад лесам,
Цямней у свата на дварэ,
Таргуюць жа Дунечку маладу.
— Таргуйся, бацюшка, таргуйся,
Сталяной горад запрасі.
Сталёнага горада нам не дадуць,
А мяне так вазьмуць.
Стольны горад — нам не цана,
А я цябе, бацюшка, не слуга.
Ай, цёмна, цёмна ў лузе,
Цямней у свата на дварэ,
Баяры вароты абнялі,
Просяць маладой Дунечкі.

— Выйдзі, бацюшка, утаргуйся.
Таргуйся, таргуйся, да не дзешаві:
Прасі за мяне дорага,
А стаўленага горада.
А стаўлен горад Смаленскі —
Не ўвыйдзіць яго, не ўехаць,
Сакалом Іванькі ляцеці,
На сваю Дунечку гледзючы,
Як мая Дунечка гуляіць.

651

Наехалі ільвоўцы
Да сыплюць па скам'і чырвонцы.
— Таргуй, мая маценька, не бяры,
Лепша я ў цябе, як яны.
— Як жа мне, дзіцятка, не браці,
Наехалі тыя людзі, што цябе ўзяці.

652

Ай, цёмна, цёмна на дварэ,*
А цямней таго за дваром:
Баяры вароты абнялі,
Маладу Анечку дарачы,
Золата-серабро ложачы.
Анечка татачку прасіла:
— Не бяры, татачка, золата,
Не аддавай мяне сёлета.
А ці хлеба-солі нестаець,
Што мяне сёлета аддаеш?
— А хлеба-солі даволі,
Аддаю дачушку па волі.

653

Ай, цёмна, цёмна пры бару,
Цямней у Ванечкі на двару,
Сваты варота абнялі,
На каня золата вешалі,
Маладу Валечку цешылі.
— Матка, золата не знімай,

Мяне, моладу, не аддавай.
Яшчэ гадочак пажыву,
Большую шкатулку накаплю.

654

Ой, цёмна, цёмна на зарэ,
Цямней у таткі на дварэ.
Баяры вароты абнялі
Да таргуюць дзеўку ў таткі.
— Ох, беражы мяне, татка, беражы,
Да варанога коніка запражы.
— Варанога коніка мне недзе ўзяць,
А мне цябе, дзіця маё, не дзяржаць,
Нашліся людзі, трэба аддаць.

655

Ой, цёмна, цёмна з-пад зары,
Сваты вароты абнялі.
Ой, сыплюць, сыплюць даляры,
Каб мы сястрычку ім аддалі.
А мы даляры не бяром,
Сваю сястрычку не аддадзём.
Наша Галечка сястрычка,
Разам па ягадкі хадзілі,
У адзін жбаночак ссыпалі.

656

Цёмна, цёмна над борам,
Яшчэ цямнейша над дворам,
Наехала баяраў да повен двор,
Насыпалі золата повен стол.
Дзеваччына матачка пахаджае
Да на тое золата паглядае.
— Вам ваша золата да бяленька,
А мне маё дзіцятка да міленька.
Вам ваша золата шафаваці,
А мне маё дзіцятка пасылаці.

657

Ой, цёмна, цёмна ў лесе,
Ой, цямней таго на дварэ.
Баяры вароты адкрывалі,
Дарагога тавару пыталі.
— Даражы, мамачка, даражы —
Сем падушачак палажы.
— Сем падушачак — не грошы,
А быў бы хлопчычак харошы.

658

Па мору, па сінему
Вална сіняя б'ець,
Па полю, па чыстаму
Арда сільная ідзець.
А ў той ардзе
Маладзец упeрадзе.
Прыбіваецца ён
К цесцяву двору:
— Цесценька, мой бацюшка,
Выйдзі к нам скарэй.
Вывезі тавар,
Тавар дарагі,
Дарагі, злюбовы.
Ён выйшаў і вывеў
Варана каня
Із-пад сядла.
— Зяцінька, дзіцінька,
Ці гэтат тавар?
— Цесцёнька, мой бацюшка,
Не гэтат тавар.

*Далей тое ж да цешчанькі-матушкі, якая выйшла і вывела*

«Ім карову за рага».

*Нарэшце:*

Па мору, па сінему
Вална сіняя б'ець,
Па полю, па чыстаму

Арда сільная ідзець.
А ў той ардзе
Маладзец уперадзе.
Прыбіваецца ён
К шуракноваму двору.
— Шуранька, мой браценька,
Выйдзі к нам скарэй,
Выведзі тавар,
Тавар дарагі.
Ён выйшаў і вывеў
Маладую Ганначку
За белую ручку.
— Зяценька, мой браценька,
Во гэтат тавар!

659

А ў цераме за дзверамі тры браты сядзелі,
Гаварылі, рассуждалі, чым зяця дарыць будзем?
Падорым зяця, падорым зяця вараным канём.
Наш зяць заўдал, падарак не ўзяў, нізка не ўкланіўся.
А ў цераме за дзверамі тры браты сядзелі,
Гаварылі, рассуждалі, чым зяця дарыць будзем?
Падорым зяця, падорым зяця бальшой казной,
Наш зяць заўдал, падарак не ўзяў, нізка не ўкланіўся.
А ў цераме за дзверамі тры браты сядзелі,
Гаварылі, рассуждалі, чым зяця дарыць будзем?
Падорым зяця, падорым зяця роднаю сястрою.
Наш зяць заўдал, падарак узяў, нізка ўкланіўся.

660

Што і ў сенечках ізгаворанькі,
А ў хаце п'юць змовінкі.
Ой, там радзяцца-параджаюцца
Дзявочына брацейка.
— Парадзьмось, братка,
Парадзьмось, родны,
Што зяцю даравадь.
Падаруймо, братка,
Падаруймо зяцю
Кабылку варануто.

Ён кабылку ўзяў,
Шапачку не зняў
І нізенька не ўкланіўся.
Што й у сенечках ізговароньки,
А ў хаце п'юць змовінкі.
Ой, там радзяцца-параджаюцца
Дзявочына брацейка.
— Парадзьмось, братка,
Парадзьмось, родны,
Што зяцю даравадь.
— Падаруймо, братка,
Падаруймо зяцю
Дзевачку маладую.
Ён дзевачку ўзяў
І шапачку зняў,
Нізенька ўкланіўся.

661

Зяць едзе лугамі, лугамі,
Цёшча плешча рукамі, рукамі.
— Ах ты, цёшчухна, мая мамухна,
Чым мяне дарыць будзеш?
— Дарую, зяценька, дарую,
Я табе, зяценька, кароўку гадую.
— Ах ты, цёшчухна, мая мамухна,
Я табе не дзянькую, не дзянькую.
Зяць едзе лугамі, лугамі...

*Ізноў тое ж. Потым:*

Я табе, зяценька, коніка гадую.

*Ізноў:*

Зяць едзе лугамі, лугамі,
Цёшча плача слязамі.
— Ах ты, цёшчухна, мая мамухна,
Чым мяне дарыць будзеш?
— Дарую, зяценька, дарую,
Я табе, зяценька, дачушку гадую.
— Ах ты, цёшчухна, мая матухна,
Табе я дзянькую, дзянькую.

### 662

У каморы размова,
Размаўляе ацец й маці,
Чым зяця даравадь.
— Зяця дарую, сем кароў гатую,
Зяць бярэ, дай не дзякуе,
Лепшага падарачка хоча.
Зноў у каморы размова,
Размаўляе ацец й маці,
Чым зяця даравадь.
— Зяця дарую, куфар плаццяя гатую.
Зяць бярэ, дай не дзякуе,
Лепшага дару хоча.
Зноў у каморы размова,
Размаўляюць ацец й маці,
Чым зяця даравадь.
— Зяця дарую, сваю дачку даю,
Зяць бярэ, дай кажа бацькам:
— Дзякуй.

### 663

Па-за лугам усё дымы дымяць,
Ох, то не дымы дымяць, з коней пара йдзе,
Малады хлопчык на кане едзе.
Уносяць яму міску чырвонцаў.
Ён чырвонцы ўзяў, не падзякаваў,
Не падзякаваў, з двара не ўязджае.
Уносяць яму шаўковы платок.
Ён платок ўзяў, не падзякаваў.
Не падзякаваў, з двара не ўязджае.
Уводзяць яму красную панну.
Ён панну ўзяў і падзякаваў.
І падзякаваў, з двара выехаў.
Ох, калі б я знаў, чый то сын гуляў,
То б я за яго царэўну аддаў.
То не царэўна, таткава дочка,
Таткава дочка, красна паненачка.

### 664

Па небу месячык коціць, коціць,
Ванечка за цешчай ходзіць, ходзіць.
— Цешчухна-матухна, аддай мой дар.

Як пайшла цешчухна да стаенкі,
Вывела Ванечку каня варанога.
— Цешчухна-матухна, не мой гэта дар,
Я ж гэты дарок не прымаю,
Нізенька галоўку схіляю.
Як пайшла цешчухна да хатанькі,
Вывела Ванечку ў вяночку Манечку.
— Цешчухна-матухна, ай мой гэта дар,
Я ж гэты дарочак прынімаю,
Нізенька галоўку схіляю.

665

Віўся віхор, віўся віхор перад тучаю,*
Кланіўся зяць, кланіўся зяць перад цёшчаю:
— Цёшчушка-мамушка, дай-падай мой дар.
А мой дар, а мой дар — небальшэй падар.
Цёшча зяцю, цёшча зяцю — вараного каня.
— Цешчушка-мамушка, ой, не ета мой дар.
А мой дар, а мой дар — небальшэй падар.
Цёшча зяцю, цёшча зяцю — сто рублей у руку.
— Цёшчушка-мамушка, ой, не ета мой дар.
А мой дар, а мой дар — небальшэй падар.
Цёшча зяцю, цёшча зяцю — дачку за руку.
— Спасіба, мамушка, спасіба, цёшчушка,
Спасіба, цёшчушка, ой, за твой падар.

666

Воін на вадзе ўвіваецца,
Якушка ў варотах накланяецца.
Просіць сваю, сваю суджоную:
— Падайце маё суджонае, маё раджонае.
Вывелі яму каня з сядлом.
— Гэта не маё, ні суджонае, ні раджонае.
Вынеслі яму ўсю скрынку з дабром.
— Гэта не маё, ні суджонае, ні раджонае.
Вывелі яму Мархушку, усё й Міхайлаўну.
— Вось гэта маё, маё суджонае, маё раджонае.

667

Як задумаў Іван да жаніціся, саколе.
Саколе ясен, малодчык красен, Іване.[1]
Да паехаў Іван к каралю ў сваты, саколе.

[1] Рэфрэн «Саколе ясен, малодчык красен, Іване» паўтараецца пасля кожнага радка.

Кароль дачкі не дае, варанога каня выводзіць, саколе.
Ен коніка не ўзяў, шапачкі не зняў, не скланіўся, саколе.
Выносяць яму паўмісы грошай, саколе.
Ен грошай не ўзяў, шапачкі не зняў, не скланіўся, саколе.
Вывелі яму маладую Вольгачку, саколе.
Ен Волечку і ўзяў, шапачку зняў да й скланіўся, саколе.

### 668

Наехалі сваты, як адзён,
Прывезлі кітаю, як агонь,
Далі Марысі чытаці.
Стала Марыся чытаці
Стала Марыся плакаці:
— Ой, напісана тут так мне,
Як той рыбаньцы на вадзе.
Як той рыбаньцы [illegible] вадою,
Так мне, мацюнка, з табою.

### 669

Наехалі сваткове, як адзён,
Прывезлі кітайку, як агонь.
На той кітайцы пісана.
Пісаўся месячык з зарою,
Хваліўся Цімошка жаною.
Ой, дай, божа, жоначку,
Ой, як на небе зорачку.
Ой, дай, божа, такую,
Як на небе святую.

### 670

Ой, красна-ясна каліна ў лузе,
Ой, красней-ясней Алена ў маткі.
Выйшла у двор — двор закрасіла,
Выйшла ў сені — сені заззялі,
А вайшла ў хату — баяры мёд п'юць,
Кубачкі наліваюць, дзевачку змаўляюць.
Кубачкі налілі, дзевачку змовілі,
За тым словам, жывіце з богам.

671

— Сіненькі васілёчак,
Пастаў на моры замочак
К цесцетку пераехаці,
Мёд-віно перавезці,
Цесцетку перапрасіці:
— Цестетка мой, татачка,
Падаражы віно маё.
— Зяцетка мой, сыночак,
Тваё віно дзяшовае.
— Цесцетка мой, татачка,
Маё віно дарагое.
— Тваё віно паўтысячы,
Маё дзіця тры тысячы.
Тваё віно прапіваць будзем,
А за маім дзіцем гуляць будзем.
Будзем піці-выпіваці,
Дамоў гасцей выпраўляці.

672

Перабор, сватоўе, перабор,
Пераехалі шчыры бор,
Заехалі ў вінны двор.
А вінны жа двор Гаўрылкін.
Там віно дзешавое,
Толька адна Сахвейка дарагая:
Касіца яе стоіць сто рублей,
Уплёты яе стояць тысячу,
Самой жа маладой цаны нет.

673

Ехалі баяры цераз бор,*
Як заехалі ў вінны двор,
А ў вінны двор Каценькін,
А ў яе вінначка Манечка
Зеляно віно прадаець.
А ў яе віно дзешаво,
А сама яна дарага:
Ад русай касы — тры капы,
Ад белага лічайка — чатыры,
А самой дзевачцы — цаны нет.

674

— Павянь, павянь, рута-мята,
Ды і ў маім агародзе.
— Што ж ■ маю павянуці:
Цёмна хмарка наступае,
Дробны дожджык накрапляе.
— Да красуйся, дзевачка, у свайго таткі.
— Што ж ■ маю красавацца:
Перапойчык на століку,
А малойчык на коніку.

675

— Сцеражыся, Параска,
Перапой цябе ішча.
Перап'юць усю дружыну
Ад кута да парога,
Дружачак вітаючы,
Парасікі пытаючы.
— Ты, свёкар, багаты,
Чым нявеху перап'еш:
Ці срабром ці грашамі,
Ці сваім сынам харошым?

676

Наш сват багаты
Будзе нас перапіваці
Белымі талярамі,
Штоб былі прыяцелямі.

677

За гарой за крутой барабаны б'юць,*
У Нікалайкі ў цераме перапоі йдуць.
— Пей, пей, татулька, не прапей мяне,
А прапей, а прапей залату казну,
Залатая казна дзешавей мяне.

678

Цяклі рэчачкі цераз сенечкі новымі кладачкамі,
Кудою ішла маладая Ганначка са сваімі дружачкамі.
— Станьце-пастаньце, мае дружачкі, па-за цясовым сталом,

Тудою будзе ісці мой татачка з перапоем.
За гардзюшчымі, за дурнюшчымі перапою не брала,
За слёзачкамі, за дробненькімі татачка не пазнала.
— Ты ж мяне, татачка, перапіваеш,
Шчасця, долі не ўгадаеш.
Ці будзе доля п'яніца, ці нядбайніца.
П'яніца праспіцца, а нядбайніца не пакаецца.

679

А татачка родны перапой прымае,
Дзіця маладое із дому збывае.
— Я ж твой перапой да ўсю вылью пад стол,
Залатыя чарачкі на камні паб'ю.
Сама, маладая, замуж пайду.

680

Елле маё, сасонне маё, ўсё расчосанае,
У цераме высака мой татанька п'ець.
— Пей ты, пей, глядзі, мяне не прапей.
— Дзіця маё, Нінaчка, даўно прапіта,
Я прапіў маладу на салодкім мяду,
Русу касу — на гарэлачкі,
Рабочыя ручкі — на капеечкі,
Прыгожае лічанька — на паперынкі.

681

У полі ліпа стаяла,
Жоўтым цветам цвіла.
Ой, там цешча перапой піла
Да любога зяця, да мілога дзіцяці.
— Да не пі першай меркі,
Выпі палавінку,
Злі коням на грыўку,
Штоб была кучарава,
Штоб была цешча ласкава.

682

Цераз бор сваты ехалі,
Мы ў бары начавалі,
З каліначкі ды расу бралі.

— Мамачка мая родная,
Ды не бяры таго перапою,
Той перапой з вадою.
А я ўжо ў крынічкі
З мілачкам сімпацічным.

683

Мамулька родная, не бяры перапой.
Не бяры перапой, чы буду с табой?
Перапой прымаеш, на каго ўпаваеш:
Ці на сіне плацце, ці на яго багацце?
Сіне плацце ў кроля, багацце ў бога.

684

Ехалі да цераз рэчачку,
Разлілі да гарэлачку
Да набралі да вады бочку.
Паставілі да на ганачку
Маладую да выкупляці,
Дружак да частаваці,
Бо ехалі да цераз рэчачку
Да разлілі да гарэлачку.

685

Дзевачка, наша сястрыца,
Да не пій перапою,
Іх перапой з вадою.
Цераз луг яны ехалі
Да ў лузе станавіліся,
Да з лугу да воду бралі,
З перапоем мяшалі.
Дзевачка, наша сястрыца,
Да не еш караваю.
Іх каравай з мякінаю.
Яны сем год мякіну збіралі
Да з караваем мяшалі.

686

Чэраз чэй-та двор, вой, цёк ручэй мядовы,*
На тым ручайку сядзіць Колечка малады.

Ён таргуе, ён мёдам, віном, гарэлкай.
Ён таму-сяму, ён мераючы, прадае,
Сваёй Марусьцы, не мераючы, так дае.

687

Слаўнае месце Бярэсце,
Новае месце Бярэсце.
У Бярэсці гуліцы цесны,
У Бярэсці жанішкі пышны,
А найпышнейшы Іванка.
Палавіну месца закупіў,
Каля сябе дзевак насадзіў.
Стараною, дзеўкі, стараною,
Катора мая — за мною.
Градочкам, дзеўкі,градочкам,
Катора мая — у вяночку.

688

З-пад пер'я, сваткі, з-пад пер'я,*
А пара нам ужо ляцеці,
Мілага тавару глядзеці.
А мілы тавар — Томачка,
А багаты купец — Колечка.
Адкупіў лугі з краскамі,
Адкупіў бары з пташкамі,
Адкупіў палі з жытамі,
Адкупіў хату з шваграмі.
Красівы лугі з краскамі,
Вясёлы бары з пташкамі,
Багата поле з жытамі,
А громка хата з шваграмі.

689

Ой, сватове-панове,
За што нас запынілі
На шырокай вуліцы,
На зялёнай мураўцы?
Запыніце гэтага караля —
У яго дачок многа,
Яны вашы ягадкі бралі,
Яны ваш бор паламалі.

690

Станьце, дружачкі, ды ўсе ў рад —
Будуць мяне родныя прадаваць.
Будуць мяне родныя прадаваць,
За русую косаньку грошы браць:
Роднаму бацетку на вала,
Роднаму брацетку на каня.
Палавым волікам плуг цягаць,
Вараным конікам ваяваць.

691

Ой, у каморы, за дзверачкамі
Гаварыла дзеванька з таварышачкамі:
— Ой, дзеванькі мае, падружкі мае,
Ужо мяне татачка п'е-прапівае. 2
П'е-прапівае, людзей не пытае.
Можа, ён п'яніца, можа, ён разбойнік.
Ой, калі ён п'яніца, то коні не выбраны,
А калі разбойнік, то не й асядланы.

692

Наехала жаўнераў поўны двор,
Пусцілі стралу па двару
І ўзялі дзевачку маладу.
Сталі яе косачку трапаці,
Стала яна, молада, плакаці:
— Не рушце маей касіцы,
А за маю касіцу — тысяча,
А за мае ўплёты — тры злоты,
А за маё лічыка — чырвонца,
А за мяне, маладу, поўных два.

693

А брат сястру за стол вядзе,
Каліна-маліна, ягада чырвона.
А ёй, сястры, наказ дае,
Каліна-маліна, ягада чырвона.
Садзісь, сястра, ля жаніха
Па левую руку, блізенька да сэрца.

694

І станавіцеся, мае брацейкі, усе ў рад.*
І а пакоіцца па вашых ножках вінаград.
І а я ж думала вінаградзінка коціцца,
Ажно мая братовачка клоніцца.
А я ж думала садовая макоўка,
І ажно маё братовачкі галоўка.

695

Мы думалі, што сонейка ўсходзіць,
А то ж наша братовачка выходзіць,
Мы думалі, што ў гародзе макаўка,
А то ж наша Мар'юшка-братоўка,
Мы думалі, макаўка слоніцца,
А то ж наша братовачка клоніцца.

696

А жоначкі-лябёдачкі,
Скланіце галовачкі,
Ці не ўвіжу братовачкі,
Ці высока пасаджана,
Ці красіва прыбраджана.
А жоначкі-лябёдачкі
Скланілі галовачкі.
Увідзела я братовачку,
Ай, высока пасаджана,
Ай, красіва прыбраджана.
І ўсёй радні скланіўшыся.

697

Жоначкі-лябёдачкі,
Скланіце галовачкі,*
Скланіце галовачкі
Паглядзець братовачкі.
А ў нашай братовачкі
Золата ў маковачкі,
Галоўка прыбраная,

А сама румяная.
Плацейка 'тласавае,
Хустачка шаўковая.

### 698

Ой, братка, братка — татарчук,
Аддаў сястрыцу за канчук.
Не бяры, братка, грошай,
Сястрыца харашэй.
Тыя грошы — сліна,
Будзе табе сястра міла.

### 699

Няма горшага ката,*
Як роднага брата.
Сеў сабе над касою,
Як воўк над казою.
Ён за коску тармосіць,
Болей грошы просіць.
Ён гарэлкі нап'ецца,
Грошай набярэцца.

### 700

Брацiку-наместнічку,
Сядзь сабе ў крэслечку,
Учысь, браце, таргаваці,
Як сястру прадаваці.
Не давай сястры ад залатога,
Ад таляра бітога.
Асьмак — сліна, сястра міла,
За сталом, як каліна.

### 701

Брацейка, да наместнічку,*
Сядзь сабе да на крэслечку,
Не прадавай сястры дзешава,
Да прадай сястру дорага:
Бела ліцо да за тысячу,
Русу косу да за сто злотых,
Самой маладой да цаны няма.

702

Да братка мой, да меснічку,
Сядзь сабе да на месцечку,
Да таргуйся за сястрычку,
Да не бяры паўзалатога,
Да вазьмі каня варанога,
На коніку будзеш паязджаці,
Сястрыцу ўспамінаці.

703

— Не стой, зяце, за плячыма,
Не моргай ачыма.
Да выкінь, зяцю, більца,
Да скупі брата з месца.
— Уменьшце нам грошы,
Бо наш зяць харошы.
Мы да свата не трапілі
І ўсе грошы патрацілі,
То брата скупілі.

*А цяпер дружко:*

— Выкуп, зяцька, дружку з месца
Да выкінь знову більца.

704

— Месяцу, месяцу, Гнатка,
Чаго ты стаіш, не сядаеш?
Чы баішся бліжэй ступіці,
Браціка ад сястры адкупіці?
Ой, выкінь чырвонец на талер,
Брацíка ад сястры за каўнер.
— Цяпер мне вальнейша, ніж табе:
Ой, табе сяструнка раджона,
А мне, маладому, суджона.
Ой, табе сяструнка на сем лет,
А мне, маладому, на ўсей век.

705

Адсунься, браціку, ад сястры,
Бо ўжо я вальнейшы да яе,
Бо ўжо я вальнейшы, ніжлі ты.

Я ўжо да касцёла даяджаў
І перад богам прысягаў,
І перад усімі святымі,
І перад баярамі сваімі.

### 706

Агляніся, млода Зіначка, на сябе,
Ці прадараець твой міленькі да цябе?
Да пасадзі роднага брацетку ля сябе.
Будзець людцам лепей глянуць і табе.

### 707

Браток, браток, саколю,
Пасядзі гадзінку са мною,
Бо тут прыехаў пышны пан,
Ён цябе скупіць, сядзе сам.
Не заробіш таго косячы,
Што ля мяне седзячы.

### 708

Татарын брат сястрэ, татарын,
Аддаў сястрыцу за дары.
Русую касіцу за пятак,
Белае лічыка пайшло й так.
І вароцікі не 'чыніў,
І дарожаньку не ўказаў.
— На гэта, сястрыца, не ўпавай,
Часта ў госцікі прыбывай.
— Не ў тыя рукі я папала,
Штоб к табе ў госцікі бывала,
Можа ў гадочак разочак,
Да і то на адзін часочак.

### 709

Брат з сястрою сядзіць
Да за ручаньку дзяржыць.
Да не хоча папусціці
К чужой чужаніцы
Свае роднае сястрыцы.

710

Брат сястру не любіць,
Дай за ручку дубіць.
А сястрыца ўпіраецца,
З дружочкамі распрашчаецца.

711

Замкі мае нямецкія, замкніце мяне,
А браткі мае родненькія, не аддайце мяне.
Замкі мае нямецкія адамкнуліся,
Браткі мае родненькія адракнуліся.

712

Ой, быў я ў Саковічах, начаваў я ў Марковічах,
Ой, там я бяду збедаваў,
Што брат сястру прадаваў за строчкі,
За выстрочкі, за чырвоныя маністачкі.

713

Хадзілі браціткі па святліцы,
Тужылі, плакалі па сястрыцы.
— Сястрыца, наша перапёлачка,
Прапілі мы цябе за адно словачка.
Расцілі мы цябе не год, не два,
Прапілі мы цябе за час, за два.
Татары брацеткі, татары,
За талер сястру прадалі,
Русую касу дарма аддалі.

714

На вуліцы, да на мураўцы,
Там хадзіла курапат стада,
Між тых курапат шэра зязюлька.
Адкуль узяўся сізы селязенька —
Усіх тых курапатак паразганяў,
Шэрую зязюльку к сабе забраў.

Яна ж у яго прасілася:
— Пусці мяне, сіз селязенька,
К курапаткам па сакатанне,
К зязюлькам на кукаванне.
— Хоць пушчу ж я, дык назначу:
Гэта пер'е з цябе зніму,
Бабровенькае на цябе ўзлажу.
Дзе будзеш лятаці, буду пазнаваці,
Як спазнаю — і ■ сабе вазьму.
На вуліцы, ды на мураўцы,
Там вадзілі танок дзеўкі,
Між тых дзевак малада Галечка.
Адкуль узяўся молад Іванька —
Усіх тых дзевак паразганяў,
Маладу Галечку к сабе ўзяў.
Яна ж у яго прасілася:
— Пусці мяне гуляць, Ванечка,
К дзевачкам на пагулянне,
К хлопчыкам на жартаванне.
— Хоць пушчу, дык назначу:
Гэты венчык з цябе зніму,
Пярловы венчык на цябе ўзлажу,
Дзе будзеш гуляці, буду пазнаваці,
А як спазнаю — ■ сабе забяру.

## 715

У ліпнічку, у ляшчэўнічку
Свечка гарэла, іскарка пала,
На тым месцы возера стала.
На возеры вутачак стада,
Селязенькі ніводнага.
Адкуль браўся сівы селязенька,
Усіх вутачак паразганяў,
Толькі адну сабе ўзяў.
Яна ў яго прасілася:
— Пусці, пусці, сівы селязенька,
Па асеннім моры паплаваці,
З вутачкамі пакрахтаці.
— Калі і пушчу, то зазначу:
Левае крыльцо пакарачу,
А правае пазалачу.
На вуліцы, на шырокай —
Там гуляў карагод дзевак,

Малойчыка ніводнага.
Адкуль браўся малады Васілька,
Усіх дзевачак паразганяў,
Адну Кацярыну сабе ўзяў.
Яна ў яго прасілася:
— Пусці, пусці, малады Васілька,
З дзевачкамі пагуляці,
У карагодзе папяяці.
— Калі пушчу, то зазначу:
Русу косу пакарачу,
Праву ручку пазалачу.

### 716

Ай, па возеру, ай, па сінему,
Ай, плыло, плыло стада вутачак,
Ай, папераду — селязёначка.
А ўзяў вутачку за права крыльца,
За права крыльца, за сыза перца.
А яна ў яго сільна просіцца:
— Ай, пусці ж мяне, дзе ты ўзяў мяне.
— А я ўзяў цябе паміж вутачак,
Ай, пушчу цябе паміж гусачак.
Ай, па вуліцы, ай, па шырокай,
Ай, ішло-прайшло карагод дзевак,
Ай, папярод ідзець малады Хведзіч,
Ай, узяў Настачку за праву ручку,
За праву ручку, за золат персцень.
А яна ў яго сільна просіцца:
— Ай, пусці ж мяне, дзе ты ўзяў мяне.
— А я ўзяў цябе паміж дзевачак,
Ай, пушчу цябе паміж жоначак.
А я ўзяў цябе ў вяночку,
Ай, пушчу цябе ў платочку.

### 717

Поўнае поле галачок,
Скуль не ўзяўся шулячок.
Ён тыя галачкі разагнаў,
Найгорнейшую галачку сабе ўзяў.
Прасілася галачка ў шулячка:
— Пусці мяне, шулячок, ды да галачок.

16. Зак. 847

— Ой, да не пушчу цябе, галачка, не пушчу,
Тваe пер'ечкі распушчу.
Поўна хата дзевачак,
Скуль не ўзяўся жанішок.
Ён тыя дзевачкі разагнаў,
Найхарошшую сабе ўзяў.
Прасілася дзевачка жанішка:
— Пусці, пусці, жанішок, да й да дзевачак.
— Не пушчу, не пушчу, дзеванька, не пушчу,
Я ж тваю русу косу распушчу.

718

Хадзіў гусачок каля бору,
Вадзіў гусачку за сабою.
Відзела гусачка стада гусей.
— Пусці мяне, гусачок, к гусям лятаць.
— Хоць пушчу — не пушчу,— крыло ўстрыгу,
Буду знаць, буду знаць, дзе будзеш лятаць.
А хадзіў Васечка каля столу,
А вадзіў Валечку за сабою.
Відзела Валечка карагод дзевак.
— Пусці мяне, Васечка, к дзевачкам гуляць.
— Хоць пушчу — не пушчу,— коску ўстрыгу,
Буду знаць, буду знаць, з кім будзеш гуляць.

719

А сокалы-лебядзі стараной ляцяць,
Сокалы-лебядзі стараной ляцяць.
Белую лябёдку на крыллях нясуць.*
Завідзела лябёдка лебядзей стада:
— Сокалы-лебядзі, пусціце мяне.
— Не пусцім, лябёдка, не прымеціўшы,
Мы вырвем пярынку лебядзіную,
Мы ўскладзём пярынку сакаліную.
Князі-баяры полем едуць,
Маладу Зіначку з сабой вязуць.
Завідзела Зіначка харавод дзевак:
— Князі-баяры, пусціце мяне.
— Пе пусцім, Зіначка, не прымеціўшы.
Мы сарвём з галоўкі цярноў вянок,
Мы ўскладзём на галоўку шаўкоў платок.

720

Вылятаў салавейка з шчырых бароў,[1]
Выносіў чырачку пад крылачкай.
Увідзела чырачка стада лебядзей:
— Пусці, пусці, салавейка, к лебядзям лётаць.
— Не пушчу, не пушчу, не пазначыўшы.
Вырву пяро, вырву пяро з тваіх сірых крыл,
Дзе будзеш лятаці — буду знаці.
Уз'язджаў Колечка на таткін двор,
Узводзіў Ніначку пад ручаньку.
Увідзела Ніначка карагод дзевак:
— Пусці, пусці, Колечка, к дзеўкам гуляць.
— Не пушчу, не пушчу, не пазначыўшы.
Выпляту уплёт, выпляту уплёт з тваіх русых кос.
Дзе будзеш хадзіці — буду відзеці,
Дзе будзеш гуляці — буду знаці.

721

Наехаў зяць на цесцеў двор, 3
Пабіў брамы мураваны, 3
Разваліў сені новенькі, 3
Паламаў сталы цісовы, 3
Разліў віно зялёнае, 3
Разгнявіў цесця суджонага. 3
— Не гневайся, мой цесценьку,
Ёсць у мяне муляры свае,
Змуруюць табе брамы новыя,
Зробяць сталы цісовыя,
Наліюць віно зялёнае.

722

Прыехаў зяць да на цесцеў двор, на жалезны мост,
На жалезны мост да капытцы знёс.
Жалезныя масты ды паламалі,
Тонкія абрусы да паразрывалі,
Жалезныя масты кавалі кавалі,
Тонкія абрусы ткачы ткалі,
Белыя лебедзі на моры бялілі.

---

[1] Кожны радок, акрамя двух апошніх, паўтараецца.

723

Як наехаў зяць да цесця,
Новыя сені разламаў,
Зялезны мосты паразбіваў,
Дарагое віно паразліваў
І залатыя кубкі паразбіваў.
Адазваўся малады Цімошак:
— Зялезны мост кавале скуюць,
Дарагое віно з-пад Вільні ідзе,
Залатыя кубкі купуе,
А новыя сені вязуць — у бару чэшуць,
Цісовыя сталы майстры зробяць.

724

— А сватове-панове,
Вы ж мой лён патапталі
І з коньмі, і з вазамі.
— Маладзенька Ганначка,
Мы ж твой лён аб'язджалі
І з коньмі, і з вазамі —
Паўз той гай зеляненькі,
Паўз твой лён шаўкавенькі.

725

У Анечкі на двару пшаніца,*
А ў вароціках крыніца,
Пад акошачкам зелен сад.
Прыехаў Пецечка сам-дзесят,
Конямі вадзіцу выпаіў,
Капытамі пшаніцу вытаптаў,
Зелен сад-вінаград выламіў.
Як зажурыцца Анечка
Па тэй вадзіцы сцюдзёнай,
Па тэй пшаніцы зялёнай,
Па тым садочку вішнёвым.
Як зачуў жа тое Пецечка:
— Ай, не журыся, Анечка,
А калі мы з табой сойдземся,
Сцюдзёную вадзіцу ключ наб'ець,
Зялёная пшаніца адрасцець,
Зелен сад-вінаград цвісці будзець,
Мы з табой, Анечка, жыць будзем.

## 726

Царыца Анечка, царыца.*
Серадзі двара крыніца,
Да й за дварочкам пшаніца,
Да й пад вакенцам сад-вінаград.
Як наехалі ж татары,
Пшаніцу-ярыцу стапталі,
А й сад-вінаград выламілі,
Крыніцу-вадзіцу папілі,
З сабой Анечку павязлі.

## 727

Сам-дзесят мальчышка, сам-дзесят,*
Пусціў коніка ў зелен сад.
Зялёную пшаніцку вытравіў,
Сцюдзёную крыніцу выпаіў.
Чырвоныя кветачкі конік збіў,
У садочку салаўя з ружжа ўбіў.
Увідзела дзеванька — заплакала.
— Не плач, дзеванька, не бядуй,
Зялёная пшаніцка вырасце,
Сцюдзёная крынічка нацячэ,
Чырвоны цвяточкі зацвітуць,
У садочку салаўём сам буду.
Буду раненька ўставаць,
Цябе, маладу, пабуджаць.

## 728

Па чом пазнаці сватні двор?
Я й у вароціках — крыніца,
Пасярод двара — пшаніца,
Пад акошачкам — вінаград.
Прыехалі сватоўя-братоўя,
Паелі сачывіцу-пшаніцу,
Папілі халодную вадзіцу,
Зялёны вінаград схапілі,
Вашу Ганначку падманілі.

## 729

Раззеляніўся зялёны сад у гародзе,[1]
Развесяліўся молад Валодзька ў дарозе.
Ой, разгуляўся вараны конік у возе.
А як праскочыць праз трое варот у гарод,
І ай, патаптаў зялёну руту, жоўты цвет.
Загневалася яго дзеванька на яго.
— Не гневайся, мая дзеванька, на мяне,
Не будзіш насіць з руты вяночка ў мяне,
І а будзеш насіць касыначку на галаве.

## 730

Пад кім, пад кім вараны конь гарцуець?
Пад Іванькай ён ножачак не чуець.
Пераскочыў трое варот у гарод,
Пацёр-памяў руту-мяту, жоўты цвет,
Рассярдзілася яго дзеванька на яго.
— А не сярдзіся, мая дзеванька, на мяне.
У мяне ёсць большыя сады за твае,
Ты ж небудзеш вяночкаў віць у мяне,
Ды ты ж будзеш чэпчыкі шыць у мяне.

## 731

Ды чый конік вараны некаваны
Пераскочыў трое варот у гарод,
Да патаптаў руту, лілею ля варот?
Стала дзеванька па зёлачкі тужыць,
Стаў яе малады сужанька ўнімаць:
— Не тужы, маладая дзеванька, па зёлачкі,
Есць у мяне лепшыя зёлачкі за твае.
Ты ў мяне будзеш удзень па садзе хадзіць,
Ты ў мяне будзеш з мірты вяночак насіць.
— Каб столькі ведзьма па гэтым свеце хадзіла,
Колькі я буду ў цябе па садзе хадзіць,
Колькі я буду міртін вяночак насіць.

---

[1] Кожныя два радкі паўтараюцца.

### 732

У маго цесценька па двору расцілаецца вінаград, па двору,
Як наехаў любы зяць да цесця — Цімошка,
То і вінаград конікам патаптаў,
А вецечка мечыкам пасцінаў.
— Пусці мяне, цесценьку, даўно ждаў.
Было вынесці вінаград ў вішнёў сад,
Няхай бы ён ў садочку прымаўся,
Па падтынечку івячкам,
Па прысадачку, прысадачку вецечкам, вецечкам.

### 733

Дачка ў бацькі красуецца *,
Па зялёным саду ходзячы,
Руту-мятаньку садзячы,
Яшчэ чорную смародзіну,
Ой, ды белую бярозіну.
Як прыехаў багатырскі сын,
Пусціў каня ў зялёны сад,
Пацёр-памяў руту-мятаньку,
Яшчэ чорную смародзіну,
Ой, ды белую бярозіну.

### 734

Да ехалі сватове
Да полем і борам,
Паўз гай зялёны,
Паўз сад вішнёвы.
Сад паламілі,
Сакала адбілі.
Дарагія чашачкі
Коньмі пабілі.
Вышла-выбегла
Малада Адарка:
— Сватове-панове,
Што ж вы зрабілі?
Сад паламілі,
Сакала адбілі, 2
[Дарагія чашачкі]
[Коньмі пабілі.]

— Не плач, Адарка,
Калі будзеш наша,
Мы сад пасадзім 2
І сакала прынадзім,
Дарагія чашачкі
Дорага паплацім.

### 735

Па двару Дунюшка васількі багровыя,
Гваздзікі чырвоныя садзіла.
Наехаў Аляксандрушка з баярамі,
Патаптаў васількі багровыя,
Паламаў гваздзікі чырвоныя.
Жалілась Дунюшка сваёй маманьцы:
— Хоць жалься, Дунюшка, не жалься,
Я тваёй маманькі не баюсь,
Я серадзь дворыку астанаўлюсь,
Я тваёй маманьцы ўкланюсь.

### 736

— Хто ў маём садочку рана быў,
Дробную расіцу атрусіў,
Ціхія пташачкі пабудзіў?
Аказаўся салавейка на гняздзе:
— Я ў тваім садочку рана быў,
Дробную расіцу атрусіў,
Ціхія пташачкі пабудзіў.
— Хто на маём надворку рано быў?
На двор вароты адчыніў,
Блізкія суседкі пабудзіў?
Аказаўся малойчык:
— Я на тваім надворку рана быў,
На двор вароты адчыніў,
Блізкія суседкі пабудзіў.

### 737

Ой, сватаў конь на вуліцы гарцуіць,
Ой, сватаў конь ружу і мяту пратаптаў,
Усю ізгароду паламаў.
Ой, жоначкі, будзем каня лавіць,
Ой, жоначкі, будзем у хлеў запіраць,
Ой, сваточак, чым жа будзеш выкупаць?

738

За сеньмі, сеньмі зялён сад.
Ніхто ў тым садзе не бываець,
Адна толькі Гапулька гуляець.
Сінія васількі сеяла,
А чырвоную рожу садзіла,
Карагод дзевачак вадзіла,
Гібкія лавачкі масціла,
Цісовыя столікі станавіла
Ї стада галубоў прыўчыла.
Туды прыехаў Сапронька сам-дзесят,
Пусціў коніка ў зялён сад.
Сінія васількі патаптаў,
Чырвоную рожу сарваў,
Гібкія лавачкі паламаў,
Карагод дзевачак разагнаў,
Стада галубоў пастраляў,
Маладую Гапульку сабе ўзяў.

739

Расце, расце зялёны сад,
У зялёным садзе — вінаград.
А Марыя столікі сталіла,
Зыбкія лаўкі масціла,
Бялявай скацеркай засцілала,
Віном кубачкі налівала.
А Пётр прыехаў сам-дваццат,
А пусціў конікаў у зялёны сад.
Конікі столікі паламалі,
З віном кубачкі выпівалі,
Бялявыя скацеркі памаралі.

740

Кукавала зязюля ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку.
А да яе пташачкі прыляталі,
А ў яе, зязюлі, пыталі:
— Чаго ты, зязюля, кукавала?
— Як, мне, пташачцы, да не кукаваці?
Я ж была сабрала пташачак,
Я ж была звіла гняздзечка,

Я ж была знесла яечка.
Адкуль ізяўся сіз арол,
Кіпцямі гняздзечка разарваў,
Дзюбкаю яечка разкляваў,
А мяне, зязюлю, к сабе ўзяў.
А плакала Агапка ў каморы,
Прылажыўшы галоўку к абалоні,
А да яе дзевачкі прыхадзілі.
А ў яе, Агапкі, пыталі:
— Чаго ж ты, Агапка, плакала?
Чаму ж мне, дзевачцы, да не плакаць?
Я ж была звіла вяночак,
Я ж была пайшла ў таночак.
Адкуль узяўся Зіноўка,
Конікам таночак разагнаў,
Ручкамі вяночак разарваў,
А мяне, Агапку, к сабе ўзяў.

741

Жалкувалася івалга
На свайго брата-салаўя:
— А, брахненька мой, салавей,
Сабрала было пташачак,
А звіла было гняздзечка,
А знясла было яечка.
Адкуль наляцеў арлішча,
Пташачак маіх разагнаў,
Гняздзечка маё раскапаў,
І яечка маё раскляваў,
І мяне, івалгу, за сябе ўзяў.
Жалкувалася Грыпіна
На свайго брата роднага:
— А, брахненька мой родненькі,
Сабрала было дзевушак,
А звіла было вяночак.
Аткуль наехаў Іванька,
Дзевушак маіх разагнаў,
Вяночак мой разарваў,
І мяне, маладу, за сябе ўзяў.

742

— Што ты, кукушка, лятаеш, не дбаеш,
Зачым сабе пцічак не сабіраеш,
Зачым сабе гняздзечка не звіваеш?

— Сабрала была пцічак,
Звіла была гняздзечка:
А дземся ўзяўся гарнастай,
Ножкамі гняздзечка раскідаў,
І шэру кукушку к сабе ўзяў.
— Што ты, красна дзевачка,
Што ты гуляеш, не дбаеш,
Зачым сабе дзевачак не сабіраеш?
Зачым сабе вяночка не зіваеш?
— Сабрала была дзевачак,
Звіла было вяночак:
Пайшла было ў таночак —
А дземся ўзяўся суджанька:
Конікам таночак разагнаў,
Ручкамі вяночак разабраў
І мяне з сабою ўзяў.

### 743

— Лугавая наша зязюля, *
Ці ты ў лужочку не была,
Ці ты сабе гняздзечка не звіла,
Ці ты сабе яечка не знясла?
— Я ж была, шэрая, ў лугу,
Я звіла сабе гняздзечка,
Я знясла сабе яечка.
Як прыляцеў жа салавейка,
Крыламі гняздзечка растрапаў,
Ножкамі яечка растаптаў,
Шэрую зязюлю к сабе ўзяў.
— Маладзенькая Мархвачка,
Ці ты ў садочку не была,
Ці ты сабе вяночка не звіла,
Ці ты сабе таночак не наняла?
— Я ж была, малада, ў саду,
Я звіла сабе вяночак,
Наняла сабе таночак.
Як прыехаў жа Васечка,
Конікам садочак паламаў,
Баярамі таночак разагнаў,
Маладую Мархвачку к сабе ўзяў.

### 744

Пташанька-чырунька ці не чырка была,
Сазвала-сабрала ўсіх чырушак,

Пасадзіла яна іх усіх па суччыкам,
Сама села на макушачцы.
Шчабяталі пташанькі перамаркавыя,
Толькі 'днэй чыруньні ей унёму нет,
Унёму нет, не ўнімаецца.
Адкуль узяўся, прыляцеў сізы ясны арол,
Паразбіў, разагнаў усіх пташачак,
Толькі 'дну чыруньку ён з сабой узяў,
Чырунькай назваў.
Дзеванька была сазвала,
Сабрала яна ўсіх дзевушак,
Пасадзіла яна іх усіх па лавушкам,
Сама села яна ў краватушку.
Кланіла галоўку яна паніжай ўсіх.
Адкуль узяўся прыехаў ды Якушка,
Ён ва ўсіх дзевушак анну Ганульку купляў,
Ён Ганульку купляў, усім гарэлку даваў,
Ён гарэлку даваў і з сабой яе ўзяў,
Ён жаной называў.

### 745

Сёння Ганулька прыгожа ўбрана,
Яе адзенне ў Вільні купляна.
Ездзіў сваточак — купіў вяночак,
Ездзіў міленькі — купіў сукенкі,
Ездзілі залвічкі па чаравічкі,
Ганульку ўбралі і з сабой забралі.

### 746

Клён-дуб, да не дзерава,
Смародзіна, да не ягада.
Ой, Раечка, да не дзевачка,
У яе русая косачка
Шоўкам запляцёна
Да золатам абвядзёна.
А прыехалі госці
Да з чужой жа воласці.
Шоўк той разарвалі,
Золата разламалі
Да і Раю з сабой узялі.

747

Разлійся, вадзіца
А па лугу, па даліне,
А па жоўтаму пясочку.
Расплачся, Гапулька,
Па роду, па племені,
А па русай касіцы.
— У мяне жа была ці не косанька?
У мяне ж была ці не русая?
Чорным шоўкам пераплецена,
А золатам перавязана.
Як наехалі госці
З чужыя валосці,—
Чорны шоўк папарвалі,
А золата разабралі,
А Гапульку сабе ўзялі.

748

Дзевачка мая красная,
Косачка твая русая,
Ты яе часала,
У тры радочкі заплятала,
Чырвоныя шаўкі ўплятала.
Як прыехалі сваты,
Усе Іванавы браты,
Узялі шаўкі абарвалі,
З сабою Адарку ўзялі.

749

А Верачка адзін арэшак мела,
І тога сама не з'ела.
У гародзе пасадзіла,
Тынком абгарадзіла.
Наехалі чужаземцы,
Тынок паламалі,
Верачку з сабою ўзялі.

750

А стаяла, буяла
У гародзе канапелька.
А не даў жа ёй ветрык 2

Яшчэ болей пастаяці, 2
У гародзе пабуяці.
Абабіў ёй цвяточак 2
Да на жоўты пясочак.
А гуляла, красавалася 2
А Волечка ў свайго бацюхны.
А не даў жа ёй Колька 2
Яшчэ болей пагуляці, 2
Да з дзеўкамі паскакаць.
Прыехала тры кавалеры, 2
Косу як раскавалі 3
Да золата й абабралі, 3
Да Волечку к сабе ўзялі.

### 751

А ў гародзе канапелька,
А ў гародзе зелянёнька.
Да хацела канапелька
Да ў гародзе пастаяць,
Да перышкам памахаць.
Да не даў ёй мароз
Да ў гародзе пастаяць,
Да перышкам памахаць.
Да адбіў ёй пер'ейка,
Да ўсушыў ёй карэннечка.
Хацела маладая дзевачка
У татачкі зіму зімаваць,
Да не даў ёй хлопчык-малойчык:
Расплёў ёй косачку,
Разліў ёй слёзачку.

### 752

А ў полі канапелька ды зялёна-зеляненька.
А не даў ветрычак болі пастаяць,
Болі пастаяць, пер'ем пашугаць:
Рассыпаў канапельку на сырую зямельку,
Раздуў пер'ейкі а па чыстым полю.
Ой, наша Полечка ды малада-маладзенька.
А не даў Іванка болі пагуляць,
Болі пагуляць ды касы паплятаць:
Расплёў косухны ды па белых плечыках,
Разліў слёзухны па румяным лічку.

753

Ой, у полі канапелька сама сабе зяляненька,
Ой, не даў ёй ветрык зялёнай стаяць [1]
Да й убіў лісточак у жоўты пясочак.
У мамкі дзяўчыненька сама маладзенька,
Да не даў ёй хлопчык хораша схадзіці,
Хораша схадзіці, венчыка знасіці,
А зняў ён вяночак, палажыў платочак.

754

У вагародзе канапелька, у вагародзе зеляненька,
Ды не даў ёй ветрык зялёнай стаяці,
Зялёнай стаяці, лісцікам лятаці.
Да збіў вяршочак на парашочак,
А яе самую — у зямлю сырую.
Да ні даў малойчык дзеўцы пакрасаваці,
Да зняў вяночак, налажыў чапочак,
Зняў руцвяны, налажыў ніцяны.

755

— Не сядзі, Марыся, не сядзі,
Адчыні ваконца, паглядзі,
Ці ясен месячык на зары,
Ці харош хлопчычак на кані?
— Ай, харош і прыгож, і вялік,
А чаму ж не прывёз чаравік?
— Ай, як я маю вазіці,
Калі ж не ўмее Маруся насіці.
— Чаравічкі й чырвоныя ты ёй прывязі,
А яна будзе хадзіці па гразі,
Але не так па гразі, як па клеці,
Будуць яе чаравічкі скрыпеці,
А будуць на яе ўсе людзі глядзеці.

756

Ой, чые то чаравічкі
У суботу позна везены
Пад шатром, пад пакрытам,

[1] Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца

Пад чорным аксамітам?
То Ганначчыны чаравічкі
У суботу позна везены
Пад шатром, пад пакрытам,
Пад чорным аксамітам.

757

Садам, за садам ранняя роса,
Аж там хадзіла Ніначка боса.
Іванка едзе, чаравічкі вязе,
А яна, маладая, загардавала
І тых чаравічак не абувала.
— Хоць ты гардуеш, але абуеш,
Такі ты маею жаною будзеш.

758

Прыехалі заручнікі,
Прывезлі чаравічкі,
Чаравічкі шымшовыя,
Панчошкі крамовыя,
Падвязкі ядвабныя.
Лепша наша Марыся,
Ніж вашы чаравічкі
З бураковай гічкі,
Паперам падбіты,
Па салому хадзіці.

759

Папытайце ў жабкі,
Ці памерзлі лапкі,
Каля вады ходзячы?
Папытайце ў дзеванькі,
Ці ў час чаравічкі?
— Ці ў час, ці не ў час,
То буду насіці,
Сваго мілага буду любіці.

### 760

Ў нядзелю раненька
Прыехаў дружэнька,
Застаў Надзечку
На белай ложы.
— Уставай, Надзечка,
З белай ложы,
Прывёз дружэнька
Падарунак гожы.
Першы падарунак —
Чорныя чаравічкі,
Другі падарунак —
Белыя панчошкі,
Трэці падарунак —
Залаты пярсцёнак.

### 761

Каб ба табе, Піліпка,
Чорт кожу лупіў:
На што ты Анісці
Чаравічкі купіў,
А не чорненькія —
Чырвоненькія.
Каб ба табе, Анісця,
Сава вочы драла:
На што ты ў Піліпа
Чаравічкі брала,
А не чорненькія —
Чырвоненькія.

### 762

Рана, рана пароша стала,
На той парошы слядок харошы.
Ганначка йшла, чаравічкі нясла,
Чаравічкі нясла казловенькія,
Чулочкі нясла вязёненькія,
Падвязкі нясла шаўковенькія.

### 763

Ой, чы з перцам, чы не з перцам,
Я да цябе з шчырым сэрцам,
Дзеўчына мая, заручоная. [1]

---

[1] Рэфрэн «Дзеўчына мая, заручоная» паўтараецца пасля кожных двух радкоў

17. Зак. 847

Я да цябе прыходзіў,
Чаравічкі прыносіў,
Цябе ў дому не застаў,
Чаравічкі прасвістаў.

### 764

А бярэш, Стахванька, Хвенечку,
А ці купіш цешчы чабаты?
Цешча босая хадзіла,
Аб парогі ногі пабіла,
Яна ж табе Хвенечку расціла.

### 765

Прапіла Якавіха жываты
На чырвоны чобаты.
Няхай Якавіха на чобаты пазірае,
А Сідорыха дачкою пасылае. 2
Павесіць Якавіха чобаты на кручку,
Чы не будуць рабіць дзелечка за дачку.

### 766

Чобаты, чобаты на кручку,
Да рабіце дзелечка за дачку.
Ой, тыя чобаты, што зяць даў,
За тыя чобаты дачку ўзяў.
Ой, чобаты, чобаты вы мае,
Нарабілі клопату вы мне.

### 767

У нашага Ігнаські такая доля — яго дзяўчаты не любяць.
Спалюбіла, спалюбіла яго Сабіначка,
Загадала яму працу: чаравічкі шыць.
— Шый чаравічкі, шый невялічкі з камаровай скуры.
— Калі ж я буду, Сабіна, шыць чаравічкі з камаровай скуры,
Ды прадзі ж ты дратвачку таней павучыны.
— Калі ж я буду прасць дратвачку таней павучыны,
Лаві ж ты, мой Ігнаська, рыбку без чаўна-сеткі.

— Вары ж ты, мая Сабінка, рыбку, каб была жывюсенька.
— Еш жа ты, мой Ігнаська, рыбку, каб была цалюсенька.
— Калі ж я буду рыбу есці, каб была цалюсенька,
Вышы ж, мая Сабінка, дзевяць чэпчыкаў, дзесяту намётачку.
— Калі ж я буду вышываць дзевяць чэпчыкаў, дзесяту намётачку.
Пастаў жа ты, мой Ігнаська, дзевяць касцёлаў, дзесяту царкву.
— Прывядзі ж ты, Сабіначка, дзевяць сыночкаў, дзесяту дачушку.

### 768

А чаго ж ты, Магдуся, сядзела?
А куды ж ты, Магдуся, глядзела?
Ці ты свайго Мацюшку не ждала?
Ці ты яго ў хатухну не звала?
Купіў табе хустачку Мацюхна,
Палюбіцца новая хустачка.
Паглядзі, Магдуські ён укланяецца,
Да сваей Магдуські ён заляцаецца. 2

### 769

А ў полі садок не мяцён,
Рутаю-мятаю ўтрасён.
Ніхто ў тым садзе не бываў,
Толькі малады Іванька ў скрыпку йграў.
Там яго Сахвейка гуляла,
Яна яму хустаньку даравала.
Накрухмаліла крухмалам,
Каб стаяла калясом
Пад Іванкавым паясом.

### 770

А наша Манечка паненка,
А мыла хустачкі бяленька,
У чатыры крухмалы мачала,
У чатыры качалкі качала,
Сужэньку пад пояс давала.
— Стань, мая хустачка, калясом
У майго сужэнькі пад паясом.

## 771

Саколік на коліку.
Саколік на коліку,
Міцячка на коніку,
Пад'ягжджаіць да акенца,
Пад'ягжджаіць да акенца:
— Вечар добры паненца.
Дам табе гасцінчыка,
Беленькага сырчыка,
Два яблыкі вінныя,
Мы з табой маладыя,
Два арэшкі поўныя,
Бо мы з табой роўныя,
Два арэшкі лушчоныя,
Бо мы з табой вянчоныя.

## 772

Хто ж тыя равы капаў,
Хто ж тыя сцежкі таптаў?
Ой лі, ой, люлі, [1]
Хто ж тыя сцежкі таптаў?
Ясенька сцежкі таптаў,
Ясенька равы капаў,
Падарачкі носячы.
Што ж там за падарачкі?
Цукеркі да яблычкі.
Я яблыньку сам садзіў,
А Данусю бог судзіў.

## 773

Разумная пташачка жавароначак,
Угару лятучы, крыллейкамі махае,
З горы лятучы, песенькі спявае.
Разумнае дзіця — Іванька,
Учора з вечара русыя кудзеркі часаў,
З поўначы варанога каня сядлаў,
Сягоння рана на паляванне паехаў.
Забіў ён кунaчку-бобрыка,
Прывёз ён к цясцёчку падараў
За сваю маладую каханку.

---

[1] Рэфрэн «Ой, лі, ой, люлі» паўтараецца пасля кожнага цотнага радка.

### 774

Дзевачкі-галубачкі мае,
Не знаеце прычынушкі вы свае.
Не век жа вам на свеце дзевавацъ
І без шапкі гаравацъ.
Свякроў галовушку памоецъ,
Мужык шапкаю пакроецъ,
Годзе табе, Ганначка, дзевавацъ,
Пара прышла, галубачке,
Шапку надзяваць.

### 775

У каго ў нас на куце ды й зазерылася?
А ў Івана на куце ды й зазерылася,
Купілі Азару залаты каўпак,
Знацъ жа яго дужа бацька багат.
Купіў, на яго паглядзеў,
Калі той Зехі ды й палучшы ў ім.

### 776

Па-за ручайку красачкі цвіцелі,
Па застоллейку сваточкі паселі.
А на кім, на сім шапачка хараша,
А на хлопчыку з чорнага сабальца,
А на тэй шапачцы ружовая кветачка,
На тэй кветачцы божая расіца.
А дзе браліся марскія пташачкі,
Абцерушылі божую расіцу
На дзяўчыніну русую касіцу.

### 777

А ў нашага Яшкі, ахці мне [1],
Пухава шляпа.
Ці не бог яму даў,
Ці не цар даравау?
Яму татка купіў,
Сто рублей заплаціў.

---

[1] Рэфрэн «ахці мне» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

778

Сядзіць жаніх за сталом,
На ём шляпа сямі сабалёў,
Не сам спраўляў — цар дараваў
Да на воінку адпраўляў.
Ай, воін, воін — жанішок,
Ваеначка — нявеста.

779

На Амосу шапачка
На чатыры тысячы,
На пяцьсот пазалочаных.
Прыставала к яму Ганначка:
— Ужо ж і хто табе шапачку дараваў?
— Вясёл сокал прылятаў
Дый шапачку падараваў.

780

На кім, на сім шаўковая хустачка. 2
А на Ганначцы шаўкавейшая, як на ўсіх. 2
Яе лічанька румянейшае, як ва ўсіх.
На кім, на сім а пуховая шапачка, 2
А на Іваньку пухавейшая, як на ўсіх,
Яго лічанька румянейшае, як ва ўсіх. 2

781

За гарой Хрысцінка пшонку жнець,
З цёмнага лесу тучка йдзець,
А за ёй маманька паслы шлець:
— Ты не бойся, Хрысцінка, цёмнай ночанькі,
Гэтай грознай тучанькі.
— Чаго ж я маю баяцца —
Не дождажам мяне абаллець,
А добрай доляй абгарнець.
Не ветрам мяне абвеіць,
Якаўка шубанькай абкрыіць.
Чырвоны атлас на пояс,
Гэта табе, Хрысцінка, добры час.
Не шуба — гэта кажушок,

Гэта табе, Хрысцінка, мужычок.
Не пояс — гэта акраінка,
Гэта табе, Хрысцінка, абманка.

782

Прыслаў свёкар адзяванне:
Ці кунння шуба, ці барання?
Калі ж кунння, дык кініш,
А калі барання, дык прыміш.

783

Сцірагайцеся, рабяты,
Ляціць кажух з-пад грады.
Ляціць кажух з-пад печы.
А мы думалі саболлі,
Ляціць кажух з-пад полля.

784

Чорна чорначанка па бару, *
Прапіў Сяргейка чорную шубу на мяду. 2
Як стала яго дзевачка бедаваць.
— А як жа мы будзем без чорнай шубы зімаваць?
— Нагонім чорных авец стадолу,
Пашыем чорную шубу да долу.

785

Пад намі, баярамі, лаўкі пагнуліся.
Ад чаго ж яны пагнуліся?
Ад дарагіх шубаў.
— Іванка, дзе шуб набраў?
— Я свае стральцы маю,
У шчыры бор пасылаю.
У чацверг бабры білі,
У пятніцу шубы шылі,
У суботу ўбіраліся,
У панядзелак мы тут сталі.

786

Дождж ідзе, на дварэ непагоданька,
Наш Цімошка без кажуха паедзе.
Ой, у нас кажушок жоўценькі.
Ёсць у мяне маладая Матронка,
Нашто ж мне кажух жоўценькі.

787

Пасею руту за гарою,
Нашлю дожджыка стараною
На маю руту зялёную,
Каб мая рута ўзыходзіла,
Чырвоным цветам зацвітала.
Па тым садочку Ваня хадзіў,
Вырваў красачку за шапачку,
Сваёй Ганначцы закладачку
Да й за русую за косачку.
— Насі, Ганначка, выкрашайся,
Сваім Іванкам выхваляйся.

788

У гародзе ды па пагодзе дзевачка цвяты поле.
Каля плоту, каля замёту Андрэйка коні водзіць.
— Падай, дзевачка, падай кветачку на шапачку.
— Не дам, Андрэйка, не дам, малады, я баюся татку.
— Не бось, дзевачка, не бось, маладая, я ўмею падмаўляці,
Я ўлезу ў хатку к твайму татку, я ўмею загукаці.
Мой канёк улез, цвяточкаў паеў, сам буду атвячаці.

789

Там, за гарою, за крамяною, там кітаенька мае,
Там Ванечка маладзесенькі на сівому кані йграе,
А кала яго няма нікога — адна Ніначка яго,
Просіць ён у яе вяночка да шапачкі.
— Я б табе дала, не жалавала б, но баюся матанькі.
— Ой, Ніначка маладзенькая, не бойся свае матанькі,
Не бойся матанькі, а бойся мяне, маладога.
Мацюнчыны грозы, так як летнія росы,
А мае грозы, так як зімні марозы.

790

А Ганулька ў гародзе розаньку палола.
Розу поліць — слёзы роніць,
Белы рукі коліць.
Адкуль узяўся Іванька на вараным каньку.
— Бог помач табе, Ганулька, розу палоць.
— Спасіба табе, Іванька, за добрае слоўца.
— Сарві, Ганулька, розавы цвяток.
Саві, саві, Ганулька, розавы вянок.
— Баюсь, баюсь бацькіных угроз.
— Сонца ўзыйдзіць, вецер дуніць,
Раса абсыхаіць, а бацькіна сардэчка ўціхаіць.

791

Ой, паглядзі, дружанятка, на мяне,
Што твая шапачка ў мяне.
Ой, твая шапачка — каўпачок,
Кінь на талерачку пятачок.
Ой, ты, дружанятка, войтаў сын,
Кінь на талерачку рублёў сем.
Мала, дружку, мала,
Штоб цябе разарвала.

792

Я свайго галубца дый назначыла,
Пад правым крылом пазалоціла.
Я свайго жанішка дый назначыла,
Да шапкі кветачку прышыла.

793

Як на морачку, як на сіненькім
Плавала шэрая вутачка.
За ей у пагон, за ей у дагон
Сізы селязень.
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пашчабечам.
Быў я на месце, чуў я тры весці
Пра цябе, шэрая вутачка.
Купляюць сеці, таргуюць сеці

На тваіх дробных дзяцей.
— Няхай купляюць, няхай таргуюць,
Я аб гэтым не баюся:
Сеці падзяру, дзяцей пабяру,
Плавала і плаваць буду.
І плавання не забуду.
Як на ганачку, як на новенькім
Гуляла Мар'ютачка,
За ей у пагон, за ей у дагон
Малады Іванечка.
— Пастой, Мар'ютка, пастой, дзеванька,
Мы з табой пагаворым.
Быў я на месце, чуў я тры весці
Пра цябе, Мар'ютачка.
Купляюць табе, таргуюць табе
Чапец на галоўку.
— Няхай купляюць, няхай таргуюць
Я аб гэтым не баюся:
Чапец падзяру, коску распляту,
Гуляла і гуляць буду,
І гуляння не забуду.

794

Ой, плыве вутка па моры хутка
З сваімі вуцятамі.
За ёю, ёю сівы селезень
На крылца наплывае:
— Пастой, вутачка, сіва галубка,
Пагаворым з табою.
Быў я на моры, чуў я тры словы
Пра цябе, шэрая вутка.
Пра цябе, вутка, пра твае вуцяняты.
Што вяжуць сеці на твае дзеці,
На цябе, сіва вутка.
— Ой, няхай вяжуць, як самі знаюць,
Я ж таго не баюся.
Сетачку прарву, дзеткі выпушчу,
А сама ўплаў пайду.
Ходзіць дзевачка ў татка на двару
З сваімі дружачкамі.
За ёю, ёю малады хлапчук
На шубку наступае:
— Пастой, Ніначка, малада дзевачка,

Пагаворым з табою.
Быў я на месцi, чуў я тры весцi
Пра цябе, маладую,
Што шыюць швачкi каснiчкi, стонжачкi
На тваю галаваньку.
— Ой, няхай шыюць, як самi ўмеюць,
Я таго не баюся,
Iз суботанькi на нядзеленьку
Я ў тое прыбяруся.

795

Ляцела вутка без уцяцi
На мора начаваці.
За ёю; ёю сiз селязенька,
За ёю шэранькаю:
— Пастой вутачка, пастой шэрая,
Скажу табе нешта:
Быў я на моры, чуў нагаворы
Праз цябе шэранькая.
Рыхтуюць сецi на тваe дзецi
I па цябе, шэранькую.
— Няхай рыхтуюць, хоць не рыхтуюць,
Я таго не баюся.
Дзетачкi нырнуць, сетачкi парвуць,
А я, шэрая, ўплаў пайду.
Iшла Манечка праз вулiцу
У зелен сад прагуляцi.
За ёю, ёю, молад Колечка,
За ёю маладою:
— Пастой, Манечка, пастой, мiлая,
Скажу табе нешта:
Быў я ў каморы, чуў нагаворы
Праз цябе, маладую.
Рыхтуюць чэпчык ды з наметкаю
На тваю галовачку.
— Няхай рыхтуюць, хоць не рыхтуюць,
Я таго не баюся.
Чэпчык надзенуць, наметкай пакрыюць,
Малада прыбяруся.

796

Плавала вутка па сiняму мору,
За ею селязенька.
— Стой, пажджы, шэра вуцiца,

Пашчабечым з табой.
Быў я на месці,
Чуў я тры весці
Аб табе, шэру вутку.
Наводзяць сеці на тваіх дзяцей,
Хочаць іх палавіці.
— Не бось, селезень,
Не бось, сызенькі,
Я гэтага не баюсь.
Крыллейкам махну,
На дно панырну,
Таго асцерагусь.
Па сянёх, сянёх навюсенькіх
Александрыначка ходзіць.
За ею Андрэечка,
За ручачку ловіць.
— Пастой, пагадзі,
Малада Александрыначка,
Пагаворым з табою.
Быў я на месце,
Чуў я тры весці
Аб табе, маладую.
Твая мамухна,
Твая родная
Каля крамачак ходзіць,
Купляець-таргуець намётачку
На тваю галовачку...
— Не бось, Андрэйка,
Не бось, малады,
Я гэтага не баюсь:
Ручачкай кіўну,
Хустачкай махну —
Гэтага асцерагусь.

797

Ходзіць вутачка па сенажаці,
Галоўку скланіўшы. **
За ёй селязень, за ёй сізенькі,
Крылейка апусціўшы.
— Пастой, вутачка, пастой, шэрая,
Мы з табой пашчабечам.
— Адстань, селязень, адстань, сізенькі,
Некалі шчабятаць.

Строяць жа сеці на мае дзеці,
Хочаць іх палавіць.
Ходзіць Галенька каля століка,
Косачкі папусціўшы.
За ёй матуля, за ёй родная,
Ручачкі сашчапіўшы.
— Пастой, дачушка, пастой родная,
Мы з табой пагаворым.
— Адстань, матуля, адстань, родная,
Некалі гаварыці.
Стояць ножнічкі на мае косы,
Хочаць іх застрыгчы.

798

Выйшла Манечка за варотанькі,
Косанькі расчасаўшы,
За ёй матуля, за ёй родная,
Ручкі заламаўшы.
— Пастой, дзіцятка, пастой раднае,
Мы з табой пагаворым.
— Мая й матуля, мая й родная,
Што ж будзем гаварыці?
— Была на рынку, чула навінку,
Пра цябе, маладзеньку.
Вянкі прадаюць, чыпкі купляюць.
— Я й таго не баюся.
Вяночак здыймець, чыпак наложыць,
Я й усім пакланюся.

799

Выйдзі, выйдзі, Іванка,
Пазнай, пазнай Верачку:
Ці твая, ці не твая,
Ці якая баба старая.
Мы Верачку снарадзілі
Ды старую бабу пасадзілі.

800

Младая дзевачка,
Не падымай пакрывала,
Не паглядай на мілага,

За свой век нацешышся,
Лягжаш спаць — нагледзішся,
Дробных слёзак наронішся,
У бога смерці напросішся.

### 801

Ай, не сядзі, Іванька, не сядзі, *
Паднімі шапачку, паглядзі.
Ці не спадмана якая,
Ці не бабачка старая.
Ды калі бабачка, адпіхні,
Калі Ганначка, абнімі.

### 802

— Да чаго стаіш, чаму не сядзеш, жанішок?
Нібы ты сваго цесценька не знаеш
Да сабе пэўнага месца не маеш?
— Пагавару я з сваім цесцюшкам стоячы,
Тагды я сяду за цясовую скам'ею,
З дзеванькаю сваею.

# ЯДНАННЕ МАЛАДЫХ

803

К сталу, сватка, к сталу,
Не з пустога мы дому.
Мы з дому дамавога,
Ад свата камлявога,
Ад князя маладога.

804

— Ой, зялёненькі качаночак, *
Ой, дзе ж нам цябе пасадзіць?
А ці ў гародзе на градзе,
А ці ў капуснай баразне?
— Ой, дзе хочаце, садзіце,
Толькі майго лісцейка не трыце.
— Ой, ты, красная Леначка,
Ой, дзе ж нам цябе пасадзіць?
А ці ў свёкаркі на куце,
А ці ў Валеркі на крысе?
— Ой, дзе хочаце, садзіце,
Толькі майго вяночка не трыце.

805

— А зялёненькі вінаград,
А дзе ж цябе пасадзіць?
Ці ў гародзе ў баразне,
Ці ў капусце на градзе?
— Я ў гародзе рось буду,
А ў капусце цвісь буду.
— А малодзенькі Віценька,
А дзе ж нам цябе пасадзіць?
Ці ў цешчы на куце,
Ці ў Валечкі ля рукі?
— Я ў цешчухны піць буду,
А з маладой Валечкай жыць буду.

### 806

— Зялёненькі вінаград, *
А дзе цябе садзіці?
Ці ў гародзе на лясе,
Ці ў садзіку на красе?
— Дзе хочаце садзіце,
Толькі мяне паліце.
Не палівай вадою,
А палівай сытою.
— Маладая Танечка,
А дзе цябе садзіці?
Ці ў татухны за сталом,
Ці ў свёкаркі на куце?
— Дзе хочаце садзіце,
Толькі мяне даруйце.
Не золатам-серабром,
Тонкім, белым палатном.

### 807

Зялёненькі наш вінаград,
А йдзе нам яго пасадзіць,
А чым нам яго паліваць?
Пасадзім яго на градзе,
Будзім паліваць вадою.
А харош наш Сашачка,
А йдзе нам яго пасадзіці,
А кім нам яго надзяліці?
Пасадзім яго на куце,
Надзелім яго Манечкай.

### 808

Шаўковая нітачка сцяну гне,
Ці ўсім баярам месца е?
А калі няма — кажыце,
Зялёнага явара рубіце,
Цясовыя лавачкі кладзіце,
Харошыя баяры садзіце.

## 809

Прыляцеў сокал звысока, звысока,
Прыехаў кавалер здалёка,
Прыляцеў салавей да й шчабеча, гняздо ўе.
Чы ўсім баярам месца е?
Каму нямае, кажыце,
Маго баценка прасіце.

## 810

У саду салавей гняздо ўе,
Чы ўсім сватам месца е?
Каму нямае — кажыце,
Да й на рыначак бяжыце,
Нова крэселка купіце,
Свае сватове садзіце.

## 811

Усім баярам месца е,
А Іванку не мае.
Няхай Манька шукае
Да пабліжай к сабе саджае.

## 812

Да ў лузе на каліне, рана [1],
Наляцела пташак многа.
Пташак многа, ягад мала.
Усім пташкам досыць стала,
Салавейку мала стала.
Салавейку хоць зязюльку:
Яна сама маленькая,
Яе пер'е рабенькае.
У Ганначкі на падвор'і
Наехала сватоў многа.
Сватоў многа, дароў мала.
Усім сватам досыць стала,
А Януку мала стала.
Яму хоць Ганначку:
Яна сама маладая,
Яе ліцо румяное.

---

[1] Рэфрэн «рана» паўтараецца ў канцы кожнага радка

813

Кругла мала балоцітка,
Ды хоць яно малюсенька, але ягодліва.
Наляцела пташак многа, усім пташачкам па ягадкі.
А салавейку — зязюленька.
Нізка, мала Альбіначка,
Хоць яна малюсенька, але яна шчаслівая.
Наехала сватоў многа, усім сваточкам па дзяўчыначке,
А Альбінкі — Антосенька.

814

Да белая да бярозачка, да бярозачка.
Да белая да бярозачка
Ўвесь лес пабяліла, пабяліла.
Увесь лес да пабяліла,
Аднаго не ўбяліла, не ўбяліла.
Й аднаго не ўбяліла
Арэшкавага куста, куста.
Арэшкавага куста.
Я ля яго да сама стану, стану.
Я ля яго да сама стану, стану.
Я ля яго да сама стану,
Голлейкам я дай апушчуся, апушчуся.
Голлейкам я апушчуся,
Лісцейкам да агарнуся, агарнуся.
Лісцейкам да й агарнуся.
Маладая Любачка, Любачка,
Маладая Любачка
Усе сваты да падарыла, падарыла.
Усе сваты падарыла,
Аднаго не ўдарыла, не ўдарыла.
Аднаго не ўдарыла
Маладога Іванка, Іванка.
Маладога Іванка.
Я ля яго да сама сяду, сяду.
А ля яго сама сяду,
Коскамі апушчуся, апушчуся.
Коскамі апушчуся, слёзкамі абальюся.

815

Белая да бярозка **
Усе лугі да пабяліла.
Усе лугі да пабяліла,

А явара абмінавала.
А явара абмінавала,
Каля яго сама стала.
Маладая Волечка
Усе хлопцы да й пагудзіла,
А Колечку да й палюбіла.
А Колечку да й палюбіла,
Каля яго да сама села.
Каля яго да сама села
Да й песеньку запела.

### 816

Як у садзе ды вішанька, ■ за садам дзве,
Цвілі яны харашэнька ўсе тры.
Харошая яварынка ў лесе была,
Усім яварочкам загуды дала.
Ой, аднаго явара, ой, палюбіла,
Ой, блізка сябе пасадзіла.
Харошая Вольгачка ў таткі жыла,
Усім яна ды хлопчыкам загуды дала,
Аднаго ды Івана палюбіла,
Блізка сябе пасадзіла,
На пасадзе мёдам, віном напаіла.

### 817

Да па бары, бары куна хадзіла,
Залатым падгарлем весь бор асвяціла,
Сямі бор сакалоў да яна згардзіла,
Да цябе, сакол, сама захацела.
Па новых па сенях дзеванька хадзіла,
Залатым пярсцёнкам сені асвяціла,
Сямі сёл малайцоў да яна згардзіла,
Да цябе, Марцінка, сама захацела.

### 818

А Куна па бару хадзіла, *
Яна свайго саболіка абудзіла.
— Устань, устань, саболіку, абачніся,
Ужо нас стрэльчыкі асачылі,
Ужо мяне, кунaчку, пасадзілі.
Мяне кунaчку — на шубачку,
А цябе, собалю — на падбою.

819

Зазулька гняздзечка звіла,
Салавейка прыляцеў у начы,
Сеў ён на гняздзечку, спачыў,
Зазулька салаўя пытае:
— Салавейку, хто цябе так навучыў,
Коб на маём гняздзечку запачыў?
— Зазулька, пташачка навучыла,
Каб на тваім гняздзечку запачыў.
Матронка на пасадзе сядзіць,
Цімошка прыехаў у начы,
Сеў ён на пасадзе спачыць.
Матронка Цімошка пытае:
— Цімошку, хто цябе так навучыў,
Каб на маём пасадзе запачыў?
— Гасподзь бог навучыў,
Штоб на тваём пасадзе запачыў.

820

Цяпер, бацьку, уся праўда,
Пасадзіў зяця за сталом
Дай назві яго сакалом.
Налей гарэлкі паўненька,
Папрасі яго вярненька.

821

Адхілілася верба
Ад лазовага корча,
Прыхілілася яна
Да белай бярозкі.
Адхілілась Ганначка
Ад роду, ад племені,
Ад роднага бацenькі,
Прыхілілася яна
Да маладога Андрэйка.

822

Ляцеў жа саколічак,
Сеў-упаў ды на столічак
Ды перад дзевачкамі.
— Дзевачкі-сястрычкі, вітайце саколічка.

— А мне цяпер не да саколічка,
Качнула вяночак на скам'е,
Задала жалосці ўсей сям'е.
А не так жа сям'е,
Як свайму татку роднаму.

823

А ізлянула два ангелы із неба,
Пасаджона двое дзетак, дзе трэба.
— А хто цябе, маладзенькая, садавіў,
А хто табе вянок віў?
— Садавіў мяне мой ойчанька сціхенька,
Я ойцу за тое пакланюся нізенька,
Што пасадзіў каля Яся блізенька.

824

Ой, хітранькі, разумненькі жанішок,
Ой, хітра ён да сваяго цесця прыехаў.
Чэраз поля імгліцаю каціўся,
У сяло ўехаў, дробным дождж਼ыкам абліўся,
На двор з'ехаў, барвінкаю ўквяціўся,
У сені вайшоў, усім нізка скланіўся,
За столікам саколікам садзіўся.

825

Ай, хіцёр-мудзёр Яначка,
З-пад лесу ўзыйшоў хмаркаю,
Поле перайшоў дождж਼ыкам,
Пад двор падыйшоў ракою,
У вароціках стаў вярбою,
У сені ўляцеў галубком,
У хату ўвайшоў малайцом,
За столікам сеў панічом.
— Хадзі, мая дзеванька, сядзь ля мяне.
— Пачакай, Яначка, прыбяруся,
Па пояс золатам абаўюся,
А па плечанькі серабром.
Выпушчу касу к паясу,
Няхай мая косанька алее,

Няхай мая радзіна жалее.
Алее косанька да цвету,
Жалее радзіна да веку.

826

А хіцёр-мудзёр Яхімка, *
Пад двор падыйшоў ракою,
У вароціках стаў вярбою,
Па двару пайшоў свячою,
А ў сені ўляцеў сакалом,
А ў хату ўвайшоў малайцом,
А за скам'ёй сеў панічом,
Дастаў дзевачку за скам'ёй,
Медзяны кубачкі налівае,
Яна свайго Яхімку паджыдае.
— Пей, мой Яхімка, чай, віно,
Вязі мяне дамоў з сабою.
Мне ўжо ў татанькі надаела
З клеці да ў хату ходзячы,
Залаты ключы носячы,
Свае рукі памарала
Я ўжо ад гэтых ключоў,
Свае персні паламала.
Твае конікі сівенькія,
Няхай яны бягуць дамоў скоранька,
Каб мяне бог і людзі не відзелі,
Як я ад татанькі ад'ехала.
Як у госці прыду, дык падкрадня,
Пагляджу ў ваконца, ці здарова мамка.
Калі не спіць, дык «дзень добры» дам,
А калі спіць, дык ціхонька пайду.
Калі люба з мамкай пагаманю,
А калі з таткам, дык будзе браніцца.

827

Ой, хіцёр-мудзёр мальчышка,
А па полю ішоў імглою,
У вароціках стаў вярбою,
А па двару ўзышоў вадою,
А ў сені ўвайшоў жандарам,
А ў хату ўляцеў сакалом,

А заспеў Ніначку за сталом.
— А хоць лятай, не лятай, саколе,
Не пайду да свету з застолля,
Я й цёмнай ночы баюся,
З варанога коніка звалюся.
— Не бойся, Ніначка, ты таго,
Ёсць у мяне брацейка ля таго,
Цёмная ночанька павіднеіць,
Шырока дарожка параўнеіць.

828

МАлады Арсенька
Да сялом едзе — вараным канём гуляе,
А ў двор едзе — стрэлачкамі страляе,
А ў сені ідзе — да барвіночкам сцелецца,
А ў хату ідзе — да барвіночкам зноў цвіце,
За стол садзіцца з ясненькімі свячамі,
Мёд-віно п'е з дробненькімі сёстрамі.

829

Ой, вумненькі да разумненькі жанішок
З неба спусціўся,
А на цясця двор ізліўся,
А ў сеначкі барвіночкам масціўся,
А ў хату да раічынькам ізвіўся,
Па застольчыку залатым клубком каціўся,
Каля дзеванькі да панічыкам садзіўся.

830

Ай, вумненькі, ай, разумненькі Пецечка,
К цесцю на двор чарнушачкам коціцца,
А ў сенечкі васілёчкам сцелецца,
А ў хату ён ружай-мятаю сцелецца,
За столікам ён саколікам верціцца,
Ён каля сваей Ніначкі садзіцца.

831

Кароль, кароль, каралеўскі сын Іванька
Да цёшчы на двор барвёнычыкам каціўся,
А ў сенюшках васілінькам радзіўся,
А ў хату — пахучаю мятай.
За столікам саколікам мятаўся,
Ўсё за сваю Ніначку хватаўся.

832

Кароль, кароль,
Каралеўскі сын,
Па полю едзець —
Васілёчкам сцелецца,
А ў вароты едзець —
Вараным канём хваліцца,
Ў ізбу ўходзіць —
Маладым князем кажацца,
А за стол садзіцца —
Княгіняю хваліцца.

833

Слаўся, барвіночку, слаўся,
Па двору рассцілайся.
Па двору барвіночкам,
Па хаце васілёчкам.
У хату соненькам,
За стол саколенькам.

834

Ай, хіцёр-мудзёр Яначка,
Падшуціў-падманіў сабе дзеваньку.
Улетку на кірмашы — канфетамі,
У каляды на ігрышчы — арэшкамі,
У вясёлай бяседзе — ўсмешкамі.

835

Стучыць-гручыць дарожачка за сялом —
Едзе-ляціць молад Колечка сакалом.
У сяло ўязджаецъ — паціху коні здзяржаецъ.
Ён цесцю на двор сінім туманам спусціўся,
Каля ганачку зялёным хмелем абвіўся,
А ў хатачку ясным месяцам увайшоў,
А за сталом яснай зорачкай садзіўся,
Каля сваёй маладой Кацечкі прытуліўся.

836

У нядзельку рана, чуць зара,
Малойчык свіснуў на каня.
Сонейка ўзышло — прыехаў,
Прыехаў на двор сакалом,
Застаў дзевачку за сталом.
А яна малойчыка вітала,
У яго праўдачкі пытала:
— Скажы, малойчык, праўду мне:
З кім гэту ночку начаваў,
З кім гэту раду парадзіў?
— Начаваў ночку я з богам,
Радзіў радачку з таткам,
А цяпер буду з табою,
Са сваёй мілай жаною.

837

А віліся пчолачкі каля бярозачкі.
— Ай, віцеся, не віцеся,
Паціхоньку садзіціся,
Веццяя майго не абламіце,
Лісця майго не абамніце.
А віліся сваточкі каля нашай Настачкі.
— Ай, віцеся, не віцеся,
Паціхоньку садзіціся,
Майго шоўку не трыце,
Вянка майго не мніце.

838

Не садзіся блізка мяне,
Не кладзі рукі на мяне,
Твая рука да цяжэнька,
Горш вярма да турэцкага,
Бо я роду шляхецкага.

839

Не хацелася зязюлі
З боку салаўя ляцеці,
З-пад яго крылушка глядзеці,

З-пад яго крылышка правага,
З-пад пер'ейка сізага.
Хоць не хацела — сядзела,
З-пад яго крылышка глядзела,
З-пад яго крылышка правага,
З-пад яго пер'ейка сізага.
Не хацелася Леначчы
З боку Віцечкі сядзеці,
З-пад яго ручачкі глядзеці,
З-пад яго ручачкі правае,
З-пад яго персценька залатога.
Хоць не хацела — сядзела,
З-пад яго ручачкі глядзела,
З-пад яго ручачкі правае,
З-пад яго персценька залатога.

**840**

Ляцела чорна галачка нізенька,
Нізенька. **
Кала яе ясен сокал блізенька,
Блізенька.
— Адкасніся, ясны сокал, ад мяне,
Ад мяне.
— Не адкаснуся, чорна галачка, ад цябе,
Ад цябе.
А ты маленькая, а ты чорненькая, хараша,
Хараша.
Па небу коцішся скоранька,
Скоранька.
Сядзела да і Рыпіначка нізенька,
Нізенька.
Для яе да Архіпачка блізенька,
Блізенька.
— Адкасніся, Архіпачка, ад мяне,
Ад мяне.
— Не адкаснуся я, Грыпіначка, ад цябе,
Ад цябе.
А ты красненькая, а ты маленькая, хараша,
Хараша.
Па вадзіцу бяжыш скоранька,
Скоранька.
А вадзіцу нясеш, не разальеш,
Не разальеш.

841

Не сядзі, малады, бокам,
Гэта табе не з нарокам.
Сядзь сабе блізюсенька,
Будзець табе мілюсенька.
Сядзь сабе бліжэй за ўсіх,
Будзець табе мілей ад усіх.

842

Уляцеў салавейка,
Сеў на печы,
Спрашвае, што есці.
— Калача.
Да пытае, што піці.
— Гарэлку.
Прыехалі да свата
Па дзеўку.

843

Прыехаў Мікалайка з канём на двор,
А Хвядорка ды кулём пад пол.
А ён яе качаргою:
— Сюда, сюда, сядзь са мною,
Не садзіся ка мне бокам,
Гэта ж табе ненарокам.

844

Не хадзі, княгінька, бокам, бокам,
Прыехаў жанішок ненарокам.
Не хадзі, княгінька, задраўшысь,
Прыехаў жанішок, сабраўшысь.
Не хадзі, княгінька, каля лавак,
Прыехаў жанішок без баранак.

845

Не сядзі, Анісьця,
Бокам, бокам,
Прывязлі Хвіліпа

З адным вокам.
Не сядзі, Анісьця,
Дыбам, дыбам,
Прывязлі Хвіліпа
З адным грыбам.

### 846

Не варкуй, галубец, не варкуй,
Паймалі табе галубку
У лузе, ў лужочку, ракітавым кусточку.
Ты, Ванечка, не клапаціся,
Мы табе ўзялі дзеўку
Ў Лукашкіным дамочку.

### 847

Абмануў, брацейка, абмануў, *
Абмануў сястру ў дварэ.
Казаў, пасаджу ля сябе.
Як паехалі ў чужы бок,
Пасадзіў сястрыцу на краёк,
А каля сябе пасадзіў Манечку.

### 848

Паўставалі, ідуць,
Грамадою вядуць,
Ды музыкі граюць,
Дзяўчаты спяваюць.
Нашы маладыя
У пары ўдалыя,
Да іх свахі вядуць,
Бо ім выпіць дадуць.

### 849

Выйшла з-за лесу хмара,
Села за сталом пара:
Абое раўнюсенькі,
Абое гажусенькі,
Як ружовы кветкі,
Як адной маці дзеці —
Е на што паглядзеці.

## 850

Выйшла з-за леса хмара,
Села за сталом пара.
Абое маладыя,
Абое харошыя.

*А госці, пераважна дзяўчаты, адспейвалі:*

— Што вам за тое даці,
Што ўмееце спяваці?
Чы каня варанога,
Чы свата маладога?

*«Стойка» ў сваю чаргу зноў адспейвае:*

— Мы каня запражэмо
І свата адвяземо.

## 851

Калены арэшкі поўненькі,
Цімох з Мар'ей роўненькі.
Калены арэшкі біць будзем,
Цімох з Мар'ей жыць будзець.

## 852

Як на каліне, так на маліне адзін цвет, *
І як у Яначкі, так у Валечкі адзін след.
Як на каліне, так на маліне адно лісце,
Як у Яначкі, так у Валечкі адно ліцо.

## 853

Цераз новы будыначак да сіні лясочак,
У дзевачкі і ў жанішкі, як адзін галасочак.
Дзевачка як запяець, як у звон зазвоне,
А жанішка з гары бяжыць, ды як шыю не зломе.
Дзевачка ваду нясе, карамысла гнецца,
А жанішка ў акно глядзіць, як сэрца б'ецца.

854

А на нашых маладзенькіх
Мы не можам наглядзецца,
Як месячык на гвіздачкі.
Месяц свеціць на ўсю ночку,
Маладзенькі — на дружыначку.

855

Хараша наша нявеста
І харошы наш жаніх,
І не будуць абіжацца
На радзіцелей сваіх.

856

Стаська маладзенькі,
У яго конь вараненькі.
Конь вараненькі,
Сярэбрана сядзельца,
Уздзечка залатая,
Паненка маладая.
Маладая, маладзюсенька,
Яна яму мілюсенька.

857

Не зарастай, польца, не зарастай,
Да не будзе з цябе гарнастай,
Ні чорна куна, ні собаль,
Сядзіць Матронка, як сокал.
Проціў яе Дарушка, як зара,
Да не будзе яму сарама,
Ні яго саседам зазваным,
Ні яго прыяцелям каханым.

858

Ой, харошы наш малады, харошы,
Над усю свадзьбу наш малады дарожшы:
На ём пярсцёнкі зіюшчыя, на ём камашы рыпушчыя,

Ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладога.
Ой, хароша наша малада, хароша,
Над усю свадзьбу наша малада дарожша:
На ёй пярсцёнкі зіюшчыя, на ёй камашы рыпушчыя,
Ой, слава, слава ўсяму баяр'ю праз яго маладую.
Ой, харошы стары чашнічак, харошы...

*Тое ж пра чашніка, дружачку і іншых членаў вясельнай дружыны.*

### 859

На каліне салавейкі, на каліне два.
Шчабяталі харашэнька да пазна.
Ой, спасіба богу за тое,
Што красівыя маладыя абое.

### 860

Проці бору, салавейка, проці бору,
Збудаваў Іванечка камору,
Збудаваў камору новенькую,
Бярэ Галечку сабе маладзенькую.

### 861

А ўсе людзі дзівяцца,
Как камар к мухе дзвініцца.
А не так яны будуць дзівавацца,
Как яны стануць цалавацца.

### 862

На печы коцік: «курняў, курняў»,
Ванечка Танечку абняў, абняў.
На печы коцікі балуюцца,
Ванечка з Танечкай цалуюцца.

### 863

А хто каго любіць, *
Тот таго пацалуіць.
Іванька Маню любіць,
Ён яе пацалуіць.

864

За новым сталом млода Анечка шурмуе,
Яе Ванечка румяны шчочкі цалуе.
— Пакінь, пакінь, млода Анечка, шурмаваць.
— Пакіну, Ванечка, як пакінеш румяны шчочкі цалаваць.

865

А на ганку слізка,
Пад ганачкам нізка,
А кланяўся Вінцучок
Да Ганульцы нізка.
Узяў Ганульку ды пажалаваў,
Абняў галоўку, пацалаваў.
— Мая Ганулька, мая лялея,
Як це не віджу, ах, сэрца млее.

866

А на гарэ быкі ў ярме,
Нашаму Колечку Валечка да спадобы.
А чым яна яму спадабалася?
Ружовым цветам умывалася.

867

Ой, казалі варогі, гаварылі людзі,
Што нашаму Ванечку парачкі не будзе.
Ой, казалі варогі, што не ажанюся,
Я й такую жонку ўзяў, што й не надзіўлюся.
Ой, асот не чарот, не нахіліцца,
А Ванюша на Верачку не надзівіцца.
Ой, асот не чарот, ужо нахіліўся,
А Ванюша на Верачку ўжо надзівіўся.

868

Не мела Гапулька веранькі:
Ці мой, ці не мой Сапронька?
Тады яна вераньку паняла,
Як Сапроньку за ручку ўзяла,

За таткін сталок завяла,
Пасадзіла яго на куце,
Як залаты персцень на руце.
Як залатому пярсценьку змены нет,
Дык маладому Сапроньку згани нет.

## 869

Ды ў барочку шырокі вярбовы лісточак.
Малады Яначка — любы гасцёчак.
Ганулька яму белу ручку падала,
Яна яго на коніку вітала.
Яна яму ўсю праўданьку сказала.

## 870

Ягада [redacted] ягадзе цераз бор ішла,
Ягада ягадзе ветку дала.
— Вот цяпер, ягада, будзеш мая.
Манечка к Ванечку цераз сені ішла,
Манечка Ванечку ручку дала.
— Вот цяпер, Манечка, будзеш мая.

## 871

І адна ягадка ў полі расла, *
Другая ягадка ў саду расла.
Ягадка з ягадкай скаціліся,
Ванечка з Манечкай злюбіліся.
Манечка Ванечку ручку дала.
— Не бойся, Ванечка, я ўжо твая.

## 872

Пайшоў мілы, да й пайшоў,
Вон за ручаньку да й павёў.
— Жана мая міла, раджона,
Ты мне суджона.

873

Ай, вумная-разумная Танечка, *
Не пакаціла залату чару па сталу,
Узнала Іванечку вумнага:
Ці кястоля, ці п'яніца Ванечка.
Ай, вумненькі, разумненькі Ванечка,
Не ўхваціўся за залатую чарачку,
А ўхваціўся за маладую Танечку.

874

У нас сягоння васкрасенне,
Начынаецца Таццяніна вяселле.
Віно з мёдам зліваецца на піццё,
Пара людзей злучаецца на жыццё.
Віно з мёдам мы піць будзем — дар божы,
Пара людзей жыць будуць — шчасце божа.

875

Вялік, вялікі Юзэфка,
А Мальвінка — малюсенька,
Яна яму мілюсенька,
У мамкі гадавалася,
Яна яму спадабалася,
У шчаслівы дзень радзілася,
Яна яму прыгадзілася.

876

Вішанне з ябланнем памяшалася,
Настачка Іваньку падушалася.
— Дадушы ж, Іванечка, люблю цябе,
— Яй-богу, Настухна, вазьму цябе.
Ці ведаеш, Настухна, што я ведаю,—
Аб Пятры ў Дняпры ды лядочак быў,
Я ж на тым ды лядочку каня паіў.
— Ці ведаеш, Яначка, што я ведаю,—
Аб ражтве, аб свяце, рожа цвіла,
Я з тыя рожухны ды вянок віла,
Я ж у тым вяночку вянчаюся.

877

Ягада з ягадай на бару раслі,
Росшы яны, росшы яны сакаціліся.
Магдуська з Пятруськай на вёсцы раслі,
Росшы яны, росшы яны салучыліся,
Белымі рукамі сашчапіліся,
Залатымі пярсцёнкамі абмяняліся.
— Магдуська, душа мая, дзе дасюль была?
— Пятруська, сэрца маё, у тваём саду.
— Магдуська, душа мая, што рабіла?
Пятруська, сэрца маё, вяночак віла.

878

Ягада маліна на бару расла,
Другая ягада на другім бару.
Уместа гэты ягады сукаціліся,
Сукаціліся, не раскоцяцца —
Быдта гэты ягады аднаго ягадніку.
Маладзец Азар у дзярэўні рос,
Маладая Зеха ў новай гораньцы.
Уместа яны, умесцічка сухадзіліся.
Сыйшоўшы, не разойдуцца —
Быдта гэта дзетанькі аднэй матанькі,
Аднэй матанькі, аднаго татанькі.

879

Каравай расцвітаець, *
А ягада, а ягада паспяваець.
Каравай — Іванушка,
А ягада, а ягада — Марутушка.
А ім людзі дзіваваліся,
Што харашо, што харашо саходзіліся.
Не дзівуйцеся, людзі,
Самі сабой, самі сабой так удайціся.

880

Вінаград у гародзе, *
А ягада, а ягада на памёце.
Вінаград расцвятаіць,
А ягада, а ягада паспяваіць.

Вінаград — Лянютушка,
А ягада, а ягада — Манютушка.
Яны ў польца ганялі
І змаленьку, і змаленьку спазналіся.
А ім людзі дзівуваліся,
Што змаленьку, што змаленьку спазналіся.

881

Райскае дрэва над раём стаяла,
Над раём стаяла, сільна зацвітала.
Нямнога ўрадзіла — дзвюма макаўкамі.
Адна макаванька — малады жаніхна,
Другая макаванька — красная дзеванька.
Аднае раджонае, друге суджонае.
Ой, уцятая верба із вялікага куста,
Шырокага ліста.
Ой, узяў дзеваньку вялікага роду
Да й багатага бацькі.

882

Хмель з аўсом сыпліцца,
А Гапанька з Васільком сыйдуцца.
Ад сахарнага дзераўца
Добрыя адросткі,
Ад вумнага бацюшкі,
Ад разумнай мамухны
Вумны дзіцятка,
Малады Васілька.
Мы не ўспелі песні спець,
А ён нам падаркі шлець:
Пернічкі, бараначкі,
Салодкія папранічкі.

883

— Да, як табе, бяроза,
Да і з явaрам сыйціся?
— Я карэннейкам сыйдуся,
Да я голлейкам сшчаплюся.
Ой, адтуль-адсюль буйныя ветры,

Ой, ад нас буйнейшыя.
— Да, як табе, дзевачка,
Да і з дзяцінкам сыйціся?
— Да я ножкамі сыйдуся,
Да я ручкамі сшчаплюся.
Ой, адтуль-адсюль любыя госці,
Ой, ад нас любейшыя.

884

Да вілася бяроза, вілася, вілася,
Каля цябе, дуба зеляногa, зеляногa.
— З кім ты, дзевачка, звялася, звялася?
— Да з табою, хлопчык, з табою, з табою,
Пад зялёнаю вярбою, вярбою,
Да сівыя волікі гонячы, гонячы,
Вараныя конікі водзячы.

885

Нашы пчалонкі параіліся,
Дай божа ім сад добры.
Нашы сватове за сталом сядзяць,
Дай божа ім быт добры,
Дай божа ім век доўгі.

886

Сучыся, пер'ейка, сучыся,
Злучыся Наташа з Грышкаю, злучыся.
А ўжо пер'ейка ссучылась,
Наташка з Грышкаю злучылась.

887

Благаславі, ацец, маці,
Пояс падперазаці,
Да князя ступаці.

888

Уецца хмель,
Уецца хмель да ўсё ўгору,

Да ўсё ўгору з расою.
Да ўсё добра, а ўсё добра,
Да ўсё харашо.

### 889

Звіўся, звіўся хмель з аўсом,
Скахаўся, звітаўся зяць са цясцём.
Вышай, вышай хмель за аўса,
Ашукаў зяценька свайго тсця:
Узяў яго дачушку не прася.
Як хмелю ад аўса не цвісці,
Так зяценьку ад тсця не адайці.

### 890

Рад салавейка — вясны даждаў, божа, божа,[1]
Будзе дзе папяяці.
Не так вясны, як зязюлі:
Яна сама маленькая,
Яе пер'е рабенькае.
Будзе з кім палятаці,
Палятаці і шчабятаці.
Рад Віця — цешчы даждаў,
Будзе дзе паснедаці.
Не так цешчы, як Ленкі:
Яна сама маленькая,
Яе ліцо бяленькае.
Будзе з кім паязджаці,
Паязджаці і размаўляці.

### 891

Сэрданька, міленька,
Да прысунься блізенька,
Да будзем гаварыці,
Як на свеце жыці.
Будзем размаўляці,
Як век гараваці.

---

[1] Рэфрэн «божа, божа» паўтараецца ў канцы кожнага радка

892

Знаць Мішачка пасылаў лісты да бога,
Узяў сабе таварыша любога.
Ён да яе вячэрняй зарой прыходзіў,
Ён жа ёй падарачак прыносіў.
Падыйшоў ды ранняю зарою,
Да пасадзіў у радочак з сабою.
— Любі мяне, мая Марыська, я цябе,
Прыхінулася мая душа да цябе.

893

— Не стой, каліна, блізка бярозы,
Нападуць на цябе снягі і марозы.
— Хоць і нападуць снягі і марозы,
Такі я буду блізка бярозы.
— Не сядзі, маладзенька, блізка маладога,
Будзе на цябе бацька сварыцца.
— Хоць будзе бацька сварыці,
А я буду блізка сядзеці
І маяму Ясюльку ў вочкі глядзеці.

894

Не цёсан явар, не цёсан,
Толькі харашо выцесан,
Пры дарожыньцы пастанаўлён,
Чырвонай калінай абсаджон,
Шэрымі зязюлямі абстаўлён.
Не вучан молад, не вучан,
Толькі харашо прыбярон,
Маладой дзевачкай падарон.

895

А ў садзіку галубушка гуркуіць.
Як прыляцеў галубчык, сеў для яе,
Ён крыллейка аб крылышка чыркаіць.
— Чаго, чаго, галубушка, гуркуеш,
Ці ты мною, галубчыкам, гардуеш?
Не гардуй жа, галубушка, ты мною,

Цяпер жа ты, галубушка, са мною.
Ой, плакала да і Дунечка за сталом.
Як прыехаў да і Сёмушка, сеў для яе,
Ён плечыка аб плечынька талкаець.
— Чаго, чаго ты, Дунечка, плакала,
Ці ты мною, малодчыкам, гардуеш?
Не гардуй жа, Дунечка, ты мною,
Цяпер жа, Дунечка, ты са мною.

896

Невялік месячык, невялік,
Каля сябе зораньку асвяціў.
Малады Ясенька, малады,
Каля сябе малодку пасадзіў,
А Ясенька каралёў сын,
Кінуў вянец пад сталец.

897

Галубок з галубою
Селі сабе на дубочку,
Паціхоньку варкуюць:
— А мая ж ты галубка,
А мая дарагая,
Каб я тое ведаў,
Што ты мая будзеш —
Я б табе гарох насіў,
Я б табе сучавіцу,
З крыніцы вадзіцу.
Дзевачка з малойчыкам
Селі сабе за столікам,
Паціхонку гавораць:
— А мая ж ты дзевачка,
А мая дарагая,
Каб я тое ведаў,
Што ты мая будзеш —
Я б табе дамы строіў,
Я б табе сады садзіў,
Я б табе сукні спраўляў,
Я б цябе карміў-паіў,
Я б цябе сухарамі

І добрымі славамі,
Я б цябе гарэлкаю,
Называў міленькаю.

### 898

За баняй кукушка кукуіць.
Прыляцеў ясен сокал,
Сеў ля яе, сеў ля яе. 2
Ён крылом аб крылушка чыркаіць,
У глазы галубушкі паглядаіць:
— Чаго ты, кукушачка, кукуіш?
— А як жа мне, ясен сокал, да не кукаваці: 2
Ёсць у мяне зялёны сад бліз твайго. 2
У цераме Хадосачка плакала, 2
Прыехаў дай Васілечка, сеў ля яе.
Ён плячом аб плечушка чыркаіць:
— Чаго ж ты, Хадосачка, плакала? 2
— Як жа мне, Васілечка, не плакаць: 2
Ёсць у мяне святлічанька бліз тваей.

### 899

Сядзіць голуб на пераплёце, боб клюець,
А яго галубка — пшанічку.
— Да клюй, да клюй, мая галубка, да мяне,
Да прылягаець маё крыллека да цябе.
Сядзіць Ванюшка за столікам, віно п'ець,
А для яго яго Настанька — мядочак.
— Дапей, дапей, мая Настанька, мядочак,
Да прылягаець маё сэрдачка да цябе....

### 900

Што гэта за зеллейка —
Чорнае насеннейка,
У гародзе расло, расло,
На плот пахілілася,
На вулку звалілася?
Што ж гэта за Манечка —
У мамкі расла, расла,
З Іванькам злюбілася,

Мамцы не хвалілася?
З Іванькам кахалася,
Іваньку засталася.

### 901

Божа, божа, маладая Надзечка,
Блізка Іванька сядзіш, божа, божа.[1]
Блізка Іванька сядзіш,
Чаму яго не вітаеш?
Чаму яго не вітаеш,
Наравоў не пытаеш?
Можа ён наравісты?
Можа ён ганарысты?
Можа ён нядбайліца?
Ці вялікі п'яніца?
Якава табе будзе,
Пад карчомкаю стоячы,
Пад карчомкаю стоячы,
Дробны слёзкі ронячы?

### 902

Няўдалыя хараўскія маладцы,
Закінулі рамняныя невадцы,
Пусцілі шчуку-рыбу ў рацэ.
Удалыя расахоўскія маладцы,
Закінулі шаўковыя невадцы,
Панялі шчуку-рыбу ў рацэ.

### 903

На моры да на сінюсенькім,
Да на моры на сінюсенькім,
На камені на бялюсенькім,
Да на камені на бялюсенькім,
Там Іванка ў карты іграе, 2
Яму бог памагае.
Да выйграў ён каня вараненькага, 2

---

[1] Рэфрэн «божа, божа» паўтараецца ў пачатку і канцы кожнага цотнага радка

Да й уздзечка залаценька, 3
Да і каляску медзяную,
Да і Ганульку маладую.

904

А што ў нас да ў вас за вечар быў!
У новым горадзе дзяльба была:
Дзялілі малойцы па коніку.
Выдзелілі Ванечку вараненькага.
А што ў нас да ў вас за вечар быў!
У новым горадзе дзяльба была:
Дзялілі малойцы па дзевачцы.
Выдзелілі Ванечку Валечку.

905

Зваяваў дзевак танок
Да выбраў сабе дзеўку,
У барвінку.
Да ў яе вяночак
З ясных зорачак,
Да ў лічачку сонца грэе,
З падушачак вецер вее.

906

Перабор, перабор, ясен месяц,
Перабраў што да зорачкі,
Выбраў сабе зараначку.
Ён сваёй заранкай выхваляецца:
— Вось мая заранка рана ўсходзіць,
Ясна свеціць.
Перабор, перабор, малады Ясенька,
Перабраў што да дзеванькі,
Выбраў сабе Генечку.
Ён сваёй Генечкай выхваляецца:
— Вось мая Геня рана ўстаець,
Сямейку будзіць.

907

Ды з-за бору, ды з-за бору, з-за лесу, *
Ды з-за бору шэрыя гусі ляцелі,
Прыляцеўшы, у садочку паселі.
Выйшаў Сымонька ў свой тачок па сена,
Выбраў гусачку, выбраў гусачку на племя.
— Шэрая гуска, не ўцякай жа, не ўцякай,
Шэрая гуска, памаленечку прывыкай.
Будзеш паціху па садзіку хадзіці,
Будзеш жа сваіх малых дзетак вадзіці.

908

Пераборчык месячык *
Перабраў усіх зорачак,
Ён выбраў сабе зорачку,
Выбраў сабе маленьку.
Хоць яна маленька — ясненька,
Между зорачак відненька.
Пераборчык Ванечка
Перабраў усіх дзевачак,
Ён выбраў сабе Танечку,
Выбраў сабе маленьку.
Хоць яна маленька — красненька,
Между дзевачак знатненька.

909

— Ты салавей, ты лугавы,
Рана, рана. [1]
Ці ўсе лугі пералятаў,
Ці ўсіх пташак пераглядзіў?
— Я ўсе лугі пералятаў,
Я ўсіх пташак пераглядзіў,
Да не выбраў над зязюльку.
Яна сама маленькая,
Яе пер'е рабенькае.
— Ты Іванька маладзенькі,
Ці ўсе сёла пераездзіў,
Ці ўсіх дзевачак пераглядзіў?
— Я ўсе сёла пераездзіў,

[1] Рэфрэн «Рана, рана» паўтараецца пасля кожнага радка.

Усіх дзевачак пераглядзіў,
Да не выбраў над Ганначкі.
Яна сама маладая,
Яе ліцо румяное.

### 910

Да вумны-разумны Ванечка, *
А не запусціў ясна сонейка ў хмарачку,
Да якраз дабраў сам сабе парачку.
Мяне мамачка ў вялікім горы расціла,
Учора на вулку мяне гуляць пусціла.
А я гуляў як дзень, так ночку, я гуляў,
І пакуль да сябе да я парачку не дабраў.

### 911

А не мы дзевачку выклікалі,
Сама яна к нам выбежала
А із дзявічага хараводу
А к нашаму маладому ваяводу.
Ваявода Іванька, ваявода,
Разбіў дзявічы харавод,
Ўзяў сабе дзевачку на выбор,
Хоць не на выбор — айцу ва двор.

### 912

Усе пташачкі-канарэечкі лятаюць па волі,
Адна толькі канарэечка ў бальшой дасадзе.
— Ці не ты гэта, салавеюшка, зязюлю заняволіў?
— Не я, салавеюшка, зязюлю заняволіў,
Сама ка мне зязюленька ў сад прыляцела,
Усю ноч шчабятала:
— Вазьмі мяне, салоўюшка, ва'дно гняздзечка.
Усе дзеванькі-падружанькі гуляюць па волі,
Адна [толькі Варутанька] сядзіць у няволі.
— Ці не ты гэта, Якушка, Варутаньку заняволіў?
— Не я, маладзец Якушка Варутаньку заняволіў,
Сама ка мне Варутанька ў церам прыхадзіла,
Сама са мной Варутанька ўсю ноч гаварыла:
«Вазьмі мяне, Якушка, ў новы церам».

913

Асоценька зялёненька, пара цябе касіці.
Дзяўчыненька малодзенька, пара цябе жаніці.
Асоценьку зялёненькую, цябе скасілі,
Дзяўчыненьку малодзенькую, цябе ажанілі.

914

Кацілася, кацілася бочачка з печы,
Ударыла, ударыла Ванечку ў плечы.
— За што мяне, за што мяне,
За што мяне, бочачка, біла?
— А каб цябе, а каб цябе,
А каб цябе Маруська любіла.

915

Звонка, звонка сасонка,
Зато яна звонка, што ў бару.
Служыў Іванечка каралю,
Выслужыў сабе каралеўну.
Каралёчак наш Іванька,
Каралеўначка Праскута.
Каралёчак наш віно п'ецъ,
Каралеўначка слёзы льецъ.
Каралёчак наш каралюецъ,
Каралеўначка гаруецъ.

916

Стаяла сосанька ў край бору,
Служыў Іванька пры кролю.
Выслужыў выслугу вяліку:
Варанога каня з сядлом,
Маладую Аленку з вянком.
А ці то ж то слуга, што ў сядле,
А ці то ж то слуга, што ў вянке?
У сядле выслуга — пашню пахацъ,
У вянке выслуга — век векавацъ,
У сядле выслуга — біцъ буду,
У вянке выслуга — жыцъ буду.

917

Ой, тонка сасонка,
Яшчэ танчэйша ў бару.
Служыў Васілька каралю,
Заслужыў Параску, як гару.
Ціхі салавей гняздо ўе,
Перагарулька пераўе.
Перагарулька Васілька,
Цёмнай ночы пры свячы
На белым ложы седзячы,
Шоўкам кашулю шыючы.

918

А хто ў нас, а хто ў нас невясёл сядзіць?
Валодзя, Валодзя невясёл сядзіць.
Знаць яго, знаць яго Таня біла кубачкам,
Кубачкам па губачкам, кубачкам,
Кубачкам па губачкам.
Бел платком, бел платком
Па румяну лічайку.

919

Чом-чаму камора
Да не мецена?
Чом-чаму Іванька
Невясёл сядзіць?
Ці цябе, Іванька,
Цёшча біла?
— Біла мяне цешчухна
Ды не жалавала:
Маляваным кубачкам
Па губачкам,
Шаўковаю хусткаю
Ды па лічынню.

920

— Ой, беленькі, малодзенькі Ванечка,
Чаго тваё румянае ліцо стусьмела,
Чаго тваё рацівае сэрца заўныла?

— Як быў у мяне вароненькі конічак,
Пераскочыў у Мар'ечкін садочак,
Павытаптаў руту-мяту вон з карня.
За то мая да і Мар'ечка гнеўна была.
Як сарвала хмялёвую шышачку,
Ударыла па румянаму лічаньку.

921

У Міхалачкі дый матачка пытала:
— Скажы, скажы, Міхалка, усю праўду,
З чаго твая галовушка балела,
З чаго тваё сярдзечушка знібела,
З чаго тваё бела лічання спаблёкла?
— Скажу, скажу, мая матушка, усю праўду:
Разыграўся вароны конь у варот,
Пераскочыў у Праскуцін у гарод.
Праскутачка па гароду хадзіла,
Сашчыпнула хмялёвую шышачку,
А ўдарыла мяне, молайца, ў лічання.
З таго мая галовушка балела,
З таго маё сярдзечушка знібела,
З таго маё бела лічання спаблякла.

922

Альжбетка наша
Злавіла сабе пташа.
Доўга ж ён налятаўся,
Пакуль у клетку дастаўся.
Цяпер годзе лятаць —
Трэба клеткі пільнаваць.
Пільнуйце адзін другога,
А болей нікога —
Такая наша рада,
Бо іначай будзе звада.

923

Маладзенькі Колечка
Да злавіў сабе птушачку,
Да злавіў сабе птушачку.

Якую? Лясную,
Лясную, начную.
Начную да лятучую,
Лятучую да шаптучую:
Яна ўдзень лятаць будзе,
А ўночы шаптаць будзе.

924

Наша Арынка, наша,
Паймала сабе пташа,
З ручкамі, з ножкамі,
З буйнай галавой,
З чорнымі бровіцамі,
З яркімі вочыцамі.
Вочкамі выглядаць будзець,
Вуснамі цалаваць будзець,
Ручкамі абнімаць будзець.

925

Па зарэччу зелле, *
У суседа вяселле.
Да не год жа ж мы ждалі,
Каб тут пагулялі,
Да не год мы расцілі,
Каб тут пагасцілі.
Наша Верачка, наша,
Спаймала сабе пташа,
Спаймала сабе птушку,
Начную шаптушку,—
Што ў дзень перамышліць,
То ў ноч перашэпча.

926

А пташачка-заламáй прыехаў,
Заламаў мне ножачкі
У казіныя рожачкі.
Наша Улляна, наша,
Спаймала сабе пташа.
Думала баравога —

Цярэшку маладога:
У зялёненькім жыце,
У чырвоненькім аксаміце.

927

Наша дзевачка, наша,
Спаймала сабе пташа.
Думала баравога,
Аж малойца маладога.
Не знала, што рабіці,
Пайшла к мамцы спрасіці.
Мамачка адвячае:
— Дачушка маладая,
Ці ж ты птаха не знаеш,
Ды з птахам размаўляеш.
Не птах баравы,
Малойчык малады.

928

— Чаго ж ты, дзевачка, ручку жмеш,
Ці ж ты сабе к вечару сватоў жджэш?
— Ой, я свае ручачкі паражала,
А я ж сабе сваточкаў прыждала.

929

Пайшла Кацярынка ў садок па краскі
Да забылася варот зачыніць.
Едзе татулька, не зачыняе,
К сабе Кацярынкі не прыхінае.

*Далей паўтараецца, што едзе матулька, брат, сястрычка. Нарэшце:*

Пайшла Кацярынка ў садок па краскі
Да забылася варот зачыніць.
Едзе Грышачка, той зачыняе,
К сабе Кацярынку да прыхінае.

930

На крамяніцы да дзеўкі танцуюць,
Да душа-малойчык паперадзе ходзіць,
Да сваю дзеваньку да пад ручкі водзіць.
— Ты гардзіла мною, цяпер, маладзенька, патанцуй са мною.
— А я не гардзіла табою да сама сабою,
Што на мае падводы да няма пагоды,
Што мае вазочкі да пазамакалі,
Што мае сукенкі да паблекавалі.

931

Да ляцеў салавейка да цераз тры лясы, *
Да цераз тры лясы, да цераз чатыры. 2
— Дзе ж табе, салавейка, сесці запеці? 2
— Да сяду, запяю ў чацвёртым лесе. 2
У чацвёртым лесе, на сухой арэсе. 2
— Што ж табе, салавейка, тут па любосці: 2
Ці ты лес любуеш, ці прылесейка? 2
— Да я лесу не любую, ні прылесейка, 2
Да люба мне, міла сіва зязюля, 2
Хоць яна сівенька, але міленька.
Да ехаў Іванка да цераз тры сяле,
Да цераз тры сяле, да цераз чатыры. 2
— Да дзе ж табе, Іванка, стаці зайграці? 2
А я стану зайграю ў чацвёртым сяле, 2
У чацвёртым сяле, у сця на дварэ. 2
— Што ж табе, Іванка, тут па любосці: 2
Ці двор ты любуеш, ці прыдвор'ейка? 2
— Да я двор не любую, не прыдвор'ейка, 2
А люба мне, міла маладая Манечка, 2
Хоць яна маленька, але міленька.

932

Ляці, ляці, сокалу,
Чэраз тры лясы і чэраз чатыры,
Стань сабе на пятым лесе,
Сядзь на зялёнай арэсе,
Да паслухай, што табе ў лесе наймілей:
Чы дуб, чы бяроза, чы раба заўзулька?
— Мне ўсенька міленька, і дуб і бяроза,
А наймілей рабенька заўзуля.

Паедзь, жанішок, [чэраз] тры сялы і чэраз чатыры,
Да стань сабе ў пятым сяле,
Да стань у цесця на дварэ.
Шчо ж табе ў цесця міла:
Чы цесць, чы цешча, чы маладая дзеванька?
— Мне ўсенька міленька, і цесць і цешча,
А над німі дзеванька маладзенька.

### 933

Ляцеў саколе чэраз тры поле, *
Чэраз тры поле, чэраз чатыры,
На пятым полі сеў наш саколе.
— Чаго табе, саколе, спадабала гэта поле:
Ці дуб, ці чарэмха, ці белая бяроза?
— Ні дуб, ні чарэмха, ні белая бяроза,
Спадабала мне шэра зязюлька:
Раненька ўстае, жалабна кукаець.
Ехаў Ванечка чэраз тры поле,
Чэраз тры поле, чэраз чатыры,
На пятым полі ў цесця на двары.
— Чаго табе, Ванечка, спадабаў гэты двор:
Ці двор, ці падвор'е, ці белае аконне?
— Ні двор, ні падвор'е, ні белае аконне,
Спадабала мне дзеўка Ніначка:
Раненька ўстаець, бела мыецца,
На работу ідзець, сямейку вядзець.

### 934

Ехалі мы цераз тры бары, цераз чатыры,
У пятым бары каня астанавілі.
— Што табе, хлопец, спадабался ў лесе:
Ці белыя бярозы, ці зялёны арэшнік?
— А ні белыя бярозы, ні зялёны арэшнік,
Спадабалася ў лесе чорная галка.
Ехалі мы цераз тры сялы, цераз чатыры,
У пятым сяле каня астанавілі,
У пятым сяле, у цесця на дварэ,
— Што ж табе, хлопчык, спадабалася ў цесця:
Ці водка, ці віно, ці салодка піва?
— Ні водка, ні віно, ні салодка піва,
Падабалася ў цесця харошая дзяўчына.

Ды не хоча цесць за мяне аддаці,
Трэба з цесцем мне ваяваці.
— Не ваюйма, цесцю, памірымся, цесцю,
Памірымся, цесцю, ды зробім дзіва,
Накупіма водкі, накупіма піва,
Ды ідзі ты, цесцю, гасцей сазываць,
Пачынай жа, цесцю, гасцей частаваць.
Так будуць табе, цесцю, людзі васхваляць,
Што ўмееш ты, цесцю, гасцей частаваць.

935

Да ляцеў саколік да цераз тры бары,
Да цераз тры бары, да цераз чатыры.
А ў пятым бару сеў на верасе.
— Што табе, саколік, у лесе спадабала,
Да ці бел бярэзнік, ці зялён гарэшнік?
— Да ні бел бярэзнік, ні зялён гарэшнік,
Спадабала ў лесе чорная галачка.
Да ў мае галачкі цісовае пер'е,
Цісовае пер'е, палётнае крылле.
Да ехаў Колечка да цераз тры сёлы,
Да цераз тры сёлы, да цераз чатыры.
А ў пятым сяле ў сця на двары.
— Што табе, хлопчычак, у сця спадабала,
Да ці мёд, ці віно, ці салодка піва?
— Да ні мёд, ні віно, ні салодка піва,
Спадабала ў сця малада дзевачка.
Да ў мае дзевачкі па плечыках коскі,
Па плечыках коскі, пад вачамі слёзкі.
Па плечыках коскі развіваюцца,
Пад вачамі слёзкі разліваюцца.

936

Ляці, ляці, салавейка,
Да цераз тры лясы,
Да цераз чатыры.
У пятым лесе
Яно ноч начавала.
— Што ты сабе, салавейка,
Што ты сабе, любіш:
Ці ты любіш лясы,

Ці прылесейкі?
— Не люблю лесу,
Ні прылесейка,
Толькі я люблю
Чорную Гапачку:
Хоць яна маленька,
Набо яна чарненька.
На тудойму ішла —
Сыр знайшла,
А з тудоймы ішла —
Два знайшла,
Пад пералазам —
Тры разам.

937

Прыляцелі гусі
Ды з Белае Русі,
Селі на азёрычку,
Сталі яны ваду піці,
Крылле аб лёд біці.
— Піце, гусачкі, піце,
Крылачкі не біце.
Наехалі госці
Ды з чужой валосці,
Селі за столікам,
Сталі яны мядок піць,
Кубачкі аб стол біць.
— Піце мядок, піце,
Кубачкі не біце.
— Кубачкі аб стол паб'ём,
Ядзечку з сабоў вазьмём.

938

Наляцелі гусі з Белыя Русі,
Сталі яны воду піці,
Аб лёд крыллямі біці.
— Што вам, гусі, стала,
Ці вады-лёду мала?
Вады не папіці, лёду не пабіці.
А наехалі госці з чужэе валосці,
Селі яны за столікам,

Сталі яны мёд-віно піці,
Аб сток кубкамі біці.
— Што ж вам, госці стала,
Ці мёду-віна мала?
Вам жа мёду не папіці,
Кубкаў не пабіці.

### 939

Да наляцелі гусі *
Да з чужыя Русі.
Сталі яны аб лёд крыллем біці,
Сталі яны ваду піці.
Панаехалі госці
А з чужыя валосці.
Селі яны да за столікам,
Сталі мёд-віно піці, 2
Аб стол кубкамі біці.
Бейцеся, кубкі, да дна,
Штоб было жыта родна.
Наша дзевачка мала,
Штоб стоячы жала.
Наш хлопчычак вялік,
Штоб стоячы касіў.

### 940

Прыляцелі гусі із далёкай Русі,
Селі яны, палі на ціхім Дунаі.
Сталі яны ваду піць,
Самі з сабой гаварыць:
— Каб не наша гусачка,
Мы б тут не бывалі, 2
Гэтай вады не півалі.
Як прыехалі госці ды з далёкай воласці,
Сталі яны віно-мёд піці,
Самі з сабой гаварыці:
— Каб не наша дзевачка,
Мы б тут не бывалі, 2
Віно-піва не півалі.

941

Села Тонечка ў таты за сталом выпіваць: *
— Скажы, татачка, ці многа буду тут гуляць?
— Да нямнога, мая дачушка, нямнога.
Адкуль браўся чорны воран звысока,
Адтуль прыехаў Сашачка здалёка.
— Хваціць, Тонечка, у таткі піць-гуляць,
Я прыехаў цябе, маладу, забіраць.

942

Узыйшоў месяц з высок-высоку,
Наехала сватоў здалёк-далёку.
Ой, не ведаеш, чым частаваці,
Чым частаваці, як называці.
Ой, знаць па стане, што ўсе шляхцяне,
Ой, знаць па мове, што ўсе панове,
Ой, знаць па ліцы, што ўсе панічы.
Частаваць будзем мядамі
І называць будзем панамі.

943

Скацілася вішня з высок-высока, *
З высок-высока,
Наехала сватоў з далёк-далёка,
З далёк-далёка.
Ой, знаць па мове, што ўсе панове,
Што ўсе панове.
Ой, знаць па стане, што ўсе мяшчане,
Што ўсе мяшчане.
З павагай ходзяць, пахіцу мовяць,
Паціху мовяць.
Маладую дзевачку ад нас адмовяць,
Ад нас адмовяць.
— Дзевачка пані, не гардзі намі,
Не гардзі намі.
Паедзеш з намі ад сваей мамы,
Ад сваей мамы.

944

Чы ж гэта сваты каля стола ходзяць?
Шапкі здымаюць, шаблі блістаюць.
Знаці па коням, што вараныя,
Знаці па свату, што маладыя,
Знаці па ходу — вялікага роду,
Знаці па мове, што ўсе панове.

945

Не было вятрэй — панавеяла,
Не было гасцей — панаехала.
А ўсе госцікі дый багатыя,
А ўсе шапачкі дый рагатыя.
А на ўсіх ражках усё па ветачцы,
На тых ветачках дый па пташачцы.
А ўсе пташачкі — усе роўныя,
Пяюць песенькі — усе розныя.

946

Ляцелі гусі з далёкай Русі,
Наехалі госці з нашай Беларусі.
Гэта сватоўе — знаць, што паноўе,
Знаць, што паноўе, панскага роду —
Не п'юць гарэлкі, чакаюць мёду.
— А ў нас пчолкі не параілі,
Для вас мядочку не нанасілі.

947

Ой, вясёла наша Паўлінка, вясёла,
Як пасела свая радзінка наўкола,
Да як ходзіць родная матка ля стала.
Заўтра будзець наша Паўлінка смутненька,
Як насядзець чужа радзінка блізенька,
Як паглядзіць чужая матка на яе,
Да завянуць белыя ручкі ў яе.

948

Цяпер табе, млода Анечка, вясёла, *
Як абсела твая радзімка наўкола,
А ці будзець табе, Анечка, вясёла,

Як абсядзець чужая радзімка наўкола?
Яны табе ўсе па слоўцу, як скажуць,
Яны ж цябе, як рыбачку, сасмажуць.

949

— Асцерагайся, Вольчачка, *
Чужая сям'я абсядаіць.
З правага боку — чужынец,
З левага — чужаніца.
— А не чужынец — міленькі,
Не чужаніца — залоўка.

950

Ці не жалка табе, дзевачка,
Што чужая чужына за сталом,
А свая радзіна пад стаўпом?
Чужая чужына ўсё скачыць,
А свая радзіна ўсё плачыць.
Чужая чужына мёд-віно п'ёць,
А свая радзіна слёзкі льёць.

951

Наехала чужына,
Уся жанішкова дружына:
На правым боцы брацікі,
На левым — сястрынкі.
Ой, п'юць мядок
Да зялёнае віно.

952

— Маладая да ты, вішанька,
Чаму ты зялёная?
Маладая да ты, Надзечка,
Чаму невясёлая?
— Як жа мне вясёлай быць,
Каля мяне Іванка сядзіць,
За права плячко дзяржыць.

953

Зборная нядзеля настала, *
Валечка падружак сабрала,
А ўвакруг сябе саджала,
А сама села вышэй усіх,
Задумала думачку больша ўсіх,
Што ніхто ля яе не сядзіць,
А ні родны брацец, ні сястра,
Толькі адзін Пецечка-галайстра.

954

Агляніся, Зосечка, каля сябе,
Што ж села няроўніца ля цябе,
Было ж табе у сваёй мамачкі пагуляць,
Было ж табе сваю роўніцу пашукаць.

955

Да абселі, абселі
Нашую власцяначку
Да грыбы чашчавікі,
Старыя махавікі.
Па бору бадзяліся,
Да да нас дабраліся.
Да ў бору чэрві вілі,
Да ў нас за сталом селі.

956

Абселі, абселі
Белую сыраежачку
Баравікі, чашчавікі,
Старыя казлячышчы.
Абселі, абселі
Маладую дзевачку
Старыя, барадатыя
Да ўсё нежанатыя.
Па рынку бадзяліся:
Усе за стол сабраліся.

957

Аселі, аселі нашу пралесачку
То грыбы, то грыбішча, баравыя маслянішча.
Да аселі, аселі маладую дзеваньку
То сваты, то свашачкі, то маладыя жанішкі.

958

— Ой, рэчка, рэчанька,
Ты ўчора цякла, быстра ішла,
А сягоння цячэш, ціха едзеш.
— Ой, як я буду цекці, быстра йсці?
Што на мяне рэкі ўсе сцякаліся,
Што на мяне рэчанькі ўсе сашліся,
Што на мяне лозанькі ўсе схіліліся,
Што на мяне каліна скланілася,
Яна маю быстроньку спыніла.
— Ой, дзеўка, дзеўка Ганечка,
Ты ўчора была вясёлая,
А сягоння сядзіш хмурная.
— Ой, як мне вясёлай быць?
Асела мяне ўся яго радня,
Абселі па правы бачок дзевяры,
Яго родныя браты,
А па левы бачок — залвіцы,
Яго родныя сястрыцы.

959

— Ой, рэчка, рэчка быстрая,
Як ты ўчора была быстрая,
А цяпер такая ціхая?
— Ой, як жа мне быці быстрэнькай —
Налягла на мяне лазіца
І яшчэ шаўковая травіца.
На мяне ветрычак не вее,
На мяне дожджычак не сыйдзе,
На мяне сонейка не грэе.
— Ой, дзеўка, дзеўка, Ганначка,
Як ты ўчора была вясёла,
А цяпер такая смутная?
— Ой, абсела мяне чужына —
Іванкава ўся радзіна:
Із правага боку — сванечка,
Із левага боку — Іванка,
Напроціў — сэрданька, дружанька,
Ой, і каля яго — брат яго,
У канцы століка — староста,
А на перадпеччы — музыка,
То ў сянёх, то ў хаце — маршалак.

960

— Ой, рэчка, рэчка, рэчачка,
Ты ўчора была быстрая, 2
Сягоння стаіш ціхая.
— Як мне, рэчачцы, быстрай быць
Абсела мяне ніц-лаза, 2
Усялякае дзерава.
Каранямі берагі апляла,
Лісцейкам зямлю пакрыла.
— Маладзенькая дзевачка,
Ты ўчора была весела,
Сягоння сядзіш хмурная,
— Як жа мне тут быць вясёлай
Абсела мяне чужына, 2
Уся малойцава дружына.
З правага боку — малойчык,
З левага — сваціца, 2
Усё малойцава сястрыца.
Сваццiцы ручку я дала,
А з малойцам шлюб узяла.

961

— Ай, рэчка, рэчка быстранька,
А чаму ты ўчора быстра была,
А сягоння стала ціхенька?
— Ай, дзеўка, дзеўка Дунечка,
А чаму ты ўчора весела была,
А сягоння стала смутненька?
— Як жа мне, рэчцы, быстра іцці —
Абнялі мяне ўсе лугі,
Ўсё круценькія берагі.
Ўсе на мяне лозачкі схіліліcь,
Ўсе на мяне кусточкі схінуліcь,
Ўсе на мяне беражочкі схінуліcь,
Ўсе на мяне лісточкі сыпнуліcь.
— Як жа мне, дзевачцы, вясёлай быць —
Абняла мяне дружына,
Ўсё Антонкіна радзіна:
А з правага боку — сам малод,
А з левага боку — сястрыцы яго,
Напроціў мяне — братцы яго.
Ай, паедзем, мой брахненька, дадому.

962

А ўчора рэчанька быстра ішла, *
Сягоння рэчанька ціха ідзець —
Напала на яе сняжніца,
Усё сцюдзёная вадзіца.
А ўчора Валечка весела была,
Сёння Валечка смутненька —
Асела яе чужына,
Усё Васечкава радзіна,
Некуды галоўкі скланіці,
Некуды слёзанькі ўраніці.
Скланіла галоўку ў падалок,
Раняла слёзанькі ў рукавок.

963

А ўчора рэчанька быстра йшла,
Сягоння рэчанька ціха ідзець.
А ў яе думалі, пыталі:
— Чаго ты, рэчанька, ціха ідзеш?
— Як жа мне, рэчаньцы, хутка ісці —
Абламіла каліна берагі,
Пусціла ягаду ў ваду.
А ўчора Танечка весела была,
Сягоння Танечка скучная.
— А як жа мне, моладзе, вясёлай быць —
Абсела мяне чужына,
Усё й Сашачкава радзіна.
Сашачкава радзіна на куце,
А мая радзіна ў парозе.
Сашачкава радзіна мёд-віно п'ець,
А мая радзіна слёзкі льець.

964

Ды не гневайся, мая братоўка, на мяне,
Што села блізюсенька для цябе,
Ды што я села за бальшым сталом за тваім,
Я прыехала за родным братам за сваім.
Я прыехала не піць-есці, пасядзець.
Я прыехала вашых парадкаў паглядзець:
А што ты тут за княгіня,
А ці будзеш гаспадыня.

965

Нявестачка мая, *
Я заловачка твая,
Не гордавай мною,
Што я села з табою
За столікам тваім,
За брацікам сваім.
За столікам за цясовенькім,
За брацікам за родненькім.

966

А не гневайся, мая братоўна, на мяне,
Што я села блізюсенька ля цябе.
У майго брата тры сады ў гародзе.
У адным садзе будзець зязюля кукаваць —
Добра будзець у нас братоўна прывыкаць.
У другім садзе будзець салавей гнёзды віць —
Добра будзець у нас братоўна з намі жыць.
У трэцім садзе будзець зязюля дзетак мець —
Добра будзець на нас братоўна глядзецька.

967

Не гневайся, мая братоўка, на мяне,
Што я села блізюсенька ля цябе.
А я ў цябе за столікам не была,
А я твайго хлеба-солі не ела.
А сягоння ж я прыехала з братамі,
Насіце мне гарэлку вядрамі.
А было ж табе па кірмашыках не хадзіць,
А было ж табе майго брацікa не звадзіць.
Ты ж не адзін гадок папіла мядок ад яго,
Не адну нядзельку піла гарэлачку ад яго.

968

Не гневайся, мая братоўка, на мяне,
Што я села так блізенька ля цябе,
Што я села за столікам за тваім,
Я прыехала за брацікам за сваім.

А было ж табе на кірмаш не хадзіць,
Было табе нашага братку не любіць.
Было ж табе горкай гарэлкі не піці,
Было ж табе з нашага браткі не кпіці.
Было не есці абараначак у мяду,
Абараначкі-падманачкі, што ў мяду.
Яны ж цябе падманулі маладу,
Яны ж цябе ад дзевачак адманяць,
Яны ж цябе да жоначак прыманяць.

### 969

Ці я табе, Аўдоцейка, не казала,
Ці я твайму сэрцайку не спрыяла.
Не хадзі ты, Аўдоцейка, рана па ваду,
Ды не слухай тых гудочкаў, што рана гудуць,
Ды не бяры падарачкаў, што дарам даюць.
Цябе ж тыя падарачкі ў дабро не ўвядуць,
Яны ж цябе ад мамачкі скора адвядуць
Ды к ліхой свякрусе цябе прывязуць.
А чужая староначка без ветру шуміць,
А ліхая свякруха не б'е, ды баліць.
А як жа мне ■ свякрусе прыстаці,
Як жа мне яе мамачкай назваці?
А я ж тое падвор'ейка ліоцем усцялю,
А я ж тую свякруху мамкай назаву.

### 970

Вото ж табе, маладая дзевачка, за тое,
Было не плясці русае коскі ва трое,
Было не хадзіці да Навагрудку па ваду,
Было не будзіці ціхіх салавейкаў, што рана пяюць,
Было не браці абаранчыкаў, што даюць.
Абараначкі-падманачкі падмануць,
Цябе, маладзенькую, ад мамачкі адбяруць.

### 971

Скацілася яблычка із клеці, *
Ударыла Ганульку ў плечы.
Вот табе, Ганулька, за тое,

Было баранкаў не есці.
Тыя баранкі — падманкі;
Адманюць цябе ад мамкі,
Прыманюць цябе ў свёкарку,
Шчэ й к маладому Лёшаньку.

### 972

Вот табе, Леначка, пагуляннейка,
Было не хадзіць часта на вулку,
Было не слухаць громкіх гуслей.
Громкія гусолькі з ума звядуць,
Маладую Леначку замуж аддадуць.
Не бойся, Леначка, мы не выдадзем,
Узяўшы за ручку, вон выведзем.

### 973

Ой, ужо апошня нядзелька,
Ой, ужо Олечка не дзеўка,—
Звілі вяночка з барвінку.
То табе, Олечка, за тое,
За тваё сардэнька гордае.
Было не хадзіці ў вішнёў сад,
Было не ламаці вішаняк,
Трэ было не класці ў хвартушок.
Тыя табе вішанькі зрадзілі —
І цябе з дзявоцтва ссадзілі.
Не пляці косанькі ў тры радкі,
Не хадзі гуляці, дзе дзеўкі,
Паслухай радонькі, дзе жонкі.
Табе жаночкі парадзяць,
Цябе каля сябе пасадзяць,
Цябе да розуму давядуць.

### 974

Мы ж табе гаварылі,
Твайму сярдзечку наравілі:
Не хадзіць было ў вішнёў сад,
Не шчыпаць было вішань,
Не класці было ў карманы,

Не насіці было на ўлку,
Не даваці было залвіцам,
Усё суджанькіным сястрыцам.
Тыя цябе вішанькі жанілі,
З бацькава падвор'я ссадзілі.

975

Ці мы табе, Лідачка, не гаварылі,
Ці мы твайму сэрцаньку не наравілі:
— Не хадзі, Лідапька, у зялёны сад,
Не шчыплі, Лідапька, салодкіх вішань,
Не слухай, Лідапька, звонкіх вусель.
Тыя цябе вішанькі абманулі,
Тыя цябе вуселькі з толку звялі.
Ад таткі-мамкі адвярнулі,
К маладому Генечку прывярнулі.

976

Гэта табе, Хвенечка, за тое,
Было наначкі не хадзіць,
І круп, і сала не насіць,
Суседніх дзяцей не карміць.
Суседнія дзеткі паелі
І цябе сюды ўелі.

977

Ці мы табе, Дунечка, да не гаварылі:
— Не хадзі, Дунечка, сы вячор на двор,
Не слухай, Дунечка, звонкіх гусель.
Тыя цябе гуселькі спадманываюць,—
Ад бацькі, ад маткі сатманываюць,
К маладому Ванечку прыманываюць.
— Кажыцца, я, молада, не слухала:
Узяла вядзерцы, па ваду пашла,
Зачарпнуўшы вядзерцы, паставіла,
Паставіўшы вядзерцы, паслухала:
Як тыя гуселькі харашо іграюць,
Як тыя свашачкі харашо пяюць.

978

Казала сарока чы-чы-чы,
Села ў дзеванькі на плячы.
— Гэта табе, дзеванька, за тое,
Не пляці косаньку ўтроя,
Пляці косаньку ў чатыры рады,
Жыві ў бацінькі чатыры гады.
— Я не буду плесць ні раду,
Не буду жыць у бацькі ні году.
Заіграла скрыпачка-дудачка,
Узяла нашу дзеваньку думачка,
Што ніхто для яе не сядзіць:
А ні брацітка, ні сястра —
Толькі адзін суджанька-халайстра.

979

Скрыпнулі вароты з паўначы,
Прыехалі к Мар'ютке панічы.
— Вот табе, Мар'ютка, за тое,
Было не плесь косаньку ўтроя.
Было плесь косаньку ў чатыры рады,
Жыла б ты ў бацюшкі чатыры гады.
— Я й ні год жыла, я й ні два,
Не 'дну лентачку знасіла,
Не 'днаго малайца ссушыла,
Аднаго Іваньку сукрасіла.

980

Была ў бацька адная дочка,
Адная адыначка.
Пайшла вона да сіняга броду,
Да й да броду па воду.
Не мае вадзіцы ды й адыныцы,
Ні яе паходачкі.
Стаіць вядзерка дай на лаваньцы,
А венчык на калочку.
Ото ж табе, дзеванька, за тое,
Было не плесці косаньку ва трое.
Было плесці косу ў батожкі,
Было ткаці ручнічкі пад ножкі.

Ото ж табе, донечка, за тое,
Не ідці было к сіняму броду па воду,
Не слухаці было галубочкаў, што гудуць,
Не браці тых падаркаў, што даюць,
Бо падаруначкі падмануць,
Ад баценькі да свёкарка завядуць.

981

— Пераманачка-вутачка,
Пераманіла селезня
З чужога возера да на сваё.
— Ці я ж то яго маніла?
Сам ён да мяне даляцеў,
На мяне, уціцу, гледзячы,
На маё пер'ейка рабое,
На маё крыллейка быстрае,
На маё плаванне ціхае,
На маю галоўку сізую.
— Перапросачка-Мар'ечка,
Перапрасіла Ванечку
З чужой вуліцы на сваю.
— Ці я ж то яго прасіла?
Сам ён да мяне даехаў,
На мяне, дзевіцу, гледзячы,
На мае паходы скорыя,
На мае паклоны нізкія,
На маю галоўку гладкую,
На маю касіцу русую.

982

— Пераманачка-вутачка,*
Пераманіла селезня
З чужога возера на сваё.
— А ні я яго маніла.
Ён жа сам да мяне прылятаў,
Ён мяне, вутачку, спадабаў.
На што ж ён на маё галіўся?
Ці на маё шэрае крыллейка,
Ці на маю сізую галоўку?
— Перапросачка-Верачка,
Перапрасіла Лёнечку

З чужой вуліцы на сваю.
— А не я ж яго прасіла.
Ён сам да мяне прыходзіў,
Ён мяне, маладу, спадабаў.
На што ён на маё галіўся?
Ці на мае ціхія паходы,
Ці на рэзвыя разгаворы,
Ці на ласкавы паглёды?

983

ПераманаНька-вуціца, пераманіла селезня
На сваё возера плаваці.
— А маё возера шыроценька,
Ды не так шырока, как доўга.
Ёсь куды селязьню праплыці,
Сізае крылышка прамачыці.
ПераманаНька-Ганнуся, пераманула Філімоньку
На сваю вуліцу гуляці.
— А мая вуліца шырока,
Да не так шырока, як доўга.
Ёсь куды Філімоньку праехаці,
Ваганога коніка раз'ехаці,
Шаўковую плётачку размахаці.

984

— Пераманачка-вутачка,
Пераманіла селезня
А з таго возера быстрага,
А з таго траснічку густога.
— Ці я яго маніла?
Ён сам да мяне прыляцеў,
А на мяне, вутачку, гледзячы,
А на мае перыйкі шызыя,
А на мае крылушкі быстрыя.
— Пераманачка-Ганначка,
Пераманіла Іваньку.
— Ці я ж то яго маніла?
Ён сам да мяне прыехаў,
А на мяне, паненку, гледзячы,
А на мае прыборы панскія,
А на маю галоўку гладкую,

А на мае паходы ціхія.
Панскія прыборы — ў каморы,
[Ціхія] паходы — ў таночку,
Гладкая галоўка — ў вяночку.

### 985

— Пераманачка-павачка,
Пераманіла павука
На сваё возера купацца.
— А не я ж яго маніла,
Ён сам прыляцеў купацца,
Сваё дробнае пер'ейка,
Сваё сізае крыллейка
Да сваю павіную галоўку.
— Пераманачка-Сахвейка,
Пераманіла Грыгорку
На сваё вяселле гуляці.
— А ці я ж ба яго маніла,
Ён сам па мяне прыязджаў
Да на маё вяселле гуляці,
Да на мой пярловы вяночак,
Да на мой шаўковы платочак,
Да на маю русую косаньку.

### 986

Не дзіві, княгінька, ні на кога,
Прывучыла жанішка́ маладога
Сваей рожаю прыгожаю,
Сваей красатой дзявоцкаю,
Ціхімі сваімі паходамі,
Нізкімі сваімі паклонамі.
Ціхімі паходамі ў таночку,
Нізкімі паклонамі ў царамочку,
Сваім сярдэечкам пакорным.

### 987

— Ты не дзіві, галубка, ты на голуба,
Ты падзіві, галубка, сама на сябе.
Прыўчыла галуба ты сама да сябе

Сваімі частымі пералётамі,
Сваею сізаю той галовушкай.
Ты не дзіві, Ануля, ды й на татуньку,
Ты й падзіві, Ануля, ды й сама на сябе.
Прыўчыла Мылаха ты сама каля сябе
Сваею гладкаю вой галовушкай,
Сваею частаю вой паходушкай,
Сваею рэзваю гаворачкай.
— Гладкую галоўку я па ранням часу,
Русую косаньку я й ка 'бедні пляту,
Вежлівай гаворкай я й з панам гавару.

### 988

Не стойце, свахі, ля варот,
Не пазірайце ў вагарод.
У вагародзе лебяда,
У той лебядзе прынада.
Прынадзіла Міхаілу
Часта ў госці хадзіці,
Дарагія гасцінцы насіці.

### 989

Баравая цяцера **
На сенажаці села.
На сенажаці села,
Скрыллейка распусціла.
Скрыллейка распусціла,
Сокала прывучыла.
— Не я яго прывучыла,
Ён жа сам ка мне прывык.
Ля мяне блізка сядзеў,
На маё пер'е глядзеў.
На маё пер'е глядзеў,
На маё рабенькае.
Маладая Люсечка
Па кірмашы хадзіла.
Па кірмашы хадзіла
І Віцечку прывучыла.
— Не я яго прывучыла,
Ён жа сам ка мне прывык:
На маё ліцо глядзеў,

На маё бяленькае.
Ён маю радню ўважаў,
Ён маю багатую.

990

Непраўдзівая калінка
Няпраўду лугам казала,
Казала, цвету не будзець,
Чырвоных ягад не зродзіць.
Як прыйшла вясна цяпленька,
На каліне цвету бяленька.
Як прыйшла восень сцюдзёна,
А на каліне ягад чырвона.
Непраўдзівая дзевачка,
Няпраўду падружкам казала,
Казала, ухажора не люблю,
Казала, за яго не пайду.
Аж яна яго злюбіла,
У яго слядок ступіла.
Аж яна яго моцна скахала,
У яго ручкі папала.

991

Непраўдзівая каліна
Няпраўду пташкам казала.
Казала: «Цвісці не буду»,
Казала: «Ягад не будзе».
Як прышла вясна — зацвіла,
Як прышла пара — паспела,
І пташкі ягадак пад'елі.
Непраўдзівая Нiначка
Казала: «Замуж не пайду»,
Казала: «Іванку не люблю».
Прышла нядзелька святая,
Ніначка ў шлюбе стаяла,
Іванку за ручку дзяржала.
Як прышоў той дзень — панядзелак,
Адлучылі Ніначку ад дзевак.
Прышоў той дзень — аўторак,
Пасадзілі Ніначку меж жонак.

## 992

Няпраўдзівая каліна*
Да казала: «Цвісці да не буду.
На мне ягадак не быць».
Настала лецейка цепленька,
Зацвіла каліна беленька.
Да на ей ягадак поўненька,
Пад ей пташачак чорненька.
Няпраўдзівая дзевачка
Казала: «Замуж не пайду,
Я ж таго хлопчыка не люблю».
Адкуль узяўся, спадабаўся,
Ясным сокалам удаўся?
Ясным сакалом за дваром,
Любым госцікам за сталом.

## 993

Каліна няпраўдзівая казала:
«Цвісці не буду,
Не пушчу,
Не пушчу белага цвету,
Не ўраджу буйных ягадак».
Як прышла вясна, зацвіла,
Буйны ягадкі радзіла,
Беленькі цвяток пусціла.
Няпраўдзівая дзевачка,
Няпраўдзівая Анечка
Казала: «Замуж не пайду,
Маладога судзжаньку не злюблю».
Як прышлі сваты, дык пашла,
Маладога судзжаньку злюбіла.
— А ці я ж яго злюбіла,
Гэта мая мамачка злучыла,
А сыр у масле тапіла,
За вароцікі насіла,
А варыла лебяду на мяду,
Прывучыла судзжаньку ў саду.

## 994

Няпраўдзівая каліна
Ды казала: «Сёлета цвісць не буду».
Як прыйшла вясна, расцвіла,

Пусціла веццe пад клецце,
Зялёны расток пад масток.
Няпраўдзівая Ганка
Ды казала: «Сёлета замуж не пайду».
Як прышоў Якушка, так пашла.
— Я й бы, сястрыцы, не любіла,
Па двару хадзіла,
У яго слядочак ступіла,
Тагды, сястрыцы, яго палюбіла,
Яго слядочак — мядочак.

995

Няпраўдзівая каліна гаварыла:
«Цвісці сёлета не буду».
Прыйшла вясна, зацвіла.
«Зялёнага ягора не люблю,
У карэнь веццяя не пушчу».
Як прыйшла вясна, зялёнага ягора ўзлюбіла,
У карэнне веццяў з яго пусціла.
Няпраўдзівая Ганначка гаварыла:
«Замуж не пайду, маладога Іваньку не люблю
І на след яго не ступлю».
Прыйшла восень — замуж пайшла,
Маладога Іваньку ўзлюбіла
І ў слядок яго ступіла.

996

Няпраўдзівая калінка
Казала: «Цвісці не буду».
Казала: «Ягодак не будзе».
Прышла вясенька цяпленька,
Зацвіла калінка бяленька,
На ёй ягадак драбненька.
Няпраўдзівая дзевачка
Казала: «Замуж не пайду».
Казала: «Малойца не люблю,
На яго падвор'е не ступлю,
Яго конікаў не злічу,
Яго радзімкі не здару».
Як прышла пара, дык пашла,

На яго падвор'е ступіла,
Яго конікаў злічыла,
Яго радзімку здарыла.
Здарыла радзімку, увесь народ,
Яго мамачку напярод.

997

Няпраўдзівая каліна
Казала: «Цвісці не буду».
Казала: «Ягад не будзе».
Няпраўдзівая Манечка
Казала: «Замуж не пайду».
Як прышла пара, дык пашла.
Ад таткі, ад мамкі ды к свякровачцы.
А ў свякровачкі дрэнна жыць:
Там будзеш цяжка ты рабіць.
Ды свякровачцы гадзіць,
Па вадзіцу раненька будзеш хадзіць.

998

Няпраўдзіва калінка
Казала: «Цвісці не буду».
А прышла вясна, расцвіла,
Пусціла вецве пад клеці,
А зялёны лісток пад масток.
Няпраўдзіва Хадорка
Казала: «Замуж не пайду».
А прышла вясна, так пашла,
Русую касу распляла,
У мамчыны клеці ўплёты павесіла.
— І там мая матка ходзіць,
Белыя ручкі ломіць,
Дробныя слёзкі роніць:
— Тут мая дачушка хадзіла,
Мне работку рабіла.

999

Мутліва зязюля, мутліва,
Перад салаўямі змуціла.
Казала: «У садочак не лячу».

Казала: «Ягадак не дзюбну».
Зязюлька ў садочку бывала,
Чырвоны ягадкі дзюбала.
Мутліва Апраська, мутліва,—
Перад дзевачкамі змуціла.
Казала: «Петруся не люблю».
Казала: «За яго не пайду».
Палюбіла ж Петруся, як душу,
Цяпер кажа: «Пакінуць не мушу».

## 1000

Ой, казала Галечка, што замуж не пайду.
Насеяла чарнабрыўцаў цэлу граду.
— Расціце, чарнабрыўцы, ой, не буяйце,
Ой, не ідзіце, дзеўкі, замуж, пагуляйце.
Ой, дурныя тыя козы, што лазу грызуць,
Ой, дурныя тыя дзеўкі, што замуж ідуць.
Ой, дурныя тыя козы, што ў лазу скачуць,
Ой, дурныя тыя дзеўкі, што замужам плачуць.

## 1001

Было лета, было лета, цяпер зіма,
Пасеяла чарнабрыўцы насупроціў ражства.
А ўжо ж мае чарнабрыўцы расцвітаюць,
А ўжо ж маю русу касу расплятаюць.
Расцвілі чарнабрыўцы да й не на век,
Расплялі маю русу касу на цэлы век.

## 1002

Казала дзевачка: «Замуж не пайду».
Насеяла чарнабрыўцаў цэлую граду.
— Ох, хто ж гэты чарнабрыўцы паліваць будзе,
Ох, хто ж мяне, маладзеньку, шкадаваць будзе?
Абазваўся да Валодзька ў вішнёвым саду:
— Ох, я ж твае чарнабрыўцы паліваць буду, 2
Ой, я цябе, маладзеньку, шкадаваць буду.
— Ой, расціце, чарнабрыўцы, не буяйце,
Ох, не йдзіце, дзеўкі, замуж да й гуляйце,
Ой, вы маёй да мамачцы памагайце.

### 1003

Ой, казала дзевачка: «Замуж не пайду».
Насеяла чарнабрыўцаў цэлую граду.
— Расцеце расцеце, чарнабрыўцы, расцвітайце,
Як я пайду увосень замуж, пассыхайце.
Ой, як тыя чарнабрыўцы расцвіталі,
Яны гору камяну ўсцілалі.
— Пусці мяне, мая мамка, на ту гору,
А я сабе на той гарэ чарнабрыўцаў нарву,
А я сабе з чарнабрыўцаў вяночка саўю.
— На што ж табе, дзіця маё, чарнабрыўцаў цвет,
Да ўжо табе, дзіця мае, завязан свет.

### 1004

Хвалілася каліна,
У густой лазе стоячы:
— Ой, ніхто да мяне не дойдзіць,
Ніхто мяне не зрубае
Без мяча, без секача
Ды без вострай шабелькі.
Адазваўся злы мароз:
— Не хваліся, калінка,
Я цябе сам зрубаю
Без мяча, без секача
І ягадкі змаражу
І голлейка пасушу.
Хвалілася дзевачка:
— Ніхто мяне не возьме
Да без мёду, без віна,
Без салодкіх напіткаў.
Адазваўся малойчык:
— Не хваліся, дзевачка,
Да я цябе сам вазьму
Да без мёду, без віна,
Толькі з горкай гарэлкай
Ды ў святую нядзельку.

### 1005

Хілялася каліначка за ракой:
— Ніхто мяне не высячыць за вадой.
Як узняліся шуры ды буры з-за ракі,

Выламалі каліначку з-за вады.
Хвалілася малада Манечка за сталом:
— Ніхто мяне не выведзець з-за стала.
Як паехаў молад суджанька з дружынай,
Дык ён вывеў маладу Манечку з застолля,
А паставіў з сабой у раду,
Паміж конікаў вараных,
А паміж дружчатак маладых.

1006

Схілілася каліначка над ракой.
Ніхто яе не высячыць за вадой.
А дзе браўся буйны ветрык на яе,
Ён жа яе ўсё голлейка абламаў,
Па сінім моры, па быстрай рацэ разагнаў.
Хвалілася малада Лідачка ў мамачкі:
— Ніхто мяне ад мамачкі не возьмецъ.
А дзе браўся малады Іванька,
Ён жа яе русую касу растрапаў,
Ён жа яе ад мамачкі ўзяў.

1007

Хілілася калінінка над вадой:*
— Ніхто ж мяне ні высекецъ за вадой.
Пахваліўся люты марозік на яе:
— А я ж цябе, калінінка, змарожу,
А я ж тваю красную ягаду абсмакчу,
А я ж тваё сучча-веццейка ўсушу.
Хвалілася млада дзеванька утайкі:
— Ніхто ж мяне ад татухны не возьмецъ.
Пахваліўся млады мальчышка на яе:
— А я ж цябе, млада дзеванька, адсюль вазьму,
А я ж твае скрынкі-пярынкі выведу,
А я ж твае дальні кірмашы ўніму,
А я ж табе мамкіну негу выганю.

1008

Хвалілася красна каліна за ракой:
— Ніхто ж мяне тут не дастане за вадой.
Як наляцелі дробныя пташкі з даліны,

Пaкляваліі красныя ягадкі з каліны.
Хвалілася малада Зіначка за сталом:
— Ніхто ж мяне тут не дастане за раднёй.
Як наехаў молад Колечка з дружынай,
Ой, разагнаў Зінкіну радзінку па адной,
Ой, ён жа забраў младу Зіначку з сабой.

1009

Хвалілася каліна над ракой:
— Ніхто мяне не дастаніць за вадой,
Ніхто маіх суччайкаў не 'бломіць,
Ніхто маіх лісцікаў не 'батрэць,
Ніхто маіх ягадак не 'тшчыпнець.
А ўчуў жа гэта зелен дуб,
На зялёнай дуброве стоячы.
— Я цябе, каліна, дастану за вадой,
Я тваё суччыйка абламлю,
Я тваё лісцейка абатру
І тваю ягадку адшчыпну.
Хвалілася Сахвейка ў таткі:
— Ніхто мяне не возьміць ад таткі,
Ніхто маёй красаты не 'батрэць,
Ніхто маей натуры не пераменіць.
А ўчуў жа гэта Грыгорка,
У таткі на дварэ стоячы,
На вараным коніку седзячы.
— Не хваліся, Сахвейка, у таткі.
Я цябе вазьму ад таткі,
Я тваю красату абатру,
Я тваю натуру перамяню.

1010

Хвалілась каліна сваім ростам вялікім:
— Ніхто мяне тут не дастанець без вострага мяча.
Абазваўся мароз: — Не хваліcь, каліна,
Я цябе дастану без вострага мяча,
Я ветві асушу і лісця абцерушу,
Я цябе дастану без вострага мяча.
Хвалілась Ніначка сваім родам вялікім:
— Ніхто мяне не вывезець з вялікага роду.

Абазваўся суджанька:— Я цябе вывезу із вялікага роду.
Я род-племя ўпаю, тваяго атца ўпрашу
І вывезу цябе із вялікага роду.

1011

Хвалілася каліначка за ракой:*
— Ніхто мяне не высеча за вадой
Ды без сечы, без вострага тапара.
А дзе браўся буйны вецер на яе,
Ды вывернуў каліначку з кораня,
Ды без сечы, без вострага тапара.
Хвалілася млода Волечка за сталом:
— Ды ніхто ж мяне не вывядзе з-за стала,
Ды без мёду, без кубачкаў, без віна.
А дзе браўся млоды Іванька да яе,
Узяў за ручку, вывеў яе з-за стала,
Ды без мёду, без кубачкаў, без віна.

1012

Стала каліначка над ракой.
Ніхто ж яе не адважыўся зрубаці,
Адважыліся буйны ветры зламаці.
Гадавалася Томачка ў матулі.
Ніхто ж яе не адважыўся чапаці,
Адважыўся малады Жоржычак узяці.

1013

Хадзіла козанька па лукам,
А за ёй услядок шэры воўк:
— Хоць ідзі, не хадзі, козанька,—
Быць табе, козанька, з'ядзёнай.
А валяцца рагам па гарам,
А дробным касцям па пяскам,
Буйнай галаве па траве.
Хадзіла Сахвейка па двару,
А за ёй услядок Грыгорка:
— Хоць хадзі, не хадзі, Сахвейка,—
Быць табе, Сахвейка, за мною,

А валяцца вянкам пад лаўкам,
Дарагім уплётам пад ганкам,
Быць памётке на галоўке.

## 1014

Хадзіла козачка па гарэ,
Увідзеў яе ваўчышча з даліны:
— Хош хадзі, козачка, не хадзі —
Быць табе, козачка, з'едзенай,
А валяцца рагам па лугам,
А беленькім ножкам па абложкам,
А скораму хвасту у кусту.
Хадзіла дзевачка па двару,
Увідзеў яе суджанька на каню:
— Хош хадзі, дзевачка, не хадзі —
Быць табе, дзевачка, звязёнай.
А валяцца уплётам пад плотам,
А беламу платку ў кутку,
А залатым пярсням па кублам.

## 1015

Хадзіла козанька па лугу,
За ею ваўчок пазаду:
— Да хадзі, козанька, не хадзі —
Да ўжо табе ад мяне не ўвайсці,
Дробных костачак не ўнясці.
Да валяцца ж рагам па гарам,
Дробным костачкам па лугам.
Хадзіла Марутка па саду,
За ею Пракопка пазаду:
— Да хадзі, молада, не хадзі,
Да ўжо табе ад мяне не ўвайсці —
Русай косанькі не ўнясці.
Да валяцца грэбням па кутам,
Русай косаньцы па лаўкам.

## 1016

Хадзіла козачка па саду,*
А за ёй шэры воўкі па заду.
Хоць хадзі, не хадзі, козачка,—
Быць табе мною з'ядзёнай,

А валяцца галаве ў лазе,
А валяцца рагам па лагам,
А валяцца хвасту па масту.
Хадзіла Томачка па двару,
А за ёй Колечка па заду.
— Хоць хадзі, не хадзі, Томачка,—
Быць табе мною звязёнай,
А валяцца вянку па ганку,
А валяцца касе па расе,
А валяцца уплётам пад плотам.

## 1017

Хадзіла козанька па гарэ,
Как завідзела ваўчыцу,
Как ударыла наўцёкі.
— Уцякай, не ўцякай, козанька,—
Быць табе, козанька, з'едзенай,
Качацца галаве па гарэ,
Доўгаму хвасту па масту,
Крутым рожкам па дарожкам.
Хадзіла Дунечка па двару,
Как завідзела Ванечку,
Как ударыла наўцёкі:
— Уцякай, не ўцякай, Дунечка,—
Быць табе, Дунечка, за мною.

## 1018

Хадзіла каза па бярэзнічку,
Ходзячы мяркатала:
— Каб не той ваўчок, сівенькі бачок,
Я ж бы тут зімавала.
Учора прышоў, дзетачкі забраў,
А сягоння й самую.
Ходзіла дзевачка па новых сенях,
Сама з сабой размышляла:
— Каб не той малойчык, не той малады,
Я б у мамкі векавала.
Учора прышоў мыселькі забраў,
А сягоння й самую.

### 1019

Ой, да скакала козка
Да перад ваўком, рана-парана.
Ой, да скакала козка
Да перад ваўком, рана.
Ой, да казала козка:
— Ваўка не баюся, рана-парана.
Есць у мяне рожкі:
Да я адаб'юся, рана.
А назаўтра дзень,
Козкі няма, рана-парана.
Ой, рожкі ляжаць,
Козкі няма, рана.
Скакала цешча
Да перад зяцем, рана-парана.
Да казала цешча:
— Зяця не баюся, рана.
Есць у мяне мядок —
Адбаранюся, рана-парана.
А назаўтра дзень,
Мядок стаіць, рана.
Мядок стаіць,
А дачкі няма, рана-парана.

### 1020

Хадзіла козачка па крутой гарэ,
Ножкаю як топ, дак топ,—
Надражалася сераму ваўку:
— Я ж цябе не баюсь.
А ў суботачку, пад нядзелечку,
Козачкі як нет, дак нет;
Толькі асталісь ножкі да рожкі,
Белыя капыцікі.
Хадзіла дзевачка па новых сенях,
Хустаю як мах, дак мах,—
Надражалася маладому дзяцінку:
— Я ж цябе не баюся,
А ў нядзелечку пад панядзелак,
Дзевачкі як нет, дак нет;
Толькі асталісь шаўковы ўплёты
З яе русае касы.

## 1021

Ходзя лісіца па крутой гары,
Вушкамі пакручая,
Наругаецца шэраму ваўку:
— Я ж цябе не баюся.
Датуль хадзіла, паругалася,
Пакуль ваўку дасталася.
Толькі асталіся рожкі ды ножкі,
А лісічку ваўкі з'елі.
Ходзя дзевачка ды й па рыначку,
Чабатамі пастукая,
Наругалася маладому суджаньку.
— Я ж цябе не баюся.
Датуль хадзіла, наругалася,
Пакуль яму дасталася.
Толькі асталася русая каса
Ды дзявічая краса.
Русую касу ў святы дзень пачашу,
А красу пацярала.
Русая каса як была, будзе,
А красы ўжо не будзе.

## 1022

Ішла Ніначка па полю,
Віла вяночак з куколю.
Да й пусціла скрай дарожачкі
У вішнёвы садочак.
— Кацісь, кацісь, вяночак,
У вішнёвы садочак.
Хто яго найдзець,
К таму перайдзець,
Таму я дастанусь.
Татачка пайшоў — не знайшоў,
І з садзіку вон пайшоў.
— Божа ж мой мілы, злая гадзіна,
Не найшла мяне мая радзіна —
Чужому дастануся.
Ішла Ніначка па полю,
Віла вяночак з куколю.
Да й пусціла скрай дарожачкі
У вішнёвы садочак.
— Кацісь, кацісь, вяночак
У вішнёвы садочак.
Хто яго найдзець,

Таму я дастанусь.
Васечка пайшоў — вяночак знайшоў.
— Божа ж мой мілы, злая гадзіна,
Не найшла мяне мая радзіна —
Чужому дасталась.

### 1023

Што ў полі далёка
Стаяў церам высока.
Там дзевачка гуляла,
Русу касу часала.
— Каса мая — касою,
Каму я дастануся,
З тым я павянчаюся.
Татухна пайшоў — не найшоў,
Із саданьку так пайшоў.
Ліхая гадзіначка —
Не найшла радзіначка.
Што ў полі далёка,
Каля церама вада лялее,
Каліначка ўжо зрэе,
Ягада чырвоная...
Там Лук'яначка
Русу касу часала.
— Руса каса да пояса,
Каму, каса, дастанешся,
З тым павянчаюся.
Іванька пайшоў,
У саду найшоў,
За ручку ўзяў,
Пад вянец павёў.

### 1024

Ішла Дунечка на пасад
Да заблудзіла ў вінаград.
— Хто мяне ў гэтым вінаградзе знойдзе,
Таму я дастануся,
К яму я прыхілюся.
Ішоў татачка — не найшоў,
За вароцечка да і пайшоў.

Ішла мамачка — не найшла,
За вароцечкі, да і пайшла.
— Не найшла мяне родная радзіна,
Цяпер на мяне ліха гадзіна.
Каму я дастануся,
К каму я прыхілюся?
Ішоў Колечка — да знайшоў,
Узяў за ручанку ды й пайшоў.
— Ой, цяпер на мяне добра гадзіна,
Найшла мяне родна радзіна.
Колечку я дастануся,
К яму я прыхілюся.

### 1025

Пайшла за варотцы Ганулька,
Коскі расплятаючы,
А за ею родна матулька,
Слёзкі разліваючы.
— Пастой, Ганулька, пастой дзіцятка,
Мы з табою пагаворым.
— Не буду стаяці, не буду гаварыці,
Бо мне з табою
Нямнога ўжо быці.

*Тое ж паўтараецца да татуські, брацейкі. Нарэшце:*

Пайшла Ганулька за варотцы,
Коскі расплятаючы,
А за ею яе міленькі,
Прыпяваючы:
— Пастой Ганулька, пастой міленька,
Мы з табой пагаворым.
— Будзем мы стаяць,
Будзем гаварыць,
Будзем жыцейка жыць.

### 1026

Дробнае зеллейка на бары,
Там хадзіў Лёнюська па двары,
А за ім мама ідучы,

Белыя ручачкі ламаючы.
— Не йдзі, мамачка, за мною,
Уся размовачка скончылася з табою.
Дробнае зеллейка на бары,
Там хадзіў татачка па двары,
А за ім Лёнюська ідучы,
Шапачку ў руках несучы.
— Не йдзі, татачка, за мною,
Уся размова кончылася з табою.
Дробнае зеллейка на бары,
Там хадзіла Галечка па двары,
А за ёю Лёнюська, шапачку ў руках несучы.
— Пайдзі, Галечка, са мною,
Уся мая размова з табою.

**1027**

А на гарэ васілёчкі расцвілі
Ды каменную гору абвілі,
Тудой ішла Ганначка памаленьку,
А за ёю браток паціхеньку.
Аглянулась Ганначка і ўсхапнулась:
— Не ідзі, не ідзі, браток, за мною,
Бо ў нас не будзе парадачку з табою.

*Тое ж паўтараецца да сястрычкі, татулькі. Нарэшце:*

А на гарэ васілёчкі расцвілі
Ды каменную гару абвілі,
Тудой ішла Ганначка памаленьку,
А за ёй Мікітка паціхеньку:
Аглянулась Ганначка і ўсхапнулась:
— Хадзі, хадзі, Мікітка, са мною,
У нас будзе парадачак з табою.

**1028**

Урадзілі васілёчкі, урадзілі,
Усю гару камяную ўкрылі
І маленьку сцежачку пусцілі.
Ой, па той спежачцы ішла Анечка,

А за ёй ішоў Ванечка.
Аглянулася ж Анечка і злякнулася:
— Не йдзі, не йдзі, Ванечка, за мною,
Не будзе ў нас шчасця з табою.

### 1029

А ў полі бярозка, залаты лісток,
Да й пад той бярозкай Галечка стаіць.
Яна шчыплець лісточак на вяночак.
Мамулька родная дамоў клічыць:
— Галечка, дзіцятка, хадзі дамоў.
— Мамачка родная, не пайду з табой:
Цёмная ночка — нявідная,
Быстрая рэчка — нямошчаная.
Я пайду цераз рэчку — увалюся,
Я ж к табе, мамулька, не вярнуся.

### 1030

Над ракою сосенка — залатыя веткі,
Там наша Мар'юшка гуляла,
Галаву часала, русу косу заплятала.
Міма шоў яе бацюшка:
— Ты пойдзеш, Мар'юшка, са мною дамоў.
— Не пайду я, бацюшка, з табой дамоў:
Ноч цёмна, да не месячна,
Рэчушкі глыбокі, калодцы высокі.

*Тое ж да матушкі. Потым:*

Над ракою сосенка — залатыя веткі,
Там наша Мар'юшка гуляла,
Галаву часала, русу косу заплятала,
Міма шоў Цімошанька:
— Той пойдзем, Мар'юшка, са мной дамоў.
— Пайду я, Цімошанька, з табой дамоў:
Ночушкі цяпер відны, калодцы нізкі,
Рэчушкі мелкі.

### 1031

Белая зара-зорушка занімалася,
Там наша Настасся разгулялася,
Гуляла Насценька дзень да вечара.

Стаў яе бацюшка дамоў зазываць:
— Дзетушка, да і, Насценька, да і хадзі дамоў.
— Бацюшка родны, не пайду ■ дамоў:
Ноч цёмна да не месячна,
Дарога шырокая да й няведама,
Рэчанька глыбокая, да й пераходу нет.
Белая зара-зорушка занімалася,
Там наша Настасся разгулялася,
Гуляла Насценька дзень да вечара.
Стаў князь Якаў дамоў яе зваць:
— Свет Насценька, ты дамоў ідзі.
— Пайду з табой, князь Якаў, іду дамоў:
Ноч светла да і месячна,
Дарога вузкая да і знакомая,
Рэчка ціхая, да мосцік ёсць.

## 1032

Раннія заранькі занімаліся,
Там наша Мархвінька разгулялася.
Прахадзя, татанька й дамоў завець яе:
— Хадзі, дзіця маё, са мной разам дамоў.
— Я не пайду, татунька, з табой разам дамоў:
Ноч цёмная, пераходу нет,
Буду гуляць дзень да вечара,
Буду любіць маладых дзецюкоў.
Прахадзя, Іванька:
— Хадзі, хадзі, Мархвінька, дамоў разам пойдзем,
Поўна гуляць дзень да вечара,
Доса любіць маладых дзецюкоў.
— Пайду, пайду, Іванька, з табой разам дамоў.
Нагулялася, накрасавалася.
Цяпер ноч відна й дарога добра.

## 1033

А ў сенюшках за дзвярамі
Салавейка шчабечыць:
— Усцінпечка маладая,
Цябе бацюшка клічыць.
— Хоць кліч — не кліч, бацюшка,
Я ж табе не адгукнусь:

Забыла ключы, з церама ідучы,
У саборы па прыстоле.
А ў сенюшках за дзвярамі
Салавейка шчабеча:
— Усцінечка маладая,
Арафеечка клічыць.
— Хоць кліч — не кліч, Арафеечка,
Я ж табе адгукнуся:
Узяла ключы, з церама ідучы,
У саборы па прыстоле.

### 1034

Зачынілася наша Ніначка
У новенькім камору,
Яе бацька кліча-пакліча:
— Адчыніся, Ніначка.
— Ой, баценька, не адчыню,
Тваю волю не ўчыню,
Бо не сам ідзеш,
Баяры вядзеш па мяне, маладую.

*Тое ж да сястрыцы Потым:*

Зачынілася наша Ніначка
У новую камору.
Колечка кліча-пакліча:
— Адчыніся, Ніначка.
— Ой, табе, Колечка, адчыню,
Тваю воленьку ўчыню,
Хаця не сам ідзеш,
Баяр вядзеш па мяне, маладую.

### 1035

Ай, свет жа мой, імбіравы карашок,
Кіну-брошу пад бацюшкін церамок,
Сама пайду на вуліцу гуляці.
Будзець мяне мой бацюшка гукаці:
— Вярнісь, вярнісь да і, Мар'ечка, дадому,
Сшыю табе кунню шубу да долу.
— Не вярнусь, мой бацюшка, дадому,
Не хачу тваей шубы да долу.

Ай, свет жа мой, імбіравы карашок.

*Далей тое ж да маці, якая абяцае сшыць кашуліцу да долу. Потым:*

Ай, свет жа мой, імбіравы карашок,
Кіну-брошу пад Ванічкін церамок,
Сама пайду на вуліцу гуляці,
Будзець мяне мой Ванечка гукаці:
— Вярнісь, вярнісь да й, Мар'ечка, дадому.
— Я вярнусь да й, Ванечка, дадому.

### 1036

— Ступай, Ванюшка, дамоў,
Ступай, душанька, дамоў.
Цябе бацюшка завець,
Бальшой горад падаець.
— Я к бацюшку не пайду,
Бальшой горад не вазьму,
Бо ночанька цёмная,
Дарожка няроўная,
Усё й не месячная.
— Ступай, Ванечка, дамоў,
Ступай, душанька, дамоў.
Цябе матачка завець,
Бялья куфар падаець.
— Я к матулі не пайду...

*І г. д., як вышэй. Потым:*

— Цябе брацітка завець,
Каня ў сядле падаець.
— Я к брацітку не пайду,
Каня з сядлом не вазьму і г. д.

. . . . . . . . . . . . . .

— Цябе сястрыца завець,
Шоўкаў платок падаець.
— Я к сястрыцы не пайду,
Шоўкаў платок не вазьму і г. д.

. . . . . . . . . . . . . .

— Цябе мілая завець,
Белу ручку падаець.
— А я к міленькай пайду,

Белу ручаньку вазьму,
Бо ночачка няцёмная,
Дарожачка роўная,
Усё і месячная.

### 1037

Пайшла Маруся па ваду да к быстраму Дунаю,
А там стаіць татачка
У сівенькім ярмячку:
— Сюды, сюды, дачушка,
Пад мой сівенькі ярмячок.
— Хоць я, малада, празябну,
Пад твой ярмячок не стану.
Пайшла Маруся па ваду
Да к быстраму Дунаю,
А там стаіць Міколка
У беленькім кажушку:
— Сюды, сюды, Маруська,
Пад мой беленькі кажушок.
— Хоць я, малада, спацела,
Пад твой кажушок хацела.

### 1038

У садзіку, ў зялёненькім розанька цвіцела,
Тую розаньку зялёную Зеха палола,
Кала садзіку зялёнага дарожка ляжала,
На тэй дароганькі шыроканькай Азар ехаў.
— Кідай, кідай, Зеха, розаньку палоці,
Пойдзем, пойдзем, Зеха, к майму бацьку.
— Рада б я кінуць, Азарка,
Ды баюся бацькіных угрозаў.
— Бацькіны ўгрозы, як у зіму марозы,
Вецер завеіць, сонца загрэіць, мароз ядрэіць.
Не бойся, не бойся, Зеха, бацькіных угрозаў,
Пойдзем, пойдзем, Зеха, ды к маей маткі.
— Баюся я, Азар, маткіных угрозаў.
— Не бойся, не бойся, Зеха, маткіных угрозаў.
Маткіны ўгрозы, як летнія росы,
Вецер завеіць, сонца загрэіць, росанька пасохніць.
А ты бойся, Зеха, усё маіх угрозаў,
Мае ўгрозы, как зімнія марозы.

## 1039

Ціхонькі Дунай
Па пясочку бягіць,
Іванька Ганначку
За ручку вядзець.
— Пойдзем, Ганначка,
Дунаю глядзець.
— Бацюшкі баюсь.
— Не бойся бацюшкі,
А бойся мяне.
Бацькіна граза,
Як утрання раса,
А мой жа гроз,
Як люты мароз.
Не так бойся мяне,
Што нагайкі маей:
Нагайка мая
Б'ець і журыць,
Плакаць не вяліць.

## 1040

Да ў нядзелю парану
Віхор дзерава паламаў
Да паверх Дунаю кладкі клаў.
Тудою сокал ляцеў
І зваў кунечку з сабою:
— Хадзі, кунечка, за мною,
Павяду цябе вярбою:
Ты свайго пер'ейка не паросіш,
Ты сваіх лапачак не намочыш.
Да ў нядзелю парану
Віхор дзерава паламаў
Да паверх Дунаю кладкі клаў.
Тудою Іван ішоў
І Параску зваў з сабою:
— Хадзі, мілая, са мною,
Павяду цябе вярбою:
Ты сваіх сукенак не паросіш,
Ты сваіх ножачак не памочыш.

**1041**

Чэраз бор дарожанька-чарназём,
Там праехаў малады Ванечка чарнаброў.
А там яго пагодушка заняла,
Мяцеліца дарожаньку замяла.
Увідзела маладая Валечка з церама,
Яна яму дарожаньку размяла.
Падашэдшы, за ручаньку яго ўзяла,
Яна яго ў нову горанку павяла.
Яна яму рубашаньку змяніла,
Яна яму фуражаньку купіла.
Там яго ўсе дзевачкі злюбілі,
Паміж сябе за столікам садзілі.
Яны яго напітачкам паілі,
Сладзенькім закусачкам кармілі,
Маладую яму Валечку дарылі!

**1042**

Чэраз гай, чэраз гай ды зялёненькі,
Чэраз гай бяжыць конь ды вароненькі,
Галавой, галавой ды пабаўтываець,
Грудзілам, грудзілам ды пабразгіваець.
Як выйшла Полечка за вароцейкі,
Узяла коніка за павадочак,
А ўзяла коніка да за павадочак,
Маладога Іваньку да за ручаньку.
Павяла коніка на стаеньку,
Маладога Іваньку —за цісовы стол.
Ой, дала коніку аўса-сена,
Маладому Іваньку — віна-мёду.
Ой, не есць конічак аўса-сена,
Ой, не п'ець Іванька да віна-мёду —
Хочыць узяць Полечку з вялікага роду.
Ой, я ж молада паненачка,
Я ж свайму Іваньку да каханачка;
Ой, я ж молада, чарнушачка,
Я ж свайму Іваньку да жанушачка.

**1043**

З чыстага су поля ветры веюць,
З Новага горада госці едуць.

Ты ж выйдзі, Настулька, сустрэнь гасцей,
Ты ж вазьмі коніка за грываньку,
Маладога Ляксейку за ручаньку,
Павядзі коніка да стаенкі,
Маладога Ляксейку да хатанькі.
Дай каню, дай каню сена-аброку,
Маладому Ляксейку піва-мёду.
Вараны конь не п'ець-есць,
Князь малады не пакушаець.
Конь вараны дарожку чуець.
Князь малады жаніцца едзець
А ў тую дарожку торную,
Па сваю Настаньку ўборную,
А ў тую дарожку таптаную,
Па сваю Настаньку каханую.

### 1044

Ай, борам, борам, барамі
Беглі конікі лугамі,
Збілі травіцу нагамі
Ды прыбеглі ў Антолькаў двор — заіржалі.
Ніхто тых коней не спазнаў,
Выйшла Ганулька — спазнала,
Узяла ў стаенку загнала.
Прыйшла ў хатку, свайму татку сказала:
— Татульку родны, дай тым конікам аброку.
Яны сягоння пазнюсенька прыбеглі,
Яны заўтра ранюсенька пабягуць,
Яны мяне, маладую, да шлюбу павязуць.

### 1045

Ой, з гары, з гары, з даліны*
Беглі конікі чатыры.
Ніхто конікаў не спаймаў,
Адна Олечка злавіла
Ды ў стайню іх закрыла.
Насыпала аўса да паясá,
Наклала сена па калена:
— Ешце, конікі, не ржыце,
Мяне, маладзенькую, не вязіце.
Паелі коні, заіржалі,
Олечку маладзенькую забралі.

## 1046

З гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры.
Ніхто тых конікаў не спазнаў,
У новую стаенку не загнаў.
Маладая Галечка спазнала,
У новую стаенку загнала.
Прасіла ў татулечкі аброку, прасіла:
— Гэтыя конікі здалёку,
Яны не п'юць, не ядуць,
Толькі іржуць,
Яны мяне, маладу, павязуць
А ў тую хатачку чужую,
Пад тую свякроўку ліхую,
А ў тую сямейку, дзе віно п'юць,
У тую хатачку, дзе мяне ждуць.

## 1047

Румяна падвор'е, румяна,
Поўны двор конікаў нагнана.
Ніхто гэтых коней не спазнаў,
Ніхто іх дахаты не пагнаў.
Маладая Зоська спазнала,
Яна іх да стайні загнала,
Яна свайму брату сказала:
— Ты схадзі, брацейка, да току,
Насып гэтым коням аброку,
Бо гэтыя коні здалёку.
Адзін конік з Вілейкі,
На ім ехаў міленькі.
А гэты конік з Навасад,
Бо на ім ехаў першы сват.

## 1048

Румяна поле, румяна,
Поўны двор коней нагнана.
Марылька выйшла глядзеці,
Ды не пазнала,
Пайшла татульку сказала.
— Дзіця маё дарагое,

Учора з вячора яны ляцелі,
Сягоння рана палятуць,
Цябе, Марылька, павязуць.

## 1049

Невяліка поле і нямала,
Поўна конікаў нагнана.
Ніхто тых конікаў не пазнаў,
І пазнала конікаў Аўдулька.
Спусціла рукавок да долу,
Пагнала конікаў дадому.
— Дадому, косю, дадому,
Да не робце шкоды нікому.
Да робце шкоду аднаму,
Роднаму татухну маяму.

## 1050

Шырока ніванька таптана,
Поўна конічанькаў нагнана.
Ніхто нівачкі не пазнаў,
І ніхто конічкаў не сагнаў.
Нявехна ніваньку пазнала,
І яна ж конічкаў сагнала.
Вывела конічкаў да чарады
І вялела ждаці да серады.
Загнала конікі да броду
І вялела ждаці ў суботу.

## 1051

З поля ў поле вятры дзьмуць,
З сяла ў сяло госці йдуць.
Ніхто ж тых гасцей не пазнаў,
У сваю хатачку не пазваў.
Адна Зіначка пазнала,
У сваю хатачку пазвала.
За цісовы сталы пасадзіла,
Зялёным віном паіла,
Пірагамі карміла.

— Гэта ж госцейкі ўсё мае
І прыехалі да мяне,
Па маю касу русую,
Па румянае лічыка.

1052

Прыехала Зіначка ад вянца
І пала татульку на ножкі:
— Татулячка родненькі,
Прыехалі сваточкі здалёку
І просяць аброку.
Дай, татулька, аброку,
Бо гэтыя конікі здалёку.
А яны не п'юць, толькі ржуць,
Яны мяне, маладу, павязуць
Цераз горачку крутую,
Цераз рэчачку быструю,
У незнакомую хатку чужую.
Як па чужой хатцы хадзіць,
Як чужой мамцы ўгадзіць?
— Я ж цябе, дачушка, павучаю,
Як будзеш паліць у печы,
Качарэжнічкам не стукай.
Як зачыняй хатку, ціхонька.
Будзеш піць вадзіцу, не пралі,
А ты сваю свякроўку не гняві.

1053

Ай, з гары, з гары, з даліны
Бегла конікі чатыры,
Усе чатыры сівыя.
Везлі карэту сінюю,
А ў тэй карэце пісарка.
Ніхто таго пісарка не ўвазнаў
І па іменю не назваў.
Адна наша Галечка ўвазнала
І па іменю назвала:
— Гэта пісарок, што ў нас быў,
Ён маю мамку з толку збіў,
Ён майго татку — з розуму,
Ён мяне, маладую, абманіў,
У сінюю карэту пасадзіў.

1054

З гары, з гары, з даліны
Беглі конікі чатыры,
Вязлі карэту сінюю,
Бралі Грыпіну сілаю,
А ў тэй карэце пісары.
Між тых пісароў — Іванька.
Ніхто тых пісароў не ўвазнаў,
К сабе ў ізыбку не пазваў.
Адна Грыпіна ўзнала,
К сабе ў ізыбку пазвала:
— Гэта ж пісары жа мае,
Не паедуць яны без мяне,
Без русай касы, без маей,
Без румянага лічыння,
Без руцвянага вяночка,
Без шаўковага платочка,
Без залатога пярсцнёчка.

1055

Стаіць у садзе вішня,
З-пад яе вада выйшла.
Ніхто не даступіўся
Вішанек пашчыпаці.
Юлечка прыдумала,
Кладачку палажыла, 2
Вішанек пашчыпала, 2
Ванечку частавала.
Дае Ванечку вішні,
Бо ён пад яе мыслі,
Дае Ванечку дулькі,
Бо ён пад яе думкі.

1056

Да ў садочку вішня,
З-пад вішні вада вышла.
Няма як прыступіцца,
Той вадзіцы напіцца.
Манечка смысла была,
Кладачку падмасціла,

Вадзіцы засіліла,
Сваточкаў напаіла.
Сколькі на вішні вішань,
Столькі ў Манечкі мысляў.
Сколькі на дулі дулек,
Столькі ў Манечкі думак.
Сколькі ў вербачкі лозак,
Столькі ў Манечкі слёзак.

### 1057

У лузе каліна веткамі,
Не гуляць дзевачцы з дзеўкамі.
Я тую каліну паламаю,
Яшчэ з дзеўкамі пагуляю.
Я тую каліну ў платочак,
Пагуляю з дзеўкамі дзянёчак.

### 1058

Ой, у саду шаўлеенка расцвітае,
Хто тую шаўлеенку паламае,
То яшчэ лето з дзевачкамі пагуляе.
Адазвалася Галя:
— Я тую шаўлеенку паламаю,
То яшчэ лета з дзевачкамі пагуляю.
— Ужо табе шаўлеенкі не ламаць,
Ужо табе з дзевачкамі не гуляць.

### 1059

Ой, лугі, лугі, лугамі,
Сядзела каліна радамі.
Пад калінаю нявестка,
Яна з калінаю гаворыць:
— Я цябе, каліна, паламаю,
Яшчэ з дзеўкамі пагуляю.
Я цябе, каліна, растапчу,
Яшчэ й з дзеўкамі паскачу.
Як зачуў-пачуў жанішок.
— Не ламаць каліну, не ламаць,

Табе з дзеўкамі не гуляць.
Не таптаць каліны, не таптаць,
Табе з дзеўкамі не скакаць.

## 1060

Баравая ты зязюлечка,
Усё тваё да мінаецца:
Садавое кукаваннейка,
Баравое жыраваннейка.
У сад паляціш — накукуешся,
У бор прыляціш — нажыруешся.
Маладая ты дзевачка,
Усё тваё да мінаецца:
Матчына гадаваннейка,
Дзявочае красаваннейка,
Кавалерскае заляцаннейка.
Куды пойдзеш — нагуляешся,
Да сонца высыпаешся,
Да на матку спадзяваешся.

## 1061

Сівая да зязюлечка, 2
Усё ж тваё да мінаецца:
Высокае палятаннейка,
Ранняе кукаваннейка.
Хоць і будзеш лятаці, 2
Да не будзеш да кукаваць.
Маладая да ты Волечка, 2
Усё ж тваё да мінаецца:
Белае ўмываннейка,
Гладкае зачасаннейка.
Позняе пагуляннейка,
Харошае размаўляннейка,
Хоць будзеш гуляці, 2
Да не будзеш да размаўляці.

## 1062

Шэрая зязюленька,
Чаму ляціш, не кукуеш?
Ці ты таго не ведаеш,
Што ўсё тваё мінаецца:

Вясенняе кукаваннейка,
Летняе палятаннейка?
Маладая дзевачка,
Чаму сядзіш ды не плачаш?
Ці ты таго не ведаеш,
Што ўсё тваё мінаецца:
Дзявоцкае пагуляннейка,
Хлапцоўскае жартаваннейка?

### 1063

Ой, зазуля, зазуля,
Мінецца тваё ўсенька:
Да вясенняе кукаванне,
Да летняе палятанне.
Застае табе тое,
Што ў кусточку сядзеці,
Да цераз лісточкі глядзеці.
Да, красная дзеванька,
Мінецца тваё ўсенька:
Да матчына да гадаванне,
Дзявоцкае красаванне.
Настане тое табе,
Што за скамітам сядзець
Да цераз аконца глядзець.

### 1064

Ужо тваё, зязюлька, мінае,
Ужо тваё, рабая, мінае,
Ужо табе кукаванне мінае. 2
Ужо цябе, зязюльку, птушкі б'юць,
Ужо цябе, рабую, птушкі б'юць,
Ужо табе куваці не даюць. 2
Ужо тваё, дзеванька, мінае,
Ужо тваё, малада, мінае,
Ужо табе гуляння не мае. 2
Ужо за цябе, дзеванька, сваты п'юць,
Ужо за цябе, маладу, сваты п'юць,
Ужо табе гуляці не даюць. 2

## 1065

Маладая Марылька,
Усё тваё мінаецца:
Дзявочае пагуляннейка,
Хлапцоўскае прывітаннейка.
Дзе стрэнешся — вітаешся,
Адыходзіш — прашчаешся.
А цяпер, маладая,
Дзе стрэнешся — размінешся,
Слёзкамі абальешся,
Долі горкай наклянешся.

## 1066

Маладая Ганулька,
Усё тваё мінаецца.
Усё тваё мінаецца
Дзявоцка гулянніца.
Хоць ты будзеш
На вячоркі хадзіці,
Та й не будуць цябе
Хлопцы любіці.
Хоць будзеш убіраціся,
Не будуць углядаціся.

## 1067

Маладая Валечка
Усё тваё ды мінаецца:
Ранняе пагуляннейка,
Позненька ўставаннейка.
Гуляла ў мамкі да паўночы,
Спала з абеду да абеду,
У кубачках умывалася,
Ручнічком уціралася.
У свякроўкі-мамачкі
Раненька ўсхапляюся
Ды фартушком уціраюся.

1068

Хоць куй, зязюля, не куй,
Ужо тваё каванне мінае,
Рабое пер'е лiняе.
Хоць гуляй, дзеванька, не гуляй,
Ужо тваё гулянне мінаецца:
Русая косанька самнецца,
Пад белы чэпчычак збярэцца.
Ён па сметніку валяўся,
На галоўку забраўся.

1069

Ох, у полі да размай-грэчка,
Нам Насцечка не таварышка.
Ужо Насцечка не наша будзе,
Пра гуляннейка забудзе.
Ох, мінецца ей гуляннейка,
Штосуботы умываннейка.
Штосуботы умываннейка,
Штонядзелі сабіраннейка.
Куды ішла — не пыталася,
Калі прыйшла — не баялася,
Ні старога, ні малога,
Ні Іванку маладога.
А цяпер жа трэ' баяцiся,
Куды ісці, то пытацiся,
Як старога, так і малога
І Іванку маладога.

1070

Прыляцела цяцерачка, села-пала,
Села-пала, шчабятаці стала.
Прыехала Леначка ад вянца,
Села яна ды за столікам,
Села яна ды заплакала:
— Вось маё ўжо мінаецца,
Дзявоцкае пагуляннейка,
Мамачкіна гадаваннейка.

## 1071

— Мінецца да, Надзечка, гулянне тваё.
— Мінецца да, дзевачкі, сама бачу,
Не раз выйду за вароты да й заплачу.
Усе дзеўкі вуліцаю іці будуць,
У ручках да й вяночкі нясці будуць.
«Хадзем, хадзем да й Надзечка»,— клікаць будуць.

## 1072

Ой, дзяўчынка, падружанька наша,
Да мінецца роскаш наша.
Не пойдзеш у лес па арэшкі,
Да мінуцца нашы ўсмешкі.
Да не пойдзем у лес па ягодкі,
Да мінуцца нашы прыгодкі.

## 1073

— Ой, куды ж вы, шэры гусі, паляцеце,
Куды лецейкі дзявочы панясеце?
— Паляцім мы, шэры гусі, ў чыста поле,
Не вярнуць дзявочы лецейкі ніколі.
Паляцім мы, шэры гусі, цераз горы,
Занясем дзявочы лецейкі за мора.
Паляцім мы, шэры гусі, цераз рэкі,
Занясем дзявочы лецейкі навекі.

## 1074

— Ці не жаль табе, галубачка,
Галубіных кукаванней? 2
— А хоць жалка, хоць не жалка,
Да нада жа адвыкаці, 2
Ка сізаму, да ка голубу,
А ўсё нада прывыкаці. 2
— Ці не жаль табе, Рыпіначка,
Дзявоцкага красавання? 2
— А хоць жалка, хоць не жалка,
Дак нада адвыкаці.
К Архіпачку прывыкаці.

То так, то сяк ад дзевачак адвыкла,
К Архіпачку прывыкла.
Усе дзеўкі да вяночкі ўюць,
А свой развіваю, 2
Па стужачке, па цвяточку
Раскідаю па садочку. 2
За мной ідзець, да за мной ідзець
Мая малая сястрыца, 2
Па стужачке, па цвяточку
Сабіраець па садочку. 2
Сабіраець па садочку,
Савіваець вяночак. 2
— Насі, сястра, насі, сястра,
За мяне ж бога прасі. 2

**1075**

Цёмна, цёмна на дварэ,
Цямней жа за дваром,
Недзе дзевачцы пахадзіць,
Руцвянога вяночка данасіць.
А зачуў жа гэта суджанька:
— Не журыся, дзевачка,
Даносіць венчык сястрыца,
Даносіць персцянёк залвіца,
Цісовыя лавачкі мыючы.

# УЗВЯЛІЧВАННЕ І ГАНЬБАВАННЕ МАЛАДЫХ

### 1076

Наш Іванка на коніку,
Як таракан ў апалоніку.
Наша Аленка да на пасадзе,
Як жабка да на расадзе.

### 1077

А што ж у лузе і квокча, і квокча?
Малады свінню і смокча, і смокча,
А маладая памагае, памагае,
За хвост свінню пацягае, пацягае,
— А ты, сваце, не глядзі, не глядзі,
Лепей свінню за хвост пацягні, пацягні.
— Я не буду свінню за хвост цягаці, цягаці,
Лепей з дзеўкамі гуляці, гуляці.
— А ты, сванька, не глядзі, не глядзі,
Лепей за сталом пасядзі, пасядзі.
— Мне няма калі сядзеці, сядзеці,
Аж трэба за парадкам глядзеці, глядзеці.

### 1078

Наша маладая, як дуб скача,
А ў калысцы байструк плача.
Ой, ціха, байстручку,
Дам табе пірага ў ручку.
Што б цябе ваўкі з'елі,
То мяне б дзяцюкі ўзелі.

### 1079

Чаго, Васілёк, позна спаў,
Сваю галоўку не ўчасаў?
Наша дзевачка рана ўстала,
Сваю галоўку ў цвяты ўбрала.

## 1080

А на гародзе рэпінка,
Лепш за рэпінкі — націнка,
Лепш за малойца дзяўчынка.
А на гародзе агурэц,
Лепш за дзяўчынкі маладзец.

## 1081

Не па рэпіцы націна,
Не па малайцу дзяўчына.
Лучшы рэпіцы націна,
Лучшы малайца дзяўчына.

## 1082

Не да кветкі шапка, не да кветкі,
Не да дзеўкі жаніх, не да дзеўкі.
Шкода было кветачкі прышываць,
Шкода было Любачку аддаваць.

## 1083

Наша Марылька хараша, *
А ваш Пятруська парася,
Лезець на лаўку і крычыць,
Просіць Марыську падсабіць.
— Бярыся, Пятруська, бярыся,
Ды за лаўку рукамі,
А за сценку зубамі.

## 1084

А на гары ярыца, ярыца,
Наш Міша п'яніца, п'яніца,
А Ніначка вішанька, вішанька.
— Да пасунься блізенька, блізенька.
— Я не буду сунуцца, сунуцца,
Бо людзі скажуць любяцца, любяцца.

## 1085

Нямыцька, нямыцька, малады.
Наша княгіня, як маліна,
А жаніх, як пень чоран.
У карыце яго памыйце
І памялом абатрыце.

## 1086

Нямыцька, нямыцька жаніх,
Каля бору ехаў — запыліўся;
Каля рэчкі ехаў — не памыўся.
Памыйце яго кісялём,
Абатрыце яго кісяём,
Пасадзіце пад сталом,
Назавіце сабалём.

## 1087

— Ой, сватове-панове,
Цераз бор да вы ехалі.
Чаму хвашчу да не нарвалі,
Маладога не адшаравалі?
— Каб мы гэта ведалі,
Кадзь вады бы нанасілі,
На сем дзён да намачылі,
А на восьмы да адшаравалі —
Тады ў людзі паслалі.

## 1088

А вы, свацейкі, борам ехалі —
Чаму, свацейкі, чабору не рвалі
І свайго князя не шаравалі?
А ваш жа князь — як чорна гразь,
А наша княгіня — як журавіна.
Як журавіна, як ягодачка:
На галоўцы — венчык і намётачка,
Людзі скажуць, што гэта находачка.

### 1089

Свахначкі, да галубачкі,
Цераз бор да вы ехалі,
Чаму хвашчу не нарвалі,
Маладога да не ўшаравалі?
Наша малада, як ластаўка,
Ваш малады, як засланка.
Наша малада, як суравежка,
Ваш малады, як галавешка.
Наша малада — сыр белы,
Ваш малады, як пень гарэлы.
Наша малада, як уюн уецца,
Ваш малады не павернецца.
Наша малада, як перапёлка,
Ваш малады, як круцёлка.

### 1090

Наш малады — сыр наліты, *
Ваша маладая, як надутая.
Наш малады, як пірог,
Ваша маладая, як парог.
Наш малады, як ластаўка,
Ваша маладая, як засланка.

### 1091

Мы думалі, прыехалі, *
А ж яны пяшком прыйшлі,
Жаніха ў мяшку няслі,
А ногі тарчалі, сабакі брахалі,
Чуць жаніха не адабралі,
Сваты ўцякаючы, як ні абарваліся,
Чуць к нам жаніха прынясли,
Нашай маладусе на паказ.
Наша маладуха, як сыр наліты,
А ваш маладзенец, як мех надуты.
Паглядзі ў вяршок, вунь стаіць, як мяшок.
Вашаму маладому толькі даць пугу,
Няхай свіней гоне каля лугу,
Свінням хвасты закручываць,
А то ён лапцей не плёў,

Дык не ўмее куракоў закручываць,
Дык няхай павучыцца ў нашай маладусі
Лапці паплятаць.

### 1092

Наша Валечка —
Мілы дзяцёнак,
А ваш Колечка —
Рыжы цялёнак.

### 1093

Мы Івана абманілі,
Старай бабай нарадзілі.
Наша нявеста, як карціна,
А ваш жаніх, як карзіна.
Наша нявеста, як бел сыр,
А ваш жаніх, як пузыр.
Паглядзіце на любоў,
Ваша нявеста без зубоў.

### 1094

Наша маладая, як дзень мілы,
Ваш малады, як дзед сівы.
Наша маладая, як золата,
Ваш малады, як долата.

### 1095

Наша маладая, як вішанька, што ў садзе,
Ваш малады, што пень гарэлы, што ў лядзе.
Наша маладая, як суравежка за сталом,
Ваш малады, як пень гарэлы да за вакном.

### 1096

Аддалі, аддалі сваю сыравежку за гэту галавешку,
Аддалі, аддалі ягодку за гнілую калодку;
Аддалі, аддалі, як сыр белы, за гэты пень гарэлы.
Аддалі красавіцу за такую п'яніцу.

## 1097

Што за сватове, што за панове на дварэ?
І па-польску мовюць, Ніначку просяць да сябе.
— А не выйдзець, любыя сваты, не выйдзець,
Наша Ніначка, як бель бяленька ў цераме,
А ваш Коленька, як пень гарэлый на дварэ.
Наша Ніначка, як заранaчка на небе,
А ваш Коленька, як пасеянка ў хлебе.
Наша Ніначка, як белы сырэц наліты,
Ваш Коленька, як пыжачок надуты.

## 1098

А ў нашай рэчке платушкі, 2
Панаехалі к нам сватушкі. 2
А ў нашай рэчке ўсё платва, 2
Панаехала к нам галатва. 2
— Пасматрыце-ка, эй, пад паталок, 2
Вашага Івана, эй, чорт паваλок.
Вашага Івана чорт паваλок.
Пасматрыце-ка ў аконца, 2
Сядзіць наша Аннушка, як сонца. 2
Пасматрыце-ка ў гаршчок,
Сядзіць Ванечка, як смарчок. 2
Пасматрыце-ка ў горанку, 2
Сядзіць Аннушка, як зоранька. 2
Казалі, сваты багаты, 2
Ні чарта яны не багаты. 2

## 1099

Наша Манечка, як сыр з-пад масла.
Ваш Іванька, як чорт з-пад прасла.
Наша Манечка, як сыр палiваны,
Ваш Ванька, як чорт надуманы.

## 1100

Ляцела сарока шчыкача,
Палюбіла Адарка смаркача.
Палядзь-тка, Адарка, за вяршок,

Сядзіці Сяргейка, як смарчок.
Палядзі-тка, Адарка, за вакошка,
Сядзіць твой Сяргей, як кошка.
Наша дзевушка паненка,
А ваш жаніх, як ваўненка.
Наша дзеўка макаў цвет,
А ваш жаніх стары дзед.

1101

А не нада там свяціць,
Дзе Марылька сядзіць.
Сама сябе асвяціла,
На куце пасадзіла:
Яснымі галёнкамі,
Залатымі пярсцёнкамі,

1102

Гдзе княгінька сядзіць,
Тамо луны ходзюць,
Ад золата сцены шчэпюцца,
Ад серабра лаўкі ломяцца,
Ад бот яе мост гарыць.

1103

Дзе сядзіць Юзэпка, бацькава дзіця,
Не нада ні сонца, ні месяца:
Ад золата грудзі ломяцца ёй,
Ад серабра іскры сыплюцца,
Ад цехвяных чаравічак масты ломяцца.
— За тое, жоначкі, што я малада.

1104

Дзе Ганначка сядзела,
Там лаўка азалацела.
Дзе стаялі ножкі,
Азалацелі прыножкі.
Дзе ручкі ляжалі,
Там залатыя кубкі стаялі.

### 1105

Дзе маладая сядзела,
Там белая ружа цвіла.
Як маладая ўстала —
Белая ружа завяла.

### 1106

Ай, не ўзнаць Натачку у карагодзе, *
Толькі ўзнаць Натачку па пародзе,
Што яна татулькі багатага,
Што яна ў мамулькі разумная.
У карагодзе сядзіць скрамней за ўсіх,
У рабоце яна робіць шпарчэй за ўсіх.

### 1107

Мала цэркаўка, мала.
Хоць бы яна сама мала,
Званы яе высокія,
А галасочкі далёкія.
Мала, Марусенька, мала.
Хоць бы яна сама мала,
Яна ж роду вялікага,
Яна бацькі багатага.

### 1108

Сівыя галубочкі,
Дзе-нідзе вы ляталі,
Гэткай пушчы не бачылі,
Як у нашым лесе.
Тонкае, высокае, зялёнае, кудравае,
Мілыя мае два браточкі,
Дзе-нідзе вы ездзілі,
Гэткай панны не бачылі,
Як наша дзевачка.
Тонкае, высокае, белае, румянае,
Хораша прыбранае.

## 1109

А хула ж табе, божа,
Што нявеста прыгожа,
Як бель бялюсенька,
Сваццям раўнюсенька,
Як бель бялёвана,
З сваццямі раўнована.

## 1110

Да харошая дзевачка,
Знаць, яе малайцы любілі,
Мёдам-віном паілі,
І па рыначку вадзілі,
Ей мілага купілі.

## 1111

Красіва Манечка, красіва. *
— Ці не сонца цябе радзіла,
Ці не месяц цябе гадаваў,
Ці не ветры цябе калыхалі,
Ці не зоркі цябе забаўлялі?
— Радзіла мяне мамачка,
Гадаваў мяне татачка,
Калыхалі мяне братцы мае,
Забаўлялі мяне сёстры мае.

## 1112

— Ці ж цябе, дзевачка, сонейка ўрадзіла.
Сонейка ўрадзіла, месячык пасвяціў,
Месячык пасвяціў, зоры калыхалі?
— Урадзіла мяне маці ў новай святліцы,
У новай святліцы, на сырой зямліцы.
Калыхалі мяне ды мае сястрыцы.

## 1113

Хараша, прыгожа Магдуся.
Знаць, цябе мамка ў зялёным садзе расціла,
Знаць, цябе мамка вадзіцай памыла,

Знаць, цябе мамка сыціцай паіла,
Знаць, цябе мамка чырвонай рожай уцёрла.
Ад вадзіцы малада Магдуся бялеець,
Ад сыціцы малада Магдуся паўнееiць,
Ад рожачкі малада Магдуся чырванеець.

### 1114

Ой, гладка, гладка нашай Фенечкі галоўка.
Затое гладка, што ўсю ночаньку не спала.
Усю ноч не спала, буйну галоўку часала.
— Знаць, мяне мамка ў зялёным садзе радзіла,
Знаць, мяне калінкаю ўмыла,
Знаць, мяне хмялінінкай спавіла.
Ад калінінкі маё лічанька румяна,
Ад хмялінінкі мая галоўка кудрава.

### 1115

— Маладая Барбарка, за што ж харошанька,
За што ж ты прыгожанька?
— За тое я харошанька, за тое я прыгожанька,
Што мая родна мамачка па садочку хадзіла,
Пад яблынькай радзіла, пад вішанькай палажыла.

### 1116

Наша Манечка й рукадзельніца,
Шыла, вышыла тром узорамі:
Первай узор — дробны звёзды,
Первай узор, первай узор — дробныя звёздачкі,
Другі узор, другі узор — ясён месячык,
Трэці узор, трэці узор — ясна сонейка.
Расцілі ж да яе дробны звёздачкі,
Калыхаў жа яе ясён месяц,
Гадавала ж яе ясна сонейка.

### 1117

На моры лялее,
А за сталом бялее.
На моры лябёдачка,

А за сталом малодачка.
На моры бяленькая,
А за сталом маладзенькая.

### 1118

Бела млода, бела, бела,
За столічак села, села.
А дзе ж яна бялілася,
А дзе ж яна сушылася?
У садочку бялілася,
У каморцы сушылася,
А ў хаце адзявалася
І Васю спадабалася.

### 1119

Бела Ганначка, бела.
У сярмязе за стол села.
Дзе яна бялілася?
Ці на моры, на кладачцы,
Дзе лебедзі купаюцца?
Ці на моры на дошчаццы,
Дзе лебедзі палошчуцца?
З мора пену брала,
Сваё ліцо купала.

### 1120

Міленька дзевачка, міленька,
А на сінім моры мылася,
На камяні бяліла забыла.
А прасі, Манечка, братулку,
А няхай коніка запражэць,
З камяня бяліла прывязець.
Братулкаў конічак не ўзойдзець,
З камяня бяліла не ўзоймець.
Прасі, дзевачка, Колечку,
Яго конічак узойдзе,
З камяня бяліла ўзоймець.

## 1121

Як селі баяркі, як бялянкі —
Бялей нет, бялей нет Ганны.
Захадзя маманька паглядаець:
— Ганна мая, Ганначка, дзе бялілася?
— Маманька родная, на сінім моры.
Запрагай каня варанога,
Паедзем, маманька, на сіне мора —
Забыла бялілы-румянілы.
Паселі баяркі, як бялянкі —
Бялей нет, бялей нет Ганны.
Захадзя Янка паглядаець:
— Ганна мая, Ганначка, дзе бялілася?
— Паночык мой, Янка, на сінім моры.
Запрагай-ка, Янка, каня варанога,
Паедзем на сіне мора.
— Душа мая, Ганначка, конь кованы,
Узыйдзець на сіне мора
Во й сымець бялілы-румянілы.

## 1122

Ай, сядзяць баяркі, як бялянкі — *
Бялей нет, бялей нет нашай Валечкі.
Захадзя татанька папытваець:
— Дзіця маё, Валечка, ці бялілася?
— Татка мой родненькі, не бялілася,
Забыла бяліла на сінім моры.
Запрагі, татанька, каня варанога,
Прывязі бяліла-румяніла.
Таткін конь вараны някованы
Не ўзыйдзець на гару ледзяную,
Не ўзвязець бяліла-румяніла.
Захадзя Васенька папытваець:
— Душа мая, Валечка, ці бялілася?
— Дружок мой, Васечка, не бялілася,
Забыла бяліла-румяніла.
Запрагі, Васенька, каня варанога,
Прывязі бяліла-румяніла.
Васін конь вараны падкованы,
Ён узыйдзе на гару ледзяную,
Узвязець бяліла-румяніла.

1123

Што ў нядзелечку рана
Сіня мора йграла,
Сонца купавалася,
Лук'яначка ўмывалась,
Бяленечкам уціралася,
На камені палажыла,
На бялення забыла.
Каму ехаць па бяленнейка?
Дружкаў конь не кован,
Павазок не малёван,
Іванечкін конь перакован,
Вазок пamaлёван.
На камень ускоча,
Бяленне возьме.

1124

А наша Манечка прыгожа,
Сядзіць за сталом, як рожа,
І высока, як сасна,
І красна, як вясна,
І багата, як восень,
Прыяжджала сватоў пар восем.

1125

Гонар, гонар маладому,
Не ўзяў жонку каля дому.
Ад'ехаў за тры мілі,
Каб яго ўсе пахвалілі.

1126

Яблань-ябланіна,
Золата верхавіна,
Палюбіў наш жаніх
Харошага сем'яніна.

### 1127

Есць чым Іваньку хваліцца, *
Яму ўдалося жаніцца.
Узяў жоначку красотку,
Добранька рабіць работку.
Узяў жоначку стройную,
Маець натуру добрую.
А хоць жа мы яе не зналі,
Добрыя людзі сказалі.
Яе й натурка добрая,
Яе й работка спорная.

### 1128

— Ці табе, Ванечка, так бог даў,
Што ты Зіначку ўпадабаў,
Дзе ж ты яе відзеў ходзячы,
Што ж ты яе відзеў робячы?
— Я яе відзеў на рынку,
П'ючы з хлопцамі гарэлку.
Я яе відзеў і жнучы,
Я ёй снапочкі панасіў,
Я яе за жонку папрасіў.

### 1129

Ці не бог табе даў, Пецечка, *
Што твая Анечка прыгожа.
Сядзіць ля цябе, як роза.
Глядзіць на цябе прыгожа.
А высока яна, як сасна,
А красіва яна, як сонца,
А ціха яна, як лета,
А багата яна, як восень.

### 1130

— Ці не бог табе даў, Сярожа,
Што твая Раечка прыгожа.
Сядзіць у цябе, як цвет розаў.
— А не бог мне даў, я сам узяў.

Цёмну ночачку не даспаў,
Шаўровыя боцікі патаптаў,
Сівога коніка заганяў.
А не бог мне даў, я сам узяў.

1131

Прыляцеў салавей у паветачку,
Да набыў Віцечка сабе кветачку.
Прыляцеў салавей у каморачку,
Да набыў Віцечка сабе зорачку.
Прыляцеў салавей пад падушачку,
Да набыў Віцечка сабе душачку.

1132

Наш Валерачка смяецца, *
Што яго Валечка красіва.
Нямнога нада прыбораў:
Адна шубачка да долу,
І саянічак у сем пол,
І кашулечка у чатыры.

1133

Маладая Ганначка, маладая,
На ёй сукня дарагая, дарагая.
У яе кожнай кішэньцы
Ляжаць грошы чырвонцы.
Як пайшла яна танцаваць,
Сталі грошы бразгатаць.

1134

Анютачка, як душа,
Рубашачка хараша:
Каля вората золата,
Каля падолу серабро.

1135

Анютачка, як паня,
У шаўковым жупане.
Чаравік шчоўкаець,

Далікатненька ступаець,
Штобы черавічка не скрывіць,
Панчошачак не змачыць.

1136

Не агонь гарыць, а не полымя палае, *
Едзе Лёнечка на сівым кані, яшчэ й грае,
На сваю Олю правым очанькам маргае.
— Ой, а на каго, млода Олечка, ўдалася,
Па самы пояс у шчырае злота ўбралася,
У шчырае злота, у кіменькі, ў срэбны пас.
— Ой, бывай, бывай, млоды Лёнечка, ў час да нас.
— Ой, рад бы я, млода Олечка, бываці,
За каліною мне дарожанькі не знаці.
— Ой, на прошчкі, млоды Лёнечка, на прошчкі.
То сячы-рубай цвет каліну да крошкі.
Ой, нашто, нашто тая каліна саджона,
Бяры Олечку, бо яна табе суджона.

1137

Да харошанькі, да ўдаленькі Мішачка,
Да ўдалася маладая Ірачка ў яго.
Каб я ведаў, што яна ў мяне ўдасца,
Кінуў бы ёй два вяночкі з рутачкі.
А трэцяе прышпіленнейка залатое,
Чацверта да сумленнейка дарагое.

1138

І сядзіць Іванка да на стулейку, думае.
Узяў Марыйку за праву ручку, цалуе.
— І ў каго, каго мая Маруся ўдалася,
Што па пояс у срэбра, золата ўвілася?
І ой, віся, віся, мая Марыйка, да долу,
Да й паедземо к маей маманькі дадому.
— І ой, не едзь, не едзь, мая Марыйка, ад мяне,
Навару піва і насычу мёду для цябе.
— І пі сабе, мамка, саладок мядок, пі сама,
А я паеду к свайму Іванку, мне пара.

1139

Ραззеляніўся дубочак,
Ля белай бярозы стоячы,
На белу бярозу гледзячы.
— Па кім, мая бяроза, удалася,
А ўся ў веццейка звілася?
— Па табе, дубочак, па табе,
Па тваім веццейку доўгаму,
Па тваім лісцейку шырокаму.
Развесяліўся Пецечка, у цясцяткі за сталом седзячы,
На сваю Машачку гледзячы.
— Па кім, мая Манечка, удалася,
Уся ў золата ўвілася?
— Па табе, Пецечка, па табе,
Па тваім лічыку румяным,
Па тваім розуму умяным.

1140

Ραззеляніўся зелен дуб, *
На прыгор'ейку стоячы,
На белу бярозку гледзячы.
Хараша бяроза, хараша —
Па камель карою ўзялася,
Спусціла веткі да зямлі.
Развесяліўся Пецечка,
У цёшчы на куце седзячы,
На сваю Анечку гледзячы.
Удалася Анечка, удалася —
Уся золатам уплялася,
Спусціла касу к поясу,
Адзела саян да долу.
— Вядзі мяне, Пецечка, дадому.
Не вязі ж ты туды, адкуль браў,
А вязі туды, адкуль сам,
Каб мой вяночак там не звяў.
— Не бойсь, Анечка, не звянець.
Калі мой татанька заглянець,
На галоўкі вянок заззяець.
Калі мая мамачка паглядзіць,
На галоўкі вянок зацвіціць.

### 1141

Зеляніўся зялёны дуб,
У зялёных лугах стоячы, 2
На калінку гледзячы.
Красна, красна калінінка,
Ды нямнога не вызрала.
Хоць нямнога не вызрала,
Красны ягады вынесла.
Весяліўся Сашутушка,
Ды за столікам седзячы, 2
На Галютушку гледзячы.
Хароша Галютушка,
Ды нямнога не вырасла.
Хоць нямнога не вырасла,
Красатою вынесла.

### 1142

Па сітнічку, па ракітнічку,
Ухці мне.
Ходзіць Пятрок з ружэйцам
Да ў перапёлак страляець,
Да Аўдотачку ўзглядаець:
— У каго, у каго, Аўдотачка, удалася,
Ва золата ўвілася,
Ай, па пояс у чыстае серабро?
— У цябе, Пятрушка, удалася,
Па калена ў золата ўвілася,
Ай, па пояс у чыстае серабро.

### 1143

Там Юзічак на вутачак страляе, *
На Юзэфку быстрым вочкам міргае.
— Ды за мною, мая Манечка, за мною,
Ды мілая размовачка з табою.
Быў у Вільні ў горадзе і ў Маскве,
Ды не відзеў такой паненкі, як цябе.

### 1144

Ой, пад тым, пад сім конь харош,
Пад нашым малойчыкам лучшы ўсіх:
Галоўкай неба дастаець,

Вочкамі зорачак пералічыць,
Глазкам дзевачку пераклічыць.
— Па ком, мая дзевачка, ўдалася,
Па пояс золатам лілася,
Ай, па плечанькі серабром.
Зялёны атлас па пояс,
Залатыя рукавіцы па пальцы.
— Па табе, малойчык, па табе,
Па тваей родзіне вялікай.

### 1145

У гародзе пастарнак зіму зімаваў,
Ён сабе маркоўку аблюбаваў.
Удалася маркоўка, удалася,
Уся ў націнку ўзнялася.
Ванечка ў цешчы ноч начаваў,
Сабе Зосечку аблюбаваў.
Удалася Зосечка, удалася,
Уся ў золата ўвілася.

### 1146

Мы ж думалі, што ясён месяц узышоў, *
Аж Васечка ў хатачку ўвайшоў.
У яго боцікі казловыя на скрыпах,
Ён сам стаіць, як князёў сын — пры часах.

### 1147

У агародзе тры каліны і розы, *
Прыехаў да нас хлопчык харошы.
У агародзе тры каліны і мяты,
Прыехаў да нас хлопчык багаты.
У агародзе тры каліны і руты,
Прыехаў да нас хлопчык круты.

### 1148

Ой, пойдзем у зялёненькі садочак, *
Ці не ўзойдзем на Іванкаў слядочак.
Ой, глянем мы праз шкляначак праз дзесяць —

Сядзіць Ванька за столікам, як месяц.
Ой, глянем мы праз шкляное аконца —
Сядзіць Ванька за столікам, як сонца.

### 1149

А ўсе госці харошы,
А ўсе госці прыгожы,
Лучшы нету Іванькі:
У яго боцікі казловыя,
У яго панчошкі бялявыя,
У яго падвязкі шаўковыя.
Ён бот аб бот шчоўкаець,
К Марусіньке прыступаець,
Штоб боціка не скрывіць,
Штоб панчошак не змарацъ,
Штоб падвязак не пацярацъ.

### 1150

А хто ў нас харошанькі,
А хто ў нас прыгожанькі?
Ванечка харошанькі,
Ванечка прыгожанькі.
Яго шубка з бабрамі
І галоўка з кудзяркамі.
Яго ножка пры боце,
Яго конік пры злоце.

### 1151

А як на нашай, на вуліцы *
Белае ўдалое малайцо.
Нет бялей, як Лёнечка:
Пяшком на воўка не выходзіць,
Ён на коніку выязджаець,
Арла на мотары выводзіць,
Шэру зязюлю на шапачке.
Арла пашла курэй глядзець,
Шэру зязюлю кукаваць.

## 1152

У каго ў нас лічайка размалёвана,
У каго ў нас галоўка розумам насыпана?
У Якушкі ў яго лічайка размалёвана,
У яго галава розумам насыпана.

## 1153

Сядзіць жа Жэнечка, што князёва дзіця; *
На ім жа шубачка, да як жар гарыць,
На галоўцы шапачка, да як мак цвіце,
Пад ім жа конічак, да як птах ляціць.

## 1154

Наш Міколка маладзенькі, маладзенькі,
У яго вазок залаценькі, залаценькі.
Мы думалі пабяляны, пабяляны,
У яго вазок пазлацаны, пазлацаны.

## 1155

Ой, нету, нету краснейшага цвету,
Як той васілёчак.
Ой, нету, нету лепшага роду,
Як мілы дружочак:
На нём світа шоўкам шыта,
Пояс пазлацаны,
Кашуленька тонка, бяленька,
З паперам раўненька.

## 1156

На малайцу кашуля
Трыста талераў каштуе,
Не тут яна набірана,
Не тут яна вышывана.
Вышывала сястрыца,
Позна звечара седзячы,
На ясныя зоры гледзячы.

25. Зак. 847

1157

Ой, знаць, знаць Олечка, што князё дзіця. *
Ад золата, ад золата лаўкі ломяцца,
Ад серабра, ад серабра сенечкі шчэпяцца,
Ад шапачкі, ад шапачкі паталок ззяець,
А ён жа сам, а ён жа сам, як мак цвіцець.

1158

Наш пан млоды за сталом,
Як ясен месяц на небе.
Усім бяседу закрасіў
Сваім ліцом румяным,
Сваім словам каханым.

1159

Наш маладзенькі, як белы мак расцвітаець,
Сеўшы за столік, увесь кут украшаець
Сваім строем, сваім нізенькім паклонам.

1160

Дзе сядзіць Іванечка,
Там без соўненька цёпла
І без месяца відна:
Над галавой свечкі цеплюцца,
У рукавы зоры сыплюцца.

1161

— Ой, лебедзь, лебедзь беленькі,
Хто цябе бела пабяліў?
— Пабяліла лябёдачка,
На сінім моры седзячы, 2
На быстру ваду гледзячы.
— Ой, харош, харош, малойчык,
Хто цябе хараша прыбіраў?
Хто цябе ў людзі выпраўляў?
— Прыбірала мяне мамачка,

У новай каморы седзячы,    2
У залату скрыню гледзячы,
Дарагія сукні беручы,
На мяне, молайца, кладучы.

### 1162

— Маладзенькі Васілька,
Чаму харошанькі ўдаўся,
Што ўсім дзяўчатам спадабаўся.
Ці расіца цябе купала,
Ці сонейка спавівала,
Ці месяц калыхаў?
— Дзевачкі мае, сястрычкі.
Купала мяне мамачка,
Спавівала мяне мамачка.
А я харошанькі ўдаўся
І ўсім дзевачкам спадабаўся.

### 1163

Ой, харошы пан Лёша, харошы,
А на ножках бліскучы галёшы,
А на ручках замшовыя пальчаткі,
Каб любілі загорскія дзяўчаткі.
Як ён праз хатачку перайшоў,
А мы думалі, што ясны месяц узыйшоў.

### 1164

Зялёныя да дубкі ўюцца,
За жанішка ўсе дзевачкі б'юцца.
Не бейцеся, да паладзьцеся.
Да з богам, да з богам, дзіця,
З Тройцай да з Міколаю,
Шчасцем да із доляю.

### 1165

Казалі, Мішанька красівы. *
Хадзімце, дзевачкі, паглядзім,
Ці мы яму заганы не дадзім?

Первая загана — маленькі,
Другая загана — старэнькі,
Трэцяя загана — не дарос,
Да цёшчы штаноў не данёс.
Пацяраў штаны па дарозе,
Яму думалась — на парозе.
Пацяраў штаны за дваром,
Яму думалась — за сталом.

### 1166

Казалі, Мішачка прыехаў, *
Хадзіце, дзевачкі, паглядзім,
Ці мы яму заганы не дадзім?
Перва загана, што ён мал (ці стар),
Другая загана — п'яніца,
Трэцяя загана — табанюх.
Прапіў коніка на гарэлцы,
Пранюхаў платочак на табацы,
Прыехаў к Тамарцы на сабацы.

### 1167

Табанюх Колечка, табанюх, *
Пранюхаў каня на табаке,
Прыехаў к цёшчы на сабаке.
Цёшча зяцёлку не ўзнала,
Качаргой з двору прагнала.

### 1168

Пасадзілі маладога *
Не белага, а рудога,
Як казалі,
Так і ёсць:
Вочы, як у жабы,
З гарбуз нос,
Бруха, як начоўкі,
Чуць унёс.
Прынясіце барану,
Расчашыце галаву,

Прынясіце дзеркачы,
Абатрыце смаркачы,
Прынясіце брус мыла
Ды памыльце яму рыла.
Наш малады гукаець,
Як бык рыкаець.
Наш малады смяецца,
Як скварэц сквярэцца.

## 1169

Казалі, Мішачка, што харош —
Савіныя вочачкі, саламяны нос.
— А й дзе ж ты такі ў чорта рос:
Ці ў балоцечку, ці ў машку,
А ці ў таткавым дварочку?
— Не ў балоцечку, не ў машку,
А ўсё ў таткавым дварочку.

## 1170

Пойдзем ды паглядзім. 2
Ён задам стаіць, як паніч,
А спераці зайсці — свіны лыч.
Аўсянае лічыка, грэцкі нос,
Чорт яго ведае, дзе ён рос.
Ці на сметніку валяўся,
А нашай Галечцы спадабаўся.

## 1171

Казалі, Іванка харош, прыгож.
А ў яго харашба абычонная,
А ў яго павароты медвяжатыя,
А погляды ваўчыныя.
А ў яго галава, як у луня,
А ў яго глаза, як у савы,
А ў яго нос кляўцом,
Барада капытцом.
А ў яго рукі, як граблі,
А ў яго ногі, як качоргі.

1172

Казалі ў нас, што жаніх харош,
Ажно ён на чорта пахож:
Шыя колам, галава капылом,
Ліцо ў лупах, галава ў калдунах,
Нос у яго хоць аборы смуні,
Лапці ў яго чорт на месяцу плёў,
Ніці ў яго чорт ў артавінні мыў,
Боры ў яго чорт на месяцу віў.

1173

Гаварылі, Самуська наш харош,
А чорта ж у ём, што харош:
Аўсянае відзенне, ячменны нос.
З аўсянага відзення бліноў напячэш,
З ячменнага носіка круп надзярэш.
А на ём жупан хлоп'ем напхан,
А на ём світа лыкам шыта.

1174

Хвалілася млода Зосечка сама,
Што выбрала ўдалага сакала,
Аж выбрала з усяго лесу каршуна.
Выйдзі, Зосечка, у новыя сені глядзець,
А як будзіць каршун з саду ляцець.

1175

Маладая дзевачка,
Пасунься на лаве,
Паглядзі ў аконца —
Стаяць хлопцы, як сонца,
А твая няўдача
Сядзіць ды плача.
Што табе зрабілася,
Што ты ў яго ўлюбілася?
Што табе здавалася,
Што ты ў яго ўкахалася?

## 1176

— У што й, у што й, маладая Манечка, глядзела,
За такога нехарошага хацела?
— А, дзяўчаткі, я глядзела ў аконца,
Я думала, мой Ванечка, як сонца.
А, дзяўчаткі, я глядзела на грошы,
Я думала, мой Ванечка харошы.
А, дзяўчаткі, я глядзела ў шкляначку, ў ваду,
Я думала, харашэйшага над Ванечку не найду.

## 1177

А ў гародзе жоўта маркоўка сядзела,
Куды наша млода Ніначка глядзела,
Што за гэтага некрасівага хацела:
Спераду лупаты, ззаду гарбаты — не прыгож.
Боты, халявы ззаду дзіравы ў яго.
Шапка-сібірка, на версе дзірка ў яго.
Ногі на саломцы, рукі на даёнцы ў яго.

## 1178

А ў гародзе жоўта маркоўка сядзела, *
А куды ж ты, наша Танечка, глядзела,
За гэтага непрыгляднага захацела.
Не толькі з табой хлопцы гулялі,
За гэтакага непрыгляднага аддалі:
Зубы рэдкі, ногі крывы, доўгі нос.
Куды ж цябе, Танечка, бог занёс?

## 1179

А ў гародзе жоўта морквачка сядзела. *
— Дзе ты, дзеванька, свае очанькі падзела?
То ў чарачку, то ў шкляначку глядзела
Ды за такога нехарошага схацела.
— Ой, не то-та, мае дзеванькі, не то-та:
Сядзіць міленькі з правага боку, як злота,
Чуб кудравы, твар бялявы у яго —
Прытулілася маё сэрданька да яго.

## 1180

— Ой, на што ты, млода дзяўчына, глядзела,
Што за такога нехарошага схацела?
— Ой, то-бо-то, мае дзеванькі, то-бо-то,
Сядзіць малады і збоку, як злота.
А каля яго Гануля яго, як пышна баярынька.
— Ой, будзе, будзе той баяраньцы ад тое сіротанькі.
Вісяць камшукі ў чатыры пучкі на тую баяраньку.
Ой, будзе біці, павучаці, на сваю руку наварачаці, 2
На сваю руку наварачаці, пахоту выганяці.

## 1181

— Ці табе, дзевачка, сораму не было,
Што ў сваём сяле жаніхоў не было?
— А ў сваём сяле да ўсе бурлакі,
А ў чужым сяле адны казакі.

## 1182

Ён чоран, як воран
Дай товест, як бораў,
Да сам пень смалаваты,
Да ён бес вілаваты.

## 1183

Не плач, Анечка, не тужы, *
Не ў хлеб папала, ды ў каржы.
Не плач, Анечка, ні трошкі,
Не ў хлеб папала, ды ў крошкі.
Як табе, Анечка, не плакаць,
Што твой Толічак, як лапаць,
Ён па сметніку валяўся,
Ды табе ж, Анечка, падабаўся.
Ты купі ж, Анечка, гаршчочак
Ды накрой Толіку пляшочак.

## 1184

А ўелі дачку, ўелі,
Куды вашы вочачкі глядзелі?
Няхай жа старыя сляпыя,

Дык маладыя дурныя.
У маладога ногі на калодцы,
Губы на даёнцы,
Сам, як бык.
Рукі сухія, нос кручком,
На галаве лысіна пятачком.

1185

Ты глянь, Мар'ечка, пад лаўку,
Там твой Ванечка з казяўку.
Ты глянь, Мар'ечка, ў кадушку,
Вон твой Ванечка з лягушку.
Ты глянь, Мар'ечка, ў балонку,
Твой Ванечка з варонку.
Ты глянь, Мар'ечка, у вяршок,
Вон твой, Ваня, як свяршчок.
Ты глянь, Мар'ечка, у аконца,
Там твой Ванечка, як сонца.

1186

Што ты, Даротка, замуж хацела,
Што на Мікітку не паглядзела?
Ён жа такі нехарошы,
Ён жа такі непрыгожы.
У яго ж ногі крывыя, вочы рудыя.
Наша ж мыла панскае,
А ў яго ж морда цыганская.
Мы хунт мыла змылілі,
А яго твар не вымылі.
Прынясіце ж барану,
Расчашыце ж галаву.
Барану паламалі,
Галаву не расчасалі.

1187

Вішанне-грушанне садовае,
Туды-сюды пахінулася,
Цераз тын, цераз тын ды й на вуліцу.
За таго, за сяго абяцалася,
Любіла белага кудравага —
Засталася чорнаму, нязграбнаму.

1188

Маладая Марыська
Па кірмашах хадзіла,
Выбірала харошага,
Не выбрала харошага,
А выбрала даўганосага.

1189

Ой, чыкель, чыкель, пакрый дарожкі,
У нашага Сяргейка крывыя ножкі.
Дайце кульбачку падпірацісь,
Да нашай Галечкі дабірацісь. 2

1190

Хто вам, баяры, прыказаў,
Гэтага чарцёнка жаніць?
А яго ногі кароткі,
Падбейце яму калодкі,
Падбейце калодкі,
Умыйце яго кісялём,
Утрыце яго памялом,
Штоб яго Мар'юшка не пазнала,
Чортам-дзьявалам назвала.

1191

Што на нашым маладым, маладым, *
Зборная адзежа:
Шуба цялячча, шапка сабачча,
Шубачка рыкае, шапачка брахае.
Ай, на ём боты закрыгаталі,
Ад яго людзі ўсе пауцікалі.
Адна яго дзевачка не спужалася
Да бліжы к яму прыбліжалася.

1192

Шкода цябе, Настулька, што ты хараша,
Спалюбіла Грышутку галыша:
На чужым коніку гарцуець,

У чужых боціках танцуець,
У чужой шапанькі паклоны б'ець,
Чужой хустанькай слёзы трэць.
А прыехаўшы дамоў — шусь далоў:
Вынімай ласкуцця з-пад кущя.
Вынімай лахмоцця з-пад поддзя.

### 1193

Чаго ты, Ганначка, паквапіла за яго?
У яго боцікі пазычоныя, не яго —
Ды ён пазычаў у таварыша ў свайго,
Што ў Валожыне гліну месіць, то ў таго.
Чаго ты, Ганначка, паквапіла за яго?
У яго шапачка пазычоная, не яго —
Ён пазычаў у таварыша ў свайго,
Што ў Валожыне козы пасе, то ў таго.
Чаго ты, Ганначка, паквапіла за яго?
У яго бурносік пазычоны, не яго —
Ён пазычыў у таварыша у свайго,
Што ў Валожыне бочкі возіць, то ў таго!

### 1194

Што табе, мая дзеванька, за дзіва, за дзіва,
Што ты сабе непрыгожага спалюбіла, спалюбіла?
Ён на нос даўганос, а на відзенне непрыгож,
А на ім адзін каптан, і той хлоп'ем паткан, і то не яго —
Пазычыў у суседа свайго,
А што жывець блізюсенька для яго.[1]
Боты новы — пяты голы, і то не яго.
Шапка сібірка, ў патыліцы дзірка, і то не яго.
Пояс каваны, ўвесь пасшываны, і той не яго.

### 1195

А ў гародзе рута-лялея сядзела, *
А на каго ж ты, малада Ніначка, глядзела?
А ў яго новая хата не яго,
А чаго ж ты паквапілася за яго?
А ў гародзе рута-лялея сядзела,
А на каго ж ты, маладая Ніначка, глядзела?

---

[1] Пяты і шосты радкі паўтараюцца пасля кожнага наступнага.

А ў яго новая шуба не яго,
А чаго ж ты паквапілася за яго?
А ў гародзе рута-лялея сядзела,
А на каго ж ты, маладая Ніначка, глядзела?
А ў яго ж новы касцюм не яго,
А чаго ж ты паквапілася за яго?
А ў гародзе рута-лялея сядзела,
А на каго ж ты, маладая Ніначка, глядзела?
А ў яго ж новы боты не яго,
А чаго ж ты паквапілася за яго?
А ў гародзе рута-лялея сядзела,
А на каго ж ты, маладая Ніначка, глядзела?
А ў яго ж новая шапка не яго,
А чаго ж ты паквапілася за яго?

### 1196

— На каго ты, Пёклачка, паўпавала,
Што ты сабе проціў свата спадабала,
Ці на яго коні вараныя,
Ці на яго жупаны зялёныя?
Што конікі вараныя прададуцца,
Жупаны зялёныя падзяруцца,
Маладыя твае леты праміннуцца.
Зялёныя жупаны — то не яго,
Коні вараныя — то брата яго.
— Мінаюцца раскошачкі, даўно бачу,
Не раз, не два па раскошах заплачу.

### 1197

Ай, вумная-разумная Настулька,
Чым жа ж табе Ляксеенька спадабаў?
Ці па розуму, ці па абычаю па яго,
Ці па коніку, па вараненькім па яго?
У яго ж конік вараненькі — не яго.
Пазычаны, папрошаны ў суседа.
— А суседзенька, а лябедзенька, дай каня,
Калі бог судзіць, у нас будзіць.
А ў нас будзіць — аддадзём.

### 1198

— Ой, што ты сабе, малада Галечка, зрабіла,
Ой, што ты сабе некрасівага палюбіла?
— Глядзела, мае дзевачкі, ў аконца,
А мне здаўся мой Сяргейка, як сонца.
На ём шапачка пазычаная — не яго,
А я, малада, дый паквапілася за яго.
Што б я знала, да я ведала, што ён мой,
Аддала б яму кажух новы свой,
Кажух новы, каўнер бабровы,
Сяргейка — чарнабровы.

### 1199

Ой, куды ж ты, дзевачка, глядзела, *
Што ж ты сабе некрасівага злюбіла?
А ён вусаты, а ён грыбаты, непрыгож:
Яго вусы на тры пакосы, не ўрэжаш,
Яго соплі на тры кархі, не ўватрэш,
Яго світа лыкамі шыта, і то не яго,
Яго боты чортавай работы, і то не яго —
Пахаджаны, папрашаны па людзях.

### 1200

Наш Бронечка — прастата,
Купіў каня без хваста.
Паехаў жаніцца,
Прычапіў карытца.
А карытца шлапочыць —
Увесь народ хахочыць.

### 1201

Наш малады
Пагнаў куры да вады,
Куры вады не пілі,
Маладога ўтапілі.

## 1202

Гонар, гонар маладому,
Пасе качкі каля дому,
Поіць, гоніць іх да рэчкі,
Прылычаўшы на вуздэчкі.
А катора падыхае,
Тую ззаду падпіхае,
А катора нежывая,
На вячэру спажывае.

## 1203

А нашаму да маладому
Пасціць куры да каля дому,
Да каля дому.
Пасціць куры да каля дому
З вялікаю да ламакаю,
Да ламакаю.
З вялікаю да ламакаю,
З чорнаю да сабакаю.

## 1204

Хоць маленька, адважненька Манечка,
Адважылася за нашага Колечку.
А ў Колечкі нягодныя наравы:
Парвець, паламае шаўковыя каўняры,
Пакуль выгане дзявочыя наравы.

## 1205

— Ой, у полі, полі дубовая лазня,
Шкода цябе, дзеванька, за гэтага блазна.
— Я ў гэту лазню хадзіць не буду,
Я гэтага блазна любіць не буду.
— Не хадзіўшы ў лазню, нельга пагрэцца.
Не любіўшы блазнаў, то недзе падзецца.

1206

— На каго ж ты, красна Валечка, глядзела,
Што за такога нехарошага хацела?
— Мае дзевачкі, мае сястрыцы, бог судзіў.
Ішла да шлюбу, і ніхто яго не згардзіў,
А як выйшла я, маладзенька, ад шлюбу,
Сталі яго красны дзявочкі гардзіць,
Стала да маё горай сэрданька нудзіць,
Да стала да мая галованька балець,
Што недзе будзе маладога блазна падзець.
Да пайду я ў нядзелю рана да таргу,
Набяру сабе сукенку да долу,
Да буду хадзіці я ў той сукенцы, як пава,
Да буду вадзіці маладога блазна, як пана.

1207

— Ды куды, куды, малада дзевачка, глядзела,
За такога нехарошага хацела:
Зубы рэдкія, губы тоўстыя, доўгі нос,
Ды табе здаўся, малада дзевачка, што харош.
— Дзевачкі мае, сястрыцы мае; бог судзіў.
Як да шлюбу ішлі — дык ніхто тады не зганіў.
На шлюбе сталі — белыя ручкі звязалі,
Як ад шлюбу ішлі — малыя дзеткі сказалі, 2
Майго малойца нехарошынькім назвалі.

1208

А я у свае мамкі на адыходзе,
Насаджу я арэхау ў агародзе.
Ой, расці, расці арэх вышай плоту,
Аддаў мяне татка за блазноту.
Да ўсе людзі п'юць, гуляюць,
А мае блазноты не прымаюць.
Ды ўсе людзі весяляцца,
Да з мае блазноты смяюцца.
Да ўсе людзі п'юць, гуляюць,
А мае блазноты не прымаюць.
А з мае блазноты будуць людзі,
А тым людзям скулы ў грудзі.

## 1209

Сеяла чорны рэшкі ў агародзе.
Ды расціце, чорны рэшкі, вышэй плоту,
Аддаець мяне мамка за блазноту.
Ой, вазьму я блазноту за ручаньку,
Да павяду блазноту ў карчоманьку,
Да пасаджу блазноту на покуце.
Да дзівіцеся блазноце, хоць на людзі.

## 1210

— Да куды ты, Марынка, глядзела,
Што ты сабе ратазея палюбіла?
— Ратазей, мая мамка, ратазей:
Савіныя вочачкі, цаплін нос,
Калі б яму шчэ і другі,
Павязлі б Марынку з церама.

## 1211

Каб табе, дзевачка,
Сава вочы драла,
Якога ты сабе
Прымаку брала.
Ён жа не ўмее
Ні касіць, араці, 2
А ні сеяць. 2
Толькі ў карчомцы
Кватэры мерацы.

## 1212

Трэба было, Волечка,
Да ў людзей пытаць,
Ці ўмее Колечка
Касіць і араць.
Не бачылі людзі
Косячы, аручы,
Да бачылі людзі
У карчомку ідучы.

Гарэлачка п'ецца,
Як у лейку ліецца.
Баразёнка арэцца,
Да крыва кладзецца.

### 1213

Што будзеш, Манечка,
Замужам рабіці?
Да твой Пецечка
Не ўмее касіці.
Не ўмее касіці,
Ні араць, ні пахаць,
Будзеш на печы
Без хлеба сядзеці.
Пусці, Манечка, галасочак цераз лясочак,
Прасі ў мамачкі хлеба кусочак.
На стале ложкі,
Хлеба ні крошкі,
Няма чаго вячэраці.

### 1214

Ці ты, зязюля, ў цёмным лесе не жыла,
Што не выбрала ты дзераўца па сабе,
Толькі выбрала горкую асіну сабе?
Ці ты, дзяўчыначка, у чужых людзях не жыла,
Што не выбрала ты малойчыка па сабе,
Толькі выбрала горкую п'яніцу сабе?
Ён жа не ўмее ні араць, ні касіць,
Толькі ўмеець маладу жану пабіць.
Маладу жану пабіць, усю сямейку разарыць.

### 1215

Ты, кукушачка, у цёмным лесе не была,
Ты не кушала салодкага дзераўца,
Толькі кушала горкую асінушку:
На сінушцы няма ягад, ні цвета. 2
А ты, Надзечка, между людзьмі не была,
Ты не выбрала харошага маладца.

Толькі выбрала п'янічэньку, гультая, 2
А п'янічэнька, ён не сее, не арэ, 2
Толькі ходзіць ён да карчомкі, водку п'е,
А як пройдзе дадоманьку, жонку б'е.

### 1216

Не глядзі, Танечка, што красіў,
Папытайся ў яго, ці касіў.
Не глядзі, Танечка, што харош,
Папытайся ў яго, ці клаў воз.

### 1217

Ці я ў цябе, мая маці, не дзяцінка была,
Што ты мяне за ліцвіна аддала.
А ліцвін, уражы сын, не хоча рабіць,
Толькі ходзіць у шынок гарэлачку піць.
Гарэлачка-вішнёвачка, люблю цябе піць.
Гора маё зарабіць, цябе заплаціць.

### 1218

Маладая Ганначка,
Ты ідзеш ды не ведаеш,
Што табе за жыццё будзе, 2
Які ў цябе мужык будзе.
Ён рабіць ды лянуецца,
Між людзей не шануецца.
Яго людзі даўно знаюць,
Гультаём называюць.
Як прыйдзе ён дадомачку —
Натрэ табе галовачку.

### 1219

Да куды іду, да не ведаю,
Да што мне да за быт будзе,
Да які мне да мужык будзе,
Да ці лотра, ці п'яніца,

Ці вялікая нядбайліца?
Ідзе ў карчму — упіваецца,
Ідзе з карчмы — п'ян валіцца.
Сядзе есці да не мыўшыся,
Ляжа спаці да пабіўшыся.
Ні мне каню аброк даці,
Ні мне яго з карчмы ждаці.

### 1220

Маладзенька дзевачка,
Ты сядзіш абедаеш, 2
Нічога не ведаеш,
Што твой малойчык п'яніца,
Вялікая няўдаліца. 2
Дзе едзе, не даедзе. 2
У цэркаўцы не бывае, 2
Карчомкі не мінае.
Дзе карчомку пачуе,
Там тры ночы начуе.
Дзе другую пачуе,
Там чатыры начуе.
Звечара мёд-віно п'е,
З паўночы шкляначку б'е, 2
Белым светам заплоціць.
Ты, малодушка, праплачыш, 2
На вулачку выбягаючы,
П'яніцу сустракаючы. 2
Божа мой, з такой п'яніцай,
Або ён мяне прап'е,
Або ён мяне заб'е.
Або ў карты прайграе,
Або з кім прамяняе.

### 1221

Маладая дзевачка,
Ты сядзіш вячэраеш,
Аб долі не ведаеш,
Што малойчык п'яніца,
Горкая нядбайніца. 2
Дзе паедзе — забавіцца,

У цэркве не бывае,
Карчомкі не мінае.
У карчомцы гарэлку п'е,
Гарэлку пап'е, шклянкі паб'е, 2
Прыйдзе дамоў — цябе паб'е.
Ты, маладая, заплачаш
І за шклянкі паплаціш.
Ты будзеш уцякаці
Праз кутыя аконцы
Ды па цёмнай ночачцы,
Па халоднай расіцы 2
Ды да роднай сястрыцы.
Па зялёных садочках
Ды да родных браточкаў.

### 1222

Маладая дзевачка, ты сядзіш, абедаеш,
Ні аб чым не ведаеш,
Што твой мілы п'яніца,
П'яніца, нядбайліца.
Дзе пойдзе — забавіцца,
У царкве не бывае,
Карчомкі не мінае.
Пойдзе ў карчму — чарку п'е,
Прыйдзе дамоў — жонку б'е.
Ты, дзевачка, розум май,
Як будзе біць — уцякай.
Праз кутнае аконца,
Не кажы яму ні слоўца.
Як будзе цябе даганяць,
Тады, дзевачка, моцна плач.
Ён на цябе паглядзіць,
Не будзе болей біць.

### 1223

І прыляцелі два галубочкі,
І селі-ўпалі пад аконечка,
І апавясцілі яны Ганначку,
І апавясцілі яны Ганначку,
Да што Іванька п'яніца.

І што Іванька п'яніца,
П'яніца да й нядбайліца.
І да і што ні дзень у карчомцы п'е,
Што ні дзень у карты гуляе,
А ён дома ж да не бывае,
Свайго дзела не ведае.
— І мілыя два галубочкі,
Цяпер вы мне ж не кажыце,
Цяпер вы мне ж не кажыце,
Сэрца майго не крамяніце,
І сэрца майго не крамяніце,
Бацька майго ж не ўгнявіце,
Бо як бацька й угневіце,
То й мяне не возьміце.

## 1224

У што, у што наша Валечка глядзела,
Чаго, чаго наша Валечка сядзела?
Не гэткія малойцы бывалі,
Каб мы за гэткага п'яніцу й аддалі.
Не гэткія Валечку любілі,
Каб мы за гэткага п'яніцу згубілі.
Адкуль едзе, адкуль ідзе — усё п'е,
Усе чарачкі, бутылачкі ён паб'е.
Ты, малада, усё гэта заплаціш,
А пад старасць слёзкамі адплачаш.

## 1225

Ой, прапала мая доля, прапала,
За п'яніцу-нядбайліцу папала.
А п'яніца-нядбайліца водку п'е,
А як прыйдзе дадому — жонку б'е.
Ой, прыехаў мой татачка са Львова,
Пытаецца, ці п'яніца ўдома.
— Ціха, тата, ціха, тата, не стучы,
Спіць п'яніца ў каморы, не збудзі.
— Ой, дочанька, ой, дочанька, наравi,
Як увідзіш з карчмы ідучы, пасцель сцялі.
Мая родная дочанька, прывітай,
Праз акенца да суседа ўцякай.
— Ой, татачка даражэнькі, чорт яго ўцячэ,
Ён за касу за русу валачэ.

1226

Ой, у агародзе да рута-мята расцвіла,
Маці дачку да за п'яніцу аддала.
Ой, п'яніца да няўдаліца ў карчме п'ець,
Як прыйдзе дадоманьку, мяне б'ець.
Як ударыць па сэрданьку да па беламу ліцу,
Пацячэць жа кроў гарачая па тоненькаму рукаўцу.
— Не бі, не бі, мой міленькі, як ты п'ян,
Як праспішся й працвярэзішся, будзе табе жаль.

1227

На гарэ жыта, не ярыца, *
Казалі, мой муж не п'яніца.
Ён у карчомкі не быў,
Каня прапіў,
Прыйшоўшы дамоў, мяне пабіў.
— Вазьмі, жонка, намётачку,
Выкупі каня з абротачкай.
Калі выкупіш — дамоў вязі,
А не выкупіш — сама не йдзі.

1228

А што, мамачка, зрабіла,
А што, родная, зрабіла,
Нашто мяне маладую
За п'яніцу аддала.
Прапіў жа ён хатачку
І на полі ўсе снапкі,
Прапіў мяне маладую,
З правай ручанькі кальцо.
— Вярнісь, дочка, ты дамоў,
Вярні свае гады маладыя
І скрыначкі рабыя.
— Ой, мамачка, не магу,
Ой, родная, не магу,
Ужо звязаныя белыя ручкі
І зменены кольцы.

## 1229

А наш малады, як барсук руды, без вусоў.
Стаіць ля ступы, раздуўшы лупы, малады.
Ідзець з істопкі, цягнець атопкі, малады.
Сядзіць у запечку, абняў авечку, малады.

## 1230

Не дарос, не дарос Ванечка,
З прасла на каня садзіўся,
На прасле штаны забыўся.
Не жалка штаноў пяньковых,
Жалка матузоў шаўковых.
Штаны пяньковы маміны,
А матузы шаўковы Аніны.

## 1231

Не дарос Мішачка, не дарос, *
З зяроду на каня садзіўся,
А з коніка далоў зваліўся,
Да выйшла дзевачка, бядуе:
— Да бедная ж мая галава,
Цяпер я не дзеўка, не ўдава.

## 1232

Кукавала зязюля, што лес гол,
А плакала Аксютачка, што жаніх мал.
— А й дзе ж мне яго падзець,
Ці ў люлечкі калыхаць,
Ці ў пялёнкі спавіваць?
Пачопкі плохі — парвуцца,
А пялёнкі тонкі — падзяруцца,
Ён, мой маленькі, заб'ецца.
Пайду я, малада, па ваду,
І яго за ручку павяду.
Іду я, малада, з вадою,
Ён, мой маленькі, за мною!

1233

Кукавала зязюля аж лес вяў,
Плакала Марыська, што жаніх мал.
— Што мне, мамачка, рабіці,
Ці мне яго ў пялёначкі спавіці,
Ці мне яму нянечку наняці?
Ды спавіўшы ў пялёнкі — падзярэ,
А наняўшы нянечку — ён паб'е.
Ды пайду я, малада, жыта жаць
Ды палажу на снапку — будзе спаць.

1234

Сядзела Ніначка дваццаць лет,
Высядзела Колечку з-пад загнет. *
— А й дзе ж мне яго падзеці,
Ці ў пялюшачкі звярцеці?
У пялюшачкі звярцеці — смяецца,
А ў люльку класці — парвецца.
Няньку наняці — біць будзе.
А мне, маладой, жаль будзе.
Я сама пайду па ваду,
За ручку Колечку павяду.
А сама пайду на мякіну,
Я свайго Колечкі не кіну.

1235

Ой, бор-барочак гарненькі,
Едзе дзяцінка п'яненькі.
Здалёка коніка ўзнімае.
Здзеўшы шапачку, слухае,
Ці не ў бару зязюлька кукае,
Кукала зязюлька — бор не ўдаўсь,
Плакала дзевачка — што жаніх мал.
— Ні ў люлькі яго калыхаць,
Ні ў пялёначцы спавіваць?
А ў люльку ўкладзі — парвецца,
А ў пялёнку ўкладзі — смяецца.

1236

Плакала Дунечка да тры вечары:
Ай, первы вечар па касе,
А другі вечар па красе,
А трэці вечар, што жаніх мал.
— Ні ў люльκі яго калыхаць,
Ні ў пялёначкі спавіваць.
У люльке калыхаць — адарвецца,
У пялёнкі спавіваць — смяецца,
А з краю палажыць — зваліцца,
К сцяне палажыць — пераверніцца.

1237

А я, маладзенька, заручона
А за таго недароста аддадзёна.
А і дзе ж бы мне нідароста падзець?
Павяду я недароста ў чыста поле,
Прывяжу я недароста ка бярозе,
Палажу я недаросту сена вязку,
А пастаўлю недаросту вады ражку.
Не глядзела недароста сем нядзелек,
А на восьмай нядзелі паглядзела:
Сена вязка ляжыць уся цалёханька,
Вады ражка стаіць уся паўнёханька.
Пагляджу я на бярозу — ні лісцінкі,
Пагляджу я, ў недаросты ні душынкі.
Абвівалася бяроза ўся карою,
Ах і я маладзёшынька слязою.

1238

Ужо ў цябе, Каролька, вус і барада,
Чаму ж ты не жаніўся змалада?
А цяпер табе старому
Пасвіць куры ля дому.
Адна курачка кудрава
Ды на елачку ўдрала.
Ціп-ціп-ціп, курачка, з елкі далоў,
Едзьце ж, сваткі, к чорту дамоў.

1239

— Наш дзяцінка вус, барада,
Чаму не жаніўся замалада?
— Да мышы грошы завалаклі,
Да за мяне дзеўкі не пайшлі.
У мяне дабра багата:
Цэўка мукі набіта,
Торба грошай зашыта.

1240

Да сядзела дзевачка за сталом,
Да сыпала слёзанькі ручаём,
На яе матачка паглядае,
Як боб слёзанькі раняе:
— Да як табе, дзевачка, не плакаць,
Да твой дзяцінка, як лапаць.
Да як табе, дзевачка, сорама нет,
Да твайму дзяцінку сорак лет,
А ты сама сямілетка,
Сядзіш пры боку, як кветка.

1241

Ляцела зязюля цераз сад куючы,
Заплакала дзеўка за старога ідучы.
— Да ўмры, стары, умры, за маладога пайду,
Можа я сабе лепшае жыццё знайду.
Умёр стары, умёр, за маладога пайшла,
Я ж сабе горшае жыццё знайшла.
Па садочку хадзіла ды старога будзіла:
— Устань, стары, устань, ды паглядзі маіх ран,
Што панарабляў малады пан.
— Хай нарабляе, што ён розум мае,
Старога збывала, а маладога жадала.

1242

Не трапячыся, асіна,
Да ў сушы ў лузе стоячы.
Як мне, маладзежы, жывучы,

Да старому пасцель сцелючы?
Стары на уліцу не пойдзе
І мяне не пусціць.
Не стой, вярба, ў канцы сяла,
А стой, вярба, сярод сяла,
Дзе старыя суды судзяць,
А маладыя рассуджаюць:
— Не йдзі, дзевачка, за старога,
А ідзі, дзевачка, за маладога.
Малады цябе гуляць пусціць
І сам пойдзець.

### 1243

Да ты, ластаўка вілаватая,
Не кладзі гнязда пры старых сенях,
Да кладзі гняздо пры новых сенях.
Бо старыя сені развалюцца,
Твае дзеткі павалюцца.
Новыя сені пабудуюцца,
Твае дзеткі пагадуюцца.
Да ты, дзевунька маладзенькая,
Не ідзі замуж за старэнькага.
Бо стары цябе паціраць будзе,
К сваёй старасці раўнаваць будзе.

### 1244

Пайду я, малада, па ваду,
Пушчу вядзерца па ляду.
— Станьце, вядзерцы, камянем,
А я, малада дзеўка, яварам.
Да ехалі купцы вільняўцы,
Да часалі дубкі тонкі,
Да рабілі гуслі звонкі.
— Іграйце, гуслі, жалосна,
Як я плакала, маладзенька,
За старога ідучы
І старому пасцель сцелючы.
Пайду я, маладзенька, па ваду,
Пушчу вядзерцы па ляду.
— Станьце, вядзерца, камянем,

А я, маладзенька, яварам.
Да ехалі купцы вільняўцы,
Да часалі дубкі тонкі,
Да рабілі гуслі звонкі.
— Іграйце, гуслі, радасна,
Як я, мала, скакала
За маладога ідучы
І маладому пасцель сцелючы.

### 1245

— За што цябе, Манечка, бог пакараў?
Любілі харошыя — брыдкі ўзяў.
Да любілі хлопцы з кветкамі,
Да ўзяў ўдавец із дзеткамі.
Што ты, малада Манечка, глядзела?
За гэтага нехарошага хацела.
— Ой, глядзела я ў мутную вадзіцу,
Паквапіла за гэтага латру-п'яніцу.

### 1246

За што цябе, млода Вэрцечка, бог скараў?
Любілі маладзенькія, а стары ўзяў.
Ен на печы на лучыне бадзяўся,
А табе, маладзенькай, дастаўся.
А наш Петрусёк, як у садзе ягадка,
А ваша Вэрцечка, як калёсная калодка.

### 1247

Да ці я табе, мая мамка, дадзела,
Што аддаеш мяне, млоду, за дзеда.
Да ці я табе тонкай кашулькі не мыла,
Да ці я табе белай пасцелькі не слала.
Ой, мыла, мыла тонку кашульку бяленька,
Ой, слала, слала белу пасцельку мякkенька.
Ой, мая мамка, нашто аддала за дзеда,
Да за дзедушку,
Да за старога за няўдалага ўдаўца.
Да ў удаўца трое нараўца ды дзеці,
Яго дзеці не пусцяць мяне да клеці,
Да будуць казаць: — Каб ты не жыла на свеце.

## 1248

Яхім дзевушак запрасіў,
Рэшата яец пасуліў:
— Не кажыце, дзевушкі, што я ўдавец,
Скажыце, дзевушкі, што маладзец.
Дзеўкі яечкі пажралі,
Яхіма ўдаўцом назвалі.

## 1249

Да па чом пазнаць удаўца?
Уз'ехаў на двор без вянца,
Не ўспеў на двор уз'ехаць,
Дае дзевачкам чырванец,
Каб не казалі, што ўдавец.
А у ўдаўца тры, чатыры наравы,
Не хваціць маей, мамачка, галавы.

## 1250

Па чым пазнаць удаўца?
Прыехаў да дзеўкі без вянка.
Ні ён шапачкі не знімаў,
Ні галоўкі не скланяў.
Ды няма ў яго кветачкі,
Ёсць у яго дробныя дзетачкі.
Яны кветачкі абарвуць,
Яго дробны слёзкі абальюць.

## 1251

Не ідзі, Манечка, за ўдаўца,
Прыедзе ўдавец без вянца.
Ано кветачка ўшпілёна,
Дай тая на бок схілёна.
Ой, нашто ж яму той вянец,
Як ён няшчасны ўдавец.
Ой, нашто ж яму кветачкі,
Бо ў яго малыя дзетачкі.

1252

Знаць, знаць удаўца,
Што прыехаў к дзяўчу без вянца,
Ні за галоўкаю кветачкі,
Ні ў ручаньках хустачкі.
— Была ў мяне кветачка — звяла,
Была ў мяне хустачка — зліняла.
Звяла яго кветачка — кланяўся,
Зліняла яго хустачка — уціраўся.

1253

Чым цябе, дзевачка, бог пакараў —
Любілі кавалеры, а ўдавец узяў.
Любілі кавалеры з кветкамі,
А ўзяў удавец із дзеткамі.
Любілі кавалеры із рознымі,
А ўзяў удавец із дробнымі.

1254

Харошая, прыгожая Настуська, *
Не выбрала сабе долі-малайца,
Ды выбрала старога ўдаўца.
А ва ўдаўца тры наравы:
Адзін наравец — то ўдавец,
Другі наравец — перша-лепша,
Трэці наравец — дзеткі малыя.

1255

Ці ж табе, Янечка, жаніха не стала,
Што твая душачка к удаўцу прыстала?
А ў удаўца ды шырокія рукавы,
Ды шырокія рукавы, ды доўгія наравы.
А ты пойдзеш ды беленькую пасцельку слаць,
А ён будзе сваю первую ўспамінаць.
Пасцель беленькая ды пуховенькая,
Ды не будзе з кім спаць.

1256

Шэрая зязюлечка па дубочках лятала,
Не выбрала зялёнага, а выбрала сухі дубок.
Маладая дзевачка па кірмашах хадзіла,
Па кірмашах хадзіла, выбірала малойчыкаў.
Не выбрала багатага, а выбрала гарбатага,
Не выбрала малойчыка, а выбрала ўдоўчыка.
Семярых дзяцей бацька ды не дасць пагуляці,
Ды не дасць пагуляці маладому дзіцяці.

1257

Чаму, дзевачка, паквапілася на ўдаўца?
Ды ў удаўца вялікая нараўца:
Першы наравец — што ён малады ўдавец,
Другі наравец — у яго дзеткі дробныя,
Трэці наравец — яго мыслі розныя.
Яго дзеткі драбнюсенькі, як мушкі,
Павыбіваюць пуховыя падушкі.
Ды ён, малады, усё ночку прымаўляе,
Ды ён сваю першую жонку ўспамінае.

1258

Ой, смуцен, смуцен селязень на моры.
Як мне, селязёнку, ды не быць смутнаму,
Калі мая вутанька падстралёна.
Не такая жаль была б, каб на моры,
А то ў лужочку да на беражочку.
Ой, хмурны, хмурны, малады Іванька.
Як мне, маладому, ды не быць хмурнаму,
Калі мая дзевунька адмаўлёна.
Не такая жаль была б, каб у матачкі,
А то ў таночку, у руцьвяным вяночку.
Не такая жаль была б, каб то мальчыкі,
А то ўдаўчышча, барадачышча.

1259

Ад таго я стар і галованька сіва,
Што мая доленька вельмі нешчасліва.
Над маім дваром чорная хмара стала,
Пра мяне, маладога, не гаворы й ні слова.

Я ж тую хмару рукавом размахаю,
Ліхую нямову розумам разгадаю.
— Ой, добры вечар, да даўнейша цёшча,
Ці няма ў цябе другой дачкі яшчэ?
— Запрагай каня, да з'язджай з майго двара,
Не стой ля мяне, да не крой майго сэрца.
Ой, добра табе па свету паязджаці,
Якаво маей дачцэ ў сырой зямлі ляжаці?
Ой, добра табе мёд-гарэлачку піць,
Ой, як цяжка мне аб ёй гаварыць.

### 1260

Ці табе, Іванку, дзевак не стала,
Што тваё сардэнька да ўдавы прыстала.
Удовіна сэрца, як зімова сонца,
Хоць яно і свеціць, але не грэе,
А дзеванькі сэрца, як летняе сонца,
Хоць яно хмурненька, але весяленька.

### 1261

Ці табе, малойчык, дзевак не стала,
Ці табе ўдоўка зелле прыслала?
Удоўчына зелле — ды хмяльное,
Дзявочае зелле — духмяное.

### 1262

Хадзіла ўдовачка па садочку, хадзіла,
Яна свае белыя ручанькі ламіла,
Яна свае дробныя слёзкі раніла,
Яна сваіх малых дзетак вадзіла:
— Вы, дзетачкі, вы, дробныя, вы мае,
Не ўладзіце да століку падыйсці,
Не ўладзіце ж да і ложачку паднясці,
Не ўладзіце ж рэзвых ножачак разуць.

### 1263

Лятуць пташачкі на тры стадачкі, 2
Зязюлька наўперадзе.
Пташачкі селі, зашчабяталі,

Зязюлька закукавала. 2
Ішлі дзевачкі цераз сенячкі,
Праскетка наўперадзе.
Дзевачкі селі, песню запелі,
А Праскетка заплакала:
— Божа ж мой, божа,
Што ж мая за доля,
Із кім я хадзіла, з кім гаварыла,
Таго ж я ўгнявіла.
А з кім не зналася, не чапалася,
Таму ж я дасталася.
Шубачка дабра з чорнага бабра,
Я ж яе не знасіла.
Я ж у ей хадзіла, я красавала,
Пакуль не павянчалася.

### 1264

Ой, не ўсякайце ў полі таполі,
Ой, не аддавайце мяне паняволі.
Ой, і ўсеклі ў полі таполі,
Узялі й аддалі мяне паняволі.

### 1265

Вецер бярозу з кораня хіляе,
Вецер бярозы лісточкаў пытае:
— Што ты, бяроза, жоўта, не зялёна,
Што ты, дзяўчына, смутна, не вясёла?
— Як жа мне жыці, вясёлаю быці,
Сама не знаю, як я буду жыці.
Каго любіла, стаіць за плячыма,
Каго не знала, з тым у шлюбе стала.

### 1266

Дзяўчыначка мая заручоная,
Чаго ж ты такая засмучоная?
— Ой, як мне жыці, вясёлай быці?
Каго любіла, трэба забыці.
Каго любіла, каб пазабыла,

27. Зак. 847

Каго не знала, каб пакахала.
Каго любіла, не пазабыла,
Каго не знала, да шлюбу стала.
Пайду я ў лясы, лясы зялёныя,
Найду я часы, часы залатыя,
Дзе я хадзіла, дзе гаварыла:
«А судзі, божа, каго любіла».
Каго любіла, то пазабыла,
Каго не знала, то пакахала.

### 1267

— Ах ты, дзяўчына заручоная,
Чаму ж ты ходзіш засмучоная?
Чаму ж ты ходзіш, чаго ж ты нудзіш,
Чаму ж не кажаш, каго ты любіш?
— Люблю я мёдзік, мёд саладзенькі,
Люблю я хлопца, ён маладзенькі.
Каго кахала, разлуку брала,
Каго не знала, на вянцы стала.

### 1268

Быстрая рэчка ваду замуціла. 2
Ой, не даў мне бог, не судзіў мне бог, 2
Каго верна любіла. 2
Быстра рэчка ваду замуціла.
— Ой, чаго ж, дзеўка, ой, чаго ж плачаш, 2
Ці не матуля біла?
— Біці не біла, толькі засмуціла.
Ой, не даў мне бог, не судзіў мне бог, 2
Каго верна любіла.

### 1269

Між горачак, між даліначак
Крынічанька не рублена.
Ой, хоць рублена, хоць не рублена,
У ёй вада халодна.
Там дзеванька лічыка бяліла,
Лічыка бяліла дай з богам гаварыла:
— Ой, божа мой, божа, моцны мой божа,

Што я нарабіла, а каго ж я верна любіла,
Ён стаіць за дзвярыма.
Ой, каго ж я родам не знала,
З тым ручкі звязала.
Не знала родам ні радзінаю,
Назвала дружынаю.

### 1270

Мая ж ты, мамачка, мая міла,
Каго ж я любіла, з кім гаварыла,
Той стаіць у парозе.
Каго ж не любіла, насміхалася,
Таму я досталася.
Ці ж табе, мая мамачка,
Ваду не насіла,
Што ж мяне аддаеш,
Каб я галасіла.

### 1271

Заваліласа мне дарожанька
Тонкаю кляніною,
Аддаеш мяне, мая матуля,
Да ў цяжаньку няволю.
А ў той няволе, а ў той цяжанькай,
Жыць-быць я не вазьмуся,
Блізка рэчанька, блізка быстрая,
Пайду да й утаплюся.
— Не тапісь, дочанька, не йдзі, мілая,
Навек душу згубіш.
Скажы, дзіцятка, скажы, родная,
Каго ж ты верна любіш?
— Каго любіла, з кім гаварыла,
Той стаіць за плячыма.
Каго ненавідзела, насмяялася,
За таго папалася,
Я таму досталася.

### 1272

Цераз садочак, цераз зялёны,
Цяцера паляцела,**
Не дай мне бог за таго зайсці,

За каго я хацела.
Цячэць рэчка, цячэць быстрая,
Пайду я ўтаплюся.
— Ой, не тапіся, мая дачушка,
Бо ты душачку загубіш.
Ой, чаму ты мне перш не сказала,
Што ты яго не любіш.
— Ой, я казала, ой, я гаварыла,
Ён майму сэрцу нямілы.

### 1273

Закукавала зязюлечка ў майго бацькі,
Закукавала зязюлечка ў майго бацькі пад паветкаю.
Ой, бог знае, бог ведае, каму буду я нявестаю.*
Ой, кавала, кукавала, кукуючы дай паляцела,
Аддаў мяне да мой бацюхна, за каго я не хацела.

### 1274

Ой, чэраз сад, чэраз вінаград
Лябяданькі ляцелі,
Ой, не даў мне бог, не судзіў гаспадзь
За каго я хацела.
Ой, каго ж бо я зроду не знала,
З тым да шлюбаньку стала.
Каго ж бо я верна любіла,
Той стаіць за плячыма.
Кола каго я насмяхалася,
То і з тым звянчалася.

### 1275

— Ойчанька мой родненькі, чаго мною чужаешся,
Што я з чужым звянчалася.
Да з чужым чужаземцам,
Да не з сваім каханцам.
З каго я смяялася,
Таму я папалася,
З кім я піла-ела,
З тым я шлюбу не мела.
— Дзевачкі мае сястрыцы,

Да лепей не знаціся,
Як любіўшыся расстаціся.
Да лепей не любіцца,
Як любіўшыся разлучыцца.

### 1276

Прыляцела пава
Да на дварэ пала.
Не відаць, не відаць,
Каго я кахала.
Прыляцела пташка —
Залатыя крыльца,
Не відаць, не відаць
Майго чарнабрыўца.
Не хадзіць мне туды,
Куды я хадзіла,
Не любіць мне таго,
Каго я любіла.
Каго я любіла,
Даўно прызабыла,
А каго не знала,
З тым да шлюбу стала.

### 1277

Старое бёрда, новыя нічальніцы,
Да мінаюцца, малада дзяўчына,
Усе твае вечарніцы.
Стары свіран, стары свіран,
Да новае будаваннейка,
Да мінаецца, малада дзяўчына,
Усё таваё гуляннейка.
З кім піла, з кім гуляла,
Таго ў вочы не відала.
З каго кпіла, смяялася,
Сама таму дасталася.

### 1278

Вой ні раз, ні два
Цераз двор цяцера ляцела,
Да не даў мне бог,
Да не судзіў мне бог,
За каго я хацела:
З кім стаяла да размаўляла,

Да падаркі брала.
А з каго кпіла, да з каго смяялася,
Таму сама асталася.
Маё ж міла паляцела міма,
Міма маіх вароцечак,
А гідкае да й нячыстае,
То то маё вячыстае.

### 1279

Закукавала зязюлечка
І ў бор паляцела.**
Ай, не аддаў мяне мой татачка,
За каго я хацела.
Ай, аддаў мяне мой татачка,
За каго нягожа.
Па калені смецце ў хаце
І на стале рагожа.
А мне гэта, маладзенькай,
Глядзець непрыгожа.
Я памыла, пакачала,
На стале заслала.
— Купі-ка, мой міленькі,
Сівую кабылу.
Буду вазіць смецце з хаты
На тваю магілу.

### 1280

Цераз мой двор зеляненькі цяцера ляцела,
Не аддаў мяне мой татачка, за каго я хацела.
Я хацела і думала за пісара-пана,
А аддаў мяне татачка за мужыка п'янага.
Не хацеў мой татачка, каб я панавала,
А хацеў мой татачка, каб я гаравала.
Не хацеў, каб грошы лічыла,
А хацеў, каб нуду карміла.

### 1281

Кляновая лісцінaчка ад ветру зляцела,
Не аддаў мяне татулечка, куды я хацела.
Я ж думала, татулечка, за пісара-пана,
Аддаў мяне татулечка за мужыка-хама.
Я ж думала, татулечка, па пакоях хадзіці,

Аддаў мяне татулечка работу рабіці.
Я ж думала, татулечка, пісёмцы пісаці,
Аддаў мяне татулечка гора гараваці.

### 1282

Я думала, я гадала за пісара-пана,
Аддаў мяне татка за мужыка-хама.
Я думала, я мысліла на крэселцы сесці,
Аддаў мяне татка замуж, што нечага есці.
Я думала, я мысліла грошыкі лічыці,
Аддаў мяне татка замуж торбы валачыці.

### 1283

Маладая дзеванька,
Чаму па лугох не хадзіла,
Плакаці не вучылася?
На дварака спадзявалася,
Мешчаніну засталася,
Мешчаніну не такому —
Дзяцінку маладому.

### 1284

Павалілася памяло,
Куды цябе, татухна, павяло?
Аддаеш дачку на сяло,
А йна хацела на места,
Справіла адзежу меськую —
Засталася мужыку сельскаму.
Сельскія мужыкі дуракі —
Ды мяняюць коней без цаны,
А б'юць жоначак без віны,
Без усякія прычыны —
Не наськіпаўшы лучыны.

### 1285

Шэрая зязюлечка
Пад акно падляцела, 2
Тонечку вызывала:
— Млода Тонечка,
Што табе зрабілася, 2

У каго ж ты ўлюбілася?
Ты ж чытаць, пісаць вучылася,
За пана манілася, 2
Думала, за баярына,
Вышла за татарына.
— Я віна напілася,
Татарыну дасталася.

### 1286

Перабіралась, млода Марысю,
Як на ружовым квеце,
Выбрала бысь у сваём сяле
Харошшага на смецці.

### 1287

— Вот табе, вутачка, вот табе шэрая,
За твае пералёты.
Як ты лятала і перабірала
Арламі, сакаламі —
Выбрала сабе селязенечку,
Што лятаець нізенечка.
— Нашто мне й арлы, нашто сакалы,
Што высока лятаюць?
Ай, харош будзець селязенечка,
Што лятаець нізенечка.
— Вот табе, Домначка, вот табе, молада,
За твае пераборы.
Як ты гуляла — перабірала
Шляхтамі, мяшчанамі —
Выбрала сабе чалядзіначку,
Што ў белай сярмяжачцы.
— Нашто мне шляхта, нашто мяшчане,
Што ў чорных чарнінах?
А харош будзець чалядзіначка,
Што ў белай сярмяжачцы.

### 1288

Вось табе, дзевачка, вось табе, сястрыца
За твае выборачкі,
Што ты хадзіла, перабірала
З хлопцамі-малойцамі.
З кім любілася, з кім кахалася,

Той стаіць за плячамі.
З каго кпіла ды смяялася,
Той галовачку роня.

### 1289

Ездзіла маці штопанядзелка
На таргі выбіраць зяця.
Да выбрала зяця:
На коніка не сядзе.
На свінню станавіцца,
На каня садзіцца.
Да стаіць пры парозе,
Шапачкі не здымае,
Галоўкі не скланяе.
Як пень пры дарозе.
— Да ці твая спіна
Цвікамі збіта,
Да ці твая шапачка
К галаве прыбіта,
Ці табе не гадзіцца
Нам пакланіцца?

### 1290

Цесценька-айцец
Хадзіў-ездзіў на кірмаш,
Выбіраў зяця ды даборнага,
Ажно ж выбраў нягоднага:
Як стаў на парозе,
Як пень пры дарозе.
Як стаў ён каля ямкі —
Пацягаў усе дзялянкі.
Стаіць, есць, мармыча,
Сваё мілае не кліча.

### 1291

Хвалілася цешча зяцем, што зяць маладзенькі,
Аж ён стары-старусенькі, як голуб сівенькі.
Косыя вочы, доўгі нос, доўгі нос,
Бруха, як начоўкі, чуць унёс, чуць унёс.
Сядзіць на парозе і квічыць, і квічыць,
Просіць дзевак перасадзіць, перасадзіць,
А вы, дзевачкі, не кпіце, не кпіце,
Вазьміце перасадзіце, перасадзіце.

1292

Ах ты, цёшчыхна ды лукавая,
Выбрала зяцьку, ды няўдалага.
Хоць выбрала, ды машэннічка:
Пад забор ходзіць — ён коні водзіць,
У аўчарку лазіць — ён авец вяжыць,
У кароўніцу ходзіць — ён кароў доіць.

1293

Хвалілася цешча зяцем:
— Як у майго пана-зяця
Ёсць парадачак у хаце.
Як людзі араць едуць,
Ён сошачку вяжыць,
А як людзі барануюць,
Ён баронку ладзіць.
— Не хваліся, цешча, мною,
Хваліся дачкою.
Сем год адны кросны ткала
І стацвінкі ў зямлю ўвагнала.
Чаўначкі пад прыпечкам
Зараслі гнычынічкам.
А цэвачкі пад лаўкай
Зараслі мураўкай.

1294

Мая матуля, ох, валаўніца,
Выбрала зяця гультаіца.
Араць не ўмее, касіць не смее,
Што я, маладая, рабіць буду?
Засею поле, хоць канаплямі,
Забараную, хоць вераб'ямі.
Засею гарод, хоць пшаніцаю,
Забараную, хоць курыцаю.
Пшаніца ссохла, курыца здохла,
Што я, малада, рабіць буду?
Каб я мела б цяцер'я пер'я,
То я да матулькі цяпер ляцела.
Каб я мела і саколля вочы,
Я да матулькі, хоць сярод ночы.

## НАДЗЯЛЕННЕ МАЛАДОЙ

### 1295

Мой татачка, хлеб-соль стаўляеш,
Мой татачка, мяне збываеш.
Мой татачка, як мяне збудзеш,
Мой татачка, багацей будзеш.
Твае арудцы ды папаўнеюць,
Твае кішэні ды патаўсцеюць.

### 1296

Выйду на даліну,
Гукну на радніну:
— Збірайцеся, радніна,
Блізкая і далёкая,
Бедная і багатая.
Будзем гаварыці,
Чым Манечку дарыці:
Чы канямі, чы валамі,
Чы белымі рублямі?

### 1297

Госцейкі сабраныя, сазваныя,
Прыяцелі каханыя,
Дальнія-прыезджыя,
Бліжнія-прыгожыя,
І тыі бабылкі,
Што не маюць кабылкі,
На сабе дроўцы носяць,
За вяселлейка бога просяць,
Сабірайцеся маладую надзяліці.
Хто канём, хто валом,
Хто чырвоным злотам.

1298

Да збярыся, племечка, блізкае і далёкае,
Блізкае і далёкае, малое і вялікае.
Да дарыце Валечку бычкамі і цялушкамі.
Бычкамі і цялушкамі, свінкамі і авечкамі.
Да дарылі, дарылі — нямнога здарылі:
Сем кускоў да кавалкамі,
Вялікімі да падаркамі.

1299

Збярыся, збярыся, племечка,
Блізкае і далёкае,
Старое і малое,
Войчаньку на параданьку,
Дзевачцы на вяселлейка.
Да здарыце дзеваньку
Чорнымі да авечкамі.
Дайце ўспамогу
Дзеўцы да ў дарогу.

1300

Сабірайцесь, людзі,
Маню дарыць будзем.
Дзевачкі-паненачкі,
Нясіце капеечкі,
Хлопчыкі-маладчыкі,
Нясіце чырвончыкі,
Седачкі-дзедачкі,
Нясіце рублёчкі,
Бабушкі-бабусенькі,
Нясіце мядочку.
Хвалілася Лёля,
Што радні многа,
А прышлось даравацъ —
Нет нікога.
Гдзе твая радня падзявалася?
Па цёмным куточкам спраталіся.

1301

Ды перапітая, эй, чарачка,
Чарачка, ды заручоная.
Эй, дзевачка Ганначка,
Ды сабрала сыбор к татку ў двор.
Ды расступіцеся, падружкі,
Ды вядуць Ганначку, эй, пад ручкі.
Ды будзе Ганначка карыцца,
Карыцца ды татку ў ножкі кланіцца.
Ды будзе татачка дарыці
Не вялікаю дарою — доляю.

1302

Дружка каравай нясе, 2
Чырвонцамі трасе.
Хоць трасі, не трасі,
Нам каравай дасі.
Мы ж каравай
У хату прынеслі
І дзяцей прывезлі.
Дзеткі, каравайку паднімаем,
Нашых маладых паздраўляем.

1303

Кавалёў нанялі, штобы кузенькі кавалі,
Дванаццаць ножыкаў скавалі.
Кавалі ножыкі, тачылі,
Каравай дзялілі, усю радню абдзялілі.
Благаслаўлялі, падарачкі давалі
І сваіх маладых паздраўлялі.

1304

А хто ж купіць каравай?
Хросны купіць каравай.
За каравай бочку мядочку
Падаруе сыночку.
Падаруе, як не пашкадуе,
А як пашкадуе,
Дак у яго воўк пчолкі ўваруе.

1305

Я ж вам свашка-брашка,
Нясіце мне, вязіце мне.
Я ўжо буду брацї,
Заўшэ дзенькавацї.

1306

Даруйце, сватушкі,
Маладога князя спамагайце.
Хто будзець даравацъ,
Буду па два, па тры давацъ.
А хто не будзець даравацъ,
Той будзець кабылу цалавацъ.
Даруйце, даруйце,
Маладога князя спамагайце:
Хто канём, хто валом,
Хто чыстым серабром.
Хто будзець даравацъ,
Будзем па два, па тры давацъ.
Хто не будзець дарыцъ,
Той ялавых коз будзець даіцъ.

1307

Пойдзем мы на вяселле маладуху дарыцъ,
І вып'ем мы па румцы водкі
І па дзве шклянкі піва.
Тады мы будзем госці прынятыя,
І будзем смела гуляцъ.

1308

— Ці ў цябе, Ганначка, радзіны няма?
Няма каму ў канец стала стацъ,
Песеньку заспявацъ?
— Ой, ёсцъ у мяне радзіна,
Ёсцъ і маценька адзіна,
Яна ў канец стала стане,
Песеньку заспявае.
— Станавісь, род багаты,

Да дары статкам рагатым,
З бычкамі і авечкамі,
З ярымі пчоланькамі.
Станавісь, радзіна, у адзін рад
Да дарыце Ганначку на стале,
Хоць па шылячычку злажыце,
Маладую здарыце.

### 1309

Не дарыце Манечку:
Яе роднага татульку падажджыце.
Няхай яшчэ сонцайка ўзыйдзе,
Можа яе родны татулька падыйдзе.
Кругом яе сонцайка абыйшло,
А яе родны татулька не прыйшоў.

### 1310

— А дарыце нашу Мар'ечку, дарыце,
А вы ж яе мамулечку не жджыце.
— А мы ж яе болей дарыць не будзем,
А яе ж мамулька не прыйдзе.
А цяпер жа ўжо халоднае надвор'е,
А ты, Мар'ечка, усё тваё бяздолле.

### 1311

Дарыце сіротаньку,
Бо паедзе ў дароганьку.
Дарыце вы яе,
Бо няма бацькі ў яе.

### 1312

Ой, горкая каліначка ягадка,
Нешчаслівая твая доленька, Надзечка.
Не едзе твой татулька дарыць,
Не нясець табе долю-шчасце лажыць.
Ой, салодкая маліначка ягадка,

Шчаслівая твая доля, Надзечка.
Ідзець цябе родная мамка бласлаўляць,
Хочыць табе долю-шчасця надзяляць.
— А не кладзі, мая матулька, на веку,
Ой, дай жа мне долю-шчасце да веку.

### 1313

Нязвонкі цымбалы,*
Увесь пір невясёлы 2
Без роднага таткі.
Падпусціце, людзі,
Падпусціце, добры,
Усё роднага татку 2
Надзяліць дзіцятку.

### 1314

Ой, божа, божа, учыні нам гожа,
Прыкрый дзерава кляновым лістом,
Зямлю травою, траву расою.
Да падары ж, божа, нашы дзеці,
З шчасцем, з доляю і бытам добрым,
І векам доўгім.

### 1315

— Ай, божа, божа, я сына жаню,
Прыйдзі, пагдядзі, дабром надзялі.
— Я сам не пайду, ангела пашлю.
Ангел прыляцеў, дабром надзяліў.

### 1316

А не дарыце — абнаравіце,
Пакуль госпад бог прыйдзе.
Госпад бог ідзе, долю-шчасце нясе,
Цяпер мы дарыць будзем.
А не дарыце — абнаравіце,
Пакуль мамачка прыйдзе.

Мамачка ідзе, хлеб-соль нясе,
Цяпер мы дарыць будзем.
А не дарыце — абнаравіце,
Пакуль татачка прыйдзе.
Татачка ідзе, падарачкі нясе.
Цяпер мы дарыць будзем.
А здарылі, здарылі
Тры капы і чатыры
І каляску залатую,
Як павезці маладую.
І коніка варанога,
Як павезці маладога.

### 1317

У дарогу, дзеванька, у дарогу,
Прасі свайго войчанька ўспамогу.
— Памажы, ойчанька, успамажы,
Бітыя таляры палажы.
— Хай цябе, дзіцятка, бог спаможа
Да ў той вялікай дарозе, 2
Да на тым першым парозе.

### 1318

Пасадзілі нашу Лёлечку дарыці,*
Яна сваю мамулечку прасіці:
— Не дары, мамулька, мяне золатам,
А дары, мамулька, мяне долечкай.
Не дары, папачка, мяне серабром,
А дары, папачка, мяне шчасцейкам.

### 1319

Татулька мой родненькі,
Не надзяляй мяне ні хлебам, ні соллю,
Ні хлебам, ні соллю, ні золатам, ні серабром,
Надзяляй мяне і доляй, і шчасцем,
І доляй, і шчасцем, і добрым здароўем.

*Тое ж паўтараецца да матушкі, братулькі.*

1320

Як з раю, з раю сонечка ўстае,
Так маладая Мар'юхна на пасаг сядае
І просіць баценька а ўспамаганне:
— Мой баценьку-месяцу, спамажы мне
Шчаслівым бытам,
Капою жытам,
Шчасцем, здароўем,
Доляю, пакоем.
— Няхай цябе, доньку, бог спамагае
І ўсе святыя, і людзі добрыя.

1321

Іванька ў татулькі дары просіць; *
— І татулька родненькі, адары мяне.
— І дзіцятка роднае, чым цябе адарыць;
І ці хлебам, ці соллю, ці добрай доллю?
— Татулька родненькі, і хлебам, і соллю,
І хлебам і соллю, і добрай доллю.

1322

Зязюля ад салаўя шчабятання жджэць,
Аксінька ад татулькі даравання жджэць.
— Даруй мяне, татулька, чым бог памог:
Ці хлебам, ці соллю, ці добрым словам.
— Дарую цябе, дачушка, і хлебам, і соллю,
Серабром і ўсім дабром.

1323

Бедавала дзевачка: «Мой божа,
Хто мяне, маладую, спаможа?»
Пачула яе мамачка.
— Не бядуй, дачушка, не бядуй.
Я цябе, маладу, ўспамажу,
Белым далярам падару.
Буду далярам дарыць,
Дам табе кароўку даіці,
Чужую сямейку карміці.

**1324**

Закукавала зязюлечка за сялом,
Заплакала наша дзевачка за сталом,
— Даруй, даруй, мой татачка, серабром.
— Ой, нязмога, дачушачка, нязмога,
Пасядзець табе за маім сталом нямнога.

**1325**

Сядзела Валечка на ганку, 2
Прасіла ў мамкі падаркаў:
— Дары мяне чым змога,
Я ў цябе пажыву нямнога.
Адну ночку начаваць,
А заўтра нада ўязджаць.

**1326**

Да Колічак бацька просіць:
— Да бацюхна мой родненькі, 2
Чым ты мяне да дарыць будзеш? 2
Да ці валом, ці каровай, 2
Ці шчасцем, ці доляй?
— Да Колічак, мае дзіцятка,
Я што маю, то дару, 2
Твае долі не ўгадаю.

**1327**

Села сабе Матрунка за сталом,
За поўным кубачкам, за віном.
— Даруй мяне, татухна, чым хочаш.
— Дарую, дачушка, дарую,
Хлеба-солі гатую.
Села сабе Матрунка за сталом,
За поўным кубачкам, за віном.
— Даруй мяне, матухна, чым хочаш.
— Дарую, дачушка, дарую,
Кублічак трубачак гатую.

### 1328

Ступіла Галечка на ганак,
Прасіла ў мамачкі падарак:
— Даруй мяне, мамачка, чым бог даў.
— Дарую, дачушка, дарую,
А трубак скрыню гатую.
Ступнула Галечка на ганак,
Прасіла ў татачкі падарак:
— Даруй мяне, татачка, чым бог даў.
— Дарую, дачушка, дарую,
А ў хлеве кароўку гадую.

### 1329

Маладая Манечка
З ганка просіць:
— Радзіна мая, успамінай мяне,
Чым-небудзь добрым падары мяне:
Ці рублём, ці другім,
Ці плацейкам дарагім.

### 1330

Не гніся, татачка, не гніся,
Кладзі таляры па місе.
А не таляр, а чырванца,
А не чырванца, а тысянца.
Не гніся, мамачка, не гніся...

*І далей да мамачкі.*

### 1331

— Надзечка, здагадайся,
Чым бацька дарыць будзе:
Каровамі ці валамі,
Ці белымі гусямі?

### 1332

Баценька каля стала стаіць,
Родненькі каля стала стаіць,
Сто локцяў палатна дзяржыць.

— Дзіцятка, чы будзе гэта,
Роднае, чы будзе гэта?
— Баценька, яшчэ гэта мала,
Родненькі, яшчэ гэта мала,
Яшчэ трэба на пакрывала.

1333

— Дзівіцеся, людзі, што за дзіва будзе,
Чым мяне баценька да дарыці будзе.
Да ўжо чым бацька дзіця падаруе,
Сам бог сядзіць на покуце, лепшу долю дае.
— Я ж буду дарыці да дарам вялікім:
Шчасцем-доляю й чорнаю кароваю.

1334

Праступіце, добрыя людзі,
Няхай да мяне бацянька будзе.
З вялікім дарам і з перапоем,
Няхай перап'е шчасцем, здароўем.

1335

У старану, сватове, у старану,
Ідзе бацька мяне дарыці вялікім дарам:
Шчасцем-долею, далярам.
Будзе сеяці чырвонцы
Па той буковай талерцы.
Будзе сыпаці даляры
Па буковаму стале.

1336

Расступіцеся, баяры,
Ідзець матушка з дарамі,
Цямісь, цямісь, Ніначка.
Чым цябе дарыць:
Ці белай намёткай,
Ці слаўнай кітайкай?

1337

Расступіцеся, баяры,
Пусціце мяне паглядзець,
Чым мяне мамачка даруе:
Ці хлебам-соллю, усім дабром,
А ці чысценькім серабром?
Даруе мамачка ўсім дабром,
Усім чысценькім серабром.
Сваточкі нашы, браточкі,
Наліце ж вы ёй сем чарак
За харошанькі падарак.

1338

Ой, слухайце, баяры, слухайце,
Што мой бацюхна даруе.
Да даруе бацюхна, даруе,
Пару конікаў гатуе.
Ой, штоб гэтаму праўда была,
Я б, маладая, рада была.
Да калі аддасі, дык божа пасі,
А калі не аддасі, дак воўча з'ясі.

*Далей тое ж да маці.*

*Нарэшце:*

Слухайце, баяры, слухайце,
Што мая сястрыца даруе.
Да даруе сястрыца, даруе,
Пару курачак гатуе.
Ой, штоб гэтаму праўда была,
Я б, маладая, рада была.
Як аддасі, дак божа пасі,
А як не дасі, дак каршун з'ясі.

1339

Пасядзьце, баяры, шаром
Ды й за сталом.
Ды паслухайце, баяры,
Што мне татка даруе.

А даруе татка ды дванаццаць кароў,
Ды дванаццаць авец.
Ды калі даруе, няхай бог пасе,
А як шкадуе, няхай воўк нясе.

### 1340

Ой, цераз сад — дарога,
А ў сенечках размова.
Размаўляе бацька да маці,
Чым жа сына даравації:
— Дарую сына, дарую,
Пару коней гатую.
Сын тое бярэ, да не дзякуе,
Яшчэ большай хоча.
Ой, цераз сад — дарога...

*Далей: пару валоў,*

*Пару кароў.*

*Пару оўцаў. Нарэшце:*

Ой, цераз сад — дарога,
А ў сенечках размова.
Размаўляе бацька да маці,
Чым сына даравації:
— Дарую сына, дарую,
Пару оўцаў гатую.
Сын бярэ, дай дзякуе,
Ужо ж больша не хоча.

### 1341

І мая мамачка, ты дорыш мяне,
І мая мамачка, ды дзякуй табе,
І мая мамачка, за дары твае.
І мая мамачка, не дары цяпер,
І мая мамачка, як я ў цябе.
І мая мамачка, а дары тады,
І мая мамачка, як пайду ад цябе,
І мая мамачка, як буду гараваць,
І мая мамачка, як буду жабраваць,

І мая мамачка, як буду хадзіць,
І мая мамачка, як буду прасіць.
І мая мамачка, пусці ў хатку,
І мая мамачка, пераначавацъ.

### 1342

Татулечка мой, што дорыш мяне?
Татулечка мой, падорыш тады,
Татулечка мой, прыйду ў прочкі,
Татулечка мой, цёмненькай ночкай.
Мамулечка ж мая, дзякуй табе,
Мамулечка ж мая, за дары твае.
Мамулечка ж мая тоненька прала,
Мамулечка ж мая гусценька ткала,
Мамулечка ж мая бела бяліла,
Мамулечка ж мая мяне дарыла.

### 1343

Ды, брацетка мой, не дары цяпер,
Ды, брацетка мой, падарыш тады,
Ды, брацетка мой, як буду хадзіць,
Ды, брацетка мой, як буду прасіць,
Ды, брацетка мой, хлеба кусочак,
Ды, брацетка мой, солі драбочак.
Ды, брацетка мой, не замыкайся,
Ды, брацетка мой, не запірайся,
Ды, брацетка мой, каб пад варотцамі,
Ды, брацетка мой, доўга не стаяла.

### 1344

Станавісь, радзіна, у адзін рад
Да дары Ганачку, хто чым рад.
— Лажы мне, баценька, на стол белы грошы,
Бо я ў цябе была жанчык харошы,
Я ў цябе жала — грошай не брала.
Цяпер буду жаць — грошыкі браць.
Першага дзянёчка — па залатому,
Другога дзянёчка — па чырвонаму.

1345

Не стой, радзіма, за плячыма,
Не моргай вачыма.
Ступі ты да хаты,
Ой, маладых успамагаці.
Ох, род мой харошы,
Не жалуй грошы.
Прыходзь да хаты
Маладых успамагаці.

1346

Ой, родзе, родзе вельмі багаты,
Не стой у сенях, просім да хаты
Перапіваці.
Невялікім дарам — бітым далярам,
Невялікім бытам — пшаніцаю, жытам,
Коньмі, валамі, шчэй каровамі.

1347

А каля стола сіняе мора, 2
А за морам уся радзінанька.
Хоць з-за мора пераплывайце, 2
Такі ж Марусю перапівайце.
Перапівайце капою жыта,
Шчаслівым бытам, шчасцем, здароўем,
Доляю добраю, доляю добраю.

1348

Шэрая зязюля, пер'е рабое.
У нашай Манечкі племя малое.
Якое было — пасабіралася,
Прышлося дарыць — пахавалася.

1349

Да дарыць маладую, да дарыць,
Цётачкі пахаваліся,
Дзядзечкі пагубляліся,
Брацечечкі паскупіліся.

1350

Як гарэлачку пілі,
Тады ўсе ў хаце былі,
А як дарыці сталі,
Усе з хаты паўцякалі.

1351

Як гуляць — поўна хата,
Як дарыць — мама, тата.
Як гуляць — поўны сені,
Як дарыць — усе паселі.
Як гуляць — па застоллю,
Як дарыць — па заўголлю.

1352

І цётачкі і дзядзенькі пазбіраліся,
Як прыйшлося дарыць — пахаваліся.
Хто пад печ, хто пад стол, хто пад лавачку,
Далі мне рубля на забавачку.

1353

А ці ёсь у рыбінкі,
А ў Сахвейкі радзінка?
Падхадзіце блізенька,
Надзяляйце Сахвеечку.
Не рублём-палцінаю —
Залатою грыўнаю.
А ёй многа надабе;
Усё масточкі масціці,
К мамкі ў госці хадзіці.
А і ўсём плаціці.
Хто пайшоў — вярніцеся,
Хто заснуў — прачніцеся.
А друг дружку вызваляйце,
Усё Сахвейку надзяляйце.

1354

Садовая яблынька, што ў цябе кветак многа,
А яблычка ніводнага?

Далоўкі не валяцца, па зямлі не коцяцца.
Ганначка, што ў цябе радні многа,
Роднага а ніводнага?
Да століка не падходзяць, падарачкі не падносяць.
Брацікі-надкосны́чкі, нясіце чырвончыкі,
Сястрыцы-баярачкі, нясіце рукавічкі.
І дзе ж тая радня падзявалася?
Па цёмных кутох пахавалася,
Піць-есць ёсць каму, а даравць некаму.

1355

Казалі, што ў возеры рыбы многа,
А як сталі лавіці — няма нічога.
Дзе ж тая рыбачка падзявалася,
Ці па цёмных беражках пахавалася?
Казалі, ў дзевачкі радні многа,
А як селі дарыці — няма нікога.
Дзе ж тая радзіна падзявалася,
Ці ў клеці, каморы пахавалася?
Ай, адзін дзядзечка, доўгі носік,
Падарыў дзевачцы медны грошык,
А другі дзядзечка, нос з пачынак,
Падарыў дзевачцы руб з палцінай.
А дарыце ж, цёткі, намёткі,
Дарыце, дзядзінкі, скацеркі,
А вы, сястрыцы,— спадніцы.
А вы, дзядзюшкі багаты,
Дарыце маладой скот рагаты.

1356

Казалі людзі, казалі людзі,
Што ў моры вады многа.
А як сталі браць, сталі выбіраць,
Дык і няма нічога.
Казалі людзі, казалі людзі,
Што ў Рэні радні многа.
А сталі дарыць, сталі гаварыць,
Дык і няма нікога.
Як пілі-елі — прыбіраліся,
Прыйшлося дарыць — пахаваліся.

Як пілі-елі — весяліліся,
Прыйшлося дарыць — пазабыліся.
Як пілі-елі — па застоллейку,
Прыйшлося дарыць — па надвор'ейку.

### 1357

Казалі, ў Дунаі вады многа,*
Як сталі выліваці — нет нічога.
Казалі, у дзевачкі радні многа,
Як сталі дарыці — нет нікога.
Цётачкі, дзядзечкі пахаваліся,
Сястрыцы, брацеткі пазамыкаліся.
Цётачкі, дзядзечкі — па запеччайку,
Сястрыцы, брацеткі — па заклеццейку,
Малыя дзеткі — па заплеччайку,
Блізкія суседзі па дамах пайшлі.

### 1358

Казалі, у Дунаі вады многа,*
Пагналі валоў паіць — нет нічога.
Дзе ж тая вадзіца падзявалася?
Па крутых беражках паразлівалася.
Казалі, у Ганначкі радні многа,
Як прыйшлося дарыць — няма нікога.
Дзе твая радзінка падзявалася?
Па цёмных куточках пахавалася,
Знаць, тваёй складанкі пабаялася,
Ганначкі маладой адчураліся.
— Цётачкі, дзядзечкі, не хавайцеся,
А вы мной, маладой, не чурайцеся,
Вы ж ка мне, маладой, прыхінайцеся.

### 1359

А века сакоча,
Падарачкаў хоча,
Хоча яно залатога
Ад князя маладога.
А ў Пятрачка радзіны не стаець,
Паедзем на торг таргаваць,
Петраку радзіны прыкупляць.

1360

У нашае дзеванькі
Да вялікая радніна,
Як скіне па шляжэчку,
То будзе скаціна.

1361

На паўдарозе кветка,
У парозе сетка.
Хто ў сетку увязне,
У таго чырвонец бразне.

1362

Даруйце, жоначкі, даруйце,
Даруйце, красныя, даруйце,
У вялікую дарогу даруйце,
У шчаслівую гадзіну даруйце,
За харошага чэлядзіна даруйце.

1363

Даруйце, сваты, даруйце,
Па запечках не сядзіце,
Срэбра, золата не жалейце.
Хто да столу не прыбудзе,
Той на козах ездзіць будзе.

1364

Дарыце маладога князя і княгіню,
Хто будзе дарыць,
Той будзець сямі кароў даіць,
А хто не будзець дарыць,
Той не будзець даіць.

1365

Даруйце, папачка, даруйце,
Даруйце, мамачка, даруйце
І па тысячы гатуйце.
Даруйце, цётачкі, даруйце

І па сто рублей гатуйце.
Даруйце, дзевачкі, даруйце
І па вяночачку гатуйце.
А не будзеце даравацъ,
Будзеце ў дзеўках векавацъ.

1366

Дарыце, не маніце,
Ліцайце й аддайце,
Не аддасце — ваўкі з'ядуць,
Па лясах пазбягаюць,
А звяр'ё паз'ядае.

1367

Кароткі світкі,
Памерзлі лыткі,
Скарэй дарыце,
Не бавіце.
Як пабавіце,
Больш падарыце.

1368

А дарыце, дарыце,
Хаця вы не маніце,
У кішанёх не дзяржыце.
Кішані падзяруцца,
Сораму набяруцца.
Ужо ж яны падраліся,
Сораму набраліся.

1369

Збірайся, родзе багаты,
Перапіваць тавар рагаты.
А вы, сястрыцы,— цяліцы,
А вы, перазвяначкі,— рукавачкі;
Тонкія, бяленькія,

Як папера, святленькія.
Перапіў бацька кароўку
На маю бедную галоўку.
Да кароўкі рана ўставаці,
А я люблю доўга спаці.
У панядзелак падаіла,
А ў аўторак працадзіла,
А ў сераду цадзілку мыла.
Дзівіцеся, людзі, збоку,
Якая гаспадыня без уроку.

1370

Дарыце, не маніце, *
У кішэні не кладзіце.
А што вы не падорыце,
Тое вы пасорыце.
Дзевачкі-паненачкі,
Кладзіце капеечкі,
Хлопчыкі-малойчыкі,
Лажыце чырвончыкі.

1371

Ой, родзе, родзе, родзе багаты,
Перапівайце быдлам рагатым.
А вы, сястрыцы, хоць па цяліцы,
А вы, братове, хоць па валове.
А вы, суседзі, хоць па ягняці,
Штоб мела Ганка што выганяці.
А проша на віллечка,
На добрэ славечка,
А проша.

1372

Сабірайся, роду багаты,
А дарыце статак рагаты,
Ай вы, цётачкі,— цёлачкі,
Ай вы, дзядзечкі,— пчолачкі,
А вы, суседзі,— абы-што,
Каб было дзякаваць вам за што.

1373

О, родзе, родзе багаты,
Да даруе тавару рагаты.
Ох, не так тавару аўцамі,
Не аўцамі — каровамі.
А вы, цётачкі, гадайце
Ды палаценца складайце.

1374

Ой, сватове-гардове,
Вы ж дарыце, дарыце,
Толькі вы да не маніце.
Братове — па карове,
А сястрыцы — па цяліцы,
А цётачкі — па цяляці,
Каб было што ў хлеў заганяці,
А суседзі, як чыя змога.

1375

Ой, родзе, родзе, родзе багаты,
Дарыце статкам, та ўсё рагатым.
Вы це, братове,— хоць па валове,
Вы це, сястрыцы,— хоць па цяліцы,
А бацька й маці, не шкадуй даці,
Не шкадуй даці свайму дзіцяці.
Я ў цябе жала, грошай не брала,
Будзеш наймаці, грошы даваці.

1376

Родзе, родзе багаты,
Да даруюць скаціну рагату.
Родныя братове — па карове,
Родныя сястрыцы — па цяліцы,
Родныя дзядзі — па авечцы,
Родныя цёткі — па наметцы,
А родны татка — каня і воз,
Каб малады часта ў госці вёз.

## 1377

Ой, родзе, родзе багаты,
Да даруй таварац рагаты.
А ў дзевер'я — ўсё уллі,
А ў ятроўкі — кароўкі.
А ў ятроўкі — кароўкі,
А ў завіцы — цяліцы.
А ў завіцы — цяліцы,
А ў братове — валове.
А ў братове — валове,
А ў прыданкі — сярпянкі.
Калі праўда, то няхай бог пасе,
А няпраўда, то няхай воўк знясе.

## 1378

Адзываецца племя,
Да дарыце княгіню:
Валамі да каровамі,
Чорнымі дай авечкамі,
Белымі да гусачкамі,
Тонкімі да маточкамі,
Што на моры да бяліліся,
На клёне да сушыліся,
На качалцы да каціліся,
Дзевачцы прыгадзіліся.

## 1379

Дарыце, госцікі, дарыце, *
Хоць па рубліку кладзіце.
Не па рубліку — чырванец,
А наш Шурачка — не ўдавец.

## 1380

Цётачкі, дзядзечкі, прыступіцесь,
На мяне, младу, не забывайцесь.
Цётачкі, дзядзечкі, хоць па пятачцы,
Бліжнія суседзі, хоць па рубялёчку,
А малыя рабяткі, хоць па капеечцы.

1381

Ой, родзе, родзе, родзе багаты,
Кіньце Мані на спамагаці.
Кіньце, брацікі, хоць па рубліку,
А вы, сястрыцы, хоць па грошыку.

1382

Блізкія, далёкія,
Чужыя, свае родныя,
Ды дарыце.
Матулька, матулька,
Солі з хлебам
І долю з шчасцем.
Цёцечкі — па рубельчыку,
Дзядзечкі — па чырвончыку,
Брацячкі — па талярчыку.
Казалі, у Хвядоркі родных многа,
Як піці-гуляці, ёсць каму,
А як дарыці, дык некаму.

1383

Дарыце, цётачкі, цёлачкі,
А вы, дзядзечкі,— пчолачкі,
Хлопчыкі-малойчыкі,
Дарыце чырвончыкі,
Дзевачкі-паненачкі,
Дарыце капеечкі.
Дарылі, дарылі,
Ды нямножка здарылі —
Дваццаць пяць і чатыры,
Хлопчыку на спамогу,
Ехаць у дарогу.

1384

Цётачкі-лябёдачкі, кладзіце намётачкі,
Дзядзечкі-лябедзечкі, кладзіце капеечкі,
Дзядзінкі-галубачкі, кладзіце ўрубачкі,
Дзецюкі-малойчыкі, кладзіце чырвончыкі,
А дзевачкі-баярачкі, кладзіце падарачкі.

1385

Ой, беленькі гарошак,
Харашо цябе сеяці
Ды ў лузе пры дарозе,
Пры беленькай бярозе.
Маладзенькая Зіначка,
Харашо цябе дарыці
У новенькай хатачцы
Пры родненькай мамачцы.

1386

Учора пілі на карову,
А сягоння на каня,
Кабы наша мілая
Здарова была.

1387

Цякла рэчка, цякла,
Цячы перастала.
Цячы перастала.
Чы вады мала стала?
Ішлі дары, ішлі,
Ішлі, перасталі,
Ішлі, перасталі.
Чы радні мала стала?
Гдзе яе радзіна падзявалася?
Па запечну, па кутках пахавалася.
Казалі, у Ганнушкі радні многа,
А як селі даравадь, няма нікога.

1388

Відна Надзю па паходцы,
Скупую радню мае.
Золата хавае,
Серабро мяняе,
Меддзю перапівае.

1389

Ой, скупая, скупая
Дзеваччына раднiна:
Стаiць у куточках,
Дзяржыць грошы ў платочках
Да на кут пазiрае,
За парог уцякае.

1390

Да дарылi, да дарылi,
Да мала здарылi.
Цi радзiна малая,
Цi радзiна скупая?
Да радзiна немалая,
Да радзiна скупая.
Да не хоча дацi
Свайму дзiцяцi.
Дарыце, дарыце
Да й не манiце.
Ой вы, братове, па карове,
Ой вы, сястрыцы, па цялiцы,
Ой вы, суседзi, гадайце, 2
Да па капейцы складайце.

1391

Ой, дарылi, дарылi
Да й нямнога здарылi.
Знаць, гадзiна да лiхая,
Знаць, радзiна скупая.
I гадзiна не лiхая,
I радзiна не скупая.
А ты, браце, каралёў сын,
Кладзi на талерку рублёў сем.
А ты, браце, каралёў зяць,
Кладзi на талерку рублёў пяць.

1392

Ой, дарылi, дарылi
Ды нямнога здарылi — 2
Ды семсот i чатыры 2

Ды каня варанога,
Ды быка палавога,
Ды цялушку-гадушку,
Ды авечку-крыксушку.

2

### 1393

Дарылі дароў, дарылі,
Ды нямножка здарылі —
Сто рублей і чатыры:
Маладому на дарогу,
Маладой на спамогу,
Маладая здарожыцца.
Маладзенькі спаможыцца.

### 1394

Заспала сваццproperly, заспала,
Замала падаркаў сабрала.
Каб раней, сваццi, устаўшы,
Была б болей сабраўшы.

### 1395

Каб мой татка добры быў,
Ён бы мне піва зварыў
І гарэлачкі нагнаў,
Усю радзіначку зазваў —
Бедную і багатую.
Багатую на куце содзя,
Бедную процi печы.
Багатыя па рубельчыку,
Бедныя па чырвончыку.
Багатыя дзiвавалiся,
Адкуль у бедных грошы бралiся?
Цi трубачкi закладалi,
Грошы, золата нажывалi?

### 1396

Новая камора, а не мецена,
— Што ж, наша Ганулька, а не весела?
— Як жа мне, моладзе, весяленькай быць.
Памеўся татулька тры кароўкі даць,

Усе тры чорненькі, усе тры дойненькі.
Як прыйшло на чысло, на адну сыйшло.
Ах, і даў кароўку дужа чорненьку,
Дужа чорненьку, ды не дойненьку.
Новая камора, а не мецена,
— Што ж, наша Ганулька, а не весела?
— Як жа мне, маладзе, весяленькай быць.
Намелася мамка тры скрыні даць,
Усе тры чорненькі, усе тры новенькі.
Як прыйшло на чысло, на адну сыйшло.
Ай, дала скрыначку дужа чорненьку,
Дужа чорненьку, ды не новеньку.

### 1397

А калініца, а малініца ломіцца, *
Наша Людачка за падарачкі клоніцца.
— Прыступ, прыступ, мая мамачка, блізенька,
Пакланюся табе ў ножачкі нізенька.
А калініца, а малініца ломіцца...

*Далей спяваецца тое самае другім родным: бацьку, брату, сястры і г. д.*

### 1398

Цябе, дзеванька, цябе, малада,
Мамачка дара.
А ты, дзевачка, будзь пакорная,
Устань і пакланіся,
Нізенька схіліся.

### 1399

Вялікія падаркі ад матулькі,
А нізкія ўклоны Ганнушчыны.
Каму за грош, каму за два пакланілася,
А Яначку за сто рублей не схіліся.
Яначка золата харашэйшае,
А Ганнушкі галоўка даражэйшая.

### 1400

Заплаць, божа, за твой дар, за твой дар:
А ў хлявочку — волікамі,
А ў стаенкі — конікамі,
А ў садочку — пчолкамі,
А ў пасцелі — жонкаю, жонкаю.

### 1401

Дзякуй, дзякуй, татачка,
За твае дары вялікі.
Да ты ж мяне даруеш,
А на бога жаль маеш,
На свае дзеткі спадзяешся:
Будуць дары аддадзены
Не сёлета — налета,
Дзякуй, татачка, за гэта.
Дзякуй, дзякуй, мамачка,
За твае дары вялікі.
Да ты ж мяне даруеш,
А на бога жаль маеш.
На свае дзеткі спадзяешся:
Будуць дары аддадзены
Не сёлета — налета,
Дзякуй, мамачка, за гэта.

### 1402

Спасіба, мой радзімы татанька
І мая радзіма матанька,
За вашы вялікія надзелы.
Не дорага мне ваша злата-серабро,
А дорага ваша благаславенніца.

### 1403

А дзякуй, дзякуй, мая мамачка, за твае падаркі,
Што даруеш, госпадам богам вяльмуеш.
Калі ты дасі — няхай бог пасе,
Калі ж не дасі — няхай воўк нясе.

# АБДОРВАННЕ МАЛАДОЙ РОДУ МАЛАДОГА

1404

А стаяла бяроза край ракі,
Бяліла Агатка ручнікі.
А прыйшоў да яе Зіноўка:
— Бог табе ў помач, Агатка,
А бялі ручнікі бяленька.
— Ужо ж мае ручнікі бяленькі,
Ужо ж мае ручнікі катаны,
Укачоны, пабялёны
І сватам парэзаны.

1405

Ой, рэчкі, рэчкі і раўчачкі,
Там бяліла дзевачка ручнікі.
Прыйшла да яе матачка яе:
— Годзе ж табе, маё дзіця, бяліці,
Бо наехала сватаўё дзяліці.
Ужо тваё сватаўё ў дуброве,
Ужо твае ручнічкі ў каморы.
Ужо тваё сватоўе на двоpы,
Ужо твае ручнічкі на столі.

1406

За гарою даліна,
Там Галачка ручнікі бяліла.
Бяліўшы ручнічкі, яна заснула,
Прыйшла яе матуля, яна не чула.
— Да ўставай, донечка, хуценька,
Бялі свае ручнікі бяленька.
Ужо ж твае баяры блізенька.
— Ужо ж мае ручнічкі вісяці,
Ужо ж мае баяры ў хаце.

1407

Што з-пад алешніку, з-пад ракі
Там бяліла Верачка ручнікі.
Яна бяліла і заснула,
Ішоў татухна, не чула.
— Бялі, бялі, Верачка, беленька,
Да ўжо баяры да ў полі.
— Няхай у полі — здаровы,
А мае ручнічкі яшчэ не гатовы.
Што з-пад алешніку, з-пад ракі
Там бяліла Верачка ручнікі.
Яна бяліла і заснула,
Прыйшла мамухна — не чула.
— Бялі, бялі, Верачка, беленька,
Да ўжо баяры ў сяле.
— Няхай у сяле — здаровы
Мае ручнічкі яшчэ не гатовы.
Што з-пад алешніку, з-пад ракі
Там бяліла Верачка ручнікі.
Яна бяліла і заснула,
Прыйшоў брахнейка — не чула.
— Бялі, бялі Верачка, беленька,
Да ўжо баяры за сталом.
— Няхай за сталом — здаровы
І мае ручнічкі гатовы.

1408

У новай клеці-пераклеці
Дзве вутачкі драчуць.
У новай каморы пад акенцам
Дзве сястрыцы плачуць:
— Ой, пайдзі, сватка, ды запытайся,
Ды чаго яны плачуць?
— Падаркі рэжуць, дружынку вяжуць,
Аб том яны плачуць.

1409

Звінела камора, звінела,
Дзе маладая сядзела,
Тонкія абрусы заткала,

Разныя ўзоры ўкладала.
Прыехаў малады сам-дзявят,
Папусціў конікі ў зялён сад,
А сам ён пайшоў у камору.
— Кідай, малада, да ручнічкі,
Складай на галаву каснічкі.
Ой, вытчаш ручнічкі у мяне,
У новай каморанцы пры сцяне.
Да возу, млода, да возу.
За табой дарожку даражыў,
Не на 'дну нядзелю — на цэлы век,
На адну младую — на цэлы свет.

### 1410

Звінела камора, звінела,
Маладая Марылька сядзела
Ды тонкія абрусы снавала,
Мыслямі ўзоры патыкала.
Прыехаў міленькі ў ночы,
Насунуўшы шапачку на вочы,
Ды не даў ён абрусоў даткаці,
Ды сказаў ёй да воза ступаці.
Як сказаў да воза ступаці,
Стала Марылька плакаці.

### 1411

Ды звінела камора, звінела,
Ды дзе наша дзевачка сядзела,
Тонкія абрусы вытыкала,
Вясёлыя песенькі спявала.
А ішоў хлопчык па коні,
Прылажыў галоўку да каморы,
Тонкія абрусы памяняў,
Вясёлыя песенькі пераняў,
Маладую дзевачку к сабе ўзяў.

### 1412

Звінела камора, звінела, 2
Дзе млода Анцечка сядзела.
Прыехаў да яе Зыгмутка, 2

